# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

11

(732) ЛІСТАПАД, 2014

Выдаецца з 1953 года



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:



*Рыжскі фронт, штаб 3-га Нарваўскага палка, 1915-ы.*

*Чацвёртым справа сядзіць Іван Дзмітрыевіч Каменскі — швагер Якуба Коласа, старэйшы брат Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч (Каменскай). 9 лістапада спаўняецца 140 год з дня яго нараджэння (па новым стылі). Чытайце ў нумары артыкул Веры Міцкевіч, які прысвечаны лёсу гэтага чалавека.*

*«М» запрашае гартаць мінулае, бо ў ім больш новага і пэўнага, чым у спрэчнай ды надакучлівай сучаснасці, ці не так?*













*Малюнкі з сямейнага архіва Васіля Быкава, датаваныя 1984-м. Трыццаць год таму пісьменнік будаваў дачу ў Ждановічах. Сёлета ў доме 62 па Вінаграднай вуліцы ў дачным пасёлку Ждановічы-6 адкрыты музей. Калі вы не пабылі там, то можаце лічыць, што юбілей Быкава не адзначылі. Але на зімовы час музей зачынены, як усялякая дача…*

Святлана СІТНІК

# ПЕРААДОЛЕННЕ

— Мне 45 гадоў, сыну 25. Звычайная сям'я, мой тата — вайсковец, маці — настаўніца фізкультуры. Так атрымалася, што я выгадавала Германа без бацькі: мы разышліся вельмі хутка, і ў выхаванні сына ён не ўдзельнічаў. Ніколі не думала, што мяне закране такая бяда… — Ірына спыняецца, каб зрабіць глыток гарбаты, і зноў працягвае: — Гэта адбылося год таму, на дзень святога Валянціна. Мой сын выбег распрануты на вуліцу ў стрэсавым стане… Добра, што ішоў з дзяжурства патруль аховы, яны перахапілі яго, а ён, як мог, змагаўся з імі... доўга... адзін... на лютаўскім марозе... Гэта бачылі суседзі, пра гэта даведаліся сваякі. Пазней яны вырашылі, што я пасварылася з сынам і здала яго ў псіхушку. Было цяжка, але яшчэ цяжэй тое, што я доўгі час не магла зразумець, у чым прычына яго стану, бо ўсе маўчалі: і сын, і ўрачы. Яны паставілі Герману псіхічнае расстройства, «заколвалі» яго прэпаратамі, і я ўжо была гатова да таго, што ўбачу свайго сына «варанай гароднінай»... Урач ні слова мне не сказаў пра сапраўдную праблему сына, толькі патлумачыў, якія трэба прымаць таблеткі.

— Чаму?

— Таму што інфармацыя аб прыёме наркотыкаў у нас канфідэнцыяльная. Я не здагадвалася, што прычына псіхозу майго сына спайс. Не ведала, што рабіць, як дзейнічаць. Вядома, каб ведала пра гэта, распачала б нейкія дзеянні, і, магчыма, сітуацыя не паўтарылася б.

* * *

— Усё сваё жыццё я жыў розумам: абдумваў, аналізаваў, пакідаў сабе магчымасць «уключыць заднюю перадачу», — распавядае Герман — малады чалавек, прыемны і ветлівы. Ён кажа спакойна, нікуды не спяшаючыся, узважваючы кожнае слова. — Я разумею, што можна жыць пачуццямі, а ўсе абмежаванні, што я вакол сябе пабудаваў, — турма, у якую сам сябе і загнаў. Мае пачуцці доўга збіраліся і аднойчы зімой, на дзень святога Валянціна... Распрануты, я бег да адзінага на той момант чалавека, якому мог давяраць. Мяне спрабаваў спыніць нарад міліцыі, я супраціўляўся, змагаўся... З'явіліся родныя, выйшлі суседзі, выбег сябар. Мяне скручвалі, я губляў прытомнасць, цёрся каленкамі аб асфальт, але працягваў барацьбу. Ужо потым, прааналізаваўшы сітуацыю, зразумеў, што быў у стане рэальнай гатоўнасці ісці да канца. У мяне была мэта — патрапіць да гэтага чалавека, але з'явіліся перашкоды — людзі, якія мяне спынялі. Я настолькі быў упэўнены ў сваёй сіле, што змагаўся, змагаўся, змагаўся. Мяне зацягнулі ў пад'езд, звязалі, прыехала «хуткая». Апрытомнеў у псіхбальніцы. Паставілі дыягназ «псіхоз», патрымалі на таблетках і выпісалі праз паўтара месяца. Я застаўся з новым стаўленнем да свету, але без разумення, як сябе кантраляваць. У мяне былі веды, але я не мог ўсведамляць наступстваў сваіх дзеянняў. Паступова пачаў зніжаць колькасць прапісаных таблетак, стаў больш актыўным, жывым. «Усё нармальна» — лічу я, і зноў пачынаю паліць спайс.

* * *

— У Беларусі шмат людзей, якія ўжываюць курыльныя сумесі, моладзь перайшла на спайс — ён перамог гераін, метадон і макавыя семачкі. І яго наступствы вельмі цяжкія, — гаворыць Максім Дарагайкін, старшыня фонду «Цэнтр здаровай моладзі».

«Цэнтр здаровай моладзі» створаны ў 2011 годзе як грамадская арганізацыя, што

прапагандуе здаровы лад жыцця і рэабілітуе нарказалежных. Супрацоўнікі цэнтра праводзяць прафілактычную работу ў школах і ліцэях, арганізоўваюць канцэрты і іншыя мерапрыемствы — усё для таго, каб моладзь усведамляла: наркотыкі — гэта дрэнна. Але галоўнае — рэабілітацыйныя цэнтры, у якіх вядзецца непасрэдная праца з залежнымі людзьмі: у Мінску, Брэсце, Гомелі.

— Часцей за ўсё ў наркотыкі ўцягваюцца маладымі. Бо чалавек, які яшчэ не сфарміраваўся, не ўмее ацэньваць наступствы свайго выбару. Ён паліць і атрымлівае кайф, сыходзіць ад рэальнасці, сваіх юнацкіх комплексаў. Напрыклад, ён не можа пазнаёміцца з дзяўчынай, а пад наркотыкамі яму ўсё роўна — заікаецца ён ці не, ці ёсць у яго прышчы — ён ідзе і знаёміцца. Па першым часе, пакуль няма сістэматычнага ўжывання, плюсаў дастаткова: гэта і лёгкасць у зносінах, бесклапотнасць — праблемы адыходзяць на задні план. Але калі, спрабуючы наркотык, малады чалавек адчувае кайф, то, ужываючы яго другі раз, ён шукае адчуванні першага, трэці — першага і другога, а на пяты ці шосты — трапляе ў залежнасць. Ён ужывае наркотык, каб яму стала добра, а яму, наадварот, робіцца дрэнна. Яму ўжо не вярнуцца назад, у першы раз, туды, дзе прыемна. Пачынаецца ломка — і ён ужывае зноў і зноў, бо без наркатычнага рэчыва яму ўжо не абысціся.

* * *

— Рос я нармальна, у добрай сям'і, нядрэнна вучыўся. Калі пачаў паліць? У чацвёртым класе. У нас дома вадзіліся цыгарэты, а ў мяне быў геніяльны план, — Герман з усмешкай успамінае гэтую дзіцячую гісторыю. — Я гуляў з пачкамі цыгарэт, нібы з кубікамі, будаваў вежы, рушыў іх... Неяк адзін пачак выпадкова закінуўся пад канапу, і на яго забыліся. Праз тыдзень я дастаў яго і пайшоў у двор паліць. Адчуванняў не памятаю. З таго часу пачаў весці падвойнае жыццё: дома — добры хлопчык, прыкладны, паслухмяны, радасць для бацькоў. А на вуліцы з хлопцамі — курыў і хуліганіў. Я хаваў сваю другую асобу, бо мама адчувала вялікую адказнасць за маё выхаванне і была вельмі строгай. Я баяўся памыліцца, сказаць ці зрабіць нешта не так, таму што з гэтага часта вынікалі строгія пакаранні. Вядома, хацеў волі. І нарэшце яе атрымаў! Адначасна я стаў паўналетнім, скончыў школу і паступіў у інстытут. Потым пазнаёміўся з дзяўчынай і хутка да яе пераехаў. У нас было дастаткова грошай і шмат знаёмых, адзін з якіх на той час бавіўся спайсамі. Я паспрабаваў, і мне спадабалася. Было пацешна паліць разам, выпрабоўваючы новыя адчуванні. Дзяўчыне толькі спачатку гэта ідэя была не па душы: хутка яна здалася.

* * *

— Калі раней наркарынак складаўся з опіумных наркотыкаў, то цяпер гэта курыльныя сумесі, — гаворыць Мікалай Карпянкоў, начальнік упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. — Каб эфектыўна змагацца з гэтай праблемай, мы працуем у інтэрнэце, удасканальваем заканадаўства, робім больш жорсткай адказнасць за продаж сумесей непаўналетнім, за іх выраб ва ўмовах лабараторыі, за ўвоз і кантрабанду. За мінулы год у спіс забароненых рэчываў унесена 73 адзінкі, сёлета — таксама 73. Гэта дазваляе нам мець крымінальную лінейку, і калі хтосьці трапляецца, мы адразу заводзім крымінальную справу. А далей выступаем за тое, каб суды не амніставалі асоб, арыштаваных за наркотыкі, таму што наркаманія — хвароба задавальнення. Калі зловяць карупцыянера — ён зробіць свае высновы і пагасіць доўг, а нарказалежны — чалавек хворы, яму трэба як мінімум два гады, каб аднавіцца. Таму трымаць яго можна толькі ў месцах ізаляцыі. Нават бацькі нам кажуць: «Мой сын наркаман, пасадзіце яго, калі ласка, у турму». Аргумент: «Я хачу, каб ён жыў». Такая ізаляцыя — вымушаная мера. Калі чалавек залежны і яго своечасова не спыніць, то за год ён можа ўцягнуць у наркаспажыванне да пяці чалавек. Да таго ж самы вялікі працэнт тых, хто кідае займацца наркаманіяй, — гэта тыя, хто прабыў у ізаляцыі два гады. Мы імкнёмся змяніць погляды дзяржавы і грамадства на праблему так, каб яны не былі ліберальнымі. Таму што ў апошні час працэнт наркатызацыі насельніцтва павялічыўся, асабліва сярод моладзі. Гэта пачалося пасля таго, як у 1989-м адпрэчылі артыкул аб адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за ўжыванне наркатычных сродкаў. Самі нарказалежныя ў

рэабілітацыйных цэнтрах абураюцца. «Вось калі б за ўжыванне наркотыкаў увялі пакаранне...» Мы дамагаемся адміністрацыйнага пакарання для асоб, якія ўжываюць наркатычныя рэчывы. Мы ўвесь час выступаем з новымі заканадаўчымі ініцыятывамі і стараемся данесці, што наркаманія — гэта вельмі страшная з'ява.

* * *

— Хутка я расстаўся з дзяўчынай, інстытутам, а таксама спайсамі, бо майго знаёмага пасадзілі; усіх замяніў алкаголь, — працягвае сваю гісторыю Герман. — Потым мне прапанавалі папрацаваць асабістым кіроўцам аўто за добрую зарплату, і я пагадзіўся. Чалавек, на якога працаваў, паліў траву, нюхаў амфетамін і бескарысліва дзяліўся са мной. Так я ўцягнуўся зноў. Неўзабаве страціў гэту працу, але сустрэў хлопцаў, якія шмат палілі, і пачаў тусавацца з імі. Гэта працягвалася паўгода, я не заўважыў, як аслабела мая нервовая сістэма. Сінтэтычныя наркотыкі моцна падзейнічалі на яе. У адзін момант я раптам кемлю, што ўсё трошкі не так. Цверазею і разумею — нішто не можа зрабіць мяне шчаслівым. Чалавеку нічога не трэба для шчасця: шчаслівы чалавек — шчаслівы незалежна ад абставін. Я разумею, што не павінен быць такім, якім сёння з'яўляюся, мне адкрываюцца многія рэчы і працэсы. Але псіхіка ўжо расхістана, і я не ведаю, што мне рабіць з гэтым веданнем, як правільна сябе паводзіць. А тыя, хто бачыць мяне збоку, лічаць, што я страчваю розум… Неяк сядзеў на балконе, курыў — і раптам адчуў нешта. Узяў нататнік і напісаў верш.

— Пра што?

— Пра новае жыццё і пра тое, як чалавек скача з гаўбца. Я цэлы дзень праседзеў, ствараючы гэты верш. Ён здаваўся мне вельмі эфектным, ён і быў такім. Але бацькі настаялі, каб я пагутарыў з урачамі. Я чытаю гэты верш урачам. «У нас ёсць усе падставы для таго, каб прымусова пакінуць цябе тут», — чую я ад іх і вырашаю на гэты раз не супраціўляцца. Зноў трапляю ў бальніцу, праз два тыдні мама шкадуе мяне і выпісвае. Я абяцаю, што буду піць лекі. Але аднойчы ўжываю алкаголь — і зноў апынаюся ў палаце.

* * *

— Пакуль мой сын ляжаў у бальніцы, я стала хадзіць у медыцынскі цэнтр «Парацэльс» на заняткі, якія для сваякоў наркаманаў раз на тыдзень праводзіла псіхатэрапеўт Ірына Барысевіч. Яна вельмі дапамагла нам усім, бо ў маці ў такіх сітуацыях апускаюцца рукі: нам няма з кім пагаварыць пра свае праблемы, мы вымушаны хаваць бяду нават ад сваякоў. Да таго ж пачынаецца самаедства: тут не дагледзела, там няправільна выхавала...

* * *

— Калі чалавек жыве з залежным, у яго можа здарыцца іншая крайнасць — сузалежнасць, — тлумачыць Алена Ленская, каардынатар праектаў Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Маці супраць наркотыкаў». І гэта таксама захворванне. Таму мы маем два офіса: у адным ідзе праца з нарказалежнымі, у другім — з іх сваякамі. Бывае, што нарказалежны ці алказалежны ўжо звярнуўся па дапамогу, а дастукацца да блізкіх не ўдаецца. «Я ў парадку», «Мне ён патрэбен такім, як быў», — кажуць яны. Калі наркаспажывец праходзіць рэабілітацыю і выходзіць з праблемы, яго мысленне паварочваецца на 180 градусаў: ён мяняе каштоўнасці, мы гаворым — робіцца вольным. Ён мае вялікія планы на жыццё. Але вяртаецца ў грамадства, якое так не думае. Гэтаму чалавеку давядзецца пастаянна сутыкацца з іншым мысленнем, з-за якога ён, магчыма, і пачаў ужываць наркотыкі, яму нават давядзецца ў некаторай ступені супрацьстаяць гэтаму грамадству. Таму і патрэбна падтрымка блізкіх. Калі мы займаемся з сынамі, то запрашаем і бацькоў. Для іх у нас ёсць дванаццацікрокавая праграма — спецыяльная вельмі моцная і сур'ёзная методыка, сусветна апрабаваная і адаптаваная да нашых рэалій.

* * *

— Сёння сто працэнтаў сем'яў схільныя да ўжывання наркотыкаў, — упэўнены тата Саша, вядучы груп для бацькоў у грамадскім аб'яднанні «Маці супраць наркотыкаў». — У нас шмат непатрэбнай свабоды. Калі б міліцыя жорстка ўмешвалася і карала падлеткаў, што заседзеліся дапазна, а бацькоў штрафавалі за тое, што іх дзеці на вуліцы пасля 23:00,

верагоднасць ужывання наркотыкаў знізілася б. Магчыма, гэта здасца вельмі жорсткай мерай, але калі б у свой час майго сына перацягнулі дубінкай, а я заплаціў штраф, то і яго жыццё пайшло б па іншым шляху.

* * *

— З наркаманіяй змагаецца шмат дзяржаўных органаў, але асноўныя — міліцыя і міністэрства аховы здароўя, — гаворыць Мікалай Карпянкоў. — Наша ўзаемадзеянне па гэтым пытанні толькі на паперы. У грамадстве не выпрацавана, не сфарміравана строгая палітыка, як гэта было, напрыклад, у часы Савецкага Саюза. У гэтым, на мой погляд, вінаваты СМІ, якія не адыгралі належнай ролі. У стагоддзе глабальных тэхналогій мы амаль не гаворым пра многія праблемы, не паказваем, як яны павінны вырашацца, а толькі злёгку да іх дакранаемся. І ў гэты ж час ідзе актыўная прапаганда наркатычных рэчываў. Паглядзіце серыялы для моладзі — хтосьці «сядзіць» на таблетках, хтосьці паліць марыхуану, ужывае яшчэ што-небудзь... Фарміруецца пэўная мода, яе падтрымліваюць музычныя каналы, дыскатэкі, рок-канцэрты. Нам, бацькам, здаецца, што нашы дзеці перарастуць любую моду і стануць нармальнымі. Але мы можам прапусціць самы неабаронены час. На дадзены момант у нас на ўліках каля 24 тысяч наркаспажыўцоў: 5 тысяч — на прафілактычным, 11 — на дыспансерным, 4 — на ананімным і 2 — у месцах пазбаўлення волі.

* * *

— Сусветная статыстыка сумная, — канстатуе Алена Ленская, — з усіх нарказалежных папраўляюцца 6-8 працэнтаў, астатнія паміраюць. Задача нашай арганізацыі — зрабіць так, каб папраўлялася як мага больш. У нашым рэабілітацыйным цэнтры «Права на жыццё» залежныя праходзяць 12 месяцаў асноўнай рэабілітацыі, а затым іх чакае паўгода адаптацыі і суправаджэнне ў той форме, якая ім найбольш зручная: групавыя заняткі, псіхалагічныя кансультацыі. Акрамя нашага цэнтра, у рэспубліцы працуюць дзяржаўныя рэабілітацыйныя цэнтры (у Мінску «Выток» і «Вясёлка»), а таксама недзяржаўныя цэнтры на базе грамадскіх арганізацый і хрысціянскіх супольнасцей. Але мы не можам нікога весці сілком, чалавек павінен сам прымаць рашэнне. Мы не кажам «не» чалавеку, мы кажам «не» наркотыкам. І мы хочам, каб у грамадстве разумелі: так, чалавек зрабіў памылку. Шукаць вінаватых — не галоўнае, важна разумець, што ў той момант, калі ў яго з'явілася магчымасць ужыць наркотыкі, ён не змог ці не захацеў сказаць «не». Ён не ўмеў, ён не ведаў, ён не быў навучаны. Часам пытаюць: «Ну чаго не хапала?», «Навошта?» ці «Як ты мог?» Абсалютна не важна, чаго не хапала і як усё пачалося. З гэтым пасля разбяруцца псіхолагі. Вырашаць праблему наркаспажывання, у сувязі з яе шматаспектнасцю, паасобку немагчыма, у яе рашэнні задзейнічаны ўсе сілы: дзяржава, медыкі, псіхолагі і грамадскія аб'яднанні. Важная роля аддаецца царкве. Увогуле, калі чалавек жадае атрымаць дапамогу, то ён яе атрымае.

* * *

— Герман казаў мне: «Я нікуды не паеду. Я нікуды не хачу». Я не спрачалася, прапаноўвала пагаварыць пра гэта пасля, — працягвае сваю гісторыю Ірына. — А потым паставіла перад фактам: «Сустрэча прызначана на шэсць гадзін». Так мы пазнаёміліся з супрацоўнікам «Цэнтра здаровай моладзі». Ён здолеў «зачапіць» Германа — і мы адразу ж паехалі дадому збіраць рэчы.

Першыя месяцы Герман не разумеў: «Што я тут раблю?». Вядома, рэабілітацыйны цэнтр — гэта не санаторый, не піянерскі лагер, тут чалавек павінен працаваць над сабой. Кожны дзень у Германа былі заняткі, прычым, ні ў школе, ні нават у інстытуце ён не спісваў столькі сшыткаў, колькі на гэтых занятках. Мы ўжо прайшлі некалькі этапаў выздараўлення, і на днях Герман едзе вучыцца ў Маскву: вырашыў стаць кансультантам цэнтра.

* * *

— Тры гады таму я прыйшоў у царкву, — кажа Герман. — Стаў перад абразом і папрасіў Бога дапамагчы мне зразумець: што са мной адбываецца, куды я іду, ці правільна іду? Я прасіў падказкі... Нічога не змянілася ў маіх уяўленнях пра шчасце, розніца толькі ў тым, што цяпер разуменне дасягнута працай, якой я прысвяціў дзевяць месяцаў. Цяпер я адчуваю адказнасць за свае дзеянні і не хачу гэта адчуванне страціць.

*Аляксандра ФАГОТ*

# ЦУДОЎНЕЙШЫ ЎЗРОСТ

## АХ, БРАВУРНАЕ, ШАЛЁНАЕ ЮНАЦТВА!

Жыццё бяжыць імкліва, кранаецца юнацтва,
І непамерна радая, што зменаў я нявольнік:
У сэрцы — таямніца, у галаве — вар'яцтва!
І непаўторнасць дзён маіх не пішацца у дзённік:

Штоночныя размовы сам-насам і аб вечным,
Гарачыя ўспаміны ў святле патухлых дзён.
Сапраўдная, жывая, хоць нават небяспечна,
Вірлівая душа мая кладзецца на далонь.

Быць можа неба шэрым, як з любым у расстанні,
Не падлічу адлегласць, чакаючы наўпрост.
Няма ніякіх межаў для шчырага кахання...
Вось гэтак мне дыктуе цудоўнейшы ўзрост!

Быць можа, часам сонца не хоча ўсміхацца,
А восень плынню фарбаў не мочыць з галавой,
І хочацца цяпла мне ці проста абдымацца,
Тады на курс лірычны кладзецца мой настрой.

Закрэсленыя словы — не пішацца у дзённік.
Пачутае у сэрцы не выказаць радкамі.
І грэю, як звычайна, сабою падаконнік.
Лагоднае юнацтва... і зоры пад нагамі.

## ІРОНІЯ ЛЁСУ

Вечар мая сплывае ў вясковым калоссі.
Далягляд закурыўся, бы хмарным экранам...
Я калісьці кахаю пісала ў двукоссі
І калісьці каханне лічыла заганным.

Кагадзе быць адкрытай здавалася явай.
Мой давер быў нясмелы і быццам бы крохкі.
Я глытала пачуцці за ранішняй кавай,
І самота з крутнёй напаўнялі мне лёгкія.



***Аляксандра Фагот нарадзілася 30 снежня 1996 года ў Кобрыне. Сёлета скончыла Брэсцкі абласны ліцэй імя П. М. Машэрава (вучылася ў філалагічным класе). Любіць жыццё і пры гэтым прагне змен і чагосьці невядомага. Жыве мастацтвам.***

Я ішла па жарстве, па лязе, па каменнях
І няспынна ганяла па кордзе свой боль.
Я стаяла на кручы на збітых каленях,
Каля скроні ментальна трымаючы кольт.

Надвячэрняя ціша... Чакаю світання.
Кругагляд зняў кашнэ. Выбухаюць масты,
Бо знайшла квінтэсенцыю і ратаванне:
Ў іманентным сусвеце з'яўляешся ты.

Даканаў у душы інтрыган малавер'ем,
І кармінавы захад — як нетравы знак,
Што душу пазычаю табе напавер я.
Даастатку. Дарэшты. Імортэльна, так.

У душы непарадак, аднак цалкам творчы.
Але ў гэтым і ёсць мой нятленны спакой
І без слоў кажуць праўду здраднікі-вочы:
Ты мора маё і збавіцель ты мой.

**БЯСПЛЁННАСЦЬ**

У аблоках чытаю нясцерпны падман.
Подых ветру хварэе на сум і маркоту.
Завіруха быццям прадракае самоту.
Прад вачамі трымціць апраметны туман.

Беспрытульная цемра кусае зямлю.
На аскепкі крышыцца нямая аўрора.
І па шыю ужо фарысейнае мора.
Недарэчнасць пануе… а можа, я сплю?

У паветры ляціць аксамітавы снег,
Ды праносяцца зноўку аконныя шыбы.
Ах, бравурны хаос! Пералічвае хібы!
Па дарозе апошні ідзе чалавек...

Я малюю ў прасторы бязмежныя жахі,
Раскрыжоўваю думкі на мокрай паперцы.
Разумееш, чытач, дабрыня — вось, у клетцы,
А Фартуна раскідвае душы на плахі.

* * *

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў,
У пракураны бэзам любімы той горад,

Дзе нязграбны цягнік не ў час пастарэў,
Дзе пранізлівы, здзеклівы, вонкавы холад
Апустошыў мяне. Я душой захварэў.

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў.
Там, за мілямі фраз, дыялогаў, праклёнаў,
Ўпершыню ад кахання няўцямна п'янеў.
І згубіўся (як смешна!) у нейкіх трох клёнах.
Не ў бярозах блукаў я. Зусім захварэў.

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў.
Там курыў фіміям незнаёмым паэтам.
А пазней, на чыгунцы, ужо зразумеў:
Што яны празаічныя ўсе. І з білетам
Не ўвайшоў у цягнік, бо ужо захварэў.

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў.
Ледзяныя у сшытках пакінуў хімеры.
Я там бег за нязбытнасцю і не паспеў,
Бо жадаў ад жыцця, як звычайна, звыш меры.
Спатыкнуўся. Тады я ужо ім хварэў.

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў.
Там забыўся прыйсці да любімай матулі.
Толькі зараз, бяскарны, крыху пасталеў,
Але позна. Ніхто да пляча не прытуліць.
Воленс-ноленс, тады я глыбока хварэў.

Я у горад вярнуцца хачу, што згарэў.
Мне так трэба туды, Божа, злітуйся, мілы!
Ты прабач недалёкага, што узляцеў
І з нябёсаў зляцеў на нямыя магілы.
І прачнуўся. Прабач, што я так захварэў!



Алена ГАНУЛІЧ

# НАЗІРАЛЬНІК

*Навела*



***Алена Гануліч нарадзілася 28 чэрвеня 1988 года ў вёсцы Вараняны Астравецкага раёна. Працуе ў «Астравецкай праўдзе». Лічыць, што з думкамі і словамі трэба абыходзіцца асцярожна, бо досыць часта яны ўвасабляюцца.***

Усе школы падобныя адна да адной: шумна-тлумныя перапынкі, напоўненыя дзіцячымі галасамі, нязменныя вестуны ўрокаў — званкі, дошкі гонару… І асобныя дзіцячыя лёсы. Гледзячы на дзяцей з вышыні пражытага, здаецца, віруе толькі непаўторная непасрэднасць і бесклапотнасць. І так не хочацца, а часам нават складана ўявіць, што вось гэтае кірпатае бялявае дзяўчо — дзіця Сонца — на сваіх кволых плечыках носіць не цяжкі ранец, а трагедыю пра чалавечае раўнадушша і жорсткасць. Памятаеце казку пра «Снежную каралеву»? Кай насіў у сабе толькі адзін лядзяш. Каб не любоў Герды, то гэты маленькі аскепак ператварыў бы хлопчыка назаўсёды ў ільдзіну з халодным каменем-сэрцам.

Крылы ёсць ва ўсіх дзяцей без выключэння.

Бялявае дзяўчо мае за плячыма таксама крылы, але парэзаныя ў кроў.

Ён заўважыў крылы ў гэтай дзяўчынкі не адразу. Штодзённае мільгаценне белых пёркаў цешыла душу. І крывава-барвовыя знакі, калі ўпершыню трапіліся на вочы, прымусілі здрыгануцца ўсё цела. Ён заплюшчыў вочы: быў упэўнены, што гэта толькі гульня ягонай свядомасці. Доўга не мог сябе прымусіць адкрыць вочы, а калі нарэшце расплюшчыў, постаць дзяўчынкі ператварылася ў расплывістую пляму. Чырвань ён усё ж такі разгледзеў.

Назіральнік працаваў у гэтай школе нядаўна: раней займаў пасаду назіральніка-праваднікa. Блакітныя агеньчыкі, будучых дзяцей, ён з нябёсаў праводзіў да іх матуль, а затым назіраў, як тоненькай нітачкаю гэтыя агеньчыкі спляталіся цягам некалькіх дзён з залацістай стужкай жанчын. Здаралася і так, што хітрасляценні абрываліся — знікала сувязь. У такіх выпадках ён нёс на руках блакітныя, нябачныя звычайнаму воку камячкі назад, на нябёсы. Кожную трагедыю маленькіх агеньчыкаў ён перажываў, як сваю, і доўгі час не мог заспакоіцца. Аднаго разу, калі на ягоных вачах абрывалася сувязь, ён так моцна сціснуў у сваёй далоні дзве стужкі, што блакітны агеньчык застаўся са сваёй матуляй. Менавіта гэтая жанчына павінна стаць маці гэтаму дзіцятку.

Такая правіна не засталася па-за ўвагай галоўнага Назіральніка: правялі дазнанне, на якім наш Дабрачынца не раскаяўся ў сваім учынку. Як і прадчуваў, яго чакала паніжэнне: перавялі з Нябесных Назіральнікаў у Зямныя. Так і апынуўся Назіральнік-Дабрачынца ў гэтай школе. Не сказаць, каб яму тут было дрэнна ці не падабалася праца. Не давала спакою толькі адно: ён не мог умешвацца ў нічые справы, а толькі назіраць і пра здарэнні паведамляць Галоўнаму, які ў сваю чаргу — анёлам, заўсёды занятым крылатым істотам. А яны на савеце галоўных анёлаў раяцца, ці патрабуе сітуацыя вырашэння. Пралічваюць усе вынікі, доўга шукаюць магчымасці мінімальнага ўмяшання. А тут жа, на Зямлі, столькі часу мінае!

Анёлы па рангу вышэйшыя за Назіральнікаў. Мо таму і глядзяць на іх звысоку? Ці яму так здавалася? Назіральнік намагаўся адпрэчваць думкі, не лезці ў справы, якія не датычныя яго асобы, а сумленна, з дня ў дзень, выконваць свае абавязкі.

* * *

Вераніка ў задуменні прыйшла дамоў. Бацькі не было ў хаце, а маці нападпітку тупала на падворку. Дзяўчынка звыклася з думкай, што гэтай п’янай жанчыне, ейнай маці, няма аніякай справы да яе. Зноў давядзецца цалюткі дзень быць на вуліцы, класціся галоднай спаць, а раніцай, расцягваючы паўкіламетра дарогі на гадзіну, ісці ў школу.

Не, яна не тое, каб не любіла заняткі, але фізічна адчувала боль душы нават ад пагляду, не гаворачы пра кпіны, да якіх Вераніка прызвычаілася, як да свайго імя.

Дзяўчынка ненавідзела ўсім сэрцам саму сябе: брудную, нікчэмную, якая не здольна звязаць і двух слоў. Калі на перапынку хтосьці праходзіў паўз яе, сэрца пачынала калаціцца і Вераніка намагалася затаіць дыханне, каб тыя, хто праходзяць ля яе, не адчулі дрэнны пах. Зноў не пачуць: «Здымі гэтую шапку! Колькі ты ў ёй парыцца будзеш?!»

«Яны не разумеюць, што Вераніцы лепш тысячу разоў пачуць: “Здымі гэтую шапку!”, чым штоімгненныя кпіны аднакласнікаў: “Вошы аб’елі!” пры паглядзе на няроўна падстрыжаныя, месцамі паскубаныя нажніцамі, валасы», — з болем думаў Назіральнік, праводзячы сваімі бялёсымі вачыма постаць дзяўчынкі.

Гэтая некалі сіняя баваўняная шапка была ўсім для дзяўчынкі. Хоць на вуліцы і вiравала вясна са сваёй адчувальнай цеплынёй і на ўроках па шыі дзяўчынкі з-пад шапкі паўзлі буйныя кроплі поту, Вераніка не здымала яе. Яна намагалася, не ўсведамляючы таго, схаваць усю сябе ў брудную цёплую шапку: так яна пачувалася ў адноснай бяспецы. Яна не магла зразумець, што гэты галаўны ўбор не хавае, а наадварот, прыцягвае ўвагу… «Сіняя шапка» з крывавымі крыламі за спінаю.

Назіральнік забыўся на астатніх дзяцей, на свае абавязкі, а моўчкі крочыў следам за дзяўчынкай. І ўпершыню адчуваў нясцерпны боль, гледзячы на крылы ў драпінах. Некаторыя раны зацягнуліся, пакрыліся барвовай скарынкай, былі і свежыя крывавыя сляды.

Назіральнік заўважаў, як Вераніка ўсё больш аддаляецца ад астатніх, як у дзяўчынкі ўсё радзей узнікаюць думкі пра тое, чаму яна не нарадзілася ў другой сям’і? Чаму менавіта яна, а не хтосьці іншы жыве гэтым жыццём? Нават цішком падслу-

ханыя размовы дзяўчат-аднакласніц пра перапісванні з хлопчыкамі ў сеціве яе не краналі…

У сёмым класе праводзілі педагагічную гульню. Настаўніца разбіла дзяцей на пары. Коля, трымаючы дыстанцыю ад Веранікі, дэманстратыўна пачаў адварочваць нос, раздзімаючы ноздры. Усе дзеці смяяліся: ім было весела! Вераніка стаяла і моўчкі глядзела ў падлогу: не заплакала і не выбегла з класнага пакойчыка. Толькі Назіральнік бачыў, як з'явілася новая рана на крылах і імгненна пачала крывавіць.

Ён выбег за дзверы, разумеючы, што так больш не можа працягвацца. Яму не пад сілу бачыць сотні дзіцячых усмешак, калі гэтая адзіная дзяўчынка ледзьве цягне за сабою такую непамерна цяжкую ношу.

Раніцай, калі да званка заставалася паўгадзіны, Ніна Сцяпанаўна, маладая настаўніца-біёлаг, паклікала да сябе Вераніку і працягнула ёй маленькі скрутачак:

— Трымай, — нягледзячы на разгублены позірк вучаніцы, настаўніца працягнула: — У кожнай дзяўчынкі павінны быць сапраўдныя духі.

Дзяўчынка моцна сціснула пакуначак, аж пабялелі пальцы. Хтосьці не лічыць яе нікчэмнай, яна не адна на гэтай Зямлі!

Ніну Сцяпанаўну здзівіў асабісты ўчынак: яна ніяк не магла даць рацыянальнае тлумачэнне свайму парыву. Дачытаўшы апошнюю старонку «Снежнай каралевы» малому сыну, настаўніца ў думках дзясяты раз за дзень вярталася да таго выпадку.

Назіральніку зрабілі строгую вымову і пакінулі на нябёсах: ні з людзьмі, ні з анёламі, ні з іншымі назіральнікамі ён не мог сустракацца, а толькі сядзець у адзіноце і, разводзячы рукамі пульхныя аблокі, моўчкі назіраць. І ён пазіраў з нябёсаў на школу, да якой так прызвычаіўся: глядзеў на галовы ўсмешлівых дзяцей, на Вераніку, якая са сваім прывабным тварыкам і светлымі да плячэй валасамі больш не чула абраз, хоць драпіны і з'яўляліся на крылах дзяўчынкі. Толькі ўсё радзей і радзей...



Настасся НАРЭЙКА

# ХТО МНЕ СКАЖА, КАЛІ НЕ ТЫ?

*Паэма*



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Навіны Камянеччыны». Друкавалася ў часопісах «Полымя», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях. Спрабуе сябе і ў паэзіі, і ў прозе.***

**1**

Яны даўно не плачуць. Даць бы рады.
У сеткі рыба зноў ісці не хоча.
У сеткі сыплюць толькі зарапады.
Я вызваляю зоркі з лёскі ноччу.

Яны даўно не плачуць. Сэнсу мала.
Тут плача толькі вецер сумнай скрыпкай.
А я маліцца ноччу перастала,
Каб зорка ў сетцы стала звонкай рыбкай.

Яны мяне спыняюць на світанні,
Пытаюцца: «Сястра, што з намі будзе?
Што Бог табе сказаў на развітанне?»
«Ён не прыйшоў, на жаль. Прабачце, людзі».

Яны даўно не плачуць. Бо нярварта.
І я маўчу, і Бог маўчыць, і неба.
І зоры там, высока, нібы карта.
Навошта сыпаць іх дажджом у невад?

Я ведаю, усё калісь мінае,
І час любыя выпраўляе хібы.
Мы — лішнія. А гэта азначае,
Што толькі кропкі мы ў сузор'і Рыбы.

І прыйдзе час. І з'явіцца Адзіны.
І будзе тое, што было спрадвек.
Пустыня… О, даруй мае правіны!
Дзве плоткі — і 5 000 чалавек.

**2**

**МАНАЛОГ РАГОЖЫНА**

Настасся Піліпаўна! Гэта вар'яцтва і толькі!
У што вы гуляеце сёння? Я ўжо праіграў?

Настасся Піліпаўна! Я не прынёс дубальтоўкі!
Настасся Піліпаўна! Нож я таксама не ўзяў!

Я проста прыйшоў, каб укленчыць ля вас і скарыцца,
Каб край ад сукенкі зялёнай крадком цалаваць.
Вы — болю майго невычэрпная, злая крыніца.
Я вас праклінаў, але больш не магу праклінаць.

Настасся Піліпаўна! Бразніце звонка дзвярамі!
Ганіце мяне, як сабаку. Я варты таго.
ЁН вечна стаіць і стаяў ад пачатку між намі.
ЁН проста бароніць, і я разумею ЯГО.

Вось толькі адно мне няўцям, хто ахвяра між намі?
Ці я, што да крыку, да болю заўжды вас любіў?
Ці вы, што хваробу маю вымяралі рублямі?
Я дурань сляпы. Я сваю дубальтоўку забыў.

Настасся Піліпаўна! Вам я, напэўна, не пара,
Ды сэрца маё разрываецца зноў надвая.
А ЁН гаварыў, што любоў — гэта больш, чым ахвяра.
ЁН слушна казаў. І таму гэтак змучаны я.

ЁН вечна прыходзіць пад вечар і доўга, маўкліва
У вочы глядзіць, як сава з учарнелых хмызоў.
Ён бачыць: мне страшна. А потым сыходзіць імкліва.
А вочы ЯГО застаюцца, глядзяць з абразоў.

Я нешта ЯМУ гавару — ЁН нібыта не чуе,
ЁН быццам мяне ў глыбіні неадольна баіцца.
ЁН нібы з мяне дрэвы злосці з карэннем карчуе.
Што з ІМ гаварыць? На ЯГО можна толькі маліцца!

Я плачу прад вамі, прад ІМ я не плачу ніколі.
ЁН бачыць да дна ўсё маё закарэлае сэрца.
Чытае яго. «Гэта крыж твой». Я знаю, нядоля!
…ЁН кнігу пакінуў, што Біблiяй ціха завецца…

Настасся Піліпаўна! Хто і каму пакаранне?
Я сёння чытаў і аслеп ад вялікага ззяння.
Вы так не палалі ніколі, ніколі! Паданне
Старое, ды веру яму. Вось маё пакаранне.

Не вы мне пакута. Не вы! А ЯГО дараванне.
ЁН мне дараваў! Нават загадзя! Дурань? І што ж?
Падвесці ЯГО не змагу. ЁН чакае. Змяркание…
ЁН ведаў даўно, што я ў вас усаджу гэты нож…

**3**

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы жывём, бо не можам іначай.
Мы зачаста гаворым «кахаю»
І зарэдка па шчырасці плачам.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы жывём — не баімся нічога.
Мы бяжым ад тугі і адчаю
І паўсюль упіраемся ў Бога.

Нам няма ні канца і ні краю,
Ані страху ўнутры, ні сумнення.
Так далёка ад пекла і раю.
Мы жывыя. Да часу. Імгненне…

Нам няма ні канца і ні краю.
Нам звычайная дробязь — навала.
Мы галосім: «Ратуйце! Знікаю!»
Мы галосім, ды гэтага мала.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы як дзеці. Мы ўсе без правіны.
Мы блукаем: блукаеш, блукаю…
Мы жывём і не лічым гадзіны.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы бязглуздыя, злыя стварэнні.
Нам не месца на краечку раю.
Нам турмою — зямлі сутарэнні.

Нам ніхто не даруе нічога.
Не даруе грахоў нашых, знаю.
Наш ратунак адзіны — ад Бога,
Бо яму ні канца і ні краю.

**4**

Хай бэзам прапахлі надзеі, пранізлівым бэзам.
Мы судзім ізноў. О, куды мы, праклятыя, лезем?

Чытаем чужыя лісты — прабачэння не просім.
Высоцкі крычаў: «Не люблю!» Ды абыдзецца. Восень…

Мы нервы чужыя ірвём, як гітарныя струны,
А потым у вочы глядзім — толькі позірк бяздумны.

Мы молімся надта старанна — не верацъ на небе.
Мы просім заўсёды адзіна аб шчасці і хлебе.

А хлеб каласамі ў шырокае неба імкнецца,
А шчасце зусім ненадоўга наведвае сэрца.

Маліся і болю прасі. Ён табе нагадае,
Што тым, хто пакутуе, Бог на зямлі спагадае,

Што боль — напамін аб тваім на зямлі існаванні,
Душа праз яго паўстае ў самым радасным ззянні,

Чысцее, святлее, празрысцей стае (і з разрэзу),
А потым асыплецца ўніз, нібы зорачкі бэзу.

**5**

Хто мне скажа, калі не Ты?
Хто Твой верад, калі не я?
Хто пацягне мяне з нематы,
Як не Ты? Я Твая змяя.

Я спакусу нясу далей
Я прыгрэты пякельны грэх
Пагадзіся: са мной весялей!
Я пажар, я пачну са стрэх.

Толькі ноччу, калі мая
Чарната лепш відаць, чым Ты,
Разумею, што пекла ўсё ж я,
І навокал — драты, драты.

І навокал — абшар пусты,
І не вырвацца з дратаўя.
Хто ўратуе мяне, як не Ты?
Хто адценне Тваё, як не я?



*Літаратурны дуэт «Татмір»*

# СТРЫПТЫЗ НА ЛІСТКУ КРАПІВЫ



***Таццяна Чараухіна нарадзілася 23 лютага 1977 года ў Гомелі. Любіць людзей з пачуццём гумару. Упэўнена, што ўсё, што ні робіцца, робіцца своечасова, і гэта «своечасова» — зараз.***



***Уладзімір Чараухін нарадзіўся 1 верасня 1986 года ў Гомелі. Апантаны «кнігаед». Захапляецца інтэрактыўнай літаратурай: піша тэкставыя квэсты на беларускай мове і перакладае лепшыя ўзоры з рускамоўных тэкставых гульняў.***

Не спалося. Накінула куртку і выйшла ў сад. Прайшла ў самы далёкі закуток. Там у мяне ля самага плота ляжыць цудоўны цурбачок для паэтычных вячорак у кампаніі музы. На гэты раз ніякага нататніка я з сабой не брала. Паляпала па кішэнях — цыгарэт таксама не было, пакінула іх на лядоўні. Уздыхнула і стала паглядаць на месяц. Задумалася пра нешта, разглядваючы чорныя сілуэты дрэў з цёмна-сінімі латкамі. Потым мой позірк перамясціўся на рэчы бліжэйшыя: на высокае цыбоўе ўладарнай крапівы, на жамчужны бляск начной расы на пругкім лісці. Нешта дзіўнае прыцягнула ўвагу, і я абудзілася, утаропілася на бліжэйшы крапіўны ліст, які зацікавіў мяне. Пры поўнай адсутнасці ветру ён ціхенька пагойдваўся і на ім штосьці варушылася. Да майго слыху даляцеў тонкі звон, быццам ад навушнікаў-«таблетак». Песня ці што? Так, я разабрала словы. Танюткі камарыны галасок пішчаў ва ўсю сваю моц: «Рыфмаплёцтва не ў пашані-і-і — лепш мятлой махаці



*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ.*



ўранні-і-і!» Толькі што ж гэта спеў такі надрыўны?! Я нахілілася наперад і прыжмурылася. Навошта гэта рабіць у начным прыцемку? Але звычка, што зробіш! Ва ўсялякім выпадку я згледзела на крапіўным лісце сапраўдную небывальшчыну: пасярэдзіне драпежна-варсістай паверхні, да якой і даткнуцца боязна, бадзёра «запальвала» фігурыстая дзюймовачка з шырокімі крылцамі. Яна сцягнула з сябе эльфійскае «міні». Я аж папярхнулася! Гэта прыцягнула ўвагу сексапільнага напаўпразрыстага крылатага мезенца, і ён замёр, утаропіўшыся на мяне. Потым у начной нерушы празвінела недаверлівае пытанне:

— Ты мяне бачыш?

— Яшчэ як! Я і не ўяўляла, што э-э-э... — я збянтэжылася, не ведаючы, як назваць гэтую істоту, але скарысталася самым блізкім, што круцілася на языку. — Не ведала, што эльфы так могуць.

Кроха прыўзнялася ў паветра, далей ад крапіўнага ліста, спрытна ўсцягнула назад сваю адзежынку і з асалодай пацёрла нагой аб нагу:

— Мне больш падабаецца слова «фея».

Я звярнула ўвагу на яе рухі і спачувальна спытала:

— Што, свярбіць?

— Яшчэ як! — піскнула фея і спікіравала ў нейкую непрыкметную лужынку. Зрэшты, асвяжылася яна імгненна і зноў павісла перад маімі вачыма.

— Гэта ваша народная забаўка — танчыць на крапіве?

— Ды не! Я фея кляновага танца. Менавіта дзякуючы нам кляновыя лісты ўвосень так прыгожа і плаўна кружацца ў паветры. Без нас яны, як дурні, так бы і плюхаліся ўніз. Апусціла лісток на зямлю — лячу наверх па новы.

— А яшчэ якая-небудзь праца ў вас ёсць?

— Яшчэ ёсць феі кветкавых усмешак. Апусціцца фея ў астру, і тая становіцца прыгожай-прыгожай. Тады і раса на ёй зіхаціць. Без нас, фей, усе кветкі сумныя, непрывабныя, — з гонарам скончыла малая.

— Ну, тады гэта выдатна, што вы ёсць! — сказала я. — А на месяцы таксама жывуць нейкія феі? Вунь, як цудоўна ён свеціць.

— Не, гэта феі месяцовага святла. Яны жывуць у паветры. Ты глядзіш на месяц скрозь іх, вось табе ён і падаецца прыгожым, а гэта ўсё яны.

— Здорава! — яшчэ раз захапілася я і вырашыла ўдакладніць:

— Ты ж сказала, што танцуеш з кляновым лісцем. Што тады ты робіш ноччу ў маім садзе ў крапіўным закутку?

Фея прысела на кукішкі перад маім носам і патлумачыла:

— Сёння ўдзень я танчыла ў гарадскім парку разам з астатнімі. Дзьмуў цудоўны вецер. Людзі туды-сюды ходзяць, любуюцца, вядома, як лісцікі кружацца, але бягуць сабе далей. А тут нейкая мясцовая гарадская паэтка, рудзенькая такая, далей не пабегла, а вочы шырока расплюшчыла і пазірае, усміхаецца. А потым раскінула рукі і закружылася з намі! Праўда, зусім трошачкі. Уражлівай апынулася. Зацягнула сёння ў свой сон увесь наш карагод. Зладзіла праўдзівую кляновую завіруху. Дзве гадзіны змушала нас кружыцца, фантазёрка, замарыліся мы з ёй. Потым уціхамірылася. Я плаўна апускаю свой лісток перад яе чаравікамі. І тут яна на мой лісток глядзіць і гаворыць: «А я станчыла б на гэтым лістку!» — Я гэтага не сцярпела, бо сама з ім толькі што кружылася! Падлятаю ўгору да твару дылды гэтай і кажу: «Калі ты на гэтым кляновым лістку пратанчыш, то я станцую стрыптыз на лістку крапівы!» — галасок апавядальніцы сумна абарваўся.

— І што здарылася?

— Ды забылася я, што гэта сон! Прайграла! Вось, — сумна скончыла яна. — Паляцела я ад сораму адпрацоўваць спрэчку на самы канец горада! А што, публічнасць мы не абгаворвалі! Думаю, станцую халоднаму месяцоваму святлу так, каб яму горача зрабілася, як маім ступням! А цябе я праз цыбоўе ад засмучэння не ўгледзела, а ты аказваецца, яшчэ і добрая паэтка. Толькі добрыя паэты здольныя бачыць фею наяве.

— Дзякуй, красуня, за камплімент, — усміхнулася я і нечакана пазяхнула. Хацела яшчэ штосьці дадаць і пазяхнула яшчэ раз, зусім ужо жудасна. Заўважыла, што дух танца адляцеў далей, мабыць, каб не ўдыхнулі незнарок, і вінавата прамовіла:

— Здаецца, час мне баінькі, а то заўтра прыйду ў рэдакцыю зусім не выспаўшыся, а мой шэф Цімафей — зусім не фея. А тое, што я, як ты кажаш, добрая паэтка, напэўна, не перашкодзіць мне запрасіць цябе ў мой сон. Ветру няма. Лісце амаль не падае. Працы няма. Памахай крылцамі ў мяне перад носам, нагадай, што ды як. Пасядзім да раніцы, гарбаты пап'ем. У мяне ёсць зялёная з пялёсткамі язміну.

Алесь ДУБРОЎСКІ-САРОЧАНКАЎ

# ШЭПТ ЖЫЦЦЯ



***Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў нарадзіўся 18 лістапада 1976 года ў Навагрудку. Скончыў філфак БДУ, магістратуру і аспірантуру па кафедры тэорыі літаратуры. Кандыдат філалагічных навук, выкладчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ.***

* * *

На тонкай нітачцы вісець у Бога
і сузіраць бяздонны гарызонт,
упарта разважаючы наконт
таемнай прыцягальнасці старога
пейзажу гэтага. Ці тонкі гук
з глыбінь жыцця лавіць нервовым слыхам:
няспрытны захад упускае ціха
талерку чырвані са слабых рук.
Ці танчыць вальс на тонкім лёдзе сэнсу,
што аддзяляе ад бяздонных вод, —
хай свет глядзіць на новае каленца,
разявіўшы ў здзіўленні пекла рот.

**AD ABSURDUM**

Мітусні таемная чароўнасць,
Залатога глупства хараство…
Чым гучней спявае бессэнсоўнасць,
Тым мацнейшае быцця пітво.

Я люблю абсурду непрыкрытасць
І хаосу велічны пасьянс:
Старадаўніх маскарадаў прыкрасць
Пры благой гульні — сумніўны шанц.

Але свет захоўвае свой звычай,
І павінна шоу мець працяг,
Ды праз крык абсурду істэрычны
Я пачую ўрэшце шэпт жыцця.

* * *

*…І месца ягонае ўжо не будзе ведаць яго.*
Кніга Іова 7:10

Тваё месца аднойчы цябе забудзе,
твае рэчы не ўспомняць твой дотык,

і па сцежках тваіх пойдуць іншыя людзі —
гэта чорнай бясконцасці подых.

Не запоўніш бясконцасць сабой
проста так:
у пяску знікае вада.
І пакуль не згадала цябе пустата —
пра сябе жыццю нагадай.

**ЛЮТЫ**

Сонца лютаўскае не грэе,
А марозіць зямную вось.
Вар'яцее зіма, хварэе
На пякельную прыгажосць —

Парадоксы прыроднай драмы…
І ў жыцці парадоксы ёсць:
Паказаць яно ўмее таксама
Сваю лютую прыгажосць.

* * *

І смерці страх, і існавання страх
Зліваюцца ў адну глухую ноту —
Так пустата, бяссэнсіцы сястра,
Спявае пра сусветную самоту.

Ды разам з гэтай нотай ловіць слых
Мелодыю сусветнай прыгажосці.
Так рай і пекла разам граюць штосьці,
Так ноч і дзень спяваюць удваіх…

Мудрэц — хто ўцяміў смак жыцця
свайго
(А гэта смак зімы, цяжарнай летам).
Так у адной сімфоніі Сусвету —
І жах быцця, і хараство яго.

* * *

Сусвет не мяняе парадкаў,
І лёгкае іх адкрыццё,
А Ты загадаў загадку,
І гэта загадка — жыццё.

Ніхто ж разгадаць не зможа…
Ты мне пад сакрэтам скажы
На вуха адгадку, Божа,
А я паспрабую пражыць.

**ЧУФУТ-КАЛЕ**

***Быццам толькі што вось адбылася Галгофа.***
Уладзімір Караткевіч. Чуфут-Кале

Тут каменне маўчыць красамоўна — пра Бога,
Пра зямлі заканчэнне і неба працяг.
Быццам толькі што тут адбылася эпоха.
Толькі ўважліва ўслухайся ў гэты прасцяг.

І на камені выступіць надпіс паўсцёрты,
І да сэрца аглухлага вернецца слых,
Калі ў горадзе, больш за стагоддзе ўжо мёртвым,
На гадзіну з *жыццём* застанешся ўдваіх.



*Ліна КОТ*

# ДЗЁННІКІ СТРАЧАНАГА КАХАННЯ



***Ліна Кот (Чарняўская) нарадзілася 21 лістапада 1985 года ў Вільнюсе. Працуе рэдактарам у прыватным выдавецтве. Вольны час бавіць у цягніках і аўтобусах. Верыць, што жанчыны — слабы пол, але марыць узысці на Эльбрус.***

***20 сакавіка 2008 г.***

Мой першы запіс. Паспрабую апісаць сябе. Я — звычайная дзяўчына. Самая звычайная. Я лічу сябе зусім дарослай — пятнаццаць гадоў ужо.

Напэўна, самая галоўная тэма інтымнага дзённіка пятнаццацігадовай дзяўчыны — першае каханне. Самыя хвалюючыя моманты дзявоцкага жыцця праходзяць на першых нясмелых спатканнях. Якое шчасце ахоплівае нас ад выпадковага слова, позірку, нечаканай сустрэчы!

У мяне ёсць лепшая сяброўка. Мне вельмі пашанцавала з ёй. Мы сябруем з дзяцінства, і яшчэ ні разу не пасварыліся. Яна добрая і верная. Ёй можна расказаць усё, планаваць любыя справы. Але такую раскошу, лепшую сяброўку, дазваляюць сабе не ўсе. Адным не хапае дружалюбнасці ў характары, другія не знаходзяць сярод знаёмых тую адзіную, якую можна пусціць да сябе ў душу. А нехта, можа, і пусціў ужо, але потым пашкадаваў: гэтая госця параніла пяшчотнае сэрца, прынесла крыўду і горыч. Некаторыя губляюць надзею і веру ў жаночае сяброўства. Дарэмна. Лепшая сяброўка патрэбна. Бо нельга хадзіць у школу толькі затым, каб лішні раз зазірнуць у падручнікі.

Мяне хвалююць экзамены. Але не ў такой ступені, як спадзяюцца мае бацькі. Як і большасць дзяўчат, я б з задавальненнем пакінула кніжкі і сшыткі ды пабегла б на вуліцу, цешачыся з жыцця і сваёй маладосці! Толькі бацькі чамусьці перакананы, што калі іх правільная дачка атрымае дрэнныя адзнакі, здарыцца сапраўдная трагедыя. Таму часцей за ўсё мяне можна ўбачыць дома за падручнікамі.

А цяпер галоўнае. Ёсць яшчэ адна прычына маёй стараннасці, апрача надзеі бацькоў. Седзячы за сваім пісьмовым сталом, я часта пагладаю ў акенца. Ніхто, акрамя маёй лепшай сяброўкі не ведае, што мяне адцягвае ад вучобы.

У доме насупраць ёсць адно запаветнае акно, якое, быццам магніт, прыцягвае мой позірк. Не важна, ці відаць што-небудзь у ім. Я ведаю, што за гэтым акном

жыве чалавек, які прымушае маё сэрца біцца часцей, маё першае каханне. І часам мне здаецца, што я гатова аддаць усё, толькі б апынуцца там, побач з ім, паглядзець у яго вочы, сказаць пра свае пачуцці.

Я ведаю Колю з маленства, але мы ніколі не гулялі разам. Мы былі знаёмыя, але не сябравалі. І так атрымалася, што я яго амаль не бачыла, хаця нашы пад'езды знаходзіліся насупраць. І вось аднойчы мне выпадкова даручылі аднесці ліст Колінай маці. Як цяпер памятаю гэтае імгненне. Дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся прыгожы плячысты хлопец. Тое, якім я яго ўбачыла ў тую хвіліну, ніяк не стасавалася са звыклым для мяне вобразам падлетка, што заўсёды гойсае па суседніх дварах з футбольным мячом. Хлопец уважліва паглядзеў на мяне і павітаўся. А ў мяне ўнутры ўсё замерла. Каб канчаткова паверыць сваім вачам, я ціха спытала:

— Коля, гэта ты?

Коля ўсміхнуўся:

— Так, а што, не падобны?

Я не магу апісаць, якое ўражанне ў мяне выклікалі яго позірк, голас, усмешка. Мне стала вельмі цёпла і спакойна.

З таго дня маё жыццё змянілася. Кожны вечар я выключаю святло ў пакоі і гляджу на яго асветленыя вокны. Кожны раз, калі мне шчасціць яго пабачыць, я горача дзякую свайму лёсу. А раніцай я ўскокваю на паўгадзіны раней, каб прасачыць, як ён выходзіць на вучобу. Адзіны чалавек, які ведае пра мае перажыванні — Алена. Я магу гадзінамі распавядаць ёй пра тое, якія думкі перадумала і якія пачуцці перажыла за тую хвіліну, пакуль Коля ішоў ад пад'езда да вугла дома, за якім я яго ўжо не бачыла. Алена заўсёды цярпліва слухае, усміхаецца, а потым уздыхае і пачынае разважаць пра каханне.

***28 сакавіка 2008 г.***

Доўга так, зразумела, цягнуцца не магло. Калі-небудзь мы павінны былі зноў сутыкнуцца. Гэта адбылося сёння, калі я вярталася з крамы і цягнула вялікую сумку. Раптам я пачула збоку голас, які ўмомант перавярнуў свет для мяне.

— Прывітанне! Табе дапамагчы?

Я не памятаю, што адказала, не памятаю, як мы дайшлі да маёй кватэры. Толькі каля парога зразумела, што Коля зараз развітаецца, і зноў пачнецца чарга тужлівых дзён з патаемнымі позіркамі ў акно. Я не магла не скарыстацца нашай сустрэчай. Набралася смеласці і спытала:

— Паслухай, можа ў цябе атрымаецца неяк на тыдні дапамагчы мне з англійскай мовай?

Цяпер я не знаходжу сабе месца. А раптам ён не прыйдзе?

***29 сакавіка 2008 г.***

Мы сядзелі разам за маім пісьмовым сталом. Перад намі былі раскладзены падручнікі. Але якая мне справа да іх! Побач сядзела мая мара, а я не ведала, што рабіць далей. Усё, што я вучыла нават не затрымлівалася, адразу ж вылетала з маёй галавы.

Напэўна, Колі я таксама падабалася, бо ён не губляў цярплівасці. Нарэшце, ён усміхнуўся, адсунуў кнігу і спытаў:

— Ты хоць нешта можаш вымавіць па-англійску?

Не ведаю, што на мяне найшло. Я павярнулася да яго і прамовіла:

— Ай лав ю.

Усмешка збегла з Колінага твару.

— Што? — ціха перапытаў ён.

Я была гатовая скрозь зямлю праваліцца. Ці, на благі канец, разраўсціся. Я бездапаможна глядзела на яго. А ён, мабыць, нічога не мог зразумець. «Гінуць, дык не азірацца!» — вырашыла я і прыпала да яго вуснаў. Ах, якое прыемнае адчуванне! Я патанула ў віры пачуццяў. Ён прытуліў мяне да сябе. І я, напэўна, на ўсё жыццё запомню гэтае імгненне шчасця — смак першага пацалунку.

***11 красавіка 2008 г.***

Ён знік. Не ведаю, як гэта здарылася, але Коля перастаў з'яўляцца ў вокнах. Ён больш ні разу не зайшоў «дапамагчы мне з англійскай мовай». Я ў роспачы. Да самых нязначных дробязей абмеркавала з Аленай гэты выпадак, але мы не знайшлі ніводнай памылкі, якая магла б, на нашу думку, адвярнуць Колю.

— Ты павінна сама да яго падысці! — кожны дзень паўтарае мне Алена.

— Баюся, — увесь час адказваю я.

Можа, не баюся, а саромеюся? Але ад гэтага не лягчэй.

***25 красавіка 2008 г.***

Хутка наступіць канец навучальнага года. Наперадзе ў нас застаюцца яшчэ экзамены і ўрачыстае атрыманне пасведчання аб базавай адукацыі. Аленка кожны дзень прыязджае да мяне. Мы разам рашаем задачы па матэматыцы. А ўвечары выходзім на вуліцу пагуляць.

Мне падабаецца гуляць менавіта ў такі час, калі сонца толькі пачынае хіліцца да заходу. Усё адразу прымае жаўтаватае адценне.

Сёння да нас падышлі два хлопцы.

— Дзяўчаты, можна з вамі пазнаёміцца?

— Лепш не трэба, — адышла я на ўсякі выпадак падалей.

— Годзе вам! Няўжо і паразмаўляць нельга? — не адчапіўся хлопец.

— Ідзіце, куды ішлі. Мы дадому спяшаемся, — уступілася Алена.

— Мы можам вас правесці, — прапанаваў хлопец. — Куды ідзём?

— Нас маці вучыла не размаўляць з незнаёмымі людзьмі.

Як мы ні адмаўляліся, хлопцы пайшлі побач. Паступова размова наладзілася. Мы пазнаёміліся. Аднаго, які загаварыў з намі, звалі Дзіма. З ім быў яго сябар Віталь. Алена адразу зацікавіла Віталя, і, на маю думку, гэта было ўзаемна. Адчуваю, што гэтае знаёмства перарасце ў нешта большае.

***1 мая 2010 г.***

Сёння мы з Дзімам сядзелі ў ціхай кавярні. Людзей было няшмат. Мы нават не пазіралі адно на аднаго. Веснавое сонца лагодна асвятляла стол і частку падлогі, саграваючы мае рукі і шклянку з сокам. Аднекуль даносілася музыка. Яна гучала так ціха, што нават нельга было дакладна пазнаць мелодыю. Я павольна калупала піражнае на талерцы. Дзіма, як заўсёды, купляў мне тое, што выбіраў сам. Але ў гэты раз ён дагадзіў, ласунак быў смачным, з салодкім сунічным крэмам; на жаль, мне не хацелася есці. Адну за адной я пэцкала бялюткія сурвэткі, быццам толькі так магла дапамагчы сябрам. Дзіма ж не еў нічога.

— Алену нават не абшукалі, не дапыталі, проста адпусцілі? — спытаў Дзіма пасля доўгага панурага маўчання.

— Чаму яе павінны затрымліваць? Хто яна Віталю? Проста дзяўчына. Яна сказала, што нічога не ведае. Ёй паверылі, спыталі адрас, тэлефон, калі спатрэбіцца выклікаць.

— Яны зусім дурныя? Як можна адпусціць дзяўчыну, якая знаходзілася разам з Віталем у момант арышту? — прамовіў хлопец з абурэннем.

— Значыць, знаходжанне побач — не падстава для затрымання. За Віталем доўга сачылі. Я лічу, павінны былі да арышту высветліць, што Алена ні пры чым. Разумеюць, што яна ведае, але, акрамя яе, шмат хто быў асвядомлены. Дапытаюць некага іншага.

— Я ведаў, што наркотыкі яго загубяць. Я даўно яму раіў кідаць гэты бізнес. Але ён ужо не мог адчапіцца ад «аптавікоў». Ці, можа, толькі казаў так?

— Колькі год прыблізна яму пагражае?

— Не ведаю. Гэта будзе залежаць ад адваката, — Дзіма ўздыхнуў. — У любым выпадку, сябра я згубіў. Цяпер толькі ты засталася побач, маё кацяня.

— Ты згубіў яго ўжо даўно, калі Віталь упершыню ўзяў «маркі» на распаўсюджванне. Розуму не дабяру, чаму Алена працягвала сустракацца з ім, спадзявалася, што выцягне на сумленны шлях? Ведаю, што яна закахана ў Віталя, але не разумею такой адданасці.

Дзіма зірнуў на мяне:

— Я бачыў, што яна не толькі не выцягвала яго, а наадварот, падтрымлівала. Таму і абураюся, што яе не затрымалі!

— Ты нешта блытаеш. Алена заўсёды была супраць наркотыкаў, якія б яны не прыносілі грошы. Гэта адно з самых вялікіх ліхаў, якія нарабіў чалавек.

Я паклала руку на руку Дзімы.

— Адвязі мяне дадому. Толькі настрой псуем адно аднаму. Я з Аленай у чаце пагавару. Яна сёння дома сядзіць, чакае навінаў.

— Ты б не давярала ёй асабліва. Яна змянілася ў апошні час. Я, напрыклад, перастаў давяраць ёй, калі пра сумніўныя Віталевы заробкі даведаўся.

Я ўсміхнулася:

— Спадзяюся, ты разумееш, што гэта ўзаемна?

— Разумею. Алена наогул ніколі прыязна да мяне не ставілася. Нават, калі ўсё было добра з Віталем.

— Адвязі мяне дадому, — паўтарыла я. — Я ж бачу, што табе дрэнна.

— Я нават не ведаю, у якім аддзяленні яго трымаюць, — Дзіма падняўся і падаў мне руку.

— Табе трэба пагаварыць з яго бацькамі. Яны павінны першымі даведацца.

— Ты маеш рацыю, маё любае кацяня.

Потым мы накіраваліся да дзвярэй. Я раптам заўважыла на сабе прыязны позірк з-за суседняга стала. Дзіма таксама заўважыў гэта і злосна азірнуўся. Той хлопец прыняў абыякавы выгляд і адвярнуўся. Я здагадвалася, што станаўлюся прывабнай дзяўчынай. У сямнаццаць гадоў, як ніколі, мне падабаецца лавіць на сабе позіркі. Ад гэтага я адчуваю сябе больш упэўнена. Але часам мне здаецца, што большасць дзяўчат прыгажэйшыя за мяне. І твар занадта круглы, і вушы вялікія, і ногі кароценькія, і худая вельмі. Увогуле, не ведаю, чаго на мяне хлопцы глядзяць?

А сама я хачу бачыць толькі аднаго хлопца. Таго самага, якога ўпотай кахаю ўжо два гады. За якім увесь гэты час сачу з акна. Коля вучыцца ў звычайным каледжы, сябруе з маім суседам і аднагодкам Русланам, з якім я вучуся ў адной школе, больш таго, у паралельным класе. Часам мы вяртаемся разам дадому ці ідзём разам у школу. Здаралася, што я асмельвалася выкарыстаць Руслана, як пасрэдніка паміж мною і Колем. Але кожны раз штосьці блытала і ламала мае планы: то перашкаджаў Дзіма, то сам Руслан псаваў нешта.

Толькі Алена ведае ўсё гэта і была бы радая мне дапамагчы, бо не вельмі добра ставіцца да Дзімы. У мяне ўжо ўсталяваўся імунітэт да яе пастаянных дакораў. Я не магу разысціся з Дзімам, мне патрэбна зачэпка, асаблівая матывацыя. Пасля рамантычных лекцый Алены рашучасці ўва мне не большае. А між тым праходзіць месяц за месяцам.

І толькі папка з маімі патаемнымі сшытачкамі тлусцее з кожным годам.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Фенікс:

*Лепш не пытайся. Толькі пачала ў сябе прыходзіць.*

Кацяня:

*Прабач, што адразу не паехала да цябе.*

Фенікс:

*Ты мне нічым не дапаможаш. І яму таксама ўжо нічым. Хіба не ведаеш, як з гэтым жорстка ў нас…*

Кацяня:

*Можа, за першае парушэнне ўмоўным абыдуцца?*

Фенікс:

*Ты як з іншай планеты! Які ўмоўны тэрмін? Гэта наркагандаль. За гэта страляць трэба! Да таго ж, за ім даўно сачылі. Гадоў на дзесяць набярэцца. І мяне шкадаваць не трэба. Я ведала, што гэтым скончыцца. Я была падрыхтавана да ўсяго.*

Кацяня:

*Не тужы, сяброўка. Усё наладзіцца. Вось убачыш, Віталя пакараюць мінімальна. Можа, нават пад якую-небудзь амністыю трапіць. І ў цябе ўсё добра будзе. Цябе ніхто не зачэпіць.*

Фенікс:

*Аптымізм — гэта добра.*

Фенікс:

*Ты што, заснула?*

Фенікс:

*Гэй!*

Кацяня:

*Прабач. Я проста ўбачыла некага ў акне. Ты ведаеш. Прыглядалася, можа, ён?*

Фенікс:

*І што?*

Кацяня:

*Не ведаю. Яшчэ не зусім сцямнела. Дрэнна бачна.*

Фенікс:

*Колькі яшчэ гадоў ты будзеш у яго акно зазіраць?*

Кацяня:

*Не трэба пра гэта. Ты ж усё ведаеш. Я не магу па-іншаму.*

Фенікс:

*Я даўно табе казала: пакуль ты пры Дзіме, ты нічога не зробіш. Дзіма ўжо два гады над табой трасецца. Я табе абяцаю, калі ты яшчэ хоць год з ім пагуляеш, пойдзеш за яго.*

Кацяня:

*Не! Я не хачу замуж за Дзіму.*

Фенікс:

*Зноў будзеш, як заўсёды, пісаць пра тое, што табе патрэбен нехта побач, што Дзіма песціць цябе падарункамі ды кветкамі. А сама ў гэты час будзеш сачыць за святлом у чужым акне».*

***2 мая 2010 г.***

Пачаўся май, апошні месяц вясны. А галоўнае, апошні месяц у школе. Мы пакуль што не адчуваем гэтага.

Сёння дзень пачаўся звычайна: дробныя справы, дробныя думкі. Я нават не прадчувала, што гэта зацішак перад бурай.

Пад вечар я наведала Алену. Першым мяне сустрэў яе старэйшы брат Саша. Такі ж, як яна, невысокі, з упэўненым пранíклівым позіркам.

— Добра, што ты зайшла! — сказаў ён мне. — Яна сёння нейкая дзіўная. Ты ведаеш, што пазаўчора Віталя «здалі»?

— Так, ведаю, — адказала я па дарозе да пакоя Алены.

Мая сяброўка сядзела за камп'ютарам, але я не адразу пазнала яе, таму спытала амаль абурана:

— Навошта ты пафарбавала валасы? У цябе быў такі прыгожы колер!

Алена з нервовай усмешкай павярнулася да мяне. Чорны, як вугаль, новы колер яе валасоў мяне нават трохі спалохаў.

— Табе зусім не падабаецца? — спытала сяброўка.

— Не тое, каб не падабаецца, проста нязвыкла.

— У нашым класе ўсе фарбуюцца. Нават хлопцы. Уяві сабе, Руслан зрабіўся беленькі. Прыйшоў саламяным бландзінам. Дзяўчаты за сэрца схапіліся.

Я ўсміхнулася. Руслан жыў на адной лесвічнай пляцоўцы са мною, вучыўся ў паралельным класе разам з Аленай. Ён быў галоўным спартсменам школы, высокім і дужым хлопцам. Дарэчы, шмат дзяўчат мне зайздросціла, бо я жыла па суседстве з нашым школьным Апалонам. Руслан валодаў надзвычай абаяльнай, сонечнай усмешкай, хоць для мне ён заставаўся звычайным суседам.

— Калі нават Руслан, тады добра.

— Да выпускнога паспею перафарбаваць, — запэўніла мяне Алена.

Я яшчэ раз прыгледзелася да сяброўкі. Сама прычоска выглядала прывабна, нават вытанчана. Але чарната зусім не падыходзіла Алене. Твар зрабіўся бледным, а вочы нейкімі дзікунскімі. У мяне склалася ўражанне, што справа не ў апошняй модзе. Алена заўсёды была ўпэўненай у сабе аптымісткай, але арышт каханага хлопца мог падламіць яе. Я вырашыла нічога не ўдакладняць.

— Як справы? — запыталася я.

Алена выдала напружаную ўсмешку і пайшла кругамі па пакоі.

— Нешта мне сёння не вельмі, — прамармытала яна.

— Я бачу, — спагадліва кіўнула я. — З-за Віталя?

Алена нічога не адказала. Яна хавала свае пачуцці. Гэта было дзіўным для нас. Я з падазронасцю паглядзела на яе. Мы заўсёды давяралі адна адной свае тайны, дзяліліся любой дробяззю, зменамі ў асабістым жыцці ці поглядах, праблемамі. З усіх складаных сітуацый мы разам шукалі выйсце. І тое, што Алена палічыла за лепшае маўчаць, здалося мне дзіўным, калі не крыўдным.

— Калі ласка, давай пагаворым, — ціха папрасіла я. — Табе стане лепш, вось пабачыш.

Здаецца, я падзейнічала на Алену, бо яе крокі па пакоі пастунова запаволіліся.

— Усё будзе добра. Спраўлюся, — яна звярнулася больш да самой сябе. — Вось, у інтэрнэце пасяджу, старых знаёмых пашукаю, добра ўсё будзе.

— Якіх знаёмых, — з крыўдай у голасе спытала я.

Алена ўсміхнулася:

— Не бяры да галавы. Пайшлі лепей каву піць. Дзе была ўчора? — спытала яна ўжо на кухні.

Я ведала, што мой адказ ёй не спадабаецца, але вырашыла прызнацца:

— Са сваім гуляла, у кавярню заходзілі.

Алена насупілася, але нічога не сказала, уключыла чайнік, дастала шклянкі. І нечакана спытала:

— Доўга гулялі?

Гэта было вымаўлена досыць спакойна, я нават збянтэжылася:

— Не, Дзіма быў засмучаны з-за Віталя, рана адвёз мяне дадому.

— Няўжо! — са штучным здзіўленнем сказала Алена. — Падумаць толькі, ён быў засмучаны! Сябар злоўлены з доказамі, а Дзіма смуткуе ў кавярні з дзяўчынай!

Мы селі за стол.

— Прабач, што я так гавару, але мы абедзве ведаем, што ты яго не кахаеш, сама не ведаеш чаго час марнуеш.

Алена зачапіла мяне за жывое. Але яна мела рацыю. Я апусціла вочы і вырашыла прамаўчаць.

Мы моўчкі дапілі каву, Алена адчыніла акно. Надвор'е было чароўнае. На чысцюткім небе не праплывала ніводнай хмурынкі. Толькі зусім маладая лістота на дрэвах паказвала, што яшчэ не лета, толькі пачатак мая. І нават парывісты вецер не мог прымусіць нас зачыніць акно.

— Можа, пойдзем пагуляем? — запыталася я.

Алена заўсёды з задавальненнем прымала такія прапановы. Акрамя таго, яна звычайна выдавала з дзясятак разнастайных ідэй, як можна адпачыць і пазабаўляцца. Але сёння яна нервова скаланулася і паглядзела ў другі бок.

— Не, — адказала яна. — Нешта мне сёння дрэнна…

Я вылупіла вочы ад здзіўлення. Ніколі за шмат гадоў нашага сяброўства Алена не адмаўлялася ад прагулкі, калі была вольная. Нават калі хварэла, то звычайна захутвалася ў цёплы шалік і выходзіла з пад'езда, хаця б пасядзець на лавачцы. Я не разумела, што з ёй адбываецца. Няўжо гісторыя з Віталем так паўплывала на яе?

Я заставалася ў Алены не больш за гадзіну. Бачыла дзіўнасць яе паводзін, таму вырашыла, што ёй трэба адпачыць. А потым мне патэлефанаваў Дзіма. Я ў гэты час ужо вярталася дамоў.

— Дзе ты ходзіш? — запытаўся ён.

— Дадому іду ад Алены. А што?

— Я еду да цябе.

Быў ужо вечар, а заўтра трэба было ісці ў школу. Я не хацела нікуды ехаць. Звычайна, я ўсё ж згаджалася, але сёння мой намер застацца дома быў мацнейшы.

— Не трэба да мяне ехаць, — сказала я.

— Сёння ж нядзеля, — настойваў Дзіма. — Усе адпачываюць…

— Я магу і дома адпачыць.

Мне хацелася пабыць у самоце. Да таго ж з Аленай было нешта не тое… Так, вырашыла, я застаюся дома.

— Дзіма, не трэба ехаць да мяне, — паўтарыла я. — Адпачні сёння без мяне.

— Не, так не пойдзе, — сказаў Дзіма і паклаў трубку.

Я ўздыхнула. Значыць, ён усё ж прыедзе, калі ўжо не ў мяне. Давядзецца некуды з ім ехаць. Чаму ніколі не атрымліваецца пастурпіць па-мойму?

Сапраўды, трапіўшы ў двор, я адразу ўбачыла машыну Дзімы ля пад'езда. Мой настрой пачаў псавацца. Я запаволіла крок, бо спадзявалася, што ён заўважыць маё жаданне адзіноты.

Раптам мяне быццам ударыла токам: у пад'ездзе спакойна гутарылі Дзіма і Коля. Мне стала не па сабе. Коля, напэўна, чакаў Руслана.

Яны пабачылі мяне і ветліва ўсміхнуліся. Дакладней, усміхнуўся Дзіма. А Коля?.. Я не глядзела на яго, баялася пабачыць на яго твары гэткую ж спакойную ўсмешку.

— Усё ж прыехаў, — усміхнулася я ў адказ, старалася, каб голас гучаў як мага спакайней. — А ты чакаеш Руслана? — спытала я ў Колі, не гледзячы на яго.

— Ага, — адказаў ён і чамусьці адступіў на крок назад.

— Ну што, куды сёння? — Дзіма прыцягнуў мяне за рукаў да сябе.

Гэта было агідна. Я пачала чырванець. Мне захацелася бегчы, куды вочы глядзяць, толькі б апынуцца далей ад гэтага пад'езда. Трэба ж было мне трапіць у такую жахлівую сітуацыю! Дзіма, як мой хлопец, спрабаваў абняць мяне, а маё першае і пакуль што адзінае каханне, чалавек, па якому я смуткую ўжо два гады, стаяў побач і спакойна глядзеў на нас. Я, задыхаючыся ад агіды да сябе, паспрабавала тактоўна вызваліцца ад Дзімы.

— Слухай, я нікуды не хачу сёння ехаць. Я стамілася, у мяне баліць галава, хочацца пасядзець дома ў адзіноце…

Дзіма не выпускаў мяне. З кожнай хвілінай я адчувала сябе ўсё горш. А пры думцы, што Коля можа здагадвацца аб маіх пачуццях да яго, мне ўвогуле захацелася скрозь зямлю праваліцца.

— Годзе табе! Паехалі, пагуляем, — не здаваўся Дзіма.

— Не, — прамовіла я зусім адчайна. — Я ж сказала, што хачу дадому. Мне трэба дадому. Калі ласка, адпусці мяне…

Дзіма сам не чакаў ад мяне такой рэакцыі і паглядзеў са здзіўленнем. Ён ніколі не бачыў мяне такой усхваляванай, але рукі не расшчапіў.

— Ты нейкая не такая сёння. Што здарылася?

— Ды нічога не здарылася, адпусці! — я ўжо ўсур'ёз вырывалася з яго рук. Яшчэ трошкі, і я б пачала адбівацца ад яго.

Раптам Дзіма зрабіў тое, чаго я ніяк не чакала. Ён спытаў у Колі:

— Як ты лічыш, адпусціць яе?

Я аслупянела. Дзіма не ведаў, як шмат значыла для мяне гэта яго пытанне. Вось тое імгненне, якое расставіць усё на месцы. Як жа доўга я чакала шансу даведацца, ці хаця б здагадацца аб ЯГО адносінах да мяне! Упершыню за гэту сустрэчу я паглядзела на Колю і зразумела, што дарма баялася. Хоць выглядаў ён спакойным, але вочы былі ненатуральна цёмнымі. Я зразумела, што ён стрымлівае тыя самыя пачуцці, пра якія мне так неабходна было ведаць! Коля ўважліва паглядзеў на мяне, потым перавёў позірк на Дзіму і ціха сказаў:

— Адпусці.

Але сказаў ён гэта так, што ў мяне заняло дух. У голасе Колі быў не жарт, не парада, а нешта вельмі блізкае да загаду ці нават пагрозы.

Дзіма, вядома, не меў ніякіх падазрэнняў, таму з усмешкай адпусціў мяне. Я паглядзела на Колю. Ён спакойна адвярнуўся, быццам нічога не здарылася. Тады я кінула кароткія словы развітання Дзіме і ўзляцела па лесвіцы.

Я спынілася праз некалькі пралётаў. Мяне перапаўняла хваляванне. Я прысела і прыціснула далоні да вачэй. Я разумела, што трэба нарэшце нешта змяніць. Гэта гісторыя і так зацягнулася на два гады. Так больш не можа працягвацца. Нездарма ў апошні час Алена закранала тэму маіх адносін. Я, сапраўды, не павінна сустракацца з Дзімам. І толькі што я атрымала самы галоўны таму доказ. Я закахана ў Колю. І больш не буду ўпотай пазіраць са свайго акенца. Сёння ён надаў мне смеласці.

Зверху па лесвіцы бег Руслан. Гэта было вельмі дарэчы. Я паднялася, зразумела як наблізіцца да сваёй мары.

— Руслан, — спыніла я яго і ўсміхнулася. Алена не падманула, Руслану, сапраўды, пасаваў новы колер валасоў. — Можна цябе на хвілінку?

— Што здарылася?

— Разумееш, мне Коля падабаецца. А тут я вырашыла з Дзімам разысціся... У цябе ж ёсць мой нумар тэлефона. Я хачу, каб ты яму сказаў… Няхай ён пазвоніць мне калі-небудзь.

— Добра, я яму перадам. Але ў яго таксама дзяўчына ёсць. Куды ты збіраешся падзець яе? Яна яго кахае.

Не ведаю, што адбілася на маім твары, але Руслан больш нічога не сказаў. Ён павярнуўся і пабег уніз па лесвіцы. Я збянтэжана засталася стаяць на месцы. Для мяне гэта была нечаканая навіна. Пасля двух гадоў дурной баязлівасці мая мара гатовая была растаць, як міраж.

Са слязамі на вачах я дабралася да кватэры. Дома нікога не было. Я дацягнулася да пакоя, упала на канапу і залілася слязамі. Я зразумела, што кахаю Колю. Цяпер Дзіма мне быў ужо зусім брыдкі.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Фенікс:

*А ты што?*

Кацяня:

*А я пайшла дадому раўсці. Што мне яшчэ заставалася?*

Фенікс:

*Дурная. Чаму ты сама не ўзяла тэлефон, не пазваніла?*

Кацяня:

*У яго ж дзяўчына ёсць, я табе пісала.*

Фенікс:

*І што з таго? У цябе таксама хлопец ёсць.*

Кацяня:

*Я нешта не разумею.*

Фенікс:

*Хто табе сказаў, што ты Колю не падабаешся? Можа, ён гэтак жа сустракаецца з кімсьці, як і ты з Дзімам? Ты павінна зразумець, што пакуль сядзіш і баішся, нейкая іншая зачароўвае хлопца, які МОЖА быць побач з табою.*

Кацяня:

*Цікава, хто яна, што стаіць паміж намі?*

Фенікс:

*Не важна. Ты павінна сама для сябе вырашыць, ці патрэбны табе Дзіма.*

Кацяня:

*Не. Не патрэбны. Я кахаю Колю».*

***3 мая 2010 г.***

Адчуваю, што прыйшла сапраўдная вясна. Цёплыя промні лашчацца праз акно. Сёння адбыліся пераломныя падзеі ў маім асабістым жыцці.

У школе ніякія веды не лезлі ў галаву. На вуліцы нас чакала вясна! Ды і настаўнікі не надта строга глядзелі на нас. Усё, што мы маглі ўзяць, яны нам ўжо далі. Праз месяц пачнуцца выпускныя экзамены. У мяне гэты дзень у школе ўвогуле быў заняты зусім не навучальнай справай: я ўсё спрабавала прыдумаць словы для развітання з Дзімам, марыла, што я скажу Колю пры сустрэчы. Акрамя таго, цэлы дзень

не пакідала рэўнасць. Мяне крыўдзіла думка, што нехта абышоў мяне на шляху да маёй мары.

Ад гультайства, дакладней, ад нежадання што-небудзь рабіць, я ўвесь апошні ўрок круцілася на крэсле. Калі празвінеў званок, я з палёгкай уздыхнула. Нават не патурбавалася запісаць хатняе заданне, пабегла ў фае. Перад выхадам на вуліцу я вырашыла пазваніць Руслану. Мы часам хадзілі са школы разам. Але сёння я хвалявалася. Мне трэба было ведаць, што ўчора яму сказаў Коля. Тэлефон майго суседа не адказваў. На ўсякі выпадак, я вырашыла яшчэ раз набраць яго нумар.

Я не звяртала ўвагі, што стаю на праходзе, і мяне ўвесь час чапляюць школьнікі, што выходзяць на вуліцу. Раптам адна дзяўчына моцна сутыкнулася са мной. Усё, што было ў руках, пападала на падлогу. Мой тэлефон адляцеў далёка ўбок. Я хутка падняла яго, пераканалася, што ён цэлы, і азірнулася, каб папрасіць прабачэння. Дзяўчына, што наляцела на мяне, вучыцца ў дзясятым класе. Мы не знаёмыя асабіста, але я ведаю, што яе завуць Каця.

У Каці не была зашпілена сумка, і пры сутыкненні сшыткі разляцеліся. Я прысела побач і пачала дапамагаць дзяўчыне збіраць рэчы. Раптам з аднаго сшытка выпаў маленькі яркі пакецік. Гэта быў тэст на цяжарнасць. Каця хутка схапіла яго і засунула ў сумку. Я зразумела, што даведалася пра вялікі сакрэт дзяўчыны і, яшчэ раз папрасіўшы прабачэння, адышла ад яе. Каця зграбла ўсю астатнюю дробязь і, не падымаючы вачэй, куляй выскачыла на вуліцу.

Я не ўхваляла такіх дзяўчат. Проста ў мяне нічога такога не было з Дзімам. Я лічыла, што гэта правільна, бо не кахала яго. Адмовіцца ад сваіх прынцыпаў я б змагла толькі дзеля аднаго чалавека… Я зноў паглядзела на тэлефон. Шкада, але з Русланам сёння не пагавару асабіста. І раптам ён з’явіўся перада мною.

— Прывітанне, — сказаў ён. — Я баяўся, што ты ўжо пайшла.

— Не, — адказала я з радасцю. — Я табе званіла. Хацела спытаць, што табе ўчора Коля сказаў?

— Мне гэта не падабаецца, але ён сказаў, што будзе чакаць цябе сёння ў нашым парку ў чатыры гадзіны. Я дадому не пайду, у мяне яшчэ ўрок.

— Дзякую, — ледзь вымавіла я і павярнулася да выхаду.

З неверагоднай палёгкай збегла з ганка. Мяне перапаўнялі пачуцці. Мне хацелася смяяцца ад радасці. Сонца ніколі яшчэ не было такім лагодным, неба ніколі не было такім блакітным, а жыццё ніколі не было такім цудоўным, як сёння.

Наш парк знаходзіўся на суседняй вуліцы. Я не ведала, чаго чакаць ад сустрэчы, але нават не думала пра гэта. Я была настолькі акрылена надзеяй, што ляцела дадому, не тоячы ўсмешкі на вуснах.

Але каля дому мая ўсмешка збегла з твару. Зноў машына Дзімы чакала мяне. Самога не было побач. Відаць, мае бацькі дома, і Дзіма чакае мяне там. Ён павінен сёння ў апошні раз убачыць мяне.

Я падымалася па лесвіцы павольна, успамінаючы ўсё, што хацела сказаць. Але з кожнай прыступкай мне станавілася ўсё больш няёмка. Я не ведала, што мне адкажа Дзіма, ці хопіць мне смеласці разарваць гэтыя адносіны. Спыніўшыся перад дзвярыма кватэры, я разгублена зразумела, што не змагу сказаць тое, што прыдумвала сёння цэлы дзень. Проста баюся…

Раптам дзверы расчыніліся, і мне насустрач з кватэры выскачыў Дзіма. Па яго вачах я зразумела, што мне нічога гаварыць не трэба.

— Вось, — раздражнёна заўважыў ён. — Папрасіўся з твайго камп’ютара ў інтэрнэт выйсці.

Я спалохана адступіла. Пры ўваходзе ў інтэрнэт, на маніторы заўсёды з’яўляец-

ца апошняя перапіска з сябрамі. Я не адразу ўбачыла ў руках Дзімы кветкі, якія ён часта цягаў мне.

— Гэта ўсё, канец? — спытаў ён у мяне.

Я зусім не так уяўляла сабе нашу апошнюю размову. Я не была гатовая да такіх смелых учынкаў. Дзіма два гады хадзіў за мной. Мне было цяжка адрываць яго ад сябе. Але па-іншаму я не змагу дабрацца да Колі. Мне трэба было толькі адважыцца сказаць Дзіме праўду.

Я адвяла позірк, бо страх і хваляванне маглі загубіць маю рашучасць.

— Так, я не хачу, каб ты прыязджаў больш да мяне.

Дзіма быў не ў сабе ад лютасці. Ён шпульнуў у мяне букетам кветак. Ружы рассыпаліся па прыступках. Мне стала шкада такую прыгажосць.

— Добра, я пайду, — амаль закрычаў ён. — Але раз гэта назаўсёды, я скажу табе нешта, чаго ты не ведала. Я табе казаў, што твая сяброўка павінна ў тым, што Віталь не мог кінуць справу з наркотыкамі. А ведаеш чаму? Бо яна сама брала ў яго «таблеткі». Гэтага ты не ведала, праўда? Я табе не казаў раней, таму што даказаць не мог. Цяпер мне ўсё роўна, і я магу сказаць табе праўду: твая лепшая сяброўка — наркаманка! Дарэчы, мне вельмі цікава, дзе яна цяпер будзе свае «маркі» браць. Віталя няма. Але засталіся людзі, што з задавальненнем прапануюць ёй «папрацаваць» за «таблеткі». Я ўпэўнены, што хутка ты станеш лепшай сяброўкай Аленкі па выкліку.

Усё, што сказаў Дзіма, ніяк не ўразіла мяне. Я ведала Алену, як ніхто іншы. Мы сябравалі з ёю з дзяцінства. Я была на сто працэнтаў упэўнена ў яе правільнасці. Настолькі ўпэўнена, што словы Дзімы нават не выклікалі ў мяне абурэння. Мне стала смешна ад яго спроб ачарніць Алену ў маіх вачах. Дзіма ж прачытаў, што яна раіла мне расстацца з ім. Я нічога не адказала яму, толькі ўсміхнулася пра сябе. Дзіма болей нічога не гаварыў, пабег уніз.

Я пастаяла некалькі хвілін на лесвіцы. Калі супакоілася канчаткова, сабрала з прыступак кветкі, падышла да смеццеправода і выкінула. Вельмі нязвыклай мне падалася думка, што Дзіма больш ніколі не прыедзе.

Двухгадовая гісторыя скончылася. У мяне пачынаецца новая, пра якую я марыла ўвесь гэты час. Дзіма пайшоў назаўсёды з майго жыцця. Гэта не важна. Да майго спаткання засталося дзве гадзіны…

Дзве гадзіны — гэта вельмі мала. Я збіралася хутка, але ўсё роўна выбегла са спазненнем.

Ненавіджу гэтыя ямы ў асфальце! Я не дайшла нават да вугла дома, як адчула, што зламала абцас. У мяне заставаўся выбар: дабіць туфлі канчаткова ці вярнуцца дадому і пераабуцца, спазніўшыся яшчэ больш. А раптам ЁН не будзе чакаць?

Коля быў даражэй за любыя туфлі. Раптам мяне нехта паклікаў. Я азірнулася і забыла пра ўсё…

Коля павольна падышоў да мяне

— Ты мяне чакаеш? — усхвалявана спытала я.

— Так, — проста адказаў ён.

Потым мы некаторы час стаялі моўчкі. Я не ведала, што сказаць. Ён, відаць, таксама. Таму, напэўна і не пазваніў мне асабіста, не ведаў, што сказаць. Яго лёгкая збянтэжанасць надала мне ўпэўненасці. Я першая парушыла маўчанне.

— А я з Дзімам рассталася сёння…

— Чаму? — спакойна спытаў Коля.

Яго стрыманасць трохі абразіла мяне. Мы зноў змоўклі. Я ўспомніла пра свой няшчасны абутак.

— Мне трэба збегаць дадому на хвілінку. Ты тут пачакаеш?

— Добра, — гэтак жа спакойна адказаў ён.

Гэта мне зусім не спадабалася. Я адчула сябе дурнічкай і пачырванела. Прыпадаючы на адну нагу са зламаным абцасам, я хутка вярнулася дадому, нацягнула старыя красоўкі і зноў выскачыла на двор. Дагнала яго, і мы і пайшлі далей па вуліцы. Праз некалькі светленькіх пяціпавярховак пачынаўся невялічкі ўтульны парк, у якім улетку часта збіралася моладзь. Зараз дзе-нідзе асобнымі парачкамі гулялі хлопцы з дзяўчатамі. Але іх было яшчэ няшмат.

Коля моўчкі шоў побач, нават не глядзеў на мяне. Я не разумела яго паводзін. Я два гады чакала гэтай хвіліны. І цяпер не ведала, што рабіць далей. Мы ішлі побач, але ён не звяртаў на мяне ўвагі, і мне стала крыўдна.

— Чаму ты маўчыш? — прамовіла я. — Спытаў бы хоць, як справы, а то паводзіш сябе так, быццам робіш мне паслугу гэтай прагулкай і не ведаеш, як ад мяне пазбавіцца. Я табе зусім не падабаюся?

Вымавіўшы гэта, я спалохалася. Занадта смела для мяне, я магла лёгка перакрэсліць усё, да чаго імкнулася. На дзіва, Коля застаўся па-ранейшаму спакойны. Я абурылася.

З кожным крокам я злавалася ўсё больш. Была ўжо гатовая пакінуць без увагі сваю мару, проста завярнуцца і хутчэй пайсці. Але неяк стрымлівала сябе. Мы селі на бліжэйшую лавачку.

— Давай пагаворым, — сказаў Коля. — Гэта не сакрэт, ты заўсёды падабалася мне. Але ведаеш, часам трэба думаць галавою, рабіць так, як трэба, а не так, як хочацца. Па-першае, мы з табою проста знаёмыя, ніколі не былі ў адной кампаніі, не мелі ніякіх зносін, агульных спраў. Ты зусім мяне не ведаеш, і раптам пачынаеш казаць пра сімпатыю. Што я павінен думаць? Па-другое, у мяне ёсць дзяўчына. Гэта не так важна, але я тры разы падумаю, перш чым кіну яе. Яна добрая. Я зраблю дрэнна, калі проста так вырашу расстацца. Вось. І, па-трэцяе, самае галоўнае, як ты ўяўляеш сабе нашы адносіны? Хадзіць адзін да аднаго ў госці і вечарамі гуляць вакол дома? Дык ты ўжо праз месяц збяжыш ад мяне і сляды схаваеш. Я ж вучуся, не працую. Грошай у мяне няма ні на кіно, ні на кавярню. Я бачыў, як ты сустракаешся з Дзімам, ледзь не кожны дзень у цябе былі падарункі, новыя забавы. Я не магу даць табе гэтага. А з летнім прызывам пайду ў армію. Ты не зможаш доўга сустракацца са мной.

Я не глядзела на яго. Словы моцна ўразілі мяне. Слёз не было. Нават, напэўна, не было крыўды. Самае страшнае было тое, што я разумела: ён мае рацыю! Я сапраўды прывыкла да іншага жыцця. Але неяк не падумала пра гэта, ганяючыся за Колем. Я ведала, што многія пары так сустракаюцца, нідзе не гуляюць, а сядзяць вечарам на лаве і трымаюцца за рукі. Але не думала, што траплю ў іх колькасць. Я зразумела, што, сутыкнуўшыся з нязвыклым асяроддзем, магу згубіць пачуцці да Колі, маё першае каханне, якое стала ўжо часткай мяне. Жахлівая думка адкрылася мне: я самы нерашучы і баязлівы чалавек на свеце! І наўрад ці змагу гэта змяніць. Я пачырванела. Мне стала вельмі сорамна. Так сорамна, што я не змагла больш сядзець. Чорт з ёй, з касметыкай! Слёзы паліліся з размаляваных вачэй. Я ледзь чутна сказала:

— Прабач.

Потым ускочыла і хутка пайшла прэч. Ад сораму была гатова скрозь зямлю праваліцца. Раптам я пачула, як Коля даганяе мяне. У наступную секунду ён схапіў мяне за руку, павярнуў і моцна прыціснуў да сябе. Я не магла больш стрымлівацца і разраўлася на яго плячы…

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Фенікс:
*І потым, я так разумею, яго настрой змяніўся?*
Кацяня:
*Абсалютна. Мы столькі гаварылі, здаецца, усё жыццё пераказалі адзін аднаму. Ён такі разумны, ды і пажартаваць умее.*
Фенікс:
*Цалаваліся?*
Кацяня:
*А то!*
Фенікс:
*Ты, напэўна, такая шчаслівая! Я праз манітор адчуваю, як ты свецішся.*
Кацяня:
*Заўтра пабачыш. Ведаеш, было такое ўражанне, што няма нічога, акрамя нас. І па-за тратуарам таксама другое жыццё ідзе, не звязанае з маім. У рэальнасць трапіла, толькі калі да дома падышлі.*
Фенікс:
*Адным словам, твая мара спраўдзілася. Прычым, насуперак табе самой. А што будзе далей?*
Кацяня:
*Ён сказаў, што пазвоніць мне. Але я нервуюся. Я зусім не чакала такой размовы і не ведаю, што рабіць з сабой і сваёй слабасцю».*

***4 мая 2010 г.***

Што ні дзень, то асаблівая падзея. Нават не ведаю, з чаго пачаць…

Мы з Аленай часта ходзім у школу на высокіх абцасах. Не ведаю, як ёй, але мне бывае няёмка прабірацца праз гаманлівыя натоўпы дзетак. Сёння ж, калі сустракалі іншую дзяўчыну, то я мімаволі пачынала свідраваць яе вачыма: ці можа яна быць дзяўчынай Колі? Алена смяялася:

— Ты хутка якую-небудзь заб’еш позіркам.

— Спадзяюся, тую, якую трэба, — пажартавала я.

— І з чаго ты ўзяла, што яна ў нашай школе вучыцца? Можа, ёй ужо гадоў дваццаць, як і яму? Можа, яна з ім у каледжы вучыцца?

— Не ведаю. Інтуіцыя.

— Ледзь не забылася. Мой брат вечарыну заўтра ўвечары ладзіць. Бацька ў камандзіроўцы. Маці ў начную змену будзе працаваць. Пасля васьмі вечара кватэра будзе нашая.

Саша з Аленай умелі і любілі ладзіць вечарыны. Яны ўвогуле былі добрымі сябрамі: упэўненымі, жыццярадаснымі. Мне спадабалася гэтая ідэя пра вечарыну.

— Прыйду. А хто яшчэ будзе?

— Нехта з нашай кампаніі, нехта са двара, нехта з яго каледжа. Ты амаль усіх ведаеш. Толькі ты абавязкова павінна прыйсці з Колем. А то мой брат ужо сліну распусціў, калі даведаўся, што ты з Дзімам рассталася.

Я падабалася Сашу.

— Алена, я не ведаю, адкуль ува мне столькі няўпэўненасці, і што мне цяпер рабіць з Колем?

Алена спынілася і сур’ёзна паглядзела мне ў вочы. Як мне патрэбен быў яе спагадлівы позірк! Здавалася, усе праблемы я магу лёгка вырашыць пры дапамозе толькі аднаго позірку падтрымкі. Алена не паспела мне нічога адказаць. Да нас падышоў Руслан:

— За мной! — скамандаваў ён так строга, што мы моўчкі пабеглі за ім.

Мы спусціліся ў фае, накіраваліся да выхаду.

— Што здарылася? — нарэшце спытала Алена.

— Хутка пабачыш, — сказаў Руслан і адчыніў дзверы на вуліцу.

Першае, што я зрабіла, гэта даволі гучна войкнула. Трохі далей ад школы я пабачыла Дзіму і Колю. Яны стаялі адзін насупраць другога, і было відаць, што становішча пагрозлівае.

Алена схапіла мяне за руку.

— Божа, што я нарабіла? — прашаптала я.

Мы хуценька падышлі да хлопцаў. Мне было сорамна і страшна. Я не ведала, як выправіць сітуацыю.

— Дзіма, у чым справа? — смела запытала Алена.

— Ні ў чым, — кпліва адказаў Дзіма. — Заехаў паглядзець, якога бой-фрэнда яна сабе абрала, — і кіўнуў на мяне.

— Гэта не твая справа, — сказала Алена.

Коля стаяў спакойна, але ўважліва сачыў за Дзімам. Ён выглядаў упэўненым.

— А чаго ты за яе выступаеш? — абурыўся Дзіма. — Няхай сама за сябе гаворыць.

Я вельмі баялася гэтага, бо ведала, што нічога трапнага сказаць не асмелюся. Быў бы ў мяне Аленін характар, я бы не апынулася тут, паміж двух хлопцаў. Алена зірнула на мяне, зразумела мае думкі і працягнула лаянку:

— Яна не хоча з табой звязвацца. Што ты дзеліш яе, як ляльку. Яна мае права сама выбіраць сабе хлопца.

— Затое ты ўжо не маеш права, так? — Дзіма пачаў наступаць на Алену. — Прызнайся сяброўцы, дзе наркату бярэш!

— Якую наркату? Ты што, з глузду з’ехаў? — прыкрыкнула Алена.

— Ты можаш перад імі разыграць чысціню, але я ведаю. Я ўсё ведаю. Мяне не падманеш. Я ведаю, куды ты ездзіла гэтай ноччу, і будзеш ездзіць, пакуль плаціць!

— Што?! — раз’юшана закрычала Алена. — Ды ідзі ты, ведаеш куды, шызафрэнік!

Раптам нешта ўзрушылася ў маіх грудзях. Я сама не заўважыла, як выступіла наперад і гаркнула:

— Адчапіся ад яе. Ты са мной прыехаў разабрацца, дык разбірайся!

Здаецца, усе паглядзелі на мяне са здзіўленнем.

— Не хацеў я з табою разбірацца, — Дзіма адступіў назад.

— Тады едзь адсюль! — зноў перайшла ў наступленне Алена.

— А што вы мне зробіце? — зноў пачаў кпіць Дзіма. — Асабліва яна, — кіўнуў на мяне. — Што яна зробіць? Укусіць, падрапае? А, можа, грозна мяўкне?

Дык вось, якое ён меў пра мяне меркаванне! Вось дзе быў сэнс лагоднага прозвішча! Дзіма лічыў мяне бездапаможным кацянём. У мяне ад расчаравання і крыўды з вачэй пырснулі слёзы. Я нічога не магла сказаць яму ў адказ. Нечакана падаў голас Руслан:

— Можа, яна і не зробіць, але тады мы зробім, калі ты не адыдзеш!

Ён падышоў да Колі і стаў побач з ім плячо ў плячо. Дзіма разгубіўся і пачаў павольна адступаць. Два сябры, падобныя адзін на аднаго, як міфічныя волаты, спакойна глядзелі на адступленне ворага.

І ў гэты момант Коля і Дзіма павярнуліся і паглядзелі на мяне. Я ж ведала, што вінаватая, разумела, што ад мяне ўсё залежыць, але ў мяне не хапала смеласці сказаць што-небудзь яшчэ. І гэты позірк дабіў мяне. Асабліва Колеў. Я не магла

нічога зрабіць. Сорам накаціў на мяне новай хваляй. Таму я павярнулася і пабегла да будынка школы, абліваючыся слязамі. Няхай будзе, што будзе. Але як жа цяжка бегчы на абцасах!

Я адчула, як Алена схапіла мяне за руку:

— Супакойся, істэрычка! — шыкнула яна на мяне.

Я спрабавала адпіхнуць Алену, але сяброўка моцна абняла мяне. Я пачала калаціцца.

— Алена, я не магу на іх глядзець!

— Што ты за артыстка! — прабурчала яна. — Сапраўдны спектакль учыніла!

Толькі цяпер я заўважыла, што вакол нас збіраюцца цікаўныя аднакласнікі. Мы з Аленай сталі цэнтрам невялікага натоўпу. Я закрыла твар рукамі і прашаптала:

— Алена, прагані іх усіх.

— Так, — закрычала Алена. — Чаго вы тут згуртаваліся? Ідзіце ў школу! Зараз урок пачнецца!

Я чула, што нехта хацеў абурыцца, але паступова ўсе разышліся. Я паглядзела скрозь пальцы. Нікога, акрамя Алены, побач не было. Я села на кукішкі.

— Усё, нікога няма, — сказала Алена і села побач. — Люстэрка дастаць?

— А ты не ідзеш на ўрок? — спытала я.

— Не, не пакіну ж я цябе тут.

Як добра, што існуе сапраўднае дзявочае сяброўства!

— Ты такая добрая, — праз слёзы ўсміхнулася я. — А Дзіма, дурань, усякія гадасці пра цябе казаў.

— Ён і раней нешта прыдумляў? — насцярожылася Алена.

— Потым раскажу. Давай люстэрка. Дзе хлопцы?

Алена палезла ў сумку.

— Дзіма паехаў, Руслан сышоў, а Коля каля прыступак з нейкай дзяўчынай размаўляе.

— З якой дзяўчынай? — ледзь не падскочыла я.

— Цішэй, цішэй! Ты куды азіраешся? Ты хочаш, каб ён цябе ў такім стане пабачыў? Лепей у люстэрка паглядзі.

Я схапіла люстэрка, павярнула яго на Колю, але спазнілася, бо ён стаяў адзін, а яго суразмоўца бегла да дзвярэй школы. Я паспела заўважыць толькі чорныя штаны і блузку. Але такіх дзяўчын у школе з дзясятак…

— Як яна выглядала? Ты яе ведаеш? — схапіла я Алену за руку.

— Бачыла яе. Здаецца, яна ў дзясятым класе вучыцца. Я не ведаю, як яе завуць. Шэранькая такая, маленькая, валасы заўсёды ў хвосцік збірае…

— Гэта ўсё не тое, — расчаравана сказала я. — Пакажаш мне яе сёння на перапынку.

Алена здзіўлена паглядзела на мяне.

— Ты збіраешся ў школу вяртацца? Пасля таго, што здарылася?

— Думаеш, не трэба?

— Упэўненая ў гэтым. Уся паралель будзе пытацца, што здарылася, кожнаму прыдзецца даваць справаздачу. Ой, Коля сюды ідзе.

Я паглядзела ў люстэрка і пабачыла, што ён сапраўды набліжаўся. Таму пачала хутчэй прыводзіць сябе ў парадак. Коля падышоў бліжэй.

— Навошта ты прыйшоў да школы? — спытала я.

— Я не магу сустракацца з дзвюма дзяўчынамі адразу. Хачу сустракацца толькі з табою, — адказаў Коля так спакойна і непасрэдна, што я не знайшла, што сказаць, і разгублена паглядзела на Алену.

— Я пайду на заняткі, — сказала яна з усмешкай.

Мой настрой пачаў павольна паляпшацца.

— Толькі, калі ласка, нічога не кажы ў класе, і даведайся, як завуць тую дзяўчыну, — ціха дадала.

— А табе ці не ўсё роўна? — прашаптала Алена ў адказ.

— На ўсякі выпадак, калі ласка, мне цікава.

— Добра, — кіўнула Алена і развіталася з намі.

— А чаму ты не на занятках? — павярнулася я да Колі.

— Ай, якія ўжо заняткі! — Коля махнуў рукою. — Ды, калі шчыра, мне сёння на вучобу не трэба. Я дыпломную працу пішу.

— Я бачу, як ты пішаш! Толькі чамусьці каля нашай школы. Ведаеш, я так спалохалася, калі пабачыла цябе з Дзімам…

Мы павольна ішлі па вуліцы. Я раптам адчула сябе самай шчаслівай на свеце. Хваляванне некуды знікла. Побач са мною ішоў мой хлопец. Я доўга чакала сваё каханне. А цяпер, калі яно было побач, я зраблю ўсё, каб захаваць яго. Я была вельмі шчаслівая. Многія так сустракаюцца. Проста гуляюць разам. Мне добра з Колем, значыць, я застаюся з ім.

Такім чынам, усё само сабою вырашылася.

Назаўтра будзе вечарына ў Алены і Сашы. Я абавязкова да іх пайду разам з Колем.

Мы дайшлі да маёй кватэры. Дома нікога не было. Мы проста пайшлі піць каву.

Усё было так спакойна і непасрэдна, наша размова цягнулася так звычайна, быццам мы сустракаліся кожны дзень. Яшчэ ні з кім у мяне не было адчування, што мы былі разам заўсёды. Няўжо я знайшла тую самую сваю палавінку, пра якую шмат напісана ў дзявочых раманах? Коля глядзеў на мяне гэтак жа пяшчотна, як і два гады таму. Я зразумела, што нічога не змянілася. Мы проста нейкі час правялі асобна.

Я першая пацалавала яго. Некаторы час мы сядзелі і цалаваліся. Раптам я адчула, што мне патрэбна нешта большае. І ў мяне не хапіла сілы волі супраціўляцца. Мае прынцыпы зніклі. Забароны апалі. Я ведала, што гэта той адзіны чалавек, якога я павінна дапусціць да сябе.

Гэта павінна адбыцца цяпер. Я мацней прытулілася да яго…

Хто прыдумаў, што першы раз заўсёды непрыемны? Мне яшчэ ніколі не было гэтак добра. Жыццё быццам змянілася, у ім ёсць месца каханню і асалодзе. Як я магла столькі жыць без гэтых пачуццяў? Чаму ніхто ніколі не гаварыў, як гэта прыемна? Я быццам не была пасвечана ў вялікую таямніцу. Усё было гэтак лагодна, прыгожа і пяшчотна. І ў цэлым свеце не засталося нічога, акрамя нас і гэтых шчаслівых хвілін… Так і запішу: я не пашкадавала.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Фенікс:

*Да ты што?! Як ты рашылася?*

Кацяня:

*Не ведаю. Мне трэба было гэта.*

Фенікс:

*Ты і тыдня з ім не пагуляла!*

Кацяня:

*Я чакала толькі яго, разумееш? Занадта доўга чакала».*

***6 мая 2010 г.***

А ўчора ўсё скончылася. Так цяжка пісаць, успамінаць учарашні дзень!

Спачатку ў мяне быў выдатны настрой, амаль святочны. Увечары мы сустрэліся з Колем, пацалаваліся і пайшлі разам да Алены. Яе брат ладзіў вечарыну. Саша праз паўтара месяца павінен пайсці ў армію. Таму ў апошні час надзвычай захапіўся вечарынамі, каб годна і без шкадаванняў сустрэць свой новы мужчынскі абавязак. Для мяне гэта была выдатная магчымасць «пахваліцца» нешматлікім знаёмым з яго кампаніі сваім каханым хлопцам.

Сонца ўжо хілілася да заходу. Вуліцы наліваліся чырванню. Нават мая беленькая сукенка ружавела, прыпадабнялася да агульнага колеру. Я трымала ў сваёй руцэ ягоную руку. Такую моцную, надзейную, і, разам з тым, такую МАЮ руку. Нібыта заўсёды я адчувала, што гэтая рука павінна належыць толькі мне, і сэрца, што б’ецца ў шырокіх грудзях, таксама. Быццам я заўсёды ведала, што мы павінны ісці побач. Я была шчаслівая і верыла, што гэтае шчасце цяпер застанецца са мной назаўсёды.

У сумачцы запілікаў мой тэлефон. Званіла Алена.

— Мы ўжо сабраліся, — сказала яна. — Вы хутка прыйдзеце?

— Так, ужо ідзём.

— Выдатна. Я дзяўчат пакідаю з Сашам, пайду з астатнімі хлопцамі ў краму. Чаго-небудзь «для настрою» возьмем. Ёсць асаблівыя пажаданні?

— Не, — усміхнулася я з Аленінай спраўнасці. — Ты ведаеш, што я гарэлку не п’ю?

— Памятаю, на гарэлку і без цябе ахвотнікі знойдуцца, — адказала Алена.

Я паклала тэлефон назад у сумку. Коля трохі здзіўлена прамовіў:

— Цікава. Я званіў табе некалькі разоў. У цябе тэлефон быў недаступны.

— Сапраўды дзіўна, — усміхнулася я. — А чаму ў інтэрнэце мяне не знайшоў?

Коля памаўчаў, потым прызнаўся:

— У мяне няма ні камп’ютара, ні выхаду ў інтэрнэт. Ведаеш, мяне гэтым летам у армію забіраюць. Потым вярнуся дахаты, куплю камп’ютар. А цяпер навошта, каб ён стаяў ды пыліўся?

— Зразумела, — паціснула я плячыма. — А пра мабільны, дык мне самой цікава, чаму ён недаступны. Ты ўпэўнены, што правільны нумар набіраў?

— Той, што мне Руслан даваў. Думаеш, ён мог памыліцца?

— Не ведаю. Давай праверым, — папрасіла я.

Але Коля чамусьці застыў на месцы.

— Пачакай, — ціха прамовіў ён.

Я паглядзела на яго. Ён раптам стаў засяроджаным і хмурным.

— Што здарылася? — спытала я.

Ён глядзеў на дарогу.

— Пачакай тут, калі ласка, я хутка вярнуся, — сказаў ён.

Колеў твар і голас так змяніліся, што я спалохалася. Я адчула штосьці нядобрае. Я таксама паглядзела на дарогу і пабачыла, як да нас ідзе дзяўчына. Коля падышоў да яе, спыніў. Яны пачалі размаўляць. Я заставалася стаяць на месцы, таму не чула іх. Гэту дзяўчыну я спачатку не пазнала, але потым успомніла: гэта была тая самая, што сутыкнулася са мною каля выхаду са школы два дні таму, Каця. Апісанне Алены супадала: шэранькая, маленькая, валасы заўсёды ў хвосцік збірае… Няўжо яна была дзяўчынай Колі? Яна, такая незаўважная, была побач з хлопцам маіх мар?

Раптам мне ўспомнілася тая няёмкая сітуцыя: тэст на цяжарнасць, што незнарок выпаў са сшытка.

Я змярцвела. Божа, няўжо гэта канец? Няўжо я яго згублю назаўсёды? Я здрыганулася. Коля азірнуўся на мяне. Па яго твары я зразумела ўсё. Самае жахлівае ўсё ж здарылася. Наша сустрэча сёння была апошняй. Больш мы з ім не сустрэнемся.

Я павольна падышла да Колі і дакранулася да яго рукі:

— Я пайду тады, — сказала я.

— Пачакай, мне трэба з табой пагаварыць, — спыніў мяне Коля.

Не, я б не вытрымала гэтага. Мне хацелася хутчэй пайсці, бо было вельмі балюча.

— Я ўсё ведаю, — сказала я. — Мне не трэба нічога казаць. Адпусці мяне. Я не ведала, што гэта твая дзяўчына.

Я апусціла галаву, каб не глядзець на Колю, не бачыць яго. Так мне было лягчэй развітвацца з ім.

— Прабачце, што ўмяшалася ў вашае жыццё, — ціха прамовіла я. Мне больш не было чаго сказаць.

Я павярнулася і пайшла па вуліцы да дома Алены. Я не чула сваіх крокаў, не бачыла нічога навокал.

Быццам праз туман, я раптам пабачыла чырвоную сукенку Алены. За сяброўкай ішлі два хлопцы з яе дома. Алена спалохана паглядзела на мяне, патрэсла за плячо, нешта запытала.

— Я… рассталася… з Колем… — усхліпнула я.

Хлопцы пераглянуліся:

— Алена, можа ёй даць выпіць?

— Не, не трэба, — адказала сяброўка занепакоена. — Яна не п’е гарэлку.

— А як ты супакоіш яе па-іншаму? Гэта ж надзейны сродак.

— Добра, налівай, толькі трошачкі.

Я заплюшчыла вочы і нагбом выпіла. У роце ўсё загарэлася. Страўнік сціснуўся, не жадаючы прымаць гэту гадасць.

— Як брыдка! — зморшчылася я. — Як гэта людзі п’юць?

— Нічога, — супакоіла мяне Алена. — Затое плакаць перастанеш.

Мне на самай справе рабілася лягчэй. Я ўсміхнулася праз слёзы:

— Вось так людзі і співаюцца…

— Што здарылася? — спытала Алена.

— Потым раскажу, — прашаптала я.

— Табе даць яшчэ выпіць? — спытаў адзін хлопец.

— Можа, цыгарэтку? — прапанаваў другі.

— Не-не, — сказала я. — Не трэба нічога, я ўжо супакоілася.

— Яшчэ чаго не хапала! — падтакнула Алена. — Я не хачу, каб мая сяброўка курыла. Гарэлачкі можаш яшчэ выпіць, але зусім мала. Добра заспакойвае. Пойдзем да мяне, пра ўсе праблемы забудзешся.

Алена жыла на пятым паверсе. У пад’ездзе не было ліфта. Пакуль мы прайшлі пяць паверхаў, гарэлка дала пра сябе знаць. Я адчула, што хістаюся. Вакол усё плыло. Мне захацелася смяяцца. Перад дзвярыма кватэры Алена спынілася, выцягнула касметычныя сурвэткі з сумачкі і пачала прыводзіць мяне ў парадак.

— Вы хоць у кватэру зайдзіце! — абурыліся хлопцы.

— Заходзьце самі, — адказала Алена. — Мы зараз. Толькі глядзіце, нікому ні слова, зразумела?

Мы яшчэ трохі пастаялі на лесвіцы. Алена прывяла мой твар у парадак.

— Д-д-дай люстэрка, — з цяжкасцю прамовіла я.

Спачатку я доўга спрабавала сканцэнтравацца і знайсці сваё адлюстраванне. А калі знайшла, то нават здзівілася, наколькі добра выглядаю. Здаецца, ніколі яшчэ не была такой прывабнай. Толькі на вуснах была нейкая бязглуздая ўсмешка. Дзіўна, я не адчувала, што ўсміхаюся. Я паспрабавала зрабіць сур'ёзны выгляд, але ад гэтага стала зусім недарэчнай. Нават Алена засмяялася.

— Не крыўляйся, — сказала яна. — Ты выдатна выглядаеш. Нам трэба было неяк супакоіць цябе. Ты б бачыла свой стан дзесяць хвілін таму!

Я аддала люстэрка Алене і ўвайшла ў кватэру. Так, я была нецвярозая, але ад гэтага мне было толькі лягчэй. Думкі пра Колю, боль, крыўда адышлі. Алкаголь дапамог.

Кватэра Алены звыкла сустрэла мяне недарагой, але акуратнай абстаноўкай. Тыя ж пацёртыя дываны ляжалі на падлозе, толькі пакойчыкі запоўніліся гарэзлівым смехам дзяўчат. Але нешта змянілася не толькі ў гуках, а таксама ва ўспрыняцці. Я чамусьці ўпершыню заўважыла плямы на мэблі і дзвярах, бруднавата было і ў пярэдняй. Быццам я прыйшла не на кватэру да сяброўкі, а ў чужую хату.

Дзяўчаты пачалі ладзіць застолле. Хлопцы рассоўвалі мэблю і рыхтавалі музыку. Нарэшце кампанія ўладкавалася вакол невялікага стала, застаўленага шклянкамі, бутэлькамі ды закускамі. Маё месца было побач з Аленай. З другога боку ад мяне сядзеў брат Алены, Саша. Я здагадвалася, што падабаюся яму, і мне было прыемна.

Потым пачалася звычайная п'янка. Сёння я ўпершыню піла гарэлку. Хлопцы дзівіліся з майго спрыту, толькі Алена няўхвальна круціла галавою. Гэта кампанія была пераважна Сашава, але я адчувала сябе досыць вольна.

Пасля чарговай чаркі Алена паклікала ўсіх у другі пакой танцаваць. Мы пачалі падымацца. Гарэлка зрабіла мяне ўвогуле зухаватай. Я пачала прытанцоўваць яшчэ за сталом. Раптам нехта з дзяўчат спытаў мяне:

— А чаму ты без свайго новага хлопца?

Мой ап'янелы мозг з вялікай цяжкасцю звязаў думкі ў цалкам прыстойны адказ, якім я павінна была даказаць усім, што я ўсё ж прыстойная дзяўчына:

— Не заслужыў ён яшчэ на гулянкі мяне суправаджаць.

Можа, хто і падумае дрэнна пра мяне, але праўду я не магла адкрыць нікому, акрамя Алены.

Усе танцы Саша круціўся побач. Як толькі пачыналася павольная мелодыя, ён адразу падскокваў да мяне і хапаў за рукі. Падчас аднаго з такіх танцаў я адчула, як Саша водзіць вуснамі па маім плячы. Гэта было ўжо адкрытае нахабства. Нашыя скокі на гэтым павінны былі спыніцца.

— Адстань! — папрасіла я, спыніўшыся.

— Чаго ты такая непадатлівая? — прашаптаў Саша.

— Яшчэ чаго! — абурылася я і паспрабавала вызваліцца ад яго.

— Толькі хвілінку патанцуем разам, і я цябе адпушчу, — паабяцаў Саша.

Мне было вельмі непрыемна, але па-іншаму хлопец адмаўляўся адпускаць мяне. Яшчэ некалькі гадзін таму мяне абдымаў іншы чалавек, каханы. І тая пяшчота мне падабалася значна больш.

Ад гэтых думак я крыху працвярэзілася, але зноў нагадалі пра сябе непрыемныя ўспаміны. А я ўжо пачала спадзявацца, што хоць часова вызвалілася ад іх! Дзяўчаты і хлопцы ў пакоі размаўлялі, танцавалі, забаўляліся, толькі ў мяне на вачах зноў з'явіліся слёзы. На шчасце, іх ніхто не ўбачыў. Бо святло ў пакоі было прыглушана, а на двары была ўжо ноч.

Тут я заўважыла на падаконніку недапітую бутэльку гарэлкі. Мне зноў захацелася выпіць. Але толькі я паднесла яе да вуснаў, адчула, што гэта будзе залішне. Я паставіла бутэльку і схапілася за падаконнік, спрабуючы перамагчы млосць. Раптам я ўспомніла, як хлопец у пад'ездзе прапанаваў мне цыгарэту ў якасці сродка, што ўціхамірвае страўнік. Я ніколі не курыла. Але зараз мяне магло вывярнуць на вачах усіх.

Я агледзелася ў пошуках Алены. Яе нідзе не было. На балконе чатыры дзяўчыны стаялі і курылі. Я выйшла да іх.

— Дайце закурыць, — папрасіла я.

На мяне паглядзелі са здзіўленнем:

— Ты ж не курыш!

Можа, сапраўды не трэба? Гарэлка ж аказалася рэдкай гадасцю. Цыгарэта, мусіць, нешта падобнае. Але мой страўнік ужо пачаў падазрона цяжэць. Я хутчэй схапіла працягнутую кімсьці цыгарэту, сціснула яе вуснамі і ўцягнула ў сябе дым. Галава закружылася. Я адкрыла рот і зрабіла некалькі глыткоў свежага паветра. І раптам з палёгкай адчула, што мой страўнік заспакойваецца. Я паглядзела на цыгарэту-выратавальніцу і яшчэ раз паднесла яе да вуснаў. Пасля наступнай зацяжкі млосць прайшла канчаткова. Я ўсміхнулася і як мага больш абыякава пацiснула плячыма:

— Ужо куру.

— А чаму ты пачала курыць? — запыталася адна дзяўчына.

— Ды так, трэба ж усё ў жыцці паспрабаваць. А тут яшчэ з хлопцам разышлася.

Дзяўчаты спагадліва заківалі. Тут на балкон выйшла Алена, пабачыла мяне з цыгарэтай, насупілася, але нічога не сказала.

— Калі ласка, выйдзіце на хвілінку ў пакой, — звярнулася яна да тых, хто стаяў побач. — Нам пагаварыць трэба.

Усе зразумелі і адразу паслухаліся яе. Мы з Аленай засталіся на балконе ўдзвюх.

— Ты разумееш, што свае лёгкія псуеш? — спытала сяброўка.

— Разумею, — спакойна адказала я.

— Давай памаўчым. Потым ты мне ўсё раскажаш.

Мы моўчкі абаперліся на поручні і паглядзелі ў цемру. Я не верыла, што сапраўды піла гарэлку. Хутчэй за ўсё, заўтра я буду дакараць сябе за гэту цыгарэту, але сёння мне было ўсё роўна. Я ўспамінала, як вечарамі сачыла за святлом у яго акне. Я тады так марыла аб нашых сустрэчах, пацалунках! Некалькі апошніх дзён маё жыццё было падобна да казкі. Я ніколі не была такая шчаслівая. А цяпер усё падалося мне бессэнсоўным.

— Я не ведаю, што здарылася, але тое, што ты сёння чыніш, гэта занадта! — сказала Алена. — Я вінаватая, што дазволіла табе ў пад'ездзе выпіць. Хто ведаў, што ты ўцягнешся?

— Усё добра, — адказала я. — Проста гарэлка на самай справе робіць цуд. Усе думкі павыляталі з галавы! Трэба ж некалі паспрабаваць. А то праз месяц школу скончу, а яшчэ ні разу не асмелілася. Усё віном ды лёгкім півам забаўлялася.

— Сёння няхай ужо, а больш не трэба курыць. Гэта шкодна. Вельмі шкодна, — сказала сяброўка.

Я ведала гэта, але была п'яная і аднеслася да яе слоў абыякава.

— У мяне сёння такі насычаны дзень, — сказала я. — Згубіла каханага хлопца, паспрабавала гарэлку, цыгарэту, звярнула на сябе ўвагу твайго брата! Нават не

ведаю, як быць, бо я адпрасілася да цябе на ўсю ноч. Раптам Саша гэта няправільна зразумее і пачне ліпнуць да мяне?

— Ён можа правесці цябе да дома, — няўпэўнена сказала яна.

Я здзівілася. Раней Алена з радасцю пакідала мяне. Можа, справа ў Сашы?

— Не, што ты? — усміхнулася я. — Пасля яго заляцанняў я не даверу яму сваю бяспеку. Чаму ты не хочаш, каб я засталася?

Алена некаторы час памаўчала, нібы прыдумвала адказ:

— Заставайся, калі хочаш.

— А ты мяне ў інтэрнэт пусціш? Хачу паглядзець, як там справы.

— Добра, калі Саша з хлопцамі камп'ютар не заняў.

Потым мы доўга маўчалі. Пасля цыгарэты быў яшчэ больш прыемны і выразны пах вясны. Свежы ветрык часам далятаў да нас. Я чула з цемры шапаценне лістоты. Нават модная музыка з пакоя не магла зусім заглушыць яго. Паўсюдна прырода рыхтавалася да самай жывой пары. Я амаль скурай адчувала наступленне лета. І верыла, што ўсё наладзіцца. Крыўдна і балюча, але перажыву. Усе ж неяк перажываюць.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Кацяня:

*Ты званіў яму, пытаўся?*

Антарэс:

*Так. І ён хацеў яшчэ нешта сказаць табе, пагаварыць. Але не можа дазваніцца. Ты не дома?*

Кацяня:

*Не. Ён павінен ведаць, што не дома. Я ў Алены, толькі ні ў якім разе не давай яму яе нумар. Я не хачу з ім размаўляць. Мне будзе вельмі цяжка, разумееш?*

Антарэс:

*Добра. Я нічога яму не скажу. Але адкуль ты ведаеш, што ён павінен застацца з Кацяй?*

Кацяня:

*Не важна. Проста ведаю і ўсё. Лічы гэта жаночай інтуіцыяй. Я нічога не хачу чуць пра яго. У Колі цяпер другое жыццё, свае праблемы, якія мяне не датычацца. Я пастараюся не ўспамінаць пра яго, не збіраюся сустракацца з ім. Каці гэта не спадабаецца.*

Антарэс:

*Я цябе зразумеў. Калі ласка, не сумуй. У цябе яшчэ ўсё жыццё наперадзе!*»

***6 мая 2010 г. Працяг***

Я прачнулася бліжэй да ранку, гадзіны ў чатыры. Было яшчэ цёмна. Чамусьці Алена паклала мяне не ў сваім пакоі. Я засталася спаць у зале, вырашыла, што прычынай стаў смурод майго подыху пасля алкаголю і нікаціну. Да таго ж, зала замыкалася знутры, таму Сашавы заляцанні не палохалі.

Праз тры гадзіны я павінна была збірацца ў школу, зноў паспрабавала заснуць. Але вакол мяне ўсё закружылася. Страўнік пачаў завязвацца ў вузел. Мне стала млосна. Я хацела ціхенька прайсці ў туалет, але зразумела, што часу ў мяне няма. Гарэлка з усімі закускамі пачала ўзнімацца са страўніка. Я выскачыла на балкон. Мяне хутка званітавала. Я са здзіўленнем заўважыла, что стала больш цвярозай. З палёгкай прысела на кукішкі. Раптам мне на вочы трапіў пачак цыгарэт і запальніца, мусіць, пакінутыя гасцямі.

«Не смей! Нельга. Курыць шкодна!» — сказала я сабе.

Але мая рука ўпарта пацягнулася да цыгарэты. Я запаліла. Мне было прыемна стаяць у адзіноце ноччу на балконе і выдыхаць дым у цемру. У мяне амаль не заста-

лося дакораў сумлення за слабасць характару. Ды і зручней было не задумвацца аб гэтым.

Раптам я пачула гук, падобны на званок тэлефона. Я зазірнула ў пакой — мой тэлефон маўчаў. Я вырашыла, што падалося. Акно пакоя, дзе спала Алена, было побач, і ў ім загарэлася святло. «Не, не падалося», — падумала я. Спачатку я захацела зайсці да сяброўкі, даведацца, у чым справа, але цыгарэта ў маёй руцэ Алене вельмі не спадабаецца. Я засталася стаяць на балконе, спадзявалася, што яна не пастукаецца да мяне.

Праз некаторы час святло згасла. А потым пачулася пстрычка замка ўваходных дзвярэй. Я падскочыла. Куды магла пайсці Алена ў такі час? Я кінула цыгарэту, падбегла да ложка, нацягнула сукенку і кінулася ўслед за сяброўкай. Толькі ля дзвярэй я ўспомніла, што мне казаў Дзіма аб Алене. Няўжо і тут мяне чакае расчараванне?

Я ціхенька адчыніла дзверы і пракралася ўслед за Аленай на першы паверх. Па цёмнай, бруднай лесвіцы гэты шлях уніз падаўся мне небяспечным. З кожнай прыступкай я нібы правальвалася ніжэй. Алена стаяла ў пад’ездзе і, зразумела, не ведала, што я сачыла за ёй. Са сваёй хованкі я бачыла толькі цёмныя абрысы яе постаці. Я схавалася за халоднымі поручнямі перадапошняга лесвічнага пралёта і стала чакаць.

Хутка пад’ехала машына. Алена падышла да яе, нешта спытала. Я не магла разабраць слоў, чула толькі, што ёй адказваў вельмі непрыемны мужчынскі голас. Я вырашыла падкрасціся бліжэй, ратпам да мяне данесліся страшэнныя словы:

— Сядай хутчэй! Я праз дзве гадзіны забяру, потым разлічымся.

Затым дзверы машыны зачыніліся, і мая сяброўка ад’ехала. Я села на лесвіцу: зусім не баялася запэцкаць белую сукенку. На душы было так брыдка, быццам там знаходзілася грамадская прыбіральня.

Я падумала, што мне гэта сніцца? Можа, я прачнуся дома і заплачу ад радасці, што ўсё гэта аказалася сном: і Каця з Колем, і вечарына, і Алена? Я ўшчыкнула сябе. Не, гэта не сон. Я сапраўды ўчора ўвечары згубіла любага доўгачаканага хлопца, сёння ноччу пачала піць гарэлку і курыць, а толькі што згубіла лепшую сяброўку. А, ледзь не забыла, яшчэ пазаўчора я страціла нявіннасць. Нічога сабе. Я лічыла, што горш ужо не будзе, але лёс адразу даказаў мне адваротнае. Я не ведала, чаго чакаць яшчэ.

Божа, ну чаму ў мяне не нарадзіліся падазрэнні, калі Дзіма раптам пачаў нагаворваць на Алену? Ён жа так ніколі не рабіў раней! А яна столькі гадоў была маёй лепшай сяброўкай! Як яна магла дайсці да дзяўчыны па выкліку? Толькі цяпер я зразумела, чаму Алена так дзіўна паводзіла сябе ў нядзелю. Ёй не хапала чарговай «дозы» без Віталя.

Як мне быць? Я не магу заставацца яе сяброўкай. Няхай у школе нічога не ведаюць, але толькі адна думка аб тым, што з ёй сталася, абуджала агіду. Я адчула сябе ашуканай і адзінокай. Да гэтага часу, калі ў маім жыцці здаралася нешта непрыемнае, я бегла да Алены. З ёй мне заўсёды было добра. Цяпер я не магла ўявіць, як я буду жыць без яе! Але я павінна была з ёй расстацца. Я не магла сябраваць з наркаманкай.

Зразумела, я нікому нічога не раскажу, але перастану мець зносіны з ёй.

Павольна я пацягнулася наверх, да кватэры Алены. Мне было ўжо не да сну. Сабрала сумачку, забрала ў Алены свае кнігі і рэчы, якія пазычала раней, і пайшла дадому. Я не хацела, каб нас нешта звязвала. З гэтай хвіліны мы перасталі быць сяброўкамі.

Аўтобусы яшчэ не хадзілі. На вуліцы было зусім пуста. Я з дзяцінства ведала тут кожнае дрэўца, таму мне было не страшна. Было вельмі холадна. Мяне нават прабралі дрыжыкі. А можа, не ад холаду. Мяне апанавала крыўда. Здавалася, я нічым не заслужыла таго, што здаралася ў апошні час. Чаму першыя памылкі, першыя расчараванні прыходзяць так рана? Мне ж усяго сямнаццаць гадоў!

Я ўвайшла ў пад'езд, паднялася на паверх, ціхенька ўвайшла ў кватэру, не распранаючыся, забралася на канапу.

Я прачнулася, калі ў акно ўпэўнена глядзела сонца. Мой настрой быў сёння даволі бадзёры. Але як толькі я паглядзела на гадзіннік, адразу спалохана падскочыла. Была ўжо палова дванаццатай. Я праспала ўрокі! Тэлефон паказаў шэсць непрынятых выклікаў ад Алены. Відаць, яна пачала мяне шукаць, калі не знайшла раніцай дома. Але я больш ніколі не набяру яе нумар. Перажытыя падзеі пакінулі ў душы непрыемны асадак. А ў астатнім я адчула сябе вольнай і супакоенай.

Я зразумела, чаму мяне ніхто не пабудзіў. Я ж учора адпрошвалася да Алены на ўсю ноч, а вярнулася ўранку так ціха, што ніхто мяне не чуў.

Але цяпер я павінна была паспець хаця б на апошні ўрок у школу. Учора ўсе бачылі, як я весялілася. Мне трэба было падправіць сваю рэпутацыю. Я хутка сабралася і выбегла з дому.

У дзвярэй школы я раптам спынілася, няёмка пераміналася з нагі на нагу, не рашалася пераступіць парог. Я рэдка прагульвала, бо баялася пакарання. На хвіліну нават задумалася, ці не лепш на сёння схавацца дома. Я не ведала, як растлумачыць сваё позняе з'яўленне. Набраўшыся смеласці, я ўсё ж увайшла ў фае. І адразу адчула прыемны гонар за сябе. Рухацца далей мне было ўжо лёгка.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Кацяня:

*Ты быў сёння ў школе?*

Антарэс:

*Зразумела. Я, у адрозненне ад некаторых, не прагульшык. У мяне спартыўная зала кожны дзень.*

Кацяня:

*Алена сёння была?*

Антарэс:

*Была. Вы не разам прыйшлі?*

Кацяня:

*Не. А як там яна? Як сябе адчувала, паводзіла?*

Антарэс:

*Як звычайна. Вясёлая, упэўненая, пра нейкую вечарыну з дзяўчатамі гаварылі.*

Кацяня:

*Так, сапраўды, усё як звычайна. У мяне быў дрэнны сон. Быццам некаторыя людзі могуць весці дваістае жыццё.*

Антарэс:

*А я, дарэчы, заўважыў, што вы сёння не сустракаліся. Пасварыліся?*

Кацяня:

*Не. А ты Колю ўчора яшчэ званіў?*

Антарэс:

*Званіў. І сёння званіў. Але табе не трэба ўжо яго праблемы. Ці не так ты мне казала ўчора?*

Кацяня:

*Так, ты маеш рацыю. Дзякую за спагаду.*

Антарэс:

*Толькі не перажывай. Ты абавязкова сустрэнеш добрага хлопца. Ты — прывабная дзяўчына. Як сябар, ты таксама добрая. Мне падабаецца размаўляць з табой. У цябе розум ёсць. Толькі нешта не пашанцавала табе з Колем.*

Кацяня:

*Дзякую табе. Мне была неабходна падтрымка. Нават дробязь здольная вярнуць мне інтарэс і надзею. Сапраўды, я пачала адчуваць сябе лепш, быццам зноў заўважыла жыццё. Шчыра дзякую…*

Антарэс:

*Во, які ў цябе быў настрой! Што ж ты адразу не прызналася? Выходзь сёння ў двор, пагаворым аб жыцці. Будзем твае "інтарэс і надзею" ажыўляць прафесійна.*

Кацяня:

*Выйду. Абавязкова выйду!»*

***Май 2010 г.***

Відаць, Алена зразумела, што я ўсё ведаю, і сама не спрабавала падысці да мяне. Цэлы тыдзень я нават не бачыла яе. Быццам незнарок цікавілася пра яе ў Руслана. Часам я пачынаю разважаць, а ці добра зрабіла, пакінуўшы яе, не паспрабавала нават дапамагчы. Але адразу ўспамінаю прыказку: «З якім спазнаешся, такім станешся» і разважанні заходзяць у тупік.

Думкі пра Колю прыходзяць да мяне ўсё радзей. Здаецца, я здолела парваць сваю залежнасць ад яго. Паціху прайшлі крыўда і горыч. Першыя дні мне карцела яго пачуць ці пабачыць. Але для мяне было лепш здацца і адступіць ад гэтага хлопца назаўсёды. Часам сціскалася сэрца, асабліва калі я накіроўвала свой позірк у звыклым напрамку праз акно. Але і тут мне на дапамогу прыйшоў Руслан. Толькі ён адзін можа адцягнуць мяне ад смутку. Я адчуваю віну за тое, што ніколі раней не заўважала яго. Калі я апынулася ў самоце, зразумела, што Руслан — надзвычайны сябар. Ён чамусьці адразу пакінуў зносіны з Колем. Вечарамі мы з Русланам сядзім на лаве ля пад'езда і размаўляем. Мне з ім весела і цікава.

Маё жыццё працягваецца. На жаль, без сяброўкі і без кахання. Мяне пачалі турбаваць экзамены, выпускны. Дарэчы, на выпускным вечары я павінна буду весці пачатак урачыстасці. Мне прыемнае гэтае даручэнне. Я адчуваю сябе ўпрыгожваннем школы. Але разам з тым хвалююся. Мяне непакоіць вялікая адказнасць. Маім памочнікам савет школы прызначыў Руслана. Я ўзрадавалася, сяброўства з суседам было мне даспадобы. Дый таму, што ён, як ніхто, дапаможа мне справіцца з гэтай самай адказнасцю.

А яшчэ я пачала курыць. Не разумею, як гэта здарылася, але ў мяне адразу з'явілася звычка. Спачатку я спрабавала трымаць сябе, не купляла новы пачак, адганяла ўсякія думкі аб тытуні, але перасіліць сябе не магу. Я цвёрда вырашыла калі-небудзь гэта кінуць. Але не цяпер. Руслан таксама курыць, і ў яго кампаніі мне цяжка ўтрымацца. Ды я ўжо і не вельмі стараюся.

Аб Алене я, напэўна, усё ж сумую. Дакладней, аб нашым сяброўстве, таму што ўспамінаць саму Алену мне непрыемна. Другой сяброўкі ў мяне няма і не можа быць. Для новага сяброўства трэба нанова раскрываць сябе. А раптам мне зноў не пашанцуе? Таму я сябрую толькі з Русланам.

Сёння ўвечары, мы, як заўсёды, сядзелі на лаве. Надвор'е было амаль летняе, цёплае. Сонца свяціла цэлы дзень. Нават увечары неба было без хмурынак. Здавалася, што чэрвень ужо пачаў панаваць у прыродзе. Я чамусьці адразу ўспом-

ніла, што гэтым летам павінна была паступаць ва ўніверсітэт. Трэба рыхтавацца. Я ўздыхнула.

— У чым справа? — спытаў Руслан

— Дзіўна. Здавалася, мне яшчэ вучыцца і вучыцца ў школе! А тут гляджу, месяц толькі застаецца. І потым нам не трэба больш ніколі туды ісці. Нязвыкла.

— Чаго шкадаваць! Наадварот, трэба імкнуцца да наступнага этапа жыцця. Вось, напрыклад, ты ўжо ведаеш, куды будзеш падаваць дакументы?

— Не. Думала, але так нічога і не вырашыла. Я ніколі не прымала такіх адказных рашэнняў. Я баюся зрабіць нешта няправільна. Таму, відаць, дацягну да апошняга. Не магу ўявіць, як сама пайду некуды прасіцца ў студэнты. Мне гэтак боязна!

— Пойдзем са мной. Я на эканамічны факультэт паступаць буду. Будзем і надалей разам вучыцца.

Гэта была прынадная прапанова. Мяне менш страшылі складанасці, калі я знаходзілася побач з Русланам. Але і гэткі абяцанак меў адваротны бок. Я ўсё ж хацела калі-небудзь навучыцца прымаць рашэнні самастойна і не залежаць ні ад кога.

— Паглядзім, — адказала я.

Руслан не адказаў. Ён моўчкі працягнуў мне цыгарэту. Некаторы час мы сядзелі моўчкі і курылі. Піва ў маёй бутэльцы паступова меншала.

— У якой сукенцы ты будзеш на выпускным вечары? — раптам спытаў Руслан.

О! Пра свой цудоўны ўбор я магла гаварыць гадзінамі. Ён павінен стаць стыльным, яркім, чароўным упрыгожаннем мяне. Я ўжо пачала падрабязна апісваць кожную дэталь, шчыра захапляцца шыкоўнай сукенкай, калі зразумела, што Руслану наўрад ці гэта цікава. Я спытала:

— А чаму ты пытаешся?

— Мы ж разам будзем пачынаць урачыстасць. Мне трэба падабраць нешта, каб побач з табой добра выглядаць.

— Ты яшчэ не купіў касцюм? — абурылася я.

— А куды спяшацца? — спакойна адказаў Руслан. — Яшчэ цэлы месяц.

— Не! — я ўстала, выкінула акурак і паклала ў рот жвачку. — Не «яшчэ цэлы месяц», а «ўжо толькі месяц». Чаму ты да гэтага часу не шукаў касцюм?

— Ды неяк не думаў, што ўжо трэба. Паедзьма разам у нядзелю ў гандлёвы цэнтр. Дапаможаш выбраць.

Я здзівілася прапанове Руслана. Мы яшчэ нікуды не хадзілі разам. Але я з радасцю згадзілася правесці з ім яшчэ адзін дзень.

— Добра. Ты толькі скажы, калі.

— Выдатна. Заўтра скажу.

Сонца амаль зайшло. Шэры двор глядзеў на нас чэргамі асветленых вокнаў. За кожным з якіх было асабістае жыццё, утульнасць, адносіны. Упрыцемку рамантычны настрой прыходзіў значна хутчэй. Нам трэба было разыходзіцца. Заўтра нас зноў чакала школа. Зусім мала засталося нам сядзець за яе партамі. Гэтыя апошнія дні мяне быццам цягнула туды. Я ведала, што хутка развітаюся са звыклым школьным жыццём.

Мы з Русланам зайшлі ў пад’езд. На вузкай лесвіцы я ішла плячо ў плячо з ім. І раптам я зразумела, што не хачу ісці дадому. Мне не проста вольна з ім, як з сябрам. Мне добра з ім, як з хлопцам. Мне было амаль гэтак жа добра побач з Колем.

Ля дзвярэй сваёй кватэры я спынілася. Я так не хацела знікаць за імі. Упершыню я адчула, што мне нехта патрэбен, акрамя Колі. Руслан таксама спыніўся. Кожны дзень мы развітваліся на гэтым месцы. Гэта было ўжо так звыкла для нас! Але сёння

чамусьці паўза перад развітаннем зацягвалася. Мы стаялі на лесвіцы. Руслан не спяшаўся дахаты. Я вельмі не хацела развітвацца. Я ведала, што раніцай мы зноў тут сустрэнемся і пойдзем разам у школу. Але гэта будзе толькі раніцай.

Я не ведала, калі ён паспеў мне спадабацца. Але толькі ў той момант я зразумела, што цягнулася да яго не з-за яго сяброўскай падтрымкі. Мне патрэбна была яго мужчынская пяшчота, сіла і клопат. Я заўсёды адчувала ў ёй патрэбу. Для гэтага мне патрэбен быў і Дзіма. І з таго часу, як побач са мной не стала Колі, мне патрэбен быў нехта не толькі для сяброўства, але і для таго, каб аддаваць сваю ўвагу і бараніць ад усяго. І каб я магла адказаць узаемнасцю гэтаму чалавеку. Я захацела, каб Руслан стаў ім. Да таго ж, я ведала, што ў яго няма дзяўчыны, таму ў мяне быў добры шанц. Я кінулася за ім следам. Руслан здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Ты нешта забыла? — спытаў ён.

Ці не дурная я?! Што ён падумае пра мяне? Чаму я да сямнаццаці гадоў не навучылася трымаць сябе ў руках?

— Я хацела спытаць у цябе…

— Я слухаю.

— Я табе падабаюся?

Я пашкадавала, што спытала. Бо з гэтага моманту наша сяброўства было скончана. Незалежна ад яго адказу мы ўжо не будзем больш сябрамі, як раней. Я занервавалася, але адступаць было позна. Руслан падышоў бліжэй.

— Так, — спакойна адказаў ён. — Здаецца, я ніколі гэтага не ўтойваў. Ты многім падабаешся.

Нешта накшталт гэтага я чакала пачуць. Але яго адказ мяне не задаволіў.

— А ты б хацеў сустракацца са мной як з дзяўчынай?

— А ты хочаш сустракацца са мной? — адказаў ён пытаннем на пытанне.

— Я першая задала пытанне!

— А мы з табой яшчэ не сустракаемся? Мы разам ходзім у школу і са школы. Сустракаемся кожны вечар, праводзім час удваіх. Ты мне падабаешся, і я хацеў бы сустракацца з табой. Проста я лічыў, што мы ўжо можам назваць наша сяброўства іншымі адносінамі.

Я больш не саромелася і не чырванела. Калі я злавалася, рабілася іншым чалавекам. Мусіць, назаўтра я буду ўражана сваімі словамі, але ў тое імгненне я не думала пра прыстойнасць. Я раздражнёна запатрабавала:

— Тады, можа, пацалуеш мяне?

Руслан хутка прыцягнуў мяне да сябе і крануўся вуснамі маіх вуснаў. Як жа мне патрэбны былі гэтыя моцныя рукі. Задаволеная, я павісла на яго шыі. Цяпер можна спакойна ісці дадому.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Антарэс:

*Чаму ты не спіш?*

Кацяня:

*Не ведаю.*

Антарэс:

*Чым займаешся?*

Кацяня:

*Гартаю старонкі ў сецiве.*

Антарэс:

*Я баяўся, што ты глядзіш у акно, як раней.*

Кацяня:

*Не, гэта бессэнсоўна. Я наогул нікуды не гляджу. У маім пакоі зацягнуты шторы».*

***Чэрвень 2010 г.***

Зноў пачало нешта мяняцца. Але на гэты раз я сама не магу вызначыць істотныя падзеі.

У той дзень мы развітваліся са школай. Ярка свяціла сонца. Здавалася, усё цешыцца з добрага надвор’я. Але ў мяне настрой быў на нулі.

На ўсім школьным двары стаялі шэрагі выпускнікоў. Нас было вельмі шмат, але мы ўважліва слухалі нашых настаўнікаў, да якіх больш ніколі не прыйдзем на ўрок…

Наперадзе ў нас была самая галоўная падзея — выпускны вечар. Лінейка была прысвечана апошняму званку. Як шкада было пачуць яго! Цяжка развітвацца з тымі сценамі, якія сталі роднымі за адзінаццаць год навучання.

Мая школа… Колькі ўспамінаў застанецца, звязаных з ёю! Усё маё жыццё залежала ад раскладу заняткаў, усе справы падпарадкоўваліся школьным канікулам. І цяпер я апынулася, нібы ў вакууме, зусім непадрыхтаваная да адказных крокаў.

Я стаяла за Русланам. З-за яго шырокай спіны я бачыла не ўсіх настаўнікаў. Але мне не хацелася выходзіць наперад. Я лічыла за лепшае схавацца ў ценю майго хлопца. Але раптам настаўнікі выклікалі яго за ўзнагародай. І мне ўсё ж прыйшлося апынуцца ў першым радзе.

Раптам мяне нехта ціхенька ўзяў за руку. Гэта была Алена. Я не размаўляла з ёй ужо больш за месяц. Я нават пачала забывацца пра яе. Я не збіралася размаўляць з ёй і тады, паспрабавала вызваліць сваю руку.

— Пачакай, — сказала Алена ціха, каб ніхто не пачуў. — Я толькі хацела табе сказаць, што больш нічым такім не займаюся, пачала лячыцца. Ведаеш, Віталя пасадзілі надоўга. Але гэта не важна. Я вылечуся, вось пабачыш, я стану такой, як раней.

Я вызваліла руку і ўпершыню за месяц звярнулася да яе:

— Не, ты ніколі ўжо не станеш такой, як раней.

Я павярнулася і адышла далей ад яе. Мяне ўзрушыла тое, што сказала Алена. Я ўзрадавалася, што яна знайшла ў сабе сілы вярнуцца да нармальнага жыцця. Хаця для ўсіх астатніх яе жыццё заўсёды было добрым. Ніхто ў школе так і не даведаўся пра заняткі Алены. Гэта засталося нашым сакрэтам. Вядома, аднакласнікі заўважылі, што мы перасталі сябраваць. Але які ж трэба мець характар, каб схаваць ад усіх такое! Я паглядзела на Алену і адчула, што захапляюся ёю.

Руслан аж свяціўся ад шчасця, размахваў сваёй узнагародай і ад сонечных промняў здавалася яшчэ ярчэйшай абаяльная ўсмешка на яго твары. Ён быў такі прывабны ў гэтую хвіліну! Як мне зараз, напэўна, зайздросцяць іншыя дзяўчыны! Мне стала вельмі прыемна ад гэтай думкі. Мой настрой палепшаў.

— Пасля лінейкі нам трэба будзе вярнуцца ў актавую залу, — сказаў мне Руслан. — Нашы тэксты ўжо павінны быць гатовыя. Спытаем, калі будзе падрыхтавана музыка і ўсё астатняе.

Мяне прыемна ўражвала прадбачлівасць Руслана. З ім я магла наогул ні аб чым не турбавацца.

Я ніколі не думала, што змагу забыцца пра сваё першае каханне. Коля займаў мае думкі ажно два гады. Але, здаецца, я ўсё ж пачала забываць. У яго было ўжо зусім іншае жыццё. Нашыя дарожкі разышліся. Зараз у маім жыцці з’явіўся Руслан. Гэта было так добра! Хто ведае, можа, калі-небудзь я буду ўдзячна Каці за тое, што

яна адабрала ў мяне мару, каб я атрымала нешта лепшае. Я доўга здзіўлялася, што не заўважала Руслана раней. Была так аддана пачуццям першага кахання ды незразумелым адносінам з Дзімам, што не звярнула ўвагі на такога хлопца. Можа, і лепей, што лёс змяніў нястрымную цягу да Колі на пяшчотную закаханасць у Руслана? Так, я лічыла, што закахалася ў Руслана. Аднак, гэтае пачуццё было зусім іншым, непадобным на тыя, што я перажывала раней.

Пасля лінейкі мы з ім стаялі на апусцелым ганку і чыталі тэксты, якія павінны былі вывучыць да выпускнога балю. Праз некалькі хвілін нам павінны былі перапісаць прыкладны сцэнарый усяго вечара.

Я чытала і з кожным словам усё больш хвалявалася. Я не здолею ўпэўнена трымацца на сцэне, пры гэтым усміхацца і не забыць нічога. На мяне ж будзе глядзець столькі людзей: вучні, бацькі, настаўнікі. А што будзе, калі я нешта пераблытаю, ці зраблю не так?

Нам доўга не выносілі сцэнарый.

— Пайду, падганю іх, — прамовіў Руслан. — Калі там яшчэ доўга, тады лепш увечары вернемся.

Я ўсміхнулася. Трэба адзначыць, што калі мы з Русланам пачалі сустракацца, то больш не сядзелі на лаве ля пад’езда. Гэта магло падацца дзіўным, але Руслан быццам пазбягаў з’яўляцца са мною ў двары. Нашыя бацькі ведалі, што мы сустракаемся, і нічога не мелі супраць. Я вырашыла, што Руслан хоча адцягнуць маю ўвагу ад мінулага. А часам, калі мы вярталіся дадому, Руслан быццам незнарок заглядваў у маю паштовую скрыню. Мяне весяліла яго рэўнасць.

— А куды мы сёння пойдзем гуляць? Трэба неяк адзначыць лінейку, — сказала я з усмешкай.

— Што-небудзь прыдумаем, — усміхнуўся Руслан у адказ. — Ты пачакай мяне тут. Я толькі ў актавую залу і назад.

Ён знік за дзвярыма. Я паціху пайшла да прыступак. У гэты момант на ганак выйшлі дзве аднакласніцы Руслана. Адной з іх была Алена. У апошні час я заўсёды абыходзіла яе. І цяпер толькі зірнула ды пайшла ў другі бок.

Алена паклікала мяне. Але мне было непрыемна з ёю размаўляць. Таму я не спынілася.

Яна нагнала мяне. Сёння быў першы раз, калі яна спрабавала загаварыць са мной, і я не ведала, як рэагаваць.

— Ты чула, што я табе казала сёння на лінейцы? — спытала Алена.

— Не глухая, — адказала я.

— І што, мы з табою ўсё роўна ніколі больш не будзем вітацца?

Я не ведала, што ёй адказаць. Я ўспомніла наша сяброўства. Алена была часткаю мяне. Мы ведалі адна адну лепш за саміх сябе. Нам было добра і весела разам. У нас засталося столькі агульных сакрэтаў, што мы ўжо ніяк не станем чужымі людзьмі. Але гэты, апошні… Ён змяніў мае адносіны да Алены. Яна быццам здрадзіла мне. Пра гэту здраду я наўрад ці змагу забыцца.

Алена чакала адказу.

— Я не ведаю, — сумленна адказала я. — Давай паглядзім, што будзе далей. Калі нам наканавана застацца сяброўкамі, мы імі застанемся.

— Зразумела, — сказала Алена і пайшла.

У гэты момант са школы выйшаў Руслан.

— Што са сцэнарыем? — спытала я.

— Вернемся ўвечары. Вы з Аленай памірыліся?

— Мы не сварыліся, — адказала я. — Давай не будзем пра гэта.

— Добра, — пацiснуў плячыма Руслан. — Мне здалося, што яна змянілася, зусім дарослая стала.

Ён узяў мяне за руку, і мы пайшлі ў бок вуліцы.

Раптам пачулуўся сігнал аўтамабіля. Мы азірнуліся. Побач спыніў машыну бацька Руслана.

— Можа, вас падвезці? — спытаў ён.

Мы з радасцю згадзіліся. На вуліцы была нязвыклая спякота. Нам хацелася схавацца куды-небудзь ад гарачых промняў. Таму, хоць я і саромелася суседзяў, з задавальненнем улезла на задняе сядзенне. Руслан сеў побач.

— Выкінь нас каля рэчкі, — папрасіў ён.

— Добра, — адказаў яго бацька. — Што сёння было на лінейцы?

— Ды нічога цікавага, — адказаў Руслан. — Гаварылі пра надзеі, якія на нас ускладае грамадства. Вось яшчэ, што мне выдалі.

Руслан перакінуў на першае сядзенне сваю ўзнагароду. Я ведала, што ён наўмысна надае сабе раўнадушны выгляд. Памятала, як свяціліся радасцю яго вочы, калі ўзнагароджаны ішоў праз строй выпускнікоў. Але перад татам ён паказваў менш эмоцый, паводзіў сябе бы сталы мужчына. Аб гэтым, відаць, падумаў і бацька, бо я пабачыла ў люстэрку над лабавым шклом яго спагадлівую ўсмешку.

На прыпынку перад святлафорам бацька раптам успомніў:

— Табе сёння раніцай Коля званіў.

Я адчула, як напружыўся Руслан. Мяне таксама, шчыра кажучы, усхвалявала гэта звестка. Але Руслан, на дзіва, празмерна рэзка адрэагаваў. Ён паглядзеў на мяне і строга звярнуўся да бацькі:

— Не трэба пра гэта гаварыць. Я потым сам пазваню яму.

У мяне ўзнікла незразумелае пачуццё, быццам я нешта прапусціла ці не заўважыла. Я ціхенька задала пытанне Руслану:

— А Коля ведае, што мы з табою сустракаемся?

— Так, — адказаў Руслан і адвярнуўся.

Мне стала прыемна ад гэтай навіны. Няхай Коля ведае, што я не сумую ў адзіноце, і што ў мяне можа быць усё добра і без яго.

Мы выйшлі ў скверыку недалёка ад рэчкі. На беразе было шмат людзей. У гарачыню ў горадзе самым лепшым месцам адпачынку стала набярэжная, дзе было хоць трохі свяжэй. Ды і само асяроддзе падыходзіла для рамантычна настроеных юнакоў і дзяўчат. Асабліва тых, якія сёння таксама пачулі апошні званок.

Па ўсёй рэчцы гусценька былі раскіданы лодачкі і катамараны.

— Можа, пакатаемся? — прапанаваў Руслан.

Я ніколі не каталася па рэчцы ўдваіх з хлопцам. Неяк Дзіма спрабаваў угаварыць мяне сесці з ім ў лодку, але я тады спалохалася і не згадзілася. Руслан выклікаў у мяне больш даверу.

Пакінуўшы грошы, Руслан спрытна скокнуў у лодку. Яна трохі апусцілася з аднаго боку пад яго цяжарам, але адразу вярнулася ў ранейшы стан, толькі пагрозліва хісталася на вадзе. Мне было вельмі страшна ступаць на няўстойлівую пасудзіну, але Руслан працягнуў мне руку.

Я ўсхвалявана ўздыхнула, моцна-моцна ўчапілася за руку і амаль з віскам пераскочыла кароткую водную перашкоду паміж берагам і бортам. Адразу адчула, як лодка вельмі нахілілася ў мой бок. Я заплюшчыла ад страху вочы і мацней учапілася за Руслана.

— Усё, усё, сядай, не варушыся, — з усмешкай загадаў ён мне.

Толькі такі загад я была здольна выканаць, хутчэй апусцілася на драўляную лаву і пастаралася зменшыць упартае хістанне. Але, калі першы страх прайшоў, мне стала нават цікава. Я адчула прыемнае захапленне ад свайго становішча. Бераг паступова аддаліўся ад нас. Я цяпер нават не заўважала спякоты. У кроплях адбівалася высокае чэрвеньскае сонца. А рака сляпіла вочы сваім бляскам, але не злосна, а велічна і спагадліва. Тут было цішэй. Чуўся спакуслівы плёскат вады. Рака была настолькі запоўнена лодачкамі, што можна было нават пачуць гаворку ў бліжэйшай з іх.

— Не баішся ўжо? — я пачула Руслана.

— Не, — спакойна адказала я.

Мы спыніліся. Руслан выцягнуў пачак цыгарэт, падаў мне адну.

Я перастала спалохана трымацца за лаву, падпаліла цыгарэту, потым зусім асмялела — апусціла руку за борт і дакранулася да халоднай воднай паверхні. Рака амаль лагодна пацалавала мае пальцы. Гэты сцюдзёны дотык прымусіў мяне ўздрыгнуць. Я хутка падняла далонь, выцерла руку аб спадніцу і ўскінула вочы на Руслана. Той сядзеў моўчкі, курыў, глядзеў некуды паверх мяне ў бок берага.

На фоне бліскучай вады ён падаўся мне самым звычайным хлопцам. Я заўважыла, наколькі ўжо адраслі яго цёмныя валасы пад асветленымі. І зараз гэта ўжо не выглядала так прыгожа, як раней. Няма той абаяльнай усмешкі, якая прымушала калаціцца сэрцы паловы школьных дзяўчат.

Раптам Руслан узяў мяне за руку, прыцягнуў да сябе і пачаў цалаваць. Толькі ён гэта зрабіў настолькі хутка і знячэўку, што я адхілілася ад яго вуснаў і лёгка адштурхнула ад сябе.

— Чаго ты? — я незразумела ўглядзелася ў яго цёмныя вочкі.

— Ты мне вельмі падабаешся, — ціха, але неяк няшчыра прамовіў Руслан.

Ззаду наблізіўся плёскат і пачулася вясёлая дзявочая гаворка. Я азірнулася. Зусім блізка праплываў шэраг катамаранаў, на якім вялікі гурт дзяўчат спяшаўся да берага. Ды і астатнія лодкі змясціліся ў тым жа напрамку. Мне таксама захацелася туды.

Я паглядзела на Руслана. Было відаць, што яму падабаецца тут. Наўрад ці ён пагодзіцца адплыць назад. Я пакорліва ўздыхнула. Трэба было пацярпець. Я яшчэ раз апусціла руку да вады. Але на гэты раз рака нібы затрымала мяне. Я паварушыла пальцамі ў вадзе, прахалода пабегла па маім целе. Мудрая прастора нешта аддавала мне. Бязладныя думкі канчаткова збіліся ў галаве. Каб пазбавіцца ад іх, падняла мокрую руку, прытуліла да адной шчакі, потым да другой, выцерла лоб. Думкі сапраўды зніклі пад сцюдзёным уплывам. І калі ў галаве больш не засталося нічога лішняга, мяне нешта прымусіла паглядзець на бераг.

Руслан схапіў мяне за плячо, але я ўжо адвярнулася ад яго і ўбачыла бераг. Праз шматлікія постаці мой позірк спыніўся на самых незабыўных вачах у свеце. З берага на нас глядзеў Коля…

— І што? — неяк злосна, амаль пагрозліва спытаўся Руслан.

— Нічога, — адказала я, зрабіла намаганне і апусціла вочы.

— Выдатна, — працадзіў ён, выхапіў тэлефон і пачаў хутка набіраць нейкае паведамленне. Я ужо не магла цярпець.

— Што ты пішаш? — усхвалявана спытала я.

— Не трэба табе гэта ведаць! — паспрабаваў асадзіць мяне Руслан, але я ўжо выходзіла з сябе.

— Калі ты не пакажаш мне паведамленне, я выкіну твой тэлефон у ваду! — ускрыкнула я.

Руслан паглядзеў на мяне. У яго вачах з’явілася разгубленасць. Ён ніколі не бачыў мяне такой злоснай. Я і сама дзівілася. Я не лічыла сябе здольнай на такія

пагрозы. Дзіўна, але я на самай справе была гатова распачаць бойку з дужым хлопцам на хісткай лодачцы пасярод глыбокай ракі. І ўсё гэта толькі за тэлефон, што хавае такія неабходныя мне сакрэты. Я ўбачыла, што Руслан прызнае маю ўладу. Я ўпершыню заўважыла ў вачах хлопца збянтэжанасць. Ад хвалявання слёзы пакаціліся з маіх вачэй.

— Аддай мне тэлефон! — запатрабавала я.

У гэты момант тэлефон ціха, але брыдка запілікаў.

— Я павінен адказаць, — асцярожна адхіліўся Руслан. — Сядзі.

Я дапытліва паглядзела на яго, апусцілася на лаву і зноў азірнулася на бераг. Колі я там ужо не пабачыла. Але мае пачуцці імкліва і зусім нязвыкла завіравалі. Быццам замест мяне сядзела іншая дзяўчына, больш незалежная, моцная, упэўненая. Толькі аднекуль з глыбіні душы выглядала маленечкае сумненне. Нешта хвалюючае курчылася ўнутры мяне. Я штосьці не бачыла, прапусціла, не заўважыла, не здагадалася. «Глупства, — адкінула я ад сябе недакладныя думкі. — Гэта водгулле надзеі, што я яшчэ кахаю».

— Гэта даўно ўжо не твая справа, — данеслася да мяне. — І ты гаварыць з ёй не будзеш. У яе другое жыццё, не перашкаджай нам, калі ласка. Размова скончана.

Я паглядзела на Руслана. Ён разззлавана кінуў тэлефон у кішэню і павярнуўся да мяне. Ён быў амаль раз’юшаны. Яго выгляд спачатку спалохаў мяне, але тая ўлада і моц, з якой я толькі што пазнаёмілася, узялі сваё.

— Не пытайся ні пра што! — усклікнуў Руслан, нібы пачуў мае думкі.

— Як гэта? — абурылася я. — Вы размаўлялі пра мяне! Я маю права ведаць!

— Цікаўнай Варвары, ведаеш, што зрабілі? Так будзе лепей. Навошта табе з ім размаўляць? Што вы можаце сказаць адно аднаму?

Руслан нервова закурыў. З аднаго боку я разумела яго. Мы з Колем разышліся раптоўна, нават не паспелі нармальна развітацца. А Руслан раўнуе мяне, абараняе. Ды і Колевай дзяўчыне гэта не спадабаецца. Але з другога боку, я не магла ўжо пакінуць гэтае пытанне. Абурэнне і цікавасць надавалі мне сілы, якой я ніколі раней не адчувала.

— Я ўсё разумею, — сказала я. — Акрамя аднаго: калі Коля цікавіцца маімі справамі, чаму ён сам не звоніць мне, чаму не папытаецца асабіста?

— Ты ж не збіраешся званіць яму сама?! — спытаў Руслан.

— Не, у мяне няма яго нумара тэлефона. А ты наўрад ці дасі.

Мне падалося, што Руслан схаваў хітрую ўсмешку. Я з падазорнасцю паглядзела на яго.

— Мне гэта дзіўна. Калі толькі ты… Калі толькі ты тады не даў яму няправільны нумар…

Я ўтаропілася ў вочы Руслана. Роспач ахапіла мяне. Я зразумела, што разгадала вялікі сакрэт. Я не ведала, навошта ён учыніў гэта. Але цяпер усё стала на свае месцы: Коля не мог пазваніць мне ні раней, ні цяпер, можа, ён наогул лічыць, што я хаваюся ад яго. Коля не ведаў майго электроннага адраса, у яго ўвогуле не было інтэрнэту. І ў двары мы перасталі з’яўляцца, каб выпадкова не сустрэліся. Цяпер самы падазорны ўспамін: позірк Руслана ў маю паштовую скрыню ледзь не кожны дзень. Няўжо Коля даўно мяне шукае? Быццам промні азарэння спусціліся на мяне. Я ўсхвалявана прашаптала:

— Руслан...

Руслан схіліў галаву, набраўся смеласці і ціха, але строга прамовіў:

— Мы з табою сустракаемся. Ты — мая дзяўчына. У любым выпадку, я не хачу, каб ты з ім размаўляла.

— Але ты ж даваў яму мой нумар яшчэ калі я сустракалася з Дзімам.
— Так. І што?
— Ты даў яму няправільны нумар!
— З чаго ты ўзяла?
— Ён бы даўно пазваніў мне, каб не гэта.
— Не званіў бы ён табе! Ён ведае, што мы сустракаемся. Ён не будзе нам перашкаджаць. Адзінае, што яго непакоіць, што я, яго былы сябар, цяпер з табою. Але гэта ўжо не яго справа. Ты згодна?
Тлумачэнні Руслана не задаволілі мяне. Наадварот, з кожным яго словам ува мне ўсё больш паўставалі абуранасць і сумненне.
— Паедзем на бераг! — загадала я.
— Не, — упёрся Руслан.
Я ведала, што ён адмовіцца. Але роспачы і пакоры ўжо не было. Засталося жаданне дзейнічаць і дзікая адвага. Я знаходзілася сам-насам з Русланам пасярэдзіне ракі, мы былі адарваныя ад усіх. І цяпер ніхто мне не дапаможа. Я зразумела гэта выразна, як ніколі. Дзяўчыны, што са спалоханым віскам чаплялася за рукі Руслана ў лодцы, ужо не было. Была Я.
— Добра, — адказала я. — І не трэба. Я паклікаю каго-небудзь з бліжэйшых лодачак і перасяду да іх. Ведаеш, я ўжо скакаць над вадой не баюся.
Я ўзнялася на ногі, лодка пагрозліва нахілілася, але я толькі ўсміхнулася гэтай небяспецы.
— Сядзь, дурная! — крыкнуў Руслан і налёг на вёслы.
Я з усмешкай села. Я цешылася са сваёй улады, са сваёй смеласці, безразважнасці.
Я ўжо не чула плёскату. Усё гучнейшым станавіўся шум гарадскіх вуліц. Я чула матор машын, падвыванне тралейбусаў, водгулле рознагалосага натоўпу. Бераг паволі набліжаўся. Паветра ля берага гарачэла. Толькі мая рука, якую вада астудзіла, ніяк не цяплела, не далучалася да агульнай тэмпературы.
Борт лодкі цюкнуўся ў бетон. Я ўзнялася, пераскочыла на бераг і адышла да натоўпу. Я нават не заўважыла свайго спрыту. Я пакінула Руслана, не было часу азірацца на яго.
Натоўп праглынуў мяне. Розныя гукі, твары, колеры замільгалі навокал. Я шукала адзінага чалавека. Дзе была мая гэткая адвага раней? Калі б два гады я не пазірала сарамліва праз шкло, не было б цяпер гэтага адчаю.
Як шалёная, бегла я праз натоўп, кідалася з боку ў бок, зазірала ў твары. Я ўжо дрэнна разумела, што я раблю. Толькі адзінае жаданне кіравала мною: адшукаць яго хоць дзе-небудзь.
Міжволі я ўспомніла, як аднойчы брала з вуліцы кацяня. Яно ляжала ў кашэчым тайніку пад прыступкамі такое самотнае, што я не ўтрымалася, забрала дахаты. Я хацела даць кацяняці дом і цяпло. Але ў хуткім часе я пачула з вуліцы жаласлівае мяўканне. Кацяня шукала ягоная маці. Кошка, як звар’яцелая, бегала ад аднаго чалавека да другога, зазірала ў вочы, бо згубіла самае дарагое. Мне нічога не заставалася, як вярнуць кацяня пад прыступкі.
Калі я праз спёку і шумны натоўп бегла ўздоўж рэчкі, я ўспамінала гэты выпадак. Але мне ніхто ўжо не падкажа, дзе я магу адшукаць свайго каханага. Адзіны раз у жыцці я зрабіла нешта адчайнае, рызыкнула. І крыўда нарастала ўнутры, калі я разумела, што гэта было дарэмна.
З архіва інтэрнэт-паведамленняў:
«Фенікс:

*Як справы?*
Фенікс:
*Я ведаю, што ты чытаеш мае паведамленні. Чаму ты не адказваеш мне?*
Фенікс:
*Ты вырашыла больш ніколі не ўспамінаць пра мяне?*
Фенікс:
*Добра, як хочаш.*
Кацяня:
*Я не ведаю, што ўспамінаць і як успамінаць. Нешта змянілася. Не ў табе, а ўва мне. Сёння. Я сама яшчэ не асэнсавала. Але нешта змянілася. Калі я зразумею сама, растлумачу іншым. Перадавай прывітанне Сашу».*

***Чэрвень 2010 г.***

Я абавязкова павінна апісаць выпускны вечар. Да таго ж, ён не абышоўся без здарэнняў.

Уручэнне атэстатаў прайшло вельмі хутка, але мы з Русланам нават не паспелі палюбавацца на іх. Больш гадзіны мы кіравалі святам, якое падрыхтавалі нашаму выпуску малодшыя дзеці. Мы мітусіліся, ганялі дзяцей, паўтаралі з імі словы, і таму, выпускны вечар не пачаўся для нас як свята. Я дзівілася з сябе, але больш не баялася выступаць перад усімі. Я годна, без лішняга хвалявання трымалася на сцэне, нічога не блытала. Мяне не бянтэжыла поўная зала. Не такой ужо страшнай з'явілася гэта адказная роля.

Уся актавая зала стракацела шыкоўнымі ўборамі дзяўчат і строгімі касцюмамі хлопцаў. Дзе-нідзе былі людзі, апранутыя прасцей, — нашы настаўнікі і бацькі. Калі ўрачыстасць была скончана, дэкарацыі пачалі хутка мяняць на ўстаноўку святламузыкі. Далей пачыналася дыскатэка.

Мы з Русланам узялі нашыя атэстаты і пайшлі ў сталовую. Адтуль па ўсім паверсе разносіўся надзвычай спакуслівы пах. Так і хацелася паскорыць крок, каб хутчэй задаволіць апетыт. Сталы ламіліся. Нашыя бацькі добра паклапаціліся, каб мы натоўпамі збягаліся да прысмакаў. Аднак я не паспявала нічога пакласці ў рот. Да мяне ўвесь час падыходзілі аднакласнікі, настаўнікі, знаёмыя. Усе хвалілі за выступленне. Мне было вельмі прыемна, але мой позірк з цяжкасцю адрываўся ад стала. Я разумела, што гэта мой апошні дзень у школе, але прага адчуць смак цукерак ды фруктаў перамагала ўзнёслыя пачуцці.

Я разгарнула свой картонны скарб. Вось дзеля чаго трэба было адзінаццаць гадоў кожны дзень выконваць дамашнюю работу. Як прыемна было трымаць атэстат з добрымі адзнакамі!

Пасля вячэры мы з Русланам выйшлі пакурыць. На вуліцы, нягледзячы на позні час, было вельмі цёпла.

— Нічога сабе, якая ноч цёплая! — сказаў Руслан.

Я нічога не адказала яму. Паміж намі таксама нешта змянілася. Я не адчувала да яго былой пашаны і захаплення. Усе мае пачуцці невядома адкуль былі ўзятыя і невядома куды зніклі. Руслан заставаўся для мяне сябрам. Але нават сябрам з умовамі. Па-першае, ён так і не дапамог мне знайсці Колю, не дазволіў нам сустрэцца. А па-другое, я пачала адчуваць у ім нейкую няшчырасць. Ён штосьці ўтойваў ад мяне, акрамя Колінага нумара. Руслан быў звычайным хлопцам. І не маім. Я гэта адчувала.

Я памятала, што ў Колі ёсць іншая дзяўчына, хутка будзе асобная сям'я, але працягвала ламаць галаву, як яго пабачыць. А цяпер у мяне быў занадта добры настрой, каб я дазволіла сабе сумаваць. Я спытала ў Руслана:

— Пойдзем патанцуем?

Руслан згадзіўся. На ганак да нас выйшлі аднакласнікі. Я вырашыла не перашкаджаць мужчынскай размове.

— Я пайду ў школу, — сказала я Руслану. — Ты потым падыходзь у актавую залу.

— Добра, — адказаў Руслан і лёгка пацалаваў мяне.

Дыскатэка была ў разгары. Я азірнулася, да каго б падысці. У мяне засталося пачуццё няскончанасці, быццам нейкая школьная справа не можа быць пакінута без вырашэння. Я паціснула плячыма і павольна пайшла ўздоўж сцяны. Навокал весела скакалі выпускнікі, бадзёрая музыка прымушала вытанцоўваць усіх настаўнікаў, нават самых строгіх і сур'ёзных. У мяне самой ад заўзятых рытмаў узнікла жаданне паскакаць.

Зала была амаль цёмная. Святламузыка толькі нязначна кідала свае яркія каляровыя плямы ў натоўп. Раптам я ўбачыла Алену. Яна танцавала ў цэнтры шырокага кола. Яна была вясёлая і ўпэўненая, як заўсёды. У мяне сціснулася сэрца. Мы прайшлі разам з ёй адзінаццаць гадоў. Алена была часткай майго жыцця, адзіным чалавекам, якога я ўпусціла ў душу, які ведаў мяне лепш за ўсіх.

Мне было цяжка падысці да яе. Я сумнявалася, ці можа быць ранейшае сяброўства пасля таго здарэння. Але пайсці, назаўсёды развітацца са школай з гэтым цяжарам непрыемных успамінаў я не магла. Я перасіліла сябе і няўпэўнена рушыла да Алены. Дзяўчына пабачыла мяне і перастала танцаваць. На яе твары не было ні радасці, ні здзіўлення. Яна ветліва глядзела на мяне. Толькі я ведала, што Алена хвалюецца гэтак жа, як і я. Нездарма мы шмат гадоў былі лепшымі сяброўкамі. Зараз мы зразумелі адна адну без слоў.

Я падышла бліжэй і спытала:

— Можна да вас?

— Калі ласка, — адказала Алена і пасунулася.

Мы пачалі танцаваць побач. Я пачала думаць, як завесці гаворку. Але доўга ламаць галаву не прыйшлося.

— Як твае справы? — пачула я праз музыку і зразумела, што Алена звяртаецца да мяне.

— Нармальна, — прамовіла я. — А ў цябе?

— Таксама нічога.

— А дзе Руслан? — спытала Алена.

— Курыць на ганку.

— А ты больш не курыш?

Я не ведала, што адказаць Алене. Мне было сорамна прызнавацца, што я сапраўды куру. Але схлусіць я таксама не магла. Алена мяне занадта добра ведала, каб вызначыць, ці кажу я праўду.

— Так, куру, — прызналася я і паглядзела на Алену.

Алена таксама паглядзела на мяне. Мы перасталі танцаваць. Мы стаялі на месцы і глядзелі адна на адну. Ранейшыя, светлыя валасы Алены рабілі твар надзвычай прыгожым. Я ўжо пачала забывацца, якая чароўная мая сяброўка са сваім натуральным колерам. Толькі цяпер я зразумела, як моцна сумавала па ёй, як мне не хапала яе падтрымкі, аптымізму. Без Алены маё жыццё не было такім поўным, як раней. Мне неабходна была мая сяброўка, мая дарагая Аленачка. Як жа я магла пакінуць яе ў такую цяжкую хвіліну?! Што я нарабіла? Гэта не яна, а я ледзь назаўсёды не парушыла нашае сяброўства. Я пакінула яе выбірацца з той гразі, у якую яна трапіла. Ці так робяць сапраўдныя сябры? Мне няма апраўдання… Алена, калі ласка, даруй мне!

Я ўжо не чула музыкі, не заўважала скокаў аднакласнікаў, бачыла толькі Алену перад сабою, па якой так сумавала! Я прагна лавіла яе позірк. Па маёй шчацэ пацякла слязінка. Я ўбачыла, што ў вачах Алены таксама бліснулі слёзы. Больш не стрымліваючы сябе, я кінулася да яе і моцна прыціснула да сябе. Адчула, як уздрыгнулі яе плечы. Скрозь слёзы прашаптала ёй на вуха:

— Алена, калі ласка, даруй мне. Калі зможаш, даруй…

Алена выцерла слязінку і засмяялася:

— Якія мы з табой дурныя! Малявалі вочы, напэўна, гадзіну, а цяпер расціраем ўсю прыгажосць.

Я таксама засмяялася. Якой дробяззю была для мяне пашкоджаная фарба на твары! У апошні час я ўжо ведала, што такое дробязі і не звяртала на іх столькі ўвагі, як раней. Напэўна, я стала дарослай.

— Якая прыгожая сукенка! — сказала Алена і агледзела мяне. — Як ты жывеш? Якія ў цябе навіны?

— Ой, дарагая, як шмат я павінна табе расказаць! — усклікнула я. — Нам патрэбен ціхі вугал для гаворкі.

— Не атрымаецца, — усміхнулася Алена. — Па цябе ідуць.

Я азірнулася і пабачыла Руслана. Ён ішоў да нас.

— А што гэта за слёзы былі? — здзіўлена паглядзеў ён на мяне.

— Вельмі бачна? — спахапілася я.

Руслан заківаў галавой. Алена ўзяла мяне за руку:

— Слухай, давай спачатку прывядзём сябе ў парадак, а потым тут сустрэнемся.

Я прыкрыла далонню вочы, каб ніхто не ўбачыў маіх размазаных вачэй, і прайшла да пустога класа. Нязвыкла было знаходзіцца ў ім ноччу ва ўрачыстым уборы. Усё. Гэта ўжо не наш клас. Не нашы светлыя драўляныя парты, не наша цёмная дошка, нібы прапітаная маёй няўпэўненасцю, няёмкасцю пры адказах ля яе. Як нядаўна яшчэ было гэта! А цяпер гудзіць мой выпускны. І рытмічныя песні чуваць з актавай залы ў класе гэтай ноччу.

На апошняй парце стаяла сумка з маімі рэчамі. Раптам Руслан блізка падышоў, сеў на парту і запытаўся:

— Што здарылася?

— Гэта ад расчуленасці. Я хацела з Аленай памірыцца.

— Я не пра вас з Аленай. Што з табой здарылася ў апошні час?

Я зразумела яго пытанне. Я сапраўды змянілася. У маёй галаве нібы пасяліўся маленькі, але магутны кіраўнік, якога мне не хапала раней. Гэты чорцік тлумачыў мне ўсе здарэнні і акалічнасці. А самае галоўнае, ён кіраваў маёй свядомасцю, прымушаў мяне рабіць нязвыклыя ўчынкі і перажываць нязвыклыя пачуцці. Мае жаданні сталі для мяне бясспрэчнымі, вартымі здзяйснення. І, як ні цяжка мне было гэта рабіць, я вымушана была ўсвядоміць сваю сталасць.

— Нічога. Проста мне здалося, што нам з табой будзе цяжка разам. Дый мне трэба расставіць усе кропкі. Я заблыталася. У мяне столькі пачуццяў, але я не магу зразумець іх! Для цябе, я ведаю, гэта здаецца глупствам. Ты, як і ўсе хлопцы, жывеш розумам. А мы, дзяўчаты, слухаем пачуцці, яны для нас — галоўны дарадца. Я пачала сумнявацца, што закахалася ў цябе. Мне патрэбен час, патрэбна сустрэча з Колем, ці хаця б тэлефонная размова. І мне не падабаецца, што ты ўсяк мне перашкаджаеш. Ты ж ведаеш, што я не магу проста пайсці да яго.

Руслан задуменна паглядзеў на мяне. Я стаяла спакойная і стрыманая. На дзіва, яго цёмныя вочкі не абудзілі аніякіх пачуццяў, быццам каля мяне сядзеў іншы чалавек. На валасах амаль не засталося светлых плямаў. Яны адраслі, былі цяпер цёмныя, трохі рыжаватыя. І цеплыня ад гэтага чалавека мне была непатрэбна.

— Я так разумею, ты хочаш расстацца. Ты думала, што праз мяне зможаш бачыцца з Колем. А потым зразумела, што я не лыкам шыты, і ўсё.

Якая подласць так беспадстаўна вінаваціць, амаль ганьбаваць мяне! Зноў адчула расчараванне. Я павінна пакінуць Руслана. Мне было вельмі добра з ім раней. Але я зразумела, што мне не патрэбны гэтыя адносіны. Я не хачу больш сустракацца з ім. Расчараванне і крыўда на сябе пачалі душыць мяне. Я адышла ад Руслана і прамовіла:

— Не, гэта не так. Я думала, што закахалася. Прабач, я зразумела, што памылілася. Я не кахаю цябе, і ты не падыдзеш узамен Колі. Давай расстанемся. Калі ласка, адпусці мяне…

— Расстанемся… — паўтарыў Руслан, быццам тлумачыў сам сабе. Я не глядзела яму ў вочы. Але мне зусім не было цяжка. Усе яго вартасці і прывабнасць ужо даўно згубілі каштоўнасць для мяне. Я зразумела, што марную час побач з Русланам, які б ён ні быў гожы. Мне патрэбен нехта іншы.

Я павярнулася да дзвярэй. І раптам Руслан прашаптаў з незвычайнай злосцю:

— Тады і ён не будзе з табою.

— Вядома, не будзе, — сказала я са здзіўленнем. — У яго ж іншая сям'я. Але мне хочацца развітацца па-людску. Прабач, калі ты мне не можаш дапамагчы, то не звані лепей увогуле.

Я выйшла з класа і пайшла да актавай залы. Нейкі час мяне турбавала дзіўная перасцярога Руслана. Але доўга я не думала аб гэтым. Мне дыхалася незвычайна лёгка. Настрой у мяне быў выдатны. Адносіны з Русланам прыгняталі, але я раней сама не разумела гэтага. Руслан быў для мяне толькі сябрам, ад якога я запатрабавала нечага большага. А можа, ён меў рацыю, і я сапраўды трымала яго, як апошнюю нітачку, што звязвала мяне з Колем.

Як бы там ні было, я разумею, што ўсе пачуцці да Руслана былі выдуманыя.

І, галоўнае, я нарэшце кіну курыць.

З архіва інтэрнэт-паведамленняў:

«Фенікс:

*Няўжо рассталіся? Чаму? Ты нават з Дзімам два гады трывала!*

Кацяня:

*І шкадую пра гэта. Калі б я была вольная, хутчэй бы дабралася да Колі.*

Фенікс:

*Зараз гэта ўжо не мае сэнсу. Ты ўсё роўна ўжо нічога не зробіш. Трэба было раней дзейнічаць. А Руслан добры хлопец. Можа, яшчэ былі б нейкія пачуцці?*

Кацяня:

*Якія пачуцці? Ён устаўляў палкі ў колы, калі я сустракалася з Дзімам. Асабліва, пасля таго, што я пачула ад яго на развітанне, нічога не можа быць!*

Фенікс:

*Ты змянілася. Гэта на цябе так паўплывала адсутнасць мяне? І як ты цяпер зловіш Колю?*

Кацяня:

*Не ведаю, але злаўлю абавязкова».*

***14 ліпеня 2010 г. Апошні запіс***

Як я паспела на сваё каханне.

Галоўнай справай гэтага лета стала маё паступленне. Я доўга цягнула з выбарам спецыяльнасці, таму мне давялося шмат падумаць і паездзіць. Ды ўвогуле, я ўвесь час была дзесьці па-за домам. Яшчэ я часта гуляла з Аленай. Яна пакінула

наркотыкі ў мінулым. У яе надзвычай моцны характар. Аднойчы Віталь напісаў ёй з турмы, але яна вырашыла не адказваць. Я ніводнага разу не ўспомніла аб яе залежнасці. Гэтай чорнай плямы на яе лёсе нібы не стала. Мы цяпер жылі, як раней. Я адчувала яе падтрымку. Увесь час, пакуль мы не мелі зносін, мне быццам чагосьці не хапала. А цяпер мы былі разам. І ад гэтага я была амаль шчаслівая.

Акрамя таго, я пачала падабацца сабе. Ледзь не кожны дзень я заўважала станоўчыя змены ў сваім характары. Даходзіла да таго, што я магла вярнуць прадаўшчыцы ў краме няякасныя ці пратэрмінаваныя прадукты. Алена захаплялася мною. Пад яе ўплывам я вельмі хутка кінула курыць. Гэта было так лёгка, што я дзівілася, чаму раней не магла гэтага зрабіць.

Я доўга ламала галаву, як мне падысці да Колі. Я зноў гадзінамі глядзела ў акно, чакала Колю з Кацяй, а лепш — аднаго Колю. Але не бачыла нікога. Неяк, набраўшыся смеласці, я выправілася да яго. Я нават да слова завучыла, што скажу Каці, калі тая адчыніць дзверы. Але мне адчыніла Колева маці. Я не чакала гэтага, збянтэжылася. Колі не было дома. Мне стала сорамна. Я нічога больш не спытала, нават яго нумар тэлефона.

Я спадзявалася, калі Руслан адыдзе ад нашай апошняй размовы, злітуецца з мяне і ўчыніць нам з Колем спатканне. Але дарэмна. Як я ні ўгаворвала майго суседа, той адмовіўся мне дапамагаць. Руслан знайшоў адгаворку, быццам яны з Колем ужо даўно не сябруюць, і нумар ён сцёр з тэлефона. Я ведала, што Руслан хлусіць.

Гэта аказалася так цяжка: сустрэцца з хлопцам з суседняга дома! Аднойчы я пабачыла Колеву маці, калі тая выходзіла з пад'езда. Я ўзрадавалася гэтаму і хутка пабегла да іх кватэры. Але мне ніхто не адчыніў. Колі таксама не было.

Я знайшла яго дамашні нумар, званіла. Але ён ніколі не падыходзіў. Часцей ніхто не браў трубку. Адзін раз адказала яго маці, але я зноў спалохалася, што пра мой званок даведаецца Каця. Давялося кідаць трубку і шукаць іншыя варыянты. Я мела падазрэнне, што Коля ўжо не пражывае тут.

Я спрабавала праз знаёмых даведацца, дзе жыве Каця, пачала нават наладжваць сувязь у інтэрнэце з хлопцамі, што скончылі разам з Колем каледж. Пакуль што мне больш за ўсё дапамаглі бабулькі. Яны падзяліліся са мною інфармацыяй, што бачаць гэтага хлопца рэдка, але рэгулярна. Ходзіць ён адзін, без дзяўчыны, бывае, што заходзіць у мой пад'езд.

Я не ведала, што і думаць. Калі Руслан не хлусіць, і яны з Колем сапраўды не сябруюць, то што Колю рабіць у маім пад'ездзе? Няўжо ён шукае мяне? Гэта магчыма, бо я рэдка з'яўлялася дома ў апошні час. Але куды падзелася яго дзяўчына? Калі ён кінуў Кацю ў такім становішчы, нават маё каханне не вытрывае такой подласці. Гэтага не магло быць. Мне ўжо надакучыла невядомасць, я пачынала вар'яцець ад яе. Няўжо так цяжка знайсці хлопца з дома насупраць?

Сёння ў Алены была ўрачыстасць. Яе брат назаўтра выпраўляўся ў армію. З такой нагоды ў іх было сапраўднае свята. Кватэру запоўнілі шматлікія сябры Сашы. Усе пілі, жартавалі. Было весела. Толькі ў мяне быў не жартаўлівы настрой. У чарговы раз я абмеркавала з Аленай далейшыя баявыя планы. Алена дзівілася з маёй упартасці і смеласці. Але яна падтрымлівала мяне ў маім жаданні яшчэ раз пайсці да яго маці. Алена была пераканана, што ў гэтым няма нічога заганнага. Колева маці абавязкова дапаможа нам сустрэцца, ці хаця б падрабязней раскажа пра яго справы. Калі б я не вярталася сёння так позна ад Алены, я зайшла б да Колі. Але гадзіннік паказваў дваццаць тры гадзіны. Размову трэба было адкласці да раніцы. З новымі надзеямі я ўпоцемку дабіралася дахаты. На вуліцы ўжо амаль нікога не было.

Як заўсёды, перад пад'ездам я паглядзела на прыцягальныя вокны насупраць. Яны былі асветлены, але зацягнуты штораӣ. Шостым пачуццём я здагадалася, што Коля зараз там. «Можа, не так і позна?» — падумала я. Пастаяла яшчэ хвіліну і вырашыла: не позна. І так ужо надта зацягнуўся гэты незразумелы перыяд.

Мне трэба было толькі пакінуць дома сваю сумку. Ахопленая рашучасцю, я пабегла па лесвіцы да сваёй кватэры. На перадапошнім пралёце я пачула нейкае шорганне. Я пайшла цішэй.

Якое ж было маё здзіўленне, калі я пабачыла Руслана, што старанна выціраў ступені перад маёй кватэрай! Я смялей выйшла да яго:

— Руслан! — занепакоена ўсклікнула я. — Што ты робіш?

Руслан ледзь не падскочыў ад нечаканасці. Ён разгублена паглядзеў на мяне і зрабіў крок наперад.

— Што, не бачыш, жыццё табе псую, — з'едліва прабурчаў хлопец.

— Якое жыццё? Ты што? — я пачала разумець, якую на самай справе ролю ў маіх цяганнях выконваў Руслан.

У мяне дух заняло ад нечаканай здагадкі. У імгненне я падскочыла да Руслана і штурхнула яго. Ён паспрабаваў схапіць мяне за рукі, але я была ўжо не тое слабое бязвольнае кацяня, як раней. І ніхто ўжо не здолее мяне абмежаваць. Я стрымала яго адным разлютаваным поглядам.

— Лепш ідзі дахаты! — ціха, але амаль раз'юшана загадала я.

Руслан не запярэчыў. Ён хацеў яшчэ паспрачацца, нават вылаяцца. Але не асмеліўся. Зноў прабурчаў нешта незразумелае, але вельмі грознае, і гучна зачыніў за сабой дзверы.

Я кінула позірк на ступені. Па ўсёй вышыні пралёта былі зроблены запісы белай крэйдай. Але шмат чаго Руслан ужо паспеў выцерці. Заставаліся дакладнымі толькі некалькі сказаў. Нават не сказаў, а ўрыўкаў. Гэта выглядала прыкладна так:

*…чакаў цябе, званіў, пакідаў пісьмы. Надакучыла…*

*…ведаю, што ты з Русланам, але хоць гэта не пакінеш без увагі…*

*…сёння апошні вечар…*

Так. У гэтую хвіліну ў мяне не было часу аддавацца пачуццям. А зараз я павінна нешта хутка рабіць, вырашаць. Апошні вечар? Але Руслан мне ўжо нічога не скажа. Гэта не подласць, гэта зайздрасць. Мусіць, ён стаіць там, за дзвярыма, глядзіць праз вочка на маю збянтэжанасць і ўсміхаецца. Ён усё ж такі цягаў пісьмы з маёй скрыні. Ён не сказаў Колю ні майго сапраўднага нумара, ні пра наша развітанне на выпускным. А дома я з'яўлялася так рэдка, што дарэмна было чакаць мяне і званіць на дамашні тэлефон.

Я падышла да дзвярэй Руслана і выразна пагардліва прамовіла:

— Ты самая вялікая свіння, якую я калісьці ведала.

Я павярнулася да лесвіцы. Што азначае «апошні вечар»? Трэба неадкладна ісці да ЯГО.

Я выйшла з пад'езда. Хутка даляцела да яго дзвярэй. Мне было ўсё роўна, што скажа яго маці, што скажа Каця. Я павінна была пабачыць Колю, раз ён сам мяне шукаў. Няма чаго таіць ад самой сябе, я кахаю яго гэтак жа палымяна, як і два гады таму. І, здаецца, што ўсё жыццё я буду памятаць гэтае каханне.

І раптам пачула музыку. Я спынілася, паглядзела на гадзіннік. Час быў позні, але за дзвярыма гучала музыка, былі чутны вясёлыя галасы, п'яны смех.

…Сумка выпала з маёй рукі. Я адчула, што нават лесвіца здрыганулася пада мною.

— Вяселле?.. — прашаптала я сама сабе.

Спазнілася. Столькі часу мне трэба было патраціць марна, каб спазніцца. Мне больш няма чаго тут рабіць. Я падняла сваю сумку і павольна пацягнулася дахаты праз ціхі цёмны двор. Больш не будзе нічога. Але на гэты раз я была ўжо мацнейшая. Я не раўла адчайна, а сцяла сківіцы і пра сябе стрымана глытала адну слязінку за другой. Балюча.

Толькі дабрацца да ложка, і ніколі, ніколі больш не глядзець у акно.

— Дзень на дварэ, а ты што, яшчэ спіш? — крычала мне з тэлефона Алена.

— Чаго раздзіраешся? Пажар там, ці што?

— Зараз будзе табе пажар! Прачынайся лепей. Я такую навіну для цябе маю.

Ад упэўненага і бадзёрага голасу Алены я пачала прачынацца. Паступова да мяне вярнулася свядомасць, а з ёю ўчарашняя пранізлівая музыка за ЯГО дзвярыма. Я зноў заплюшчыла вочы. Лепш мне было не прачынацца. Вельмі цяжка ўставаць насустрач новаму дню, які цяпер меў значна менш сэнсу.

— Што там ў цябе? — амаль без цікаўнасці спытала я.

— Ты хоць памятаеш, што я сёння брата ў армію адпраўляю?

— Ну, — прабурчала я. — Шчаслівай яму дарогі!

— Добра. Па-іншаму спытаю, дзе ты далей будзеш Колю шукаць?

— Нічога не разумею. Але больш яго шукаць не буду.

— Цяпер я нічога не разумею, — Алена змяніла тон. — Ды цяпер ты яго і не знойдзеш у горадзе. Ён будзе служыць разам з маім братам у адной часці.

— Ты нешта не тое кажаш, — мой твар сам пачаў крывіцца.

— Гэта ты не ведаеш, што кажаш. Каця аказалася сапраўдным пацучанём. Яна падманула Колю, прыдумала цяжарнасць, але калі падман выкрыўся, утрымаць яго больш не змагла. Яны разышліся, і ён пачаў шукаць цябе. А Руслан яго адагнаў, папрасіў трымацца далей. Коля спачатку згадзіўся, але потым усё ж спрабаваў дабрацца да цябе. Ён лічыў, што ты ігнаруеш яго. Колькі ён разоў хадзіў да цябе, звар'яцець можна! А ты ўвесь час то ў мяне сядзела, то па справах сваіх цягалася. Ты мяне чуеш?...

Не, я ўжо не чула Алену. Я хутка нацягвала вопратку. Так, учора быў апошні вечар. У Колі былі тыя ж падставы для позняй гулянкі, што і ў Аленінага Сашы.

Я не заўважыла, як выскачыла з кватэры. Я пабегла праз двор да аўтобуснага прыпынку. Я была ўпэўнена, што менавіта сёння мне павінна нарэшце пашанцаваць. Мне не хацелася думаць, што будзе, калі я ўсё ж спазнюся, тады паўторыцца здарэнне на рэчцы. Асабліва цяпер, калі мне дакладна далі другі шанс. Я ўжо не стрымлівала слёзы. Я бегла і ледзь паспявала выціраць іх са шчок. Я зразумела, што гэта было і застаецца маім каханнем, першым і адзіным у жыцці. А Руслан быў для мяне толькі сябрам, служыў суцяшальнікам. Можа, і была кароткая закаханасць, але ніяк не магла параўнацца з пачуццямі да Колі, якімі я жыла ўжо больш двух гадоў і працягваю жыць…

Мне пашанцавала: каля прыпынку стаяла таксі з расчыненымі дзвярыма. Я хутка скокнула ўнутр.

— Да ваенкамата нашага раёна… Вы ведаеце, дзе гэта? — паглядзела я на вадзіцеля і працягнула яму ўсё, што было ў кашальку.

— Зразумела, ведаю, — адказаў таксіст. — Сёння ўсе туды едуць.

Машына хутка развярнулася і паехала. Я прытулілася да шкла. Слёзы не высыхалі. У галаве мільгалі сотні думак, што зліваліся ў адно жаданне. «Толькі б паспець! Толькі б паспець! — адчайна думала я. — Толькі паглядзець яму ў вочы,

толькі б сказаць, што кахаю яго!» Я прагна глядзела на гадзіннік. Час, спыніся хоць на хвіліну. Я так баюся спазніцца! Ён павінен даведацца, што па-ранейшаму любы мне.

Я выскачыла з машыны каля ваенкамата, агледзелася. Вакол будынка стаяла шмат людзей, цэлы натоўп бацькоў і дзяўчат. Дзе шукаць Колю? Я ў адчаі закрыла твар рукамі і павярнулася ў другі бок. Відаць, мне не суджана знайсці яго. За сваю легкадумнасць я павінна быць пакарана яшчэ больш доўгім расстаннем.

Што за глупства! Мне можа быць суджана толькі тое, што я сама сабе вызначу. Я сама павінна змагацца з цяжкасцямі. Нельга здавацца, прымаць іх, як дадзенае. Трэба шукаць Колю, зрабіць усё, каб знайсці!

Я павярнулася да натоўпу. Дзіўна, але мне здалося, што я павінна застацца на месцы і чакаць. Я выцерла слёзы і затаіла подых. «Коля, дзе ты?» — у думках спытала я.

І раптам я пабачыла яго. Ён глядзеў на мяне. Я падышла бліжэй. Мы моўчкі стаялі насупраць.

— Я кахаю цябе, — сказала я. — Я кахаю цябе, чуеш?! І я буду цябе чакаць…

Я павінна была сказаць яму гэта даўно! І мне вельмі пашанцавала, што я сказала гэта зараз.

Ніколі мае слёзы не былі такімі пякучымі. Яны градам каціліся па маім твары. Коля мне нічога не адказаў. Ён глядзеў на мяне, быццам не мог нагледзецца. Ён нават нічога не спытаў, і так усё зразумеў, выцер мае слёзы і пяшчотна пацалаваў.

Коля ўсміхнуўся і мацней прытуліў мяне. Мы зноў разам. Мой дзённік скончаны. Больш мне няма чаго расказаць. Мне засталося чакаць яго паўтара гады. Якая дробязь у параўнанні з цэлым жыццём!

Я нідзе не адзначу ні свайго імя, ні прозвішча. Таму што мае запісы не ўнікальныя. Тысячы дзяўчат аказваюцца на маім месцы. Можна назваць мяне любым жаночым імем, і гэта не будзе памылкай! У кожнай дзяўчыны ёсць першае каханне, кожная дзяўчына ідзе да яго па-свойму, кожнай трэба разабрацца з сабою, навучыцца пераадольваць сябе, кожная знаёміцца з крыўдай. Я — звычайная дзяўчына, самая звычайная, такая, як усе. І мае перажыванні таксама звычайныя для сямнаццацігадовых дзяўчат. І хаця заканчваюцца гэтыя гісторыі па-рознаму, вынік у іх адзін: мы сталеем.

Я пакідаю папку са сваімі запісамі на ўтульнай лаўцы ў глыбіні гарадскога парку. Можа, хто-небудзь зацікавіцца, як жывуць і кахаюць маладыя дзяўчаты. Няхай ён знойдзе мае сшыткі і зробіць прыгожую аповесць пра страчанае або знойдзенае каханне…



Віктар ЯРАЦ

# ВЫТОКІ РЭХА

*Паэма*



***Віктар Ярац нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна. Працуе на кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Паэма прадстаўляецца да свята Дзяды.***

***Памяці каваля і механіка
Трафіма Захаравіча Шалейкі —
майго дзеда***

* * *

Ад знесенай хаты сасновай — ні следу.
Дняпроўскім вятрам тут вясёла ці не
Прыгадваць дыханне маўклівага дзеда
І промень, што грэе дух смольны ў сцяне?

Нібы не было аніколі тут болю,
Нібы не было тут ні смутку, ні бед,
Ні радасці-смеху…
Тут чый запавет
Травой прарастае праз час і праз долю?

Стаю на вятрах.
Тут ім —
Вольная воля…

## ЯБЛЫНІ РАЗВІТАННЯ

Сіратлівыя яблыні ў дзедавым садзе
Сустракаюць маўчаннем-дакорам вясну.
Болей іхніх ствалоў дзед вачмі не пагладзіць —
Пад магільным крыжом назаўсёды заснуў.

У чаканні расстання (карой чуюць гэта)
Кожны дзень на апетай вятрыскам зямлі —
Да яе і антонаўкі, і ранеты
Моцна так прыраслі.

Ці паспеюць, пакуль карані экскаватар,
Не падрэжа каўшом, прыгадаць тыя дні,
Дзе вясёлыя птахі кружылі над хатай
І над завяззю юных шчаслівых галін?

Свет жывых галасоў павузее збяднелым.
Ці прыпомніць у горадзе дзедаў унук,
Што калісьці кашуляй чапляўся за сук,
Як без лесвіцы лазіў за яблычкам
спелым?

Сіратлівыя яблыні ў садзе знямелым…

**КУЗНЯ**

Кузня дзедава звонам разложыстым
Абдымала аблогі снягоў.
І на свята, і ў будзень трывожлівы
Выкрасалі падковы агонь.

Сціхла кузня жарынкай-вугельчыкам.
Толькі час п’е, як п’юць з гладыша
Сок-бярозавік, неба спрадвечнае…
Ці маладзіцца сінню душа?

**ГРАМАФОН**

А на гарышчы дзедаўскага дома
Рэліктам даўніны між павуціння,
Падручнікаў, якія ў школу мама
І брат яе насілі не ў партфелях —
У торбачках, пашытых з палатна
(а ткалася яно зімой на кроснах),
Запылены гадамі грамафон
Аб нечым недапетым, таямнічым,
Аб нечым даўнім, пракаветна даўнім,
Маўчаў, атулены з усіх бакоў
Абноскамі —
ватоўкамі, кашулямі, валёнкамі
Абуткам —
ад якога толькі назвы
Адны і засталіся жыць пад дахам,
Між рознага сялянскага начыння:
То рэшата дзіравае, то зломкі
Начовак і таўкачыкаў драўляных,
То кола самапрадкі спрацаванай,
То полаз —
повязь зім, даўно забытых…

Той грамафон збіраў калісьці ў святы
Ўсю вуліцу — дзівіўся люд мясцовы,
Зачараваны песень карагодам,
Якія гучна, вольна так плылі
Ў шырокі свет з шырокай гарлавіны…

Ці з Кіева, як падарунак шчодры,
Яго прывёз малодшы брат Арцём
(ён майстрам быў на «Арсенале»
слынным),
Ці сам яго купіў мой дзед Трафім
У Рэчыцы, у Гомелі ці з Мінска —
Спытаю ў мамы (толькі б не спазніцца!..)

Змоўк грамафон,
ні гуку не прабіцца
Між голасу
вясновага шпака,
Між голасу
Зімовае сініцы.

**ДЗЁН ДАЎНІХ ЗВОН**

Мінулых, даўніх дзён
Вячысты звон
Аднойчы ці зімой, ці ўгрэтым летам
Пакліча ноч,
Дзе сніць Палессе сон
Пад небам недасяжных самацветаў.

Аб чым гучыць яго спрадвечны сказ
У час распаду цэзію нямога
Парой каляднай і ў мядовы Спас —
Ці ведаюць сцяжына і дарога?

Пытае звон пра што ў жывых людзей
І ў ручнікоў на пахавальным вечы?

Зімой і летам, уначы і ўдзень
Звон — лекар старадаўні —
душы лечыць.

* * *

Перапёлчына сэрца,
Адгукніся праз дым далячыняў

І пакліч маё сэрца
Падслухаць калоссяў сакрэт
У тым полі, дзе злак
Расінак вачыма
Светла моліцца свету
І за грукат натомленых трас,
І за вытрымку ў шахтах ракет.

**САМАВАР**

Быў самавар, як медны цар,
Як бог вады, якая
Гарачы нараджала пар
І булькала-скакала.

Азяблай мухай дзень гудзеў,
Сняжок на ліст лажыўся
Чым халадней — ярчэй вадзе
Раздзьмуты жар маліўся.

Лядок зацягваў звонкі дол,
Журыўся позні вырай —
Дзед ставіў самавар на стол
На ўсе нагі чатыры.

Крутнёш за кранік — і напеў
Імклівай ручаінай
Спачатку фыркнуў і журчэў
Пасля — як быць павінна.

Са сподка, шклянкі ці карца
Смакуй пітво без хмелю,
Пацей, нібы даеш нырца
Ў купелі перагрэлай.

Хваробы ўсе далей гані.
Варэннем, цукрам, мятай
Падсаладзі і тыя дні,
Дзе горычы і страты.

І слова жывіцца, і дух
Глыбіннай сілы граем,
І круцяць свой музычны круг
Мелодыі над краем.

Дзе сёння дзедаў самавар?
Унукі праміргалі...
Плыве ўспамін, як даўні пар,
І адплывае ў далі...

**...І БУДЗЕ ЗНОЎ**

На сцежцы на якой зноў апячэ
Святлом вачэй і восенню імглістай,
І ацалелы вечнасці ручэй
Каго прыпомніць варажбой бруістай?

*** * ***

Парадніў сваё сэрца з бярозамі —
Сам прырос да зямлі, на якой
Сівізной і маршчынаў барознамі
Век адорваў рукой не скупой.

Парадніў сваё сэрца з вышынямі —
Гэта ў іх, не ў магілах глухіх,
Вочы продкаў з вачамі птушынымі
Свецяць светла над светам жывых.

Парадніў сваё сэрца з крыніцамі —
Чую ў іх галасы даўніны,
Той, дзе будзяць стагоддзяў званы
Неба хмарнае з бліскавіцамі.

Парадніў сваё сэрца з маўклівымі
Валунамі. Дарог ветраном
Тут павольныя і імклівыя
Гукі ўзважвае ноччу і днём.

*** * ***

*Але застаецца рэха*
*Ўніз адплываць па рэках.*
Федэрыка Гарсія ЛОРКА

На світанні вымыецца плынню,
Вымаліць прызнанні ў поўдзень сінню
Рэха —
Неспакой зямлі і высяў, —
Продкаў галасы ім абвіліся…

*Анатоль КУДЛАСЕВІЧ*

# ХРЫСТОСІК
## Гісторыя вар'яцтва, або Споведзь цвярозага чалавека

Ты ніколі не быў Богам? Дзіўна. Няўжо ніводнага разу за жыццё так і не адчуў, што творыш гэты свет, што ён створаны для цябе і дзеля цябе: і сонца ўзыходзіць, і зямля круціцца толькі таму, што ў гэты час так хочаш ты? Ты — стрыжань, на якім трымаецца светабудова. З табою так ніколі не было? Тады ты, пэўна, з гэтых прымітыўных, дакладней, прасцейшых і аднаклетачных, якія не могуць увабраць у душу сусветы. Амёбы, нікчэмныя стварэнні. Ім бракуе ўяўлення, той адметнай уласцівасці, якой чалавек адрозніваецца ад жывёліны.

Што хачу сказаць… Я быў Богам. Так, і не аднойчы. Некалькі разоў адчуваў сябе паўнаўладным гаспадаром гэтага і таго свету. Так, хоць даволі дзіўна гучыць такое прызнанне, але гэта праўда. Праўда ў тым, што я так пра сябе думаў. А як насамрэч адбывалася, тое нікому не вядома.

Свет звар'яцеў… Апошнім часам часта чуем гэтую фразу. А ты ведаеш, што калі чалавек прыходзіць у здаровы розум, то заўважае, што ўсе паз'язджалі з глуздоў. Так бывае. Калі падладжваешся пад шматмоўную шэрую масу мільярдаў звычайных людзей, нікому не замінаеш, нікому не пераходзіш дарогу — нікому і не перашкаджаеш, але, як толькі ў цябе атрымліваецца зразумець штосьці крыху па-іншаму, арыгінальней за астатніх, становішся раптам упоперак іхняй дарогі, як костка ў горле, ні праглынуць, ні выплюнуць ім цябе немагчыма…

Што такое прыйсці ў здаровы розум? У здаровым розуме ты ўсё можаш, на ўсё хапае моцы і на ўсё гатовы адважыцца, пачынаеш ведаць усё пра ўсіх і пра сябе, адчуваеш неймаверную моц: нават зоркі можаш пазрываць з небасхілу. Вось тады ты і разумееш, што ты не проста сабе чалавечак плюгавы, а ты — Бог! І людзі пачынаюць цябе пабойвацца, страшна становіцца ім: а раптам ты сапраўды што-небудзь такое зробіш і ўсё абрынецца… Скончыш адным махам усё, і яны знікнуць раптоўна. О, як яны баяцца смерці! Ім жа так хочацца жыць. Не ўцямяць яны, дурныя, таго, што ведаеш ты і што яны ніколі не змогуць уведаць, бо не дарасла да



***Анатоль Кудласевіч нарадзіўся 5 верасня 1961 года ў вёсцы Таўмачава Столінскага раёна. Паэт, празаік, бард. Арганізатар першага «Фестываля беларускай бардаўскай песні». Рыхтаваў і праводзіў аўтарскія праграмы на тэлебачанні і радыё.***

здаровага розуму іхняя ведалка. А для цябе ж не сакрэт, што смерці няма, бо ты ж Бог, і не разумееш: чаго яны так трасуцца над сваім мізэрным жыццейкам? А ўсё таму, што яны не ўвайшлі ў здаровы розум і лічаць, што смерць праглыне іх. Калі ёсць Бог, і гэты Бог — ты, то чаго табе баяцца? Ты ж Усеўладарны і Усемагутны, як і належыць Богу, ты канец і пачатак, Альфа і Амега… Ты ва ўсім, і ўсё ў табе. Хаця Бог і Адзіны, але зусім не адзінец ён у сусвеце, як вош на лобе. Бог Айцец, Бог Сын і Бог Святы Дух. Адзін, але ў трох асобах. Нават, калі ты толькі Сын, то ёсць жа яшчэ і Айцец, Ён абароніць Сына. Або, напрыклад, ты Айцец, а ў цябе ёсць сын — і зноў жа ты не сірата на зямлі, бо ёсць яшчэ і Святы Дух — таксама Бог, і ён не дасць цябе ў крыўду. Заўжды ёсць хтосьці на небе. Сумна было б Богу ў адзіноце. Я ведаю гэта.

Калі ты ніколі не быў Богам, то і чалавекам цябе цяжка назваць. Не вырас яшчэ ў чалавека. Аднаклетачнае. Ведай, калі ты становішся Богам, свет людзей раптам вар’яцее, але ж яны ніколі не прызнаюцца ў гэтым, яны пакажуць на цябе пальцам і скажуць: «Ён з’ехаў з глузду!» Скажуць, што ты звар’яцеў, сцвярджаючы тым самым, што яны разумныя. Іх шмат. Вельмі шмат аднаклетачных, безліч, іх — легіёны. Але не па сіле ім увабраць у сябе ўвесь сусвет, як гэта зрабіў ты. Вось і падазраюць, што ты даведаўся пра іхнюю ўбогасць, забітасць і беспадстаўныя страхі робяць цябе дурнем. Так ім лягчэй, так прасцей для многіх. Бо, калі ты разумны, то, выходзіць, што дурныя яны? Цяжэй за ўсё прызнацца, што яны чагосьці не могуць зразумець, не могуць на штосьці адважыцца, а больш за ўсё баяцца яны выглядаць дурнымі. А ты ж ведаеш, што не дурны, бо вельмі шмат зразумеў, чаго яны ніяк не хочуць уцяміць. Ты пазбавіўся страху і ўсё можаш. І ўсё ведаеш пра іх і пра сябе. А яны скручваюць табе рукі і вядуць на Галгофу. Кожны па-рознаму. Хто на што здатны. Аднаго на крыжы распінаюць, а другі атрымлівае свае трыццаць серабром. Аднаму цвікі забіваюць у далоні, а другі яму воцат на дзідзе падносіць і ў рот пхае... Кожнаму сваё. У кожнага свая Галгофа.

Першы раз я стаў Богам у дваццаць тры. Нарадзіўся па-новаму. Да гэтага часу быў такім жа, як і ўсе астатнія, нічым не вылучаўся — звычайны вясковы хлопец. А вось прыйшоў з войска і закахаўся. Безумоўна, яна была самай лепшай сярод жанчын. Самай прыгожай. Яна была багіняй. Ёй лёгка было ператварыць мяне ў Бога. У цябе хіба так ніколі не было? Было… Калі ты сапраўдны, то, безумоўна, было. Тады ты ведаць павінен, што багіні нараджаюць толькі багоў. Калі б каханне было шчаслівым і, як належыць яму, закончылася шлюбам, магчыма, я ніколі і не даведаўся б, што ў маёй душы спіць Бог, спіць і бачыць сны пра мяне сапраўднага: калі ж гэта я абуджуся да высокіх здзяйсненняў. Апускаю акалічнасці, каб захаваць сюжэты для будучых аповесцей, распавядаю толькі пра тое, што чалавек адчувае, калі становіцца Богам. Або хаця б толькі думае, што ён — Бог. Што адчувае чалавек, калі яго душа прачынаецца да ўсеабдымнай Любові? А ты ўжо сам глядзі: ці сапраўды чалаваек звар’яцеў, ці свет прытрымліваецца такіх дурных правіл у штодзённым жыцці, што не можа трываць побач з сабою жывога і нармальнага чалавека. Так. Яны і Хрыста не сцярпелі. Цяжка было аднаклетачным з Богам Сынам. Яны і Ісуса палічылі вар’ятам, але ўсё ж круціліся-сумняваліся, думалі-гадалі: «А раптам гэта праўда? Бо адкуль ён узяў такую ўпэўненасць і дзёрзкасць?» Вось і прыбілі да крыжа: «Калі ён гаворыць праўду — нічога з ім не здарыцца». Спужаліся, аднак, калі ён узяў і ўваскрос: да цяперашняга часу ратуюцца яго словам. Вось такія яны, людзі. За дзве тысячы гадоў нічога не змянілася, хіба што толькі цяпер тых, хто прыходзіць у стан Хрыста, не распінаюць на крыжах, не прыбіваюць цвікамі да

дрэва. Баяцца. А табе, можа, і лягчэй было б, калі б прыбілі. Гэта дало б іншую сілу. Страшна ім: раптам ты зноў уваскрэснеш і яны пераканаюцца, што ты гаварыў праўду. Ты нічога не баішся, ты ведаеш: смерці няма. Ведаеш: Айцец Нябесны не дасць у крыўду таго, хто жыве па запаветах. А яны жахаюцца апошняга суда, баяцца агаліць сваю душу, праўду гаварыць саромеюцца, таму што брудная іхняя душа. Яны, магчыма, і не кахалі ніколі, таму і не разумеюць цябе.

Каханне абудзіла шмат пытанняў, узняло шмат праблем, якія раней не з'яўляліся для мяне ўвогуле праблемамі. Жыў сабе і жыў, як усе людзі. І вось мой розум прачнуўся. Калі чалавек абуджаецца да жыцця, на ўсё спрабуе самастойна знайсці адказ. Пытанні паўстаюць на яго шляху, як бастыён, які ён павінен зраўняць з зямлёю, разабраць па цагліне, каб ачысціць сабе дарогу ў будучыню. Вось так і я ў той час: усё намагаўся вытлумачыць, ва ўсім разабрацца, раз і назаўсёды вырашыць усе праблемы, не разумеючы таго, што жыццё не стаіць на месцы, а кожны новы дзень падкідвае ў топку розуму новыя пытанні, як паленне ў агонь. Я спрабаваў знайсці адказы ў кнігах: ад кніжкі да кніжкі ўрэшце дабраўся да Вечнай Кнігі, да Евангелля. І ўсё раптам стала зразумелым: Хрыстос такі ж чалавек, як і я. Яго таксама ніхто не разумеў. Ніводная душа, нават родная маці. Людзі сцвярджаюць, што ён — Бог. А калі мяне ніхто не разумее, то што ўжо гэта значыць: што я таксама Бог? Не. Я чалавек. Але гэтак жа, як і Хрыстос, хачу каб усім было добра і нікога не хачу крыўдзіць ды зневажаць. Хіба гэта дрэнна? Усе гавораць, што гэта добра, чаму ж тады яны так раздражняюцца, калі прыпадабняюся Хрысту? Чаму тады я ўсім перашкаджаю? Няўжо дабром можна нашкодзіць? Патрэбна быць злым, жорсткім, думаць толькі пра сябе, рабіць так, як гэта штодзённа робяць яны? Ілгаць кожным словам і ўчынкам? Дзе ж тады праўда? Гаварыць адно, думаць другое, рабіць зусім іншае? Што дрэннага ў тым, што я хачу, каб мае ўчынкі не разыходзіліся з маімі словамі і пачуццямі? Каб пачуваць сябе суцэльным, каб розум не быў разадраным на часткі. Я хачу праўды! Чалавек з дваістымі думкамі не можа ісці прамым шляхам, не можа спазнаць ісціну. Хачу жыць так, як б'ецца сэрца. Хіба гэта дрэнна? Добра, кажаце вы. Чаму ж тады не робіце так, як гаворыце? Я хлусіць не ўмею і хачу застацца праўдзівым чалавекам. Жыць праўдзіва, гаварыць праўдзіва, рабіць і адчуваць праўдзіва, хіба такое жаданне робіць чалавека вар'ятам? Тады скажыце, дзе вы падманваеце і дзе вы праўдзівыя? У словах ці ў справах?

Вось такія супярэчнасці паўсталі перада мною ўпершыню ў 1984 годзе. Як ляціць час… 30 гадоў прайшло. А ўсё не залячыў час маю душу, не загаіў развярэджаныя раны — баліць і баліць душа, таму што жывая. А ў вас жывая? Хоць і не такая ўжо няўрымслівая, не такая даверлівая і безаглядная, як была некалі, не такая неўтаймоўная — паспакайнела з гадамі, але ўсё ж такі жывая.

Я даўно чакаў вялікага кахання. Прадчуваў. І яно прыйшло. Так заўжды: калі прагнеш чаго-небудзь, яно надыходзіць. Абавязкова здзяйсняецца. Калі не наступае жаданае, значыць, жаданне было не надта вялікім, кволенькім. Кволы парастак не прабіваецца праз асфальт.

Мая каханая мяне не разумела. Яна жыла ў Гомелі, а я ў Янаў-Палескім. Некалькі разоў ездзіў у Гомель, каб высветліць адносіны, але яны толькі яшчэ болей азмрочваліся і заблытваліся. Пакіну акалічнасці адносін для іншай аповесці, скажу толькі, што нейкім невытлумачальным чынам я прыйшоў да высновы: яна павінна прыехаць да мяне. «Яна ж таксама кахае!» — думаў я і знаходзіў пацверджанне ў


Малюнак В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.

яе паводзінах, інтанацыі сказаных слоў, ва ўсмешцы, бадай, ва ўсім. Палкае жаданне сустрэчы ператварылася ў цвёрдае пераканане.

Я працаваў ветфельчарам на свінагадоўчым комплексе «Баравіца», што ў Іванаўскім раёне. «Яна прыехала ўжо! — гэтая думка падпаліла маю душу. — Зараз у маёй сястры ў Іванава». Зайшоў у аптэку і набраў нумар тэлефона:

— Надзя, Ірка прыехала?

— Якая Ірка? Толя, што ты вярзеш?

— Якая-якая… Мая Ірка зараз у цябе?

— Няма ніякай Іркі. Чаму яна павінна быць у мяне? Выкінь ты яе з галавы.

— Надзя, — не верыў я, — не падманвай мяне, гавары праўду. Я ведаю, што яна ў цябе. Дай ёй трубку, — патрабаваў я.

Тое, што я праз адлегласць даведаўся, што Ірка прыехала, павінна было стаць відавочным сведчаннем і вялікім доказам маёй любові. Уяўлялася, як здзівіцца Ірка і паверыць, што я кахаю яе так, як ніхто на свеце нікога не кахаў.

Але сястра толькі смяялася ў трубку, а мне здавалася, што яны жартуюць. Верагодна, яны ўжо пасябравалі з Іркай… Яна ж у мяне такая цудоўная, мая Ірка, ды і сястра таксама малайчына, у іх вельмі шмат агульнага.

Я адпрасіўся з работы і паехаў у Іванава. Вось будзе здзіўляцца Ірка! Нарэшце яна ўпэўніцца, як моцна я кахаю. Ніхто не будзе яе кахаць так, як я.

У кватэру сястры ўляцеў на крылах і радасна закрычаў з парога: «Дзе яна? Дзе ты яе схавала?!» Аббег усе пакоі. Яе не было нідзе. Паадчыняў нават дзверцы шафаў. Сястра хадзіла следам за мной і намагалася растлумачыць, што няма ніякай Іркі, што яе не павінна быць тут. Але я не мог паверыць, што падмануўся ў сваіх прадчуваннях. Яна, мая Ірка, якую я гэтак моцна кахаю, павінна быць тут. Не магло ж сэрца так падмануць мяне.

— Трэба ехаць на вакзал, — заявіў я, — напэўна, яна ўжо там. Чакае. Яна ж не ведае тваю кватэру, толькі адрас… І як я не здагадаўся раней.

— Толя, з чаго ты ўзяў, што Ірка павінна прыехаць сюды? Яна тэлефанавала табе?

— Не, не тэлефанавала. Яна хоча зрабіць сюрпрыз. Я ведаю, яна прыехала.

— Можа, калі-небудзь і прыедзе.

— Не калі-небудзь, а сёння. Паехалі на вакзал. Спытаем у касе, ці не прыязджала прыгожая дзяўчына з Гомеля?

— На які вакзал? Адумайся! Што ты вярзеш. У каго ты там будзеш пытацца?

— Яна ж не ведае твой адрас.

— Не выдумляй абы-чаго. Ірка-шмірка. Ты лістамі ўвесь Гомель закідаў. Мой адрас хутка ўся Беларусь ведаць будзе. Калі і прыедзе твая Ірка — яна ж не дзіця, знойдзе. На кожным канверце пісаў мой зваротны адрас. Знойдзе. Кладзіся лепей і паспі. Табе трэба адпачыць. Ты нейкі занадта ўзрушаны.

— Надзя, які сон? Як я магу спаць, калі Ірка тут. Я столькі чакаў і легчы спаць? Ты што? Трэба рыхтавацца да сустрэчы. Пагаліцца. Слухай, а што мне лепш апрануць? Можа, гэты касцюм? І гальштук… Белую кашулю.

— Вось гэта разумная думка. Прывядзі сябе ў парадак. Папрасуй штаны, пагаліся. Душ прымі. А я табе пасцелю падрыхтую. Ты спаў ноччу?

— Надзя, які можа быць сон, калі я чакаў Ірку.

— Дык табе прыснілася, што яна прыехала? — радасна спыталася яна.

— Спачатку гэта быў сон. Але ж сны бываюць прарочымі. Наяве ўбачыў: яна стаіць на вакзале ў Іванава і распытвае ў людзей, як знайсці мяне. І калі яна яшчэ і не прыехала, я ведаю, што абавязкова прыедзе.

— Адкуль такая ўпэўненнасць? Адкуль ты ведаеш? Яна тэлефанавала?

— Канешне, тэлефанавала: так прама ў сэрца і патэлефанавала. Мне сэрца падказвае.

Сястра засмяялася і сказала, што яе сэрца гаворыць, што ніякай Іркі сёння не будзе і няхай Толя кладзецца спаць.

Я пагаліўся, прыняў ванну. Надзя разаслала пасцель. Амаль сілком прымусіла мяне легчы. Дала мне выпіць таблетку.

Ды хіба ж можа супакоіцца ў адзін момант вулкан, калі ён раптам абудзіўся! Расплаўленай магмай вырываліся з маёй душы пачуцці. А яна ўгаворвае, каб я спаў днём. Што гэта за сястра ў мяне такая? Як можна? А раптам Ірка прыехала ўжо? Трэба бегчы сустракаць яе. «Ты сапраўды мяне кахаеш, — скажа яна. — Калі адчуў сэрцам, што я прыехала, то напраўду кахаеш. А я наўмысна хацела праверыць».

— Толя, нікуды не трэба бегчы! — гэта зноў сястра. — Калі і прыедзе, то сама знойдзе, не малая.

— Надзя, ведала б ты, як я кахаю яе.

— Можна падумаць, што да цябе на зямлі ніхто ніколі не кахаў. Адзін ты выдраўся, як піліп з кнапель: кахаю, кахаю, кахаю…

— Так, як кахаю я, — ніхто і ніколі не кахаў нікога.

— Добра-добра… Адпачыў бы лепш. Я пайду на кухню, а ты прыляж.

Якое там прыляж, калі сцены пакоя цiснуць мяне. Хочацца вырвацца на волю з гэтай турмы. Бегчы насустрач сваёй каханай. Хутчэй да яе, хоць на хвіліну раней. Але куды бегчы? З якога боку чакаць яе? Ноччу я таксама не мог заснуць. Калі душа ўзрушваецца пачуццямі, розум пачынае працаваць як шалёны, каб знайсці найлепшае выйсце. І знаходзіць. Палкае і прагнае жаданне задае рытм і накірунак роздуму. Думка б'ецца выкінутай на бераг рыбінай, каб паспець за няўрымслівым сэрцам, прыйсці з ім у суладдзе і гармонію, каб наталіць смагу жывой вадой шчасця. І шчасце прыходзіць. Здаецца, што я знайшоў сакрэт шчасця. Адкрыў нейкі закон, які зрабіў мяне шчаслівым. Якая ж слодыч дыхаць гармоніяй сусветаў! Трэба расказаць пра гэта людзям, навучыць іх, прыадчыніць перад імі таямніцу любові, каб і яны адчулі сябе шчаслівымі. Які прыгожы ў такія моманты чалавек, як высока

ляцяць яго думкі! У якія недасягальныя сферы падымаецца крылатая душа! У такія моманты чалавек здольны на подзвіг, на самую вялікую ахвяру дзеля шчасця ўсіх людзей. Чалавек сапраўды становіцца Богам.

Паўшар'і майго мозга сонцамі ўзыходзяць у начной цемры і саграваюць, лашчаць думкамі-прамянямі далёкіх і блізкіх, усіх, каго ведаў і з кім сустракаўся. Прыходзіць разуменне адзінства ўсяго жывога. Мой далёкі продак, сучаснік Атлантыды, як разумею цябе цяпер, жаданне шчасця і гармоніі тваёй душы думкай даляцела і да майго сэрца! Я здзейсню ў жыцці тое, пра што ты толькі марыў.

* * *

І быў элемент гульні. Здавалася, усе даўно ведалі і ведаюць пра тое, пра што я толькі нядаўна здагадаўся. І быццам бы ўсе ведалі, што адзін я не ведаў пра гэта. Якім чынам і калі пачалася гэтая гульня? А з майго нараджэння і пачалася. Не проста ж так я нарадзіўся ў 1961 годзе. Пачатак касмічнай эры. Чалавек паляцеў у космас. Значыць, гэты год нейкі асаблівы. Тысячагоддзямі глядзеў чалавек на зоры, мільёны гадоў развіцця і пошукаў, і вось космас стаў бліжэй. Запусцілі ў космас Гагарына. І хіба гэта выпадкова, што першы касманаўт носіць птушынае прозвішча? Не. А я ж таксама Аляксеевіч. А, можа, і не лятаў Гагарын ні ў які космас? Інсцэніроўка. Хто можа праверыць гэта? Можа, Зямля ўвогуле плоская і трымаецца на трох кітах? Усё — тайна і невядомасць. «И отвернется сын от отца и матерь своей и прилепится к жене, и тайна сия — велика есть». Я ёсць. І не проста ёсць: увесь сусвет у маім сэрцы. Можа, мне толькі здаецца, што ёсць яшчэ нехта. Не, ёсць яшчэ Ірка і наша каханне. Гэта дакладна. Але адкуль я ўзяўся? І чаму мне такое шчасце? Каму я павінен аддзячыць за такую радасць? Канешне, я павінен навучыць астатніх людзей быць шчаслівымі!

Елізавета Пятроўна падаіла дванаццаць кароў і нарадзіла мяне ў 12 хвілін дванаццатага 5-га верасня 1961 года. Так, я быў народжаны, як і збавіцель свету Хрыстос, у яслях на саломе. Вучоныя падлічылі ўсё і разлічылі, думалася мне, і распачалі тым самым вялікую гульню пад назвай жыццё, маё жыццё. Мне спецыяльна стваралі спрыяльныя ўмовы, выхоўвалі, рыхтавалі, каб я змог адшукаць страчаную ісціну і вярнуць яе людзям. Яны наўмысна зладзілі такую вялікую гульню, кожную ролю дакладна разлічылі і распісалі, адзін я нічога не ведаў. І яны чакаюць другога прышэсця. І вось я прыйшоў! А вы і не пачулі. «Ці будзеш ты нас судзіць?» — хто і калі пытаўся ў мяне пра гэта? Дакладна не помню: нехта ўсё ж такі пытаўся. Ці буду судзіць? А за што вас судзіць? Кожны сам сябе судзіць. «Правільна, — чую адказ. — Не судзіце і не асуджаныя будзеце. Бо якім судом судзіце, такім жа судом і вас будуць судзіць». А за што мяне судзіць? За тое, што я не збаяўся і прыпадобіўся да Хрыста? Каму і калі я што-небудзь зрабіў дрэннага? Каго пакрыўдзіў? Знайдзіце на мне бруд! Няма яго. Я чысты, як ранішняя раса. Чысты, як першы снег.

Такого снегопада, такого снегопада
Давно не помнят здешние места.
А снег не знал и падал, а снег не знал и падал,
Земля была прекрасна, прекрасна и пуста.
Снег кружится, летает, летает…
И поземкою клубя…

Цяпер зразумела, чаму Ірка ўсё лета круціла гэтую песню, асабліва з таго часу, як мы пасварыліся… Нічога не ведае снег. «И мы напишем на этом листе повесть, повесть нашей любви». Маўчыць цяпер. Нічога не адказвае на мае лісты. Але я ведаю: яна ўсё ж такі кахае мяне. Я знайду яе. Я ўтрымаюся на гэтай вышыні. Як сонца слепіць вочы! Хтосьці сказаў: «Трымайце Зямлю, а то ўпадзе!» Я трымаю цябе, Зямля! Я — твой сын. Пакуль стаю босымі нагамі і адчуваю тваё жывое цяпло — ніхто не прыйдзе з космасу, ніхто не будзе цябе судзіць. Я не сарвуся ў бездань, пакуль трымаеш мяне. І вы, людзі, дапамажыце мне трымаць зямлю, цяжкая гэта работа. І вы трымайце… Тры майце! Майце тры: Айца, Сына і Святога Духа.

* * *

— Ты хоць ведаеш, дзе ты знаходзішся?

— Чаму ж не. У Гарадзішчы, у дурдоме. Але ж я не дурны.

— Канешне, канешне. Ты разумны, вельмі разумны. Але ты, Толік, стаміўся. Табе трэба адпачыць.

— Так, напэўна… Надзя, тут, аказваецца, няма ніякіх дурных. Калі тут ляжаць дурні, то якія ж тады разумныя? Усе, хто ляжыць тут, яны не з’ехалі з глузду. Яны іншы раз такія разумныя рэчы гавораць. Яны разумнейшыя за людзей, з якімі я раней сустракаўся.

— Ты менш прыслухоўвайся да іхніх размоў. У кожнага свая хвароба.

— А што я хворы? Што, я неяк не так думаю, як усе, ці што? У мяне не такая думка? Не тыя пачуцці? Чым, скажы, я вінаваты, што мяне сюды запхнулі? Што, я нейкі ненармальны?

— Я гэтага не гаварыла. У цябе вельмі светлая галава. Ты душэўна хворы. Душа ў цябе ранімая.

— Чаму гэта мая душа хворая?!

* * *

За тыдзень да гэтай размовы, калі я ўсё яшчэ чакаў Ірку і парываўся бегчы шукаць яе па вакзалах, неяк пад абед сястра гаворыць: «Сходзім у адно месца, добра?» — і глянула мне ў вочы.

— Да каго?

— Якая табе розніца. Трэба схадзіць.

— Пайшлі, калі трэба.

Праз паўгадзіны мы былі ў паліклініцы. На дзвярах кабінета, каля якога мы спыніліся, было напісана: «Псіхіятрычны кабінет».

— Надзя, навошта мы сюды прыйшлі? Ты лічыш, што я дурны?

— Нічога я не лічу, я не доктар. Проста трэба пракансультавацца. Ты не спіш ужо трэцція суткі. Зойдзем, адкажам на некалькі пытанняў і паедзем дамоў.

Спачатку яна зайшла сама, вызірнула праз некалькі хвілін і паклікала мяне. Я зайшоў у пакой. За сталом сядзеў чалавек у акулярах. Вельмі доўга глядзеў на мяне. Першае пытанне, якое ён задаў, здзівіла мяне.

— Што здарылася?

— Дзе? — не зразумеў я.

— З табой што здарылася?

— Нічога. Са мною нічога не здарылася.

— А чаго ж прыйшоў сюды?

— Я не ведаю. Сястра сказала, што трэба адказаць на некалькі пытанняў. Што вы клікалі мяне. Яна і прывяла.

— Дык з табой нічога не здарылася, усё нармальна?

— Канешне, — нічога не разумеў я, — што павінна было здарыцца?

— Ведаеце, ён амаль не спаў трое сутак, — умяшалася сястра.

— Чаму не спіш? — строга запытаў чалавек у акулярах.

— Не хочацца. Не спіцца, і ўсё тут.

— А што цябе турбуе?

— У якім сэнсе?

— Па якой прычыне ты не спіш? Што табе не дае спакою? Можа, што-небудзь вынайшоў, адкрыў штосьці? Знайшоў ці зразумеў тое, што іншыя ніяк не могуць знайсці і зразумець?

— Так. Ведаеце, усё вельмі проста. Трэба быць дабрэйшымі крыху. Трэба разумець адзін аднаго. Не рабіць таго іншым, чаго сабе не жадаеш. І тады ўсе будуць шчаслівымі. Некаторыя людзі не разумеюць гэтага. А я зразумеў. Усё проста. І мне хочацца растлумачыць гэта іншым.

— А якія-небудзь галасы ты чуеш?

— Галасы?

— Так-так. Голас нібы знутры нешта гаворыць, нашэптвае ці падказвае.

— Не, нічога такога не чую.

— А табе не здаецца, што людзі неяк па-асабліваму на цябе глядзяць?

Я задумаўся над гэтым пытаннем, прааналізаваў паводзіны людзей.

— Не. Яны не звяртаюць на мяне ніякай увагі. У кожнага свае праблемы.

* * *

— Ленін дурань! — закрычаў баптыст.

— Сам ты дурань! Хто ты такі, што абзываешся? Што ты зрабіў? Ленін рэвалюцыю зрабіў, даў шчасце людзям, — запярэчыў я: мае аргументы здаваліся неабвержнымі.

— Лысы дурань, Лысы дурны, дурань, дурань! — крычаў баптыст, — дурань Лысы, дурань!

— Чаму гэта ён дурань? — не здаваўся я, бо ніяк не мог змірыцца з тым, што гаворыць баптыст.

— Таму што сказаў: няма Бога. Ён Бога адмовіў, значыць, дурань.

— Так, дурань. І праўду дурань, — пагадзіўся Кібаліч.

— Дурань, дурань, дурань! — закрычаў шкілет, абцягнуты жоўтай скурай, што ценем прасоўваўся міма.

Да яго падляцеў санітар з дубінкай і штосілы ўрэзаў па спіне: «За што?!» — зароў дахадзяга. Чамусьці яго вельмі часта білі. Білі ўсе каму ўздумаецца.

— Было б за што — забіў бы.

— А ты ў мяне яшчэ папомніш. Заб’ю цябе! Убачыш, заб’ю! — закрычаў здыхляк, падскочыўшы на месцы. — Будзеш спаць на табурэтцы, вазьму і выб’ю пальцамі вочы, а станеш сляпым, задушу, як сабаку.

— Ах так! — санітар падляцеў да яго і пачаў лупцаваць дубінкай па галаве, нагах і плячах з усяе сілы, пакуль той крычма не закрычаў: — Забіваюць! Людзі, дапамажыце, мяне забіваюць!

* * *

Машына спынілася. Мы выйшлі. Сястра ўзяла мяне за руку. «Дзе тут мяне можа чакаць Ірка?» — падумаў я і агледзеўся. Сятра гаварыла, калі ехалі сюды, што яна тут, і будзе чакаць мяне. Іркі нідзе не было відаць.

— Ну, пайшлі.

— Надзея Аляксееўна, а нам што рабіць? — спыталіся з кабіны.

— Можа, пачакайце, раптам яго не возьмуць? Бачыце, зусім паспакайнеў. — Міліцыянер перазірнуўся з шафёрам. — Хаця, напэўна, усё ж такі едзьце дахаты. Я ж вас сама папрасіла, едзьце, чаго вам чакаць.

— А як жа вы, калі што раптам?

— Прыедзем аўтобусам.

Убачыўшы надпіс: «Пакой спатканняў», я адразу здагадаўся, дзе павінна знаходзіцца Ірка.

— Пайшлі! — пацягнуў Надзею за руку. — Яна там.

— Не, нам не сюды, — паказала вачыма на надпіс, што быў з другога боку: «Прыёмны пакой». — Напэўна, сюды.

— Што ты гаворыш! Яна павінна быць там. Напісана ж «Пакой спатканняў», няўжо не зразумела, што яна там.

— Толя, нам трэба ў «Прыёмны пакой». Куды не заходзіш, адразу трапляеш у прыёмную. Нас жа павінны адразу прыняць. Можа, месцаў няма. А ў «Пакой спатканняў» мы потым зойдзем.

— Як ведаеш, — пагадзіўся я, — ты ж мяне сюды прывезла. Табе відней. Павінны ж табе былі выдаць інструкцыі, як сябе весці ў адпаведных выпадках. Ты хоць чытала інструкцыю?

— Чытала, чытала… Усякіх за жыццё начыталася, — усміхнулася яна, — а вось на такія выпадкі не выдаюць ніякіх інструкцый.

* * *

Уся бяда ў тым, што многім людзям нічога не трэба, ім нічога не хочацца. Яны і самі не ведаюць: навошта жывуць і чаго хочуць ад жыцця? Нібы перакаці-поле, праносяцца яны вятрамі праз жыццё, быццам прывіды-здані праходзяць, не пакідаючы за сабой ні толькі следу — нават цені. Не ведаюць яны, што можна жыць інакш. Як жывецца, так і добра — хоць кол чашы на галаве такіх, а ім усё роўна, яны — абыякавыя.

Я тады не ведаў гэтай ісціны: усе людзі розныя і па-рознаму ўспрымаюць жыццё, па-рознаму перажываюць і пераасэнсоўваюць яго. Я думаў: людзі такія ж, як і я. Такі падыход быў памылковым. Такую памылку робяць даволі часта, бо іншых судзяць па сабе. Вельмі глыбока сядзела ўва мне перакананасць, што людзі аднолькавыя, як дзве кроплі вады. Рукі, ногі, галава ёсць у кожнага, кожнаму баліць і кожны можа радавацца, значыць, думаў я, людзі аднолькавыя! А калі аднолькавыя, то і рэагаваць, думаць у тыповых абставінах павінны аднолькава. Я лічыў, калі мяне штосьці радуе ці злуе, значыць, гэтае ж самае «штосьці» павінна выклікаць адпаведную рэакцыю і ў майго суседа. І вельмі здзіўляўся, калі на справе аказвалася не так, як меркаваў я. У такім перакрыўленым поглядзе на самога сябе і людзей была стартавая супярэчлівасць, якая, безумоўна, магла прывесці толькі да трагічнага фінішу, які быў непазбежны.

* * *

— Разумееш, адбудзецца ланцуговая рэакцыя шчасця. Ядзерны выбух у чалавечых сэрцах на планеце. Усе стануць шчаслівымі. Патрэбен прыклад. І гэтым прыкладам стану я.
— Навошта?
— Што навошта? Не разумею цябе.
— Навошта табе гэта?
— Таму што ўсе імкнуцца стаць шчаслівымі. Пустое пытанне. Усе імкнуцца да шчасця. Хіба гэта не так?
— Зусім не. Нельга прымусіць людзей радавацца. Што ж гэта тады атрымаецца: рай з-пад дубінкі? Хочаш не хочаш — а радуйся! А я, можа, не хачу радавацца. Я плакаць хачу! Не хачу шчасця, ты разумееш мяне? Я, напрыклад, люблю боль. Можа, я садыст які ці мазахіст. А ты хочаш, каб усе былі шчаслівымі, каб усе смяяліся. Не атрымаецца так. Людзі пазбавяцца свабоды. Свабода — найкаштоўнейшы дар. Воля! Хачу — галавою аб сцяну б'юся, хачу — гарэлку п'ю. І над гэтымі маімі «хачу» ніхто не мае ўлады, гэта маё асабістае. Вось тут яно, — пастукала пальцам у вобласці сэрца, — унутранае. Маё! Так што выкінь гэтую дурноту з галавы. Гэта ідэя абсурду. Мы праходзілі гэта ўсім грамадствам. Нам гаварылі: будзеце жыць пры камунізме. Дзе ён? Дзе ён, я ў цябе пытаюся, гэты камунізм? Няма яго. Адмовіліся. На вачах развальваецца. Тупіковы шлях развіцця.
— Ты ж ведаеш, я ніколі не быў у партыі.
— А якая розніца: быў ты ці не быў, насіў партыйны білет ці яго насілі іншыя? Сутнасць у тым, што зараз ты мне тут прапаведуеш камуністычную ідэю ўсеагульнага шчасця. А гэта — рэгрэс, шлях назад.

* * *

— Што вы робіце? Не разумею! Навошта звязваеце рукі?
— Так трэба.
— Што трэба, навошта мяне прывязваць?
— Табе трэба адпачыць, паспаць. Зараз табе зробяць укол і ты заснеш.
— Не трэба мне ніякага ўколу. А вы ведаеце Ірку? Яна прыедзе сюды?
— Канешне ведаю, у мяне жонка Ірка.
— Праўда? Мне здаецца, што Ірка — самае прыгожае імя.
— Чаго ж гэта я буду падманваць.
— А мая Ірка прыедзе сюды?
— Безумоўна, прыедзе. Але спачатку трэба паляжаць. Вось так. І супакоіцца.
— А-а-а, разумею, — здзівіўся я нечаканай здагадцы, — разумею. Гэта ўсё гульня? — звярнуўся я да санітара.
— Канешне, гульня. Жыццё гульня і людзі ў ім акцёры. Шэкспір сказаў.
— О, я люблю Шэкспіра. Ведаеце, мінулым летам усяго прачытаў.
— Быць ці не быць — вось дзе пытанне, — прадэкламаваў санітар, завязваючы на маіх нагах прасціну тугім вузлом.
— Быць, канешне быць, — са спадзяваннем падхапіў я.
— Вось зараз прыйдзе сястра і зробіць укол.
— А Ірка, Ірка калі прыедзе? Заўтра яна прыедзе?
— Заўтра? Не ведаю, — паціснуў ён плячыма, — калі-небудзь прыедзе. А хто табе такая гэтая Ірка?

— О, Ірка! Ірка — гэта… Дык вы не ведаеце яе? Не бачылі ніколі? А-а-а… А я думаў… Яна такая прыгожая. Так хочацца ўбачыць яе. Яна, напэўна, прыехала ўжо. Развяжыце мяне, калі ласка. Навошта прывязалі?

— Ляжы! Ляжы. Куды ты падымаешся, ляжы, я сказаў!

— Гады! — пракрычаў нехта, забег у пакой і, уціснуўшыся спінаю ў кут, выставіў наперад кулакі. — Гады! Паплачаце вы ў мяне. Усіх пазабіваю. Спалю ўсю планету дашчэнту.

— Зафіксаваць Длузко! — загадным тонам данеслася з калідора.

Санітар кінуўся да чалавека, што стаяў у кутку з выстаўленымі наперад кулакамі.

— Не падыходзь, заб'ю!

— Я табе пакажу, — немаведама адкуль угору узвілася дубінка і разоў колькі хвастанула па выцягнутых руках.

З калідора на дапамогу майму знаёмаму прыбег яшчэ адзін чалавек, а той, што стаяў у куце, кінуўся бегчы, але яго збілі з ног, навaліліся зверху і пачалі звязваць рукі прасцінаю. У адказ ён адбіваўся, выкручваўся і, калі рукі нарэшце звязалі, зароў, як звер.

Мне зрабілася жудасна: «Што тут робіцца? Што гэта за месца?»

* * *

Ці ёсць мяжа самаўдасканальванню чалавека? — спытаўся я ў Колі, калі нас вывелі на прагулку.

— Няма! — цвёрда прагаварыў ён.

— А мы зараз гэта праверым, — сказаў і лёгка падскочыў, учапіўся рукамі за перакладзіну: — Колькі разоў падцягнуся?

— Тры.

— Мала.

— Тады сем.

Я падцягнуў цела, крануўся падбародкам да металу, другі раз, трэці: «Чатыры, пяць, шэсць…» — лічыў услед Коля, а мне здавалася: калі няма мяжы самаўдасканальванню і развіццю чалавека, пра што мы разважалі толькі што, то я гатовы падцягвацца цэлую вечнасць. «Дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць, — лічыў ён далей і раптам выгукнуў: — Ёсць!»

— Што? — перапытаў я.

— Ёсць мяжа.

Рукі мае зрабіліся ватнымі, цела аслабла, моц некуды раптам знікла, я паспрабаваў падцягнуцца яшчэ і не змог гэтага зрабіць. Рукі задрыжалі, не хапала паветра. Расціснуў далоні і цяжка грукнуўся нагамі аб грунт. Аддыхаўся і сказаў:

— Канешне, ёсць мяжа развіццю. Мы ж не багі — людзі. Усяго толькі.

— Чарвякі! — заключыў Коля.

— Чалавек, у прынцыпе, вялікая гніда, — выдаў я, — мяшок з лайном, зварухні яго, тут жа засмярдзіць на ўсю ваколіцу.

— Так. Тыфозная гніда. Ад тыфусу мая бабця памерла ў вайну. А мы з табою і сёння ў акопах кормім вошай. А чаму толькі дванаццаць? — спытаўся ён і паказаў вачыма на перакладзіну.

— Чаму? Зразумела ж: «У нас сем дней, у нас часов двенадцать. Не прожить себя длинней. Смерть не умеет извиняться».

— Ваше слово, товарищ маузер!

— Магу і трыццаць тры.

— Не! Трыццаць тры не зможаш! Небяспечна.

— Я не змагу?! — закрычаў з выклікам. — Я ўсё магу! Я табе дакажу, — сказаў я і, скочыўшы, зноў учапіўся за перакладзіну.

— Толя! Нельга так. Не балуй!

— Чаму?

— Гэта небяспечна.

— Ты ж гаворыш, што я не змагу, а я ўсё магу.

— Смерть не умеет извиняться.

— Я не баюся смерці. Яе няма.

— А цвікі ў рукі… Не баішся?

— Цвікі? — выдыхнуў я. — І цвікоў не баюся. Нічога не баюся. Цвікі самі збаяцца забіваць.

— А мне што ж тады, станавіцца Юдам? — амаль усхліпнуў ён. — Я павінен прадаць цябе за трыццаць сярэбранікаў.

— Не! Не трэба. — Я скочыў на зямлю. — Не буду трыццаць тры. Няхай застаецца дванаццаць. А мы апосталы, праўда?

— «Дванаццаць месяцаў» — казка такая ёсць.

— Усё жыццё казка.

— А з другога боку, што такое трыццаць тры? Толькі і ўсяго, што дзве тройкі. А тройка — не выдатная адзнака, траяк ён і ёсць траяк.

— Трайчаткай сэрца лечаць.

— Не толькі. Тройка — гэта яшчэ і Русь. Помніш у Гогаля: «Эх, птица-тройка… Не так ли и ты, Русь?».

— А дзве тройкі — гэта Русь і Беларусь.

— На абед! На абед! Усе дружненька на абед. Прагулка скончана, — закрычала наглядчыца.

Хворыя сцякаліся да дзвярэй і збіваліся ў вялікую гурбу, чакаючы, калі наглядчыца падыдзе, пералічыць усіх і адамкне дзверы. Многія ад няўседлівасці пераступалі з нагі на нагу, крочылі на месцы ці мясілі свае думкі нагамі, заганяючы глыбей у зямлю. Нехта размаўляў сам з сабою, жэстыкуляваў, нехта звяртаўся да некага нябачнага, быццам размаўляў з жывым чалавекам. Усе гэтыя людзі штосьці зразумелі ці нешта знайшлі, ці нешта страцілі… Ніхто не ведае тайны чалавечай душы. Але ва ўсіх іх душа ячшэ была жывая, нягледзячы на тое, што іх травілі лекамі, транквілізатарамі — але душы не хацелі паміраць.

* * *

Што гэта было? І цяпер не магу дакладна растлумачыць. У свядомасці пераблыталася яўнае і ўяўнае, рэальнасць са сном, думкі з пачуццямі, ява з мроямі.

Я ляжаў, прывязаны да ложка, а за сцяною (можа, тэлевізар быў уключаны, можа, радыёпрыёмнік, а можа, усё мроілася і чулася ў маім розуме?) адбывалася нейкая містэрыя. Ішла вялікая вайна. Па-першае, уяўлялася мне, я не проста прывязаны да ложка, а прыгвазданы да крыжа ў цэнтры светабудовы, а ў гэты момант, у залежнасці ад маёй рэакцыі, маіх думак і пачуццяў, вырашаўся лёс сусвету, лёс усяго чалавецтва. І лёс гэты таямнічым чынам залежаў ад мяне. І вось агульнае лікаванне: «Сонечнае чалавецтва перамагло! Перамога! — чуўся ўзрушаны гул чалавечых галасоў: — Пе-ра-мо-га! Ура-ра! Ура-ра! Перамога…»

*Кацярына СОСНА*

# ЧАСТКА СЭРЦА ТРАПЯТКОГА...



***Кацярына Сосна нарадзілася 1 ліпеня 1949 года ў вёсцы Паяначы Шаркаўшчынскага раёна. Працуе ў раённай газеце «Кліч Радзімы», узначальвае літаратурна-музычнае аб'яднанне «Світанак». Малюе бацікам, гадуе кветкі і піша «маладыя» вершы.***

## МЫ — РАДНЯ

Я на крыўду вострая
Як і ты, сасна.
Бы жыву на востраве
З думкамі адна.

Ты, вось так, сямейкаю
У ляску жывеш.
Гусценькімі вейкамі
Сонцу падміргнеш.

Гордая, макушкаю
Неба дастаеш,
Ды не з кожнай птушкаю
Гутарку вядзеш.

Сосна маё прозвішча —
Значыць, мы радня.
Вас жа ў лесе полчышча,
А я ўсё адна.

Мабыць, што калючая,
Ён не прыхіне?
А дарма — гаючая
Рана ад мяне.

## МАСТАЦКІМ ПЯРОМ

Я цябе намалявала
З промняў сонца і расы.
З зоркі, што заначавала
У азёрнае красы.

Вочы будуць з незабудак —
Іх блакіт у зман вядзе.
Стан — з стракозаў-сіняградак,
Што слізгаюць па вадзе.

І з вясёлкі пасля ліўняў
У сем колераў пішу.
Не лічы мяне наіўнай —
Стрэчы ў памяці нашу.

З луга кветак назбіраю
На палітру па вясне.
На рамонку пагадаю:
«Ці кахаеш ты, ці не?!»

## МАЦІ-ЖНЕЙКА

Да долу апушчаны вейкі.
Наўкола такое прыволле!
Загоны адмераўшы, жнейкі
Аздобілі жніўнае поле.

А сонца пячэ у зеніце…
Пот градам мяжу абмывае.
Здаецца, без стомы у жыце
Серп востры працуе-іграе.

А жнейка сцяблінры з калоссем
Так спрытна сярпом падразае.
Ёй з неба звініць шматгалоссе —
Спеў птушак душу працінае.

Вязьмом закруціла ахапкі —
Кладуцца снапы у радочак.
І туляцца «бабкі» у шапках —
Мяжою кладзецца шнурочак.

Змяркаецца. Ледзьве жывая,
Дадому вяртаецца маці…
Каб радаваць стол караваем,
Павінна жняя спрытна жаці!

## ТАБЕ ПАДАРУ

Падару табе я лета
З мноствам кветак на лугах,
Салаўямі гай апеты
Для цябе прыберагла.

Набяру валошак ў полі,
Незабудак — ля ракі,
Падару лясоў раздолле,
Дзе блукаюць аганькі

Неба зорнага начнога…
Сонца, сполахі зарніц,
Найпрыгожае, зямное,
Што хвалюе — да драбніц.

Частку сэрца трапяткога —
Хай падзівіцца народ.
І здароўя, ды такога,
Каб хапіла на сто год.

Серпантынам думка ўецца
І трывожыць успамін.
Сапраўды. Мне не здаецца:
Ў сэрцы ты такі адзін.

## МАЯ ШАРКОЎШЧЫНА

Вясна абуджае Шаркоўшчыну.
У рытме працоўным прастора.
І водар плыве з-пад Жукоўшчыны,
З садоў, што пакінуў Сікора.

Да твару ёй строі вясновыя,
Бы ў вэлюмах яблыняў кроны…
І мары лунаюць ружовыя,
Яднаючы сэрцы ўлюбёных.

Абмыты расой серабрыстаю
Сцяблінкі імкнуцца да неба.
Дзісёнка з вадою празрыстаю
Яднае аблокі і глебу.

Тут песцяцца кветкі пад вокнамі,
І сонца ў гародах гуляе.
Рабіна чырвонымі гронкамі
Руплівую восень гукае.

Джым МАКГЭРА

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта

# НАЗАЎЖДЫ ПАКОНЧЫЦЬ З ЧЫЁЙСЬЦІ АДЗІНОТАЙ



***Джым Макгэра (Jim McGarrah) — амерыканскі паэт, пісьменнік, аўтар трох кніг паэзіі і мемуарнага рамана «Часовы від міру». Уладальнік шматлікіх літаратурных прэмій. Выкладаў амерыканскую літаратуру і крэатыўнае пісьмо ва ўніверсітэтах Амерыкі. Цяпер жыве ў горадзе Луісвіл штат Кентукі і працуе над новай кнігай паэзіі «Зацемы пра ціхмянасць». Паэзія Джыма Макгэра прасякнута штодзённымі назіраннямі, якія перапляталюцца з філасофскімі разважаннямі наконт агульначалавечых каштоўнасцей, жыцця і смерці. Паэт, якому давялося пабываць на вайне ў В'етнаме, не мог не адлюстраваць у сваіх творах усё перажытае. Вершы гэтага яскравага і глыбокага амерыканца яшчэ раз нагадваюць нам пра тое, што вайна прыносіць пакуты і боль, якія немагчыма забыць.***

## СПАДАРОЖНЫЯ СТРАТЫ

Марджы прытуляецца да паветра.
Гэта адзіная трывалая рэч у ейным жыцці.
Яна едзе ў хоспіс, дзе кожны дзень
чытае навіны свайму вегетатыўнаму сыну —
твар ягоны не варухнецца, пакуль яна пералічвае
ахвяраў генацыду, братазабойстваў, адбойнай хвалі і педафіліі.
«Мы ўсе — спадарожныя страты ў задумцы Бога», —
кажа яна прынамсі двойчы на тыдзень. «Гэта цана,
якую мы плацім за права людзьмі быць».

Мы чакаем на 19-ы,
новы экалагічны, біядызельны аўтобус,

які, па словах мэра, зменшыць выкіды вугляроду.
Аўтобус затрымліваецца, і пульхная школьніца
пазычае цыгарэтку ў сантэхніка, чыю машыну
канфіскаваў банк. І ад яе ўжо ніякіх выкідаў,
а дабрацца да новай працы яму неяк трэба,
дзяўчо ж не пусцілі ў школьны аўтобус,
бо яна пужала малых сваёй дарослацю.
Я вызіраю святло фараў у досвітнай цемры,
стоячы на рагу вуліцы, і не здольны прыняць
тое, чаго мы ўсе баімся, што згублены час
гэта адзінае, чым вымяраюцца пакуты.
Мне задумка бога застаецца няяснай.
Занадта высокая цана для майго бязвернага бюджэту.
Дабро здаецца ні больш значным, ні больш узорным,
Яно — хутчэй акалічнасць, а не намер. Быццам рулетка,
што зацягвае нас у бязлітасную дзірку, дзе мы
пакутуем у адзіночным зняволенні
пакуль круціцца кола
і часам дазваляем сабе верыць,
як той хлопчык, якога я бачыў у Босніі, што гуляў у баскетбол
на адной назе, бо другую раструшчылі аскепкі
з міннага поля, праз якое раней ён хадзіў у школу,
або як гэтыя людзі на прыпынку,
што моўчкі пераносяць боль незаслужанага адчаю.

## ЗІМА Ў МАНРЭАЛІ

***для Уэндзі***

З мовай я сплю
з таго часу як ты сышла,
літары плятуць чароды думак,
што стогнуць, бы швартоўныя канаты
уздоўж парэзанага ільдом набярэжжа возера.
Словы ідуць са мной паўз машыны
паўз сняжынкі ў бар О'Грэдзі.
Мы замаўляем більярдны стол, аплятаем
пальцамі стары кій
і гуляем у тваю любую гульню.
Але, я не адчуваю ў іх дрыжання
ад спадзявання,
што працінае мой прамянёвы нерв,
калі коціцца шар.
Дзеясловы не танчаць пад самую вядомую песню
Карлі Сайман са старога музычнага аўтамата і не п'юць
белага віна, такога таннага, што магло б замяніць
трэцясортны віскі. Назоўнікі не смяюцца і
не лямантуюць, калі шары

разлятаюцца ў розныя бакі,
агаляючы зялёнае сукно такое ж гладкае,
як і ўнутраны бок твайго левага сцягна
пад далонню маёй рукі.

## АЎТАПАРТРЭТ НА ДОСВІТКУ

Жанчына за столікам у кавярні насупраць майго адцірае
шчаку свайго сына ад барвовага жэле. На тым месцы
з'яўляецца чырвоная плямка. Манэ бачыў світанак
як час без часу, калі маляваў
*Уражанне. Узыход сонца*, ледзь кранаючыся і акунаючы
пэндзаль у ранішні туман, фіксуючы рух
святла паміж сонцам і чоўнам, датыкаючыся да
цішыні сутнасці ў самым сэрцы формы. Я?
Не, не малюю сёння і ў іншыя дні таксама. Усё ж,
калі хлопчыкавы слёзы пачынаюць свой бег, дні выгінаюцца
дугой у маёй галаве, плывуць паўз веерную, брукаваную плошчу і знікаюць
у цёмным лабірынце Сіены, Італія, кожны дзень атачаецца
памаранцавымі хвілінамі, якія крышацца ў сінія гадзіны.
Я правёў жыццё, пазычаючы час у мерцвякоў.
«Шальмоўскі герой», — кажа мая сяброўка Лэслі. — «Які
жыве так, быццам уласны подых неразгаданая таямніца».
Яна мае рацыю. Тут мая самасць выкрываецца
і пакідае замест сябе міф як чаявыя ў сто лір на смех афіцыянту.
Кладучы свой галаў на маміна плячо, хлопчык усхліпвае
як і маці, нагадваючы мне, што тое, у чым
я заўсёды быў упэўнены — *рыба прыгатаваная ў малацэ ёсць атрутай,*
*Дзіна не планавала праглынуць*
*маю жуйку, калі мы першы раз пацалаваліся,*
*каханне шчоўкае, бы зубныя пратэзы ў халоднай вадзе,*
*што Бога забіла шрапнель, а не Ніцшэ,*
*думкі, такія ж знаёмыя і адчужаныя,*
*як аскепкі кулі ў маёй левай назе —*
не хопіць каб прымусіць міф не плакаць. Гэта суцяшае мяне,
ён — вышэйшы ростам, больш прывабны, і мова
ягоная не такая жорсткая. Шмат год таму ён выратаваў
Бобі Уолфа ад міны, адцягнуў ствол вінтоўкі Рыка ад падбароддзя
перад тым, як той націснуў курок, і не перарэзаў
ніводнага в'етнамскага горла ў джунглях за адмову
супрацоўнічаць. Міф валодае бязмежным апетытам, ніколі не пачуваецца
самотным у пакоі, поўным людзей, і піша вершы, якія ніколі
не задаюцца пытаннем, чаму адзін памірае, а іншы побач з ім
працягвае жыць ад мінамётнага снарада кожны дзень
за дзесяць тысяч дзевяцьсот пяцьдзясят дзён.
Пра ягоныя сувязі з самотнымі жанчынамі ходзяць легенды,
але на свае няўдалыя шлюбы ён схільны забывацца. Ён прарочыць,

уваходзячы басанож абяссіленым у дзікунства
у пошуках магічных камянёў. Ён — анёл, што прыносіць
паведамленні глухім пакаленням, дракон,
што дыхае агнём пустых вінных бочак
у мой рот, каханка, што танчыць аголенай
у дзікай Тасканскай ночы і завяршае ўсё маўклівым назіраннем
за хлопчыкам і ягонай маці, што частуюцца жэле ўперамешку са слязьмі.

## ALTER IDEM[1]

(*Паэтычныя чытанні — Балканы — 2001*)

Мы стаялі
па чарзе
на розных этапах
складання,
выгукваючы нараспеў
дзікія галосныя
і зычныя, так,
быццам старая
ваўняная коўдра,
сатканая з розных моваў,
магла б сагрэць нас усіх, быццам
дым, што падымаўся
ў пакоі
мог кудысьці развеяцца
над нашымі галовамі,
скіроўваючы нас у мінулае
і нагадваючы,
што некалькі брукаваных міль
апярэзаных гарамі,
гэта адзінае,
што калісь было паміж намі,
не акіян
красамоўства
ці дэмагогі,
што вядуць войны,
ці пакінутыя проціпяхотныя міны,
што адрываюць рукі і ногі
ад будучых пакаленняў,
якія, магчыма, ніколі не зразумеюць:
першыя сцэны, якія мусяць
ўпасці,
тыя, што збудаваны
са словаў.

[1] Лац. — двайнік; іншы такі ж.

## САНЕТ АДСУТНАСЦІ

Мая маці чытала раманы
пасля таго як мы раз’ехаліся, сотні раманаў.
Пераследаваная адсутнасцю не толькі дзяцей,
яна сядзела ў сваім фатэлі-гушкалцы,
узіраючыся праз апусцелы дом у мары чужых людзей,
палячы адну за адной цыгарэты Virginia Slims
і гучна выкрыквала клішаваныя фразы,
якія ейны пашкоджаны слых не мог разабраць.
Попел злятаў з цыгарэты,
заціснутай паміж элегантнымі пальцамі.
Яна не ведала, што часам я падглядаў
праз акенца веранды перад тым,
як вінаватым грукатам у дзверы абвесціць адзін са сваіх рэдкіх візітаў.
Не падазраючы, што ейнае цела пачало забіваць яе, яна
ведала толькі адзіноцтва і моцна трымала яго ля сябе, нібыта каханка.

## КАТАВАННЕ ВАДОЙ

Сёння сусед
паліваў са шланга
свой сад залевай.

Ягонае шаленства
ледзь не забіла ружы.
Яны спужаліся.
Сціш захлябнуцца
прымусіла ўсе падвяночкі
капітуляваць.

Пялёсткі абвялі. Мой бясшчасны сябра
ператварыў свой цудоўны здабытак
у чатыры кусты калючак.

***Пераклад з англійскай Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

## РАЗВАЖАННІ ПРА ЗАСАДУ Ў ДЖУНГЛЯХ

Ночы, дзе пасмы часу цесна звязаны тонкім дротам страху калі чутна плач поўні, што ўзыходзіць у чаканні смерці.

Ейная адзіная мэта — назаўжды паканчыць з чыёйсьці адзінотай, асвятляючы шлях кулі снайпера або адкідаючы цьмяны цень на пастку.

Хацелася верыць, што яна вісіць там, каб кіраваць прылівамі Чайна Біч, вызначаючы ход кахання, якое ты спадзяваўся адчуць хоць аднойчы, скокі і віры рыбы

басу або раскрыццё бутона кветкі, рэха тыгравага рыку або песню каршуна, рэкорднае выпадзенне расы на рысавых палях.

Усё, нават жорсткі клік металу пры зарадзе патрона, здаваўся больш рамантычным і плаўным у рассеяным і спружыністым святле.

У рэшце рэшт, усё, што яна рабіла — блішчала, і нават не сваім уласным агнём, жахлівыя аблокі мутна віселі па-над шырокім полагам над галавой.

Адзінае, што яна рабіла — спакушала цябе сваім ціхім пылам цукровага святла каб выдаліць з памяці думку пра тое, што кожная начная засада захоўвае вытокі твайго забыцця.

## АГАЛОМШАНЫ

6 раніцы — вераб'і збіраюцца.
Двое гайдаюцца на галінцы дрэва
над скалой
ракі Уобаш, як хлапчукі,
балансуючы на трампліне,
рыхтуючыся да скоку
у карычневую плынь.
Трэці скакун тарабаніць
у акно, побач з якім я сяджу
і п'ю сваю каву,
ён кідаецца ўніз, агаломшаны
нябачным шклом,
што не дае яму рухацца далей.

У выніку гэта адбываецца
з усімі намі,
наш рух наперад упінаецца
у нябачную
непранікальную сцяну,
пухліна, куля, кіроўца,
які выпіў зашмат

Сёння я баюся
страху
быць агаломшаным
больш, чым самой прысутнасцю страху,
як авечка, паралізаваная
рыкам ільва
задоўга да яго з'яўлення.
Пэўна, гэта працэс
старэння. Аднойчы я трапіў
у навальніцу. П'яны,
пагардлівы, я дазволіў

небу абрынуцца на мяне.
Маланка рассекла дрэва напалову
непадалёк. Аслеплены,
я працягнуў руку
і запхнуў маланку ўнутр,
але тады я быў яшчэ малады.

## КАЛІ ЗГАСАЮЦЬ ЗОРКІ

Сёння вечарам няма зорак
у завулку па-за віннай крамы Майдлоў.
Тут калісьці бадзяўся Чарлі Уотэрс,
учапіўшыся за старога ветэрана другой сусветнай,
яшчэ ў 60-я, калі я ішоў па вуліцы
пасля урока па грамадазнаўстве,
то аддаваў яму свае грошы.
«Табе яшчэ рана піць», казаў ён,
купляючы мне піва, а сабе,
каб заглушыць віну, дзвесце грам чарлі.
Яны пацягвалі віно, ён і ягоны прыяцель,
моўчкі, гледзячы ўверх,
чакаючы, калі са змроку выскачаць зоркі
белымі зярняткамі пап-корну.

І вось я зноў у гэтым завулку праз шмат гадоў сікаю
на свежапафарбаваную сцяну і шукаю
тыя ж зоркі. Я рабіў гэта і раней,
купляў бурбон і прабіраўся сюды,
заўсёды задаючыся пытаннем на шляху да сваёй машыны
у той час як зорныя бутоны, адны быццам лёд, іншыя бы агонь,
квітнелі дзесьці ў далёкім змроку,
што знайшоў тады Чарлі ў гэтым вакууме
сусвету, што прымусіла
ягоныя пустыя вочы напоўніцца слязьмі.

Аднойчы я амаль зразумеў гэта, калі ўпершыню прыйшоў дадому
анямелым з В'етнама, з ценем у галаве
які набывае туманную форму,
што збірае рэчыва, пакуль яна
кропала скрозь мяне, як гарачая смала,
тая сувязь, што ў нас была і знікла
з нашым агульным пачаткам.

Сёння вечарам можна зноў уявіць сабе
што ўсё, што ёсць нада мною — гэта чорны
калодзеж нябыту, які вісіць у пустэчы.
Нас звязвае наша адзінота,

што прарываецца праз бясконцае неба,
раскінуўшы рукі, якія моляць цемру
аб проблісках усё тых жа зорак,
якія прымушалі Чарлі Уотэрса плакаць.

## ЯК ЖА ПАШАНЦАВАЛА ВЫЖЫЦЬ

Цяпер і мне знаёмая ранішняя апантанасць майго бацькі.
У газеце ён перш за ўсё вышукваў некралогі
а яго пяцідзесяцігадовая жонка рыхтавала на сняданак яйкі.
«Ура! Майго імя няма там», — выгукваў ён.

У адрозненне ад малінавак і цюльпанаў, руж і вавёрак, ільвоў
і хвояў, мы не квітнеем да смерці.
Нешта важнае застаецца незавершаным
і нехта важны шкадуе, што нас ужо няма.

З узростам засмучацца рабілася прасцей, памятаць
пра падлеткавае каханне да Дэніз
і цытрынава-жоўтай шэўрале, сумаваць па паху
Бога ў паветры падчас горных шпацыраў
той раніцай сорак гадоў таму ў штаце Мэн.
З кожным днём твары знікаюць з памяці,
у крыках крумкачоў хаваюцца перасцярогі, а вага часу
коле мяне пад ценем слова, якое я ніяк не магу вымавіць.

***Пераклад з англійскай Вольгі БУБІЧ.***

Пераклады выкананы па выданнях:
Jim McGarrah «*Breakfast at Denny's*» (2013),
Jim McGarrah *«When the Stars Go Dark» (2009),*
Jim McGarrah «*Running the Voodoo Down*»*(2008).*

***Падрыхтоўка да друку Вольгі ГАПЕЕВАЙ***



*Ганна НОВІК*

# АКТУАЛІЗАЦЫЯ ЎСТАНОЎКІ НА ШЧЫРАСЦЬ

## *Колькі слоў пра беларускія мемуары і non-fiction*

Пачатак мемуаратворчасці на беларускіх землях прыпадае на XVII стагоддзе — час распаду феадальных адносін і павелічэння колькасці міжусобіц сярод шляхты. Тагачаснае грамадскае жыццё адметнае абвастрэннем ідэалагічнай барацьбы, якую мясцовае насельніцтва было вымушана весці супраць нацыянальна-рэлігійнага прымусу, справакаванага прыняццем у 1596 годзе Брэсцкай уніі. Адпаведна пераважная большасць літаратурных твораў прысвячалася пераасэнсаванню ваенных падзей і насіла палемічны характар. Як адзначае М. Улашчык, аўтарамі XVII стагоддзя з'яўлялася сярэдняя шляхта, прычым, «уся яна пісала на польскай, радзей — на лацінскай мове, значная частка гэтых мемуараў апісвае падзеі, што адбываліся за межамі Беларусі, у прыватнасці шмат пра Расію» [1, с. 6]. Першымі ўспамінамі, напісанымі на беларускай мове, можна лічыць (нягледзячы на абазначаны ў назве жанр) «Дзённік» наваградскага падсудка Фёдара Еўлашоўскага. Мастацка-кампазіцыйную аснову твора складаюць кароткія аповеды пра падзеі, што адбываліся ў Вялікім Княстве Літоўскім з 1566 да 1604 года. Яны падаюцца ў строгай храналагічнай паслядоўнасці, нагадваючы формай летапіс, аднак фактычна з'яўляюцца ўспамінамі, створанымі за два гады да смерці аўтара і адрасаванымі непасрэдна яго сынам. Галоўная адметнасць мемуараў — аўтабіяграфічнасць, паколькі Еўлашоўскі запісвае пераважна звесткі пра ўласнае жыццё і асабістыя перажыванні. Аўтар уводзіць у твор элементы містыкі, занатоўваючы з'явы, што знаходзяцца за межамі рэальнасці: «<…> обачилэм юж на свитаню в ызбе огнистого чловека, до кторего кгдым се порвал, он тэж до мне выстэмповал и, зшедшисе срод избы, порвалэм з запаля ноже и ударилэм нань <…>» [2, с. 34]. Падобныя фрагменты сведчаць пра здольнасць аўтара да літаратурнага вымыслу і ў некаторай ступені кампенсуюць лаканічнасць апісання іншых эпізодаў. Акрамя лапідарнасці ў пабудове сказаў, у стылі «Дзённіка» заўважаецца ўплыў польскай мовы. Так, большасць слоў тут з'яўляецца кірылічнай транслітэрацыяй, некалькі відазмененай паводле ўзору старабеларускай мовы.

Больш «беларускім» у моўным плане з'яўляецца «Дыярыуш» Афанасія Філіповіча, напісаны ў 1646 годзе ў Кіева-Пячорскім манастыры. Гэты твор — паліжанравы, бо ўтрымлівае ў сваёй структуры рысы падарожных нататак, тлумачальных запісак, успамінаў, дзённіка, прамовы, верша і песень, складзеных у турме, спалучаных у дзесяці асобных творах, звязаных між сабой устаўкамі. У «Дыярыушы» пісьменнік імкнецца перадаць шырокую панараму тагачаснага грамадска-рэлігійнага жыцця, якое ў тэксце прэвалюе над апісаннямі рэфлексій аўтара. У адрозненне ад «Дзённіка» Еўлашоўскага, «Дыярыуш» Філіповіча прызначаны не толькі нашчадкам, але і канкрэтнаму адрасату — мітрапаліту Магіле. Такая акалічнасць падкрэслівае адыход аўтара ад аўтабіяграфізму ў творы на карысць палемічнай публіцыстыкі, што спрыяе павышэнню яго грамадскай значнасці.

У XVIII стагоддзі мемуары па-ранейшаму ствараюцца на польскай і лацінскай мовах і прысвячаюцца апісанню становішча мірнага часу. Тым не менш, шмат увагі надаецца барацьбе магнатаў між сабой, а таксама падзеям, якія адбываліся падчас соймаў і соймікаў. Гэтаксама ў цэнтры ўвагі знаходзяцца разнастайныя вандроўкі, паколькі эпоха Асветніцтва стымулявала цікавасць да геаграфіі, гісторыі і аповедаў пра чалавечы лёс. Аднак такія прыклады мемуаратворчасці рэдка траплялі ў друк, бо прызначаліся для ўнутрысямейнага карыстання. Адзін з нешматлікіх прыкладаў, які

дайшоў да масавага чытача, — польскамоўныя ўспаміны «Авантуры майго жыцця» (1760) лекаркі наваградскага паходжання Саламеі Пільштыновай. Сярод асноўных адметнасцей гэтага твора — спалучэнне дакументальна-аўтабіяграфічнага і мастацка-наратыўнага пачаткаў, насычанасць тэксту вялікай колькасцю падзей, скрупулёзнае апісанне звычаяў іншых краін.

Інтэнцыя на мастацкую апрацоўку выпадкаў з прыватнага жыцця творцаў характэрна і нешматлікім беларускамоўным успамінам XIX стагоддзя. Сярод іх — «Мемуары» паэта і перакладчыка Альгерда Абуховіча, напісаныя ў 1894 годзе ў Слуцку. Твор складаецца з дванаццаці фрагментаў, кожны з якіх уяўляе сабой своеасаблівую празаічную мініяцюру. Такая кампазіцыя дае падставу сцвярджаць, што Абуховіч звяртаўся да свайго рукапісу нерэгулярна. У фрагментах успамінаў адлюстраваны вобразы родных і блізкіх пісьменніку асоб, адмоўныя рысы тагачаснага патрыярхальнага ладу, спецыфіка асобных хрысціянскіх і паганскіх святаў. Творца не абмінуў увагай і свой радавод, а таксама літаратурную дзейнасць: «Я падпісваюся на маіх беларускіх творах “Граф Бандзінелі”: гэта прозвішча маёй бабкі, апошняй з гэтага роду, каторы выдаў такую знамянітасць, як папеж Аляксандр III» [3, с. 521]. Пры гэтым уласна мемуары спалучаны з дзённікавымі запісамі, роздумамі пісьменніка, вершаванымі радкамі. Асобныя фрагменты вылучаюцца публіцыстычнасцю, якая падкрэслівае каларытнасць замалёвак.

Пачатак XX стагоддзя на Беларусі адметны інтэнсіўным нацыянальна-культурным рухам, дзякуючы якому літаратура выйшла на новы, паскораны этап развіцця. Тым не менш у гэты час мемуары не атрымалі шырокай папулярызацыі, у адрозненне ад публіцыстыкі, эсэістыкі і паэзіі, якія дзякуючы гнуткасці формы і невялікаму аб’ёму ў значнай ступені адпавядалі патрабаванням пераломнай эпохі. Сярод іншых прычын часовага заняпаду жанру ўспамінаў — заангажаванасць патэнцыяльных аўтараў больш у грамадска-палітычным руху, чым у літаратурным працэсе; дастаткова малады ўзрост творцаў, калі спробы напісання ўспамінаў відавочна разглядаюцца як заўчасныя і таму свядома адхіляюцца пісьменнікамі. Адзін з нешматлікіх мемуарыстаў таго часу — Ядвігін Ш., чые «Успаміны» (1921) былі напісаны за год да смерці. Згадкі творцы пра мінулае абмежаваны ў часе і ахопліваюць толькі адзін эпізод — двухтыднёвае знаходжанне аўтара ў Бутырскім астрозе, куды ён трапіў у 1890 годзе пасля студэнцкіх хваляванняў. Дэталёва апісваючы ўмовы затрымання, турэмны побыт і заняткі, заснаванне першага беларускага гуртка моладзі ў Маскве, Ядвігін Ш. перамяжае аптымістычныя, дасціпныя згадкі з рытарычнымі воклічамі («Бутыркі!! Колькі ж светлых, чыстых, ідэйных душ згінула ў тваіх — Бутыркі — праклятых, грозных мурах!! Колькі? Ці ёсць змога падлічыць?» [4, с. 211]), што дазваляе чытачу ацаніць эмацыйны стан зняволенага студэнцтва. Адметна, што на працягу ўсяго твора аўтар вядзе аповед ад імя ўсіх арыштаваных, не вылучаючы сябе з грамады таварышаў і выяўляючы сваё асабістае «Я» толькі ў асобных згадках пра мінулае. Падкрэсліваючы ідэйна-духоўную еднасць студэнцтва, Ядвігін Ш. надаў твору кальцавую структуру, змясціўшы ў якасці ўступу і пасляслоўя словы студэнцкага гімна Gaudeamus.

Больш позняму перыяду належыць «Автобиография Бронислава Адамовича Тарашкевича, члена КПП (КПЗБ) с 1925 года», створаная ў снежні 1933 года па загадзе супрацоўнікаў АДПУ СССР. Нягледзячы на вышэйзгаданае жанравае вызначэнне, твор мэтазгодней трактаваць як мемуары справаздачнага характару, паколькі ў цэнтры ўвагі знаходзіцца дэталёвае апісанне аўтарам гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 20-я гады XX стагоддзя. Так, у «Автобиографии…» узгадана да 250 палітычна актыўных асоб у кантэксце іх дзейнасці. Такія падрабязнасці, а таксама справаздачны і разам з тым неахайны стыль, відавочная неадпаведнасць апошніх старонак тэксту стылю беларускага лінгвіста, шматстайныя шаблоны дазваляюць меркаваць, што твор з’яўляецца разгорнутым адказам на зададзеныя пытанні і, магчыма, часткова напісаны пад дыктоўку ці іншымі асобамі. Як слушна адзначаюць А. Валахановіч і У. Міхнюк, «выказванні і ацэнкі былога лідара Грамады былі абумоўлены тымі ўдушлівымі маральна-псіхалагічнымі і ідэйна-палітычнымі абставінамі

ў першай краіне сацыялізму — СССР, дзе ён апынуўся. У тых умовах яго аўтабіяграфія гучала як споведзь у надзеі застацца жывым» [5, с. 14].

Найбольшы заняпад беларускай мемуарыстыкі прыпадае на 1940—1950-я гады. Вялікая Айчынная вайна і першае пасляваеннае дзесяцігоддзе не з'яўляліся спрыяльнымі ўмовамі для творчасці. Традыцыя напісання ўспамінаў аднавілася ў 1960-я. Паколькі палітычная «адліга» тых часоў у многім насіла ўмоўны характар, то большасці літаратурных твораў была ўласціва наяўнасць фігур замоўчвання, ідэалагічная зададзенасць і «вытрыманасць», стандартызацыя ў характарыстыках сітуацый і людзей, перанос сэнсавай нагрузкі з асабістых перажыванняў на вобразы вядомых грамадска-культурных дзеячаў. Тыповым узорам такіх мемуараў з'яўляюцца «Памятныя сустрэчы» (1960) Міколы Хведаровіча, «Часіны незабыўнага» (1964) Максіма Лужаніна і «Знаёмыя сілуэты» (1974) Яўгена Рамановіча. Вышэйпералічаныя творы напісаны эпічным, апавядальным стылем і ўтрымліваюць мноства падрабязных дэталей і шматслоўна перададзеных дыялогаў, што выклікае ў чытача меркаванні пра выдуманасць апошніх. Мастацкая апрацаванасць жыццёвых фактаў падкрэсліваецца наяўнасцю лірычных прадмоў і адступленняў (як у М. Хведаровіча: «Дарагія вобразы радзімы ніколі не цьмянеюць перад нашымі вачыма. Непрыкметна праходзіць час, змяняецца жыццё, а яны заўсёды жывуць у душы, як самы запаветны скарб. <…> Але аповесць мая будзе не пра гэта, а пра вядомага пісьменніка Цішку Гартнага <…>» [6, с. 35]), а таксама публіцыстычнасцю, выражанай праз рытарычныя пытанні, пастаноўку праблемных сітуацый і звароты да памерлых творцаў (М. Лужанін: «Бывай, дружа! <…> Бывай і даруй нам, што не ўмелі, не паспелі сказаць на цябе, як належыць, — вялікі» [7, с. 279]). Узгаданыя ўспаміны адлюстроўваюць жаданне іх стваральнікаў быць далучанымі да жыцця такіх постацей нацыянальнай культуры, як Я. Колас, Я. Купала, М. Чарот, К. Чорны, У. Галубок, У. Караткевіч, Р. Шырма і іншыя, сведчаннем чаму выступаюць згадкі пра акалічнасці знаёмства са славутымі суайчыннікамі і творчыя ўзаемадачыненні, падкрэсліванне таварыскіх стасункаў. Адметна, што ўспаміны Хведаровіча і Лужаніна прыпадабняюцца да некралогаў дзякуючы ідэалізацыі пратаганістаў, акцэнту на іх выбітных дасягненнях і найлепшых чалавечых якасцях, а таксама падкрэсліванню факта смерці рэальных прататыпаў гэтых герояў на момант напісання мемуараў. Успаміны Рамановіча, наадварот, у большасці сваіх фрагментаў маюць аптымістычную развязку: «Нягледзячы на цяжкую хваробу, Андрэй [Александровіч. — **Г. Н.**] быў поўны бадзёрасці і натхнення. У акружэнні сваёй сям'і, дзяцей, унукаў ён жыў і ствараў новыя патрыятычныя песні» [8, с. 73].

У параўнанні з узгаданымі творамі, успаміны «Пяць месяцаў у Мінску» (1967) Зоські Верас маюць не ўскладнены залішнімі дэталёвымі апісаннямі, але гэтаксама і пазбаўлены эмацыйнасці стыль, дзякуючы чаму чытач можа лёгка ўявіць вобраз Багдановіча і акалічнасці апошняга года жыцця паэта. Асабістыя перажыванні Зоські Верас выяўляюцца толькі ў лаканічным падсумаванні: «Трэба было запоўніць тут на месцы больш выгоды, больш сардэчнай апекі. Смерць, на жаль, яго б не мінула, але няхай бы паміраў паміж нас, паміж сваіх, адданых яму шчыра прыяцеляў, у роднай старонцы» [9].

Найбольш аўтабіяграфічнымі сярод мемуараў пасляваеннага часу з'яўляюцца «Некалькі хвілін чужога жыцця» (1979) Яна Скрыгана. Твор уяўляе сабой датаваныя фрагменты, прысвечаныя не толькі вядомым літаратарам (М. Зарэцкаму, Ц. Гартнаму, П. Шукайлу, К. Крапіве), але і падзеям літаратурнага працэсу (з'езду «Маладняка», утварэнню і дзейнасці «Літаратурна-мастацкай камуны»), і ў не меншай ступені — уласна аўтару. Пісьменнік прызнае веліч і маштаб таленту сваіх папярэднікаў, адзначае іх уплыў на станаўленне ўласнай творчасці, аднак не сцвярджае непарушнасць іх аўтарытэту: «<…> і мне здалося, што я зрабіў вялікае адкрыццё. Што чалавек — заўсёды бог. Але тады, калі ён падобен толькі на самога сябе». Таму ў тэкст аповеду ўключаны часткі пра асабістыя падзеі жыцця аўтара, пачатак яго творчага шляху, стасункі з літаратарамі розных пакаленняў, апісаныя шчыра і займальна. Дасціпнасць пісьменніка праявілася і ў выбары найбольш нязвыклай для тагачаснага рэцыпіента формы занатавання падзей: зварот да чытача, ліст памер-

ламу сябру і іншыя. Разняволенасць творчай манеры Скрыгана ў значнай ступені кампенсавала ўсё яшчэ адчувальны ўплыў цэнзуры, які выразна прасочваецца ў мемуарах іншых творцаў: «Сцежкамі жыцця» (1974) Паўліны Мядзёлкі, «Незабыўным» (1962) Заіра Азгура, «Далёкім, але не забытым» (1968) Паўла Пруднікава, «Заўсёды з радзімай» (1980) Кастуся Кірыенкі, «Успамінах» (1993) Пімена Панчанкі.

У 1980—1990 гады пераход ад калектыўнай свядомасці да індывідуальнага светабачання абумовіў сярод мемуаратворцаў актуалізацыю ўстаноўкі на шчырасць пры апісанні аўтабіяграфічных з'яў і падзей, псіхалагізм, спавядальнасць. Асоба аўтара ў такіх творах выяўляе сябе ўсё часцей не праз апісанне ўласных стасункаў з выбітнымі дзеячамі культуры, а непасрэдна дзякуючы самарэфлексіям і паглыбленням у гісторыю ўласнага роду. Так, калі ва ўспамінах «Аратай, які пасвіць аблокі» (1995) Рыгора Барадуліна сюжэтным цэнтрам усё яшчэ з'яўляюцца вобразы славутых суайчыннікаў паэта, то ў «Маім радаводзе да пятага калена» (1993) Уладзіміра Арлова гістарычныя падзеі, творцы, грамадска-культурнае жыццё акрэслены праз прызму вузкаасабістых ведаў пісьменніка пра паходжанне яго сям'і. Характэрна, што мемуары Арлова створаны ў эсэістычнай манеры, якая надае стылю пэўную разняволенасць.

Пачынаючы з 2000 года колькасць мемуараў значна павялічваецца. Разам з тым пашыраецца і кола закранутых тэм, узмацняецца шчырасць і давяральнасць пры выяўленні аўтарскага пачатку. Грунтоўныя пераасэнсаванні пісьменнікамі свайго жыцця і ранейшых меркаванняў знайшлі адлюстраванне ў творах «Не жаль пражытага» (2002) Сакрата Яновіча, «Крыніцы і каламуць» (2008) Алеся Петрашкевіча. Згадкамі пра малую радзіму аўтара прасякнуты «Душа прасілася ў Мікольцы» К. Камейшы, «Горад майго дзяцінства» У. Лякіна, «Мінская зямля» А. Клышкі. На параўнальна вузкім коле праблем засяроджаны мемуары «Мой шыбалет» П. Садоўскага, «Мой лістапад» А. Усені, «Армейскі блакнот» В. Гапеева, «Вячэра з відам на Дынама» У. Сцебуракі, «Не магу жыць без крыл», або Дваццаць абзацаў з майго жыцця» Э. Акуліна і іншыя. Гэтаксама існуе тэндэнцыя да звароту творцаў пры напісанні мемуараў да наджанравага ўплыву *creative non-fiction*. Прыкладам з'яўляюцца ўспаміны «Сіняя кніга беларускага алкаголіка» (2012) Антона Кулона (А. Астапенкі), «Альбом сямейны» (2007) Вінцэся Мудрова і «Requiem па непатрэбных рэчах» (2011) Віктара Шалкевіча.

Як бачым, на працягу чатырох стагоддзяў свайго існавання ўспаміны зазналі шэраг спадаў і ўздымаў, выкліканых культурнагістарычнымі ўмовамі. На сучасным этапе ў беларускай літаратуры выкрышталізаваліся чатыры асноўныя разнавіднасці мемуаратворчасці: аўтапсіхалагічныя творы, творыпрысвячэнні малой радзіме, бытавыя і мемуары *creative non-fiction*.

## КРЫНІЦЫ

1. Улашчык, М. Мемуары і дзённікі як крыніцы гісторыі Беларусі: З рукапіснай спадчыны / М. Улашчык. — Мінск: Пейто, 2000. — 86 с.

2. Еўлашоўскі, Ф. Успаміны / Ф. Еўлашоўскі // Гісторыя беларускай мовы: Хрэстаматыя /І. І. Бубновіч, Н. К. Памецька. — Гродна: ГрДУ, 2009. — С. 74—76.

3. Абуховіч, А. Мемуары / А. Абуховіч // Заняпад і адраджэнне: беларуская літаратура XIX стагоддзя; уклад. У. Казбярук. — Мінск: Маст. літ., 2001. — С. 513—531.

4. Ядвігін Ш. Успаміны / Ядвігін Ш. // Выбраныя творы. — Мінск: Маст. літ., 2006. — 293 с.

5. Валахановіч, А. Прадмова / А. Валахановіч, У. Міхнюк // Споведзь у надзеі застацца жывым: аўтабіяграфія Б. Тарашкевіча. / рэд. А. С. Ліс. — Мінск: БелНДІДАС, 1999. — С. 4—16.

6. Хведаровіч, М. Памятныя сустрэчы / М. Хведаровіч. — Мінск: Дзяржвыд. БССР, Рэд. маст. літ., 1960. — 194 с.

7. Лужанін, М. Вачыма часу: успаміны, накіды партрэтаў, артыкулы / М. Лужанін. — Мінск: Беларусь, 1964. — 445 с.

8. Рамановіч, Я. Знаёмыя сілуэты / Я. Рамановіч. — Мінск, 1974. — 158 с.

9. Верас, З. Пяць месяцаў у Мінску [Электронны рэсурс] / З. Верас. — Рэжым доступу: http://maksimbogdanovich.ru/articles/6.htm. — Дата доступу: 25.03.2014.

Валерый НАЗАРАЎ

# МРЫЙ: ВЫТОКІ ВОПЫТУ

***Ад таго часу, калі А. Мрый пачаў публікаваць свае творы, нас аддзяляе 90 гадоў. За гэты перыяд спадчына пісьменніка зведала і ашальмоўванне, і «забыццё», але і вяртанне — напрыканцы 1980-х. Сапраўды: «час кідаць камяні і час збіраць іх... час раздзіраць і час сшываць, час маўчаць і час гаварыць...» За вяртаннем спадчыны нязменна ідзе яе даследаванне, і цяпер можна пашыраць, наколькі магчыма, веды пра аднаго з таленавітых сыноў Беларусі. А для гэтага трэба прайсці яго шляхамі і пастарацца адшукаць вытокі творчага вопыту сталага мастака слова і ўбачыць прычыны нечакана хуткага росту яго прафесіяналізму.***

Імя А. Мрыя стала вядомым дзякуючы публікацыям яго апавяданняў, нарысаў і допісаў на старонках галоўнай газеты рэспублікі ў 1924 годзе. Аднак ужо ў пачатку 1925 года ён зусім перастаў выступаць як публіцыст, а 10 студзеня 1926-га «Савецкая Беларусь» надрукавала апошні ў «краснапольскім перыядзе» мастацкі твор пісьменніка — абразкі «На кірмашы». Пасля гэтага таленавіты малады аўтар не публікаваў свае творы больш за год. Такое даволі доўгае маўчанне было абумоўлена многімі прычынамі.

У 1924—1925-м яшчэ раз адгукнулася рэквізіцыя царкоўных каштоўнасцей 1922 года — на гэты раз працэсам і судовай справай над святарамі і свецкімі асобамі, што нібыта супраціўляліся ўладам. Зняважлівае стаўленне савецкай дзяржавы да вернікаў было прадэманстравана яшчэ раз: улетку 1925-га «Савецкая Беларусь» змясціла вымушанае пакаянне беларускага праваслаўнага мітрапаліта Мелхіседэка (Паеўскага). Архірэй, які ніколі афіцыйна не выступаў супраць адабрання, на адкрытым палітычным працэсе быў усё ж прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна, а пазней высланы ў Маскву. Такім чынам, па веры А. Мрыя ў магчымасць дыялогу ці хаця б здаровай палемікі паміж рэлігійнымі людзьмі і атэістамі быў нанесены знішчальны ўдар.

Галоўная рэспубліканская газета асвятляла працэс над выкладчыкам слуцкіх агульнаадукацыйных курсаў Юрыем Лістападам і некалькімі звязанымі з ім асобамі: увосень 1925-га ДПУ БССР выкрыла «контррэвалюцыйную групу», што нібыта займалася арганізацыяй сялянскага паўстання супраць савецкай улады і мела на мэце вывад Беларусі са складу СССР. «Лістападаўская справа» паказала, што нават лаяльная творчая інтэлігенцыя не карысталася даверам і не была асаблівым аўтарытэтам для ўлады. У якасці сведкі на суд выклікаўся асабіста знаёмы з Ю. Лістападам Якуб Колас, і над вядомым пісьменнікам, нягледзячы на адсутнасць доказаў, некаторы час вісела пагроза ператварыцца са сведкі ў абвінавачанага, прычым у якасці галоўнага кіраўніка беларускай контррэвалюцыйнай арганізацыі. Як выявілася, група ні па сваіх сувязях, ні па размаху працы не ўяўляла небяспекі для дзяржавы, аднак працэс расставіў усе кропкі над «і», наглядна праілюстраваўшы сапраўднае стаўленне ўлады да сялянства і нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі.

Улічваючы спецыфіку ранняй творчасці А. Мрыя, усе гэтыя падзеі не маглі пакінуць яго абыякавым, дазволіць яму і далей без ваганняў вітаць пераўтварэнні і наіўна верыць у абсалютную справядлівасць памкненняў новага ладу, прызнаваць адпаведнасць здзяйсняемага заяўленаму. З другога боку, змянілася і кола зацікаўленняў маладога пісьменніка. Адлюстраванне беларусізацыі не магло доўга задавальняць яго

творчую натуру, відавочныя змены ў культурным і навуковым жыцці краіны натхнялі на больш плённую і патрэбную дзейнасць. Настаў спрыяльны час і для ўдасканалення пісьменніцкага таленту, шліфавання ўласнага стылю.

Такая трансфармацыя поглядаў і напрамкаў дзейнасці магла адбыцца напрыканцы 1925-га — пачатку 1926-га. У гэты час, у верасні 1925-га, у Інбелкульце была распрацавана «Інструкцыя да збірання слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове», і ўжо 14 лістапада яна была разаслана па акруговых і мясцовых краязнаўчых арганізацыях у суправаджэнні лістоўкі-закліка «Да беларускага настаўніцтва». Падпісаны народным камісарам асветы БССР і старшынёй Інбелкульта Усеваладам Ігнатоўскім, старшынёй камісіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы Сцяпанам Некрашэвічам і сакратаром камісіі Мікалаем Байковым, апошні дакумент асабліва падкрэсліваў важнасць збірання слоўнікавага матэрыялу і заклікаў настаўнікаў прыняць у гэтай справе актыўны ўдзел. Зразумела, што А. Мрый, якому ад пачатку творчага шляху была ўласціва зацікаўленасць народным словам, трапным выразам, адразу ўключыўся ў работу. Паводле прынятых камісіяй правіл, у кожнай з картак ён змяшчаў транскрыпцыю слова, акрэсліваў усе яго значэнні, прыводзіў канкрэтныя ілюстрацыі ўжывання.

## ЗБІРАННЕ ЛЕКСІКІ. ВОПЫТ ЛЕКСІКОГРАФА Ў МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ

З артыкула М. Карпечанкі «Збіральнік слова матчынага» (1988) можна даведацца, што ў пісьменніка была фантастычная захопленасць фальклорам і гутарковай мовай. Паводле прыведзеных у публікацыі ўспамінаў Яўгеніі Каплуновай, былой вучаніцы А. Шашалевіча, «слова, пачутае на нядзельным кірмашы, у чарзе па хлеб, вымаўленае школьнікам, Андрэй Антонавіч тут жа запісваў ці стараўся запомніць. Пры гэтым нярэдка, як кажуць, на прамілы бог прасіў дзядзьку ці цётку, з вуснаў якіх сарвалася гэтае слова, прыгадаць, а як яшчэ яго вымаўляюць у іхняй мясцовасці і што яшчэ яно азначае»[1].

У артыкуле сакратара камісіі М. Байкова «Што зроблена ў справе збірання слоўнікавага матэрыялу на месцах за 1926 год?» (1927) як найбольш даследаваныя ў БССР былі названы Койданаўскі, Старобінскі і Краснапольскі раёны, а ў спісе збіральнікаў прыведзена прозвішча пісьменніка: «Трэба заўважыць, што з пэўных мясцовасьцяй падалі значныя матар'ялы паасобныя корэспондэнты: [...] Шашалевіч А. з Краснапольскага раёну — 2.915 картак»[2].

Для ўдакладнення, усяго з Краснапольшчыны паступіла на той момант 3047 картак, а з гэтага вынікае, што амаль усё сабранае ў раёне (95,7 %) запісаў і даслаў сам пісьменнік. Пры апошнім падліку ў канцы года выявілася, што яго збіральніцкая праца наогул была самай плённай[3].

А. Мрый і пазней не спыніў дзейнасці па фіксацыі лексікі. У артыкуле М. Байкова «Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928)» (1928) прозвішча пісьменніка згадана ўжо некалькі разоў: у пераліку асобных запісчыкаў, дзе ён адзіны, хто названы па імені; у сувязі з удакладненай колькасцю дасланых ім картак — 3247; у пераліку карэспандэнтаў, заахвочаных прэміяй са сродкаў Слоўнікавай камісіі[4]. Пададзена таксама інфармацыя, што «Андрэй Шашалевіч (Краснапольскі р. б. Калінінскай акругі) даслаў свой разгляд «Беларуска-расійскага слоўніка» М. Байкова і С. Некрашэвіча»; прыведзена і ўхвальная

[1] Карпечанка, М. Збіральнік слова матчынага / М. Карпечанка // Літаратура і мастацтва. — 1988. — № 30, 22 ліпеня. — С. 7.

[2] Байкоў, М. Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу на мясцох за 1926 год? / М. Байкоў // Наш край. — 1927. — № 1. — С. 38—39.

[3] Байкоў, М. Зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу / М. Байкоў // Наш край. — 1927. — № 11. — С. 51.

[4] Байкоў, М. Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады (1925—1928) / М. Байкоў // Наш край. — 1928. — № 12. — С. 53—54.

вытрымка з рэцэнзіі Браніслава Эпімах-Шыпілы, напісанай на слоўнік: «Багаты сэмасіялёгічны матар'ял даюць і выпраўленьні К. Вашыны і А. Шашалевіча»[1].

На ніве стварэння слоўніка мовы ўсходняй Магілёўшчыны ў той час плённа працаваў звязаны з камісіяй Іван Бялькевіч, што ўзначальваў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум. Усяго за год колькасць яго карэспандэнтаў сягнула за сотню, а даследаванні праведзены звыш чым у 370 пунктах, у выніку было сабрана каля 15 000 слоў. На жаль, з-за рэпрэсій кніга была падрыхтавана да друку толькі ў 1959-м, а апублікавана ўвогуле ў 1970-м.

У Бялькевічавым «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» можна знайсці шмат лексічных адзінак, запісаных на Краснапольшчыне. Яны часта суправаджаюцца трапнымі прыкладамі, пастарацца знайсці якія мог працавіты і адданы справе даследчык:

*заміць* — «У полі тыкая заміць, што сьвету ні відаць; ні дай бог січас быць у дарозі — прупасьць можна» (Малюшын);

*захова* — «Лучшыя захова дзеніг — ета ў кыбаку» (Лютня);

*клычыньня* (узлахмачванне) — «Січас у горідзі дзеўкі выласоў ні прічэсваюць: клычыньня ў модзі, гылыва ік куст якей» (Цівецкая);

*падлічывыньня* — «Зынялісь падлічывыньнім прібыткыў, а іх чорт бачыў — адны страты» (Палуж);

*праўда* — «Ніпраўда, дайду, айдзе праўда» (Палуж);

*прачуханка* — «Даў яму сяньні добрую прачуханку, будзя помніць да новых венікаў» (Хвёдараўка);

*радзімец* (прыпадак, які суправаджаецца сутаргамі; таксама чалавек, які прымушае нерваваццa, непакоіцца) мае ілюстрацыю «Ат етыга радзімца ня тхрысьцісься, ня тмолісься» (Палуж);

*укыряньня* (укоры, дакоры) — «От, ні чула я його ўкыряньня, мне што ён гаворіць, што сыбака брешыць» (Брылёўка);

*ява* — «Дзіўныя была ява на небі: нейкія слупы жоўтыя і зялёныя стыялі» (Палуж);

*здзеіный* (здзейснены) — «Задум твой здзеіный ужу: хата ёсьць, конь ёсьць, сам — кум кыралю» (Горкі);

*курдупый* (прыземісты, нізкага росту) — «Чаго ты, курдупый, таўчэсься тут?» (Палуж);

*нейсхадзімый* (непраходны) — «Гадоў дзесіць нызад пат Чэрыкавым былі нейсхадзімыя лясы, а січас усі павырубілі» (Палуж);

*сівірьный* (сіберны, злы, калючы) — «А вецір такій сівірьный, што пячэць, як агнём» (Клясін);

*юдацкій* — «Паступык юдацкій, нечыга скызаць, чэсный чылавек так бы ні пыступіў» (Большыя Хутары);

*гартуваць* — «Мы куім, гартуім, зялеза гатуім» (Хвёдараўка);

*грэць* (біць) — «Ныстаўніца лінейкый грэла мяне добра ў лапу» (Хвёдараўка);

*дазволіць* — «Дазвольця к вашай гырагулі нашыму гырагулёнку падсесьць» (Горка; насамрэч Горкі або Горна);

*заспацца* — «Дзіцёнык — мой будзёнік, ні дасць заспацца» (Тур'я);

*зыдывацца* — «Добрый быў чылавек, а як стаў кымісарым, пачыў зыдывацца, а чаго ты зыдаесься?» (Хвёдараўка);

*зыхадзіцца* (забадзяцца, загуляцца, нахадзіцца) — «Дзе йта ты зыхадзіўсь? Пітухі прапелі, а цябе ні було» (Большыя Хутары);

*ежалі* — «Ежалі гэты аполак гуніць, то ўжо і ня знаю, якей вам і прывезьці» (Большыя Хутары);

*ноч-прі-ноч* (штоноч) — «Ета падумыць толькі. Аўдакім з Карпым ноч-прі-ноч у лес езьдзяць, і лясьнік іх ні спыймаіць» (Большыя Хутары);

*жах* — «А ён, нічога ня кажучы, ды жах таго па мордзі» (Палуж);

*ой* — «Ой, якей ён пастылы! Відзіць яго ні магу» (Хвёдараўка).

Гэтыя ілюстрацыі маглі б лёгка падысці для выкарыстання ў мастацкіх творах.

Некаторыя з прыведзеных у слоўніку прыкладаў аддалена, а некаторыя прыкметна нагадваюць моманты, сітуацыі, прыёмы з апавяданняў А. Мрыя мінскага перыяду:

[1] Тамсама. С. 55.

*падойма* (пад'ём) — «Дарога ны падойму пышла» (Маластоўка); забірае ўгару дарога ў часе размовы Піліпа і Сапрона з апавядання «Няпросты чалавек»;

*хітрый* — «Куліна, на-знаеш-на, якая хітрыя баба!» (Палуж); «на-знаеш-на» — атрыбут Ахрэма з апавядання «Моладзь»;

*зыдраць* — «Мужык як крымзанець пана дубіный, тэй і ногі зыдраў» (Палуж); добра «крымзанулі» пана, пасля чаго ён і памёр, памагатыя камандзіра Вінніка;

*пыжыгнацца* (перахрысціцца) — «Пыжыгнацца ня ўмеіць, а лаіцца наўчыўсь» (Гарцуеўка); абодва Віннікі не ведалі асноўных малітваў, але добра крылі лаянкай.

«Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» прыводзіць і такія ілюстрацыі ўжывання слоў, што з'яўляюцца надзвычайна блізкімі да фраз герояў А. Мрыя. Дзякуючы ім удзел пісьменніка ў стварэнні слоўніка становіцца цалкам відавочным.

Назоўнік *кырываха* (каравайніца, поўная жанчына) суправаджаецца прыкладам, запісаным у Горках: «Ого, якую кырываху за жонку ўзяў». Лексема *ляпёха* (з тым самым значэннем) мае ілюстрацыю ўжывання з Хвёдараўкі: «Жонка яго ляпёха-ляпёха, а сам, як шкілет». А вось словы Піліпа з апавядання А. Мрыя «Няпросты чалавек», у якіх выкарыстаныя абодва народныя назіранні: «Брат мой не фукульцяпісты, а жонку караваху ўзяў […]. Жонка — як яешня, а брат — шкілет…»[1]. Дарэчы, у названым апавяданні ёсць і *ляпёха*: гэтак дражніць сваю поўную жонку субяседнік Піліпа Сапрон.

*Мат* (голас) сустракаецца ў сказе, запісаным у Больных Хутарах: «Гора маё такоя, хоць мату прыдайся». Тая самая сітуацыя назіралася і ў жыцці няпростага чалавека: «Гора маё такое было, хоць мату прадайся»[2].

*Лажніца* (спальня) і *ячэйка* суправаджаюцца ілюстрацыяй, зафіксаванай у Лютні (цытуецца варыянт да першага з назоўнікаў): «Панскыя лажніца тут была, а цяпер саўхоскыя ячэйка». Піліп, звяртаючыся да Сапрона, распавядае: «Вунь, у тым пакоі, дзе вокны вялізныя, панская лажніца была, а цяпер ячэйка»[3].

*Здобнічак* (здобная булачка, пернік) праілюстраваны сказам з Маластоўкі: «Матруна ўмея здобнічкі пячы». Піліп хваліць самую лепшую — у яго вачах — жончыну якасць: «…яна ўмее здобнічкі пячы»[4].

Дыялектызм *вапрук* (вяпрук, самец свінні) мае яшчэ адно значэнне — неўвароткі, няўклюдны чалавек. Ілюстрацыя з Хвёдараўкі: — «Ой, якей ты вапрук, дзе ні павернісься — шкоду наробіш» — ледзь не даслоўна супадае са зваротам Сома да Самасуя: «Які ты вапрук! Дзе ні павернешся — шкоды наробіш»[5].

Прыметнік *уборный* (прыбраны) суправаджаецца прыкладам з Палужа: «Якей ён прыгожый, уборный». Вельмі блізкі да яго фрагмент апісання генеральскай дачкі з «Камандзіра»: «Такая была прыгожая ды ўборная!»[6].

Дыялектызм *клусный* (тлусты) запісаны ў Хвёдараўцы: «Ён клусный, як кыбан, хуць ты ны сала яго тапі». У апісанні Хвёдара Вінніка генерал, уладальнік маёнтка, надзелены той самай знешняй рысай: «Клусны быў, як кабан»[7].

Прыметнік *жарлівый* (яркі) ілюструецца прыкладам, зафіксаваным у Палужы: «Каліна жарлівыя ў лузе стаіць». Акурат гэтыя словы з вясельнай песні ўкладзены ў вусны прыгажуні Лоры з «Гармоніі ў ружовым»[8].

Яшчэ адзін палужскі прыметнік — *сцаленный* (гаючы, лекавы). З ілюстрацыяй

---

[1] Мрый, А. Няпросты чалавек / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 3. — С. 74.

[2] Тамсама. С. 74.

[3] Тамсама. С. 75.

[4] Тамсама. С. 76.

[5] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 4. — С. 60.

[6] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 84.

[7] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 83.

[8] Мрый, А. Гармонія ў ружовым / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 6. — С. 107.

«Крынічка там ёсьць, і ў ёй сцаленныя выда» непасрэдна звязаны «Запіскі…», дзе Самсону прапануюць запіць адзін з сухіх грыбоў «сцаленнай вадой з крынічкі»[1].

Прыклад ужывання лексемы *ўсядзістый* (тоўсты, пузаты) быў запісаны ў Хвёдараўцы: «Ты на плечы тонык, затое на пуза ўсядзістэй!». Тое самае назіранне з'явілася ў думках героя з апавядання «Рабін», калі ён аглядаў напуклены жывот свайго субяседніка: «Я прыпамятаў удалую характарыстыку, якую дае народ такім людзям: "на плечы тонкі, дык на пуза ўсядзісты!"»[2].

Прыслоўе *махым* (махам, умомант) ілюструецца фразай з Хвёдараўкі: «Як ішло махым, дык пайшло прахым». Няпросты Піліп распавёў пра лёс сваіх шалёных заробкаў наступнае: «Як ішло ўсё махам, дык і пайшло прахам»[3].

Узор ужывання лексемы *нахрыпым* (нахрапам) паходзіць з Палужа: «Нахрыпым дабіўся свайго». Хвёдар Віннік, апавядаючы пра спакушэнне генеральскай дачкі, завяршыў: «Бачу — незмага па добраму ўзяць. Падамнуў яе ды нахрапам дабіўся свайго»[4].

Да дзеясловаў *аблегца* (аблегчыся) і *задумаца* прыведзены прыклад з Брылёўкі: «Аблёгся на руку дый задумуўсь». Такім самым чынам паводзіць сябе Марка Белабус з «Гармоніі ў ружовым»: вярнуўшыся ад Лоры дахаты, ён «аблёгся на руку ды задумаўся»[5], а ў думках пачаў маляваць, як чалавечы род будзе аздароўлены з дапамогай яго ўласных генаў.

Дзеяслоў *шыманець* (вар'яцець) суправаджаецца прыкладам з Хвёдараўкі: «Шыманеіш ты, дзевычка, нашто ты пырвала сарочку». Віннік з «Камандзіра» суцяшае генеральскую дачку: «Што ты сшыманела, дзевачка? Нашто ты сарочку пашкуматала?»[6]. Дарэчы, лексема *шкымытаць* (шкуматаць, раздзіраць на шматкі) мае блізкі па сэнсе прыклад з Палужа: «Нашто ета шкымытаць було сарочку».

*Нырвацца* (надарвацца) праілюстраваны сказам з Хвёдараўкі: «Дос табе плакыць, ці ты йшчэ ні нырвалыся?». З гэтымі словамі супадае наступны фрагмент суцяшэння Вінніка: «Дос табе! Ці ты яшчэ не нарвалася?»[7].

Узор ужывання слова *дысадзіцца* (шкадаваць) зафіксаваны там жа: «Ны дысадзься дужа — пройдзя ўсё, а ты зыстанісься». Народнае суцяшэнне амаль супадае з тым, што сказаў Віннік генеральскай дачцэ пасля гвалту над ёй, і з фіналам першага скрутка «Запісак…»: «Усё пройдзе, а мы застанемся»[8], «Ат! пройдзе ўсё, а я застануся»[9].

У слоўніку І. Бялькевіча прыводзяцца дзясяткі лексем, прыклады ўжывання якіх маюць прыкметнае, а часам поўнае супадзенне з фразамі герояў А. Мрыя. Вёскі, адкуль паходзяць гэтыя ілюстрацыі, размешчаны пераважна ў цэнтры раёна, на адлегласці да сямі кіламетраў ад умоўнай прамой Краснаполле — Палуж. Яўным выключэннем з'яўляюцца адно Горкі, што амаль на мяжы з Чачэршчынай, на паўднёвым захадзе раёна. Безумоўны лідар па колькасці прыкладаў-супадзенняў (каля чатырох дзясяткаў, з якіх пятнаццаць поўных) — вёска Хвёдараўка, значны лік паходзіць з Палужа, прыкметная колькасць з Маластоўкі (цяпер у межах Краснаполля), Горак, Большых Хутароў, Брылёўкі, астатнія — з Лютні, Гарадзецкай, Турэйска, Тур'і, Мануйлаў (перастала існаваць).

Вёскі Краснапольшчыны дапамагаюць раскрыць некаторыя сакрэты творчасці

---

[1] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 49.

[2] Мрый, А. Рабін / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 2. — С. 51.

[3] Мрый, А. Няпросты чалавек / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 3. — С. 74.

[4] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 84.

[5] Мрый, А. Гармонія ў ружовым / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 6. — С. 107.

[6] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 84.

[7] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 84.

[8] Тамсама. С. 84.

[9] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 4. — С. 62.

А. Мрыя. У першую чаргу гэта тычыцца вызначэння рэальных прататыпаў названых пісьменнікам паселішчаў.

Раманная Шапялёўка, як і Круцялёўка з апавядання «На кірмашы», і Дрындзюлёўка з яшчэ больш ранняга апавядання «Навалілі!», з'явілася дзякуючы змене назвы Маластоўка. Гэтая вёска, размешчаная ў 1 км ад маёнтка Краснаполле, з'ўлялася цэнтрам воласці Чэрыкаўскага павета.

Радуль — у рэальнасці Палуж, і не толькі з-за супадзення галосных у назвах (якое, у сваю чаргу, нагадвае прыём літарэі). Згаданая ў «Запісках…» «адна манада, чырвона-рудая, як агонь», што «вылезла» ў Радулі і добра апякла Самасуя[1], можа быць своеасаблівым зашыфраваным успамінам пра дарэвалюцыйнага палужскага святара, апісанне якога засталося ў слоўніку І. Бялькевіча ў прыкладзе-ілюстрацыі да прыметніка *ріжый*: «У нас быў поп ріжый — ны гылаве се роўна агонь гаріць».

Дрыгавічы на аснове частковага сугучча назваў могуць быць ідэнтыфікаваны як Усцінавічы. Аднак прыклады слоўніка з вялікай ступенню ўпэўненасці дазваляюць лічыць прататыпам гэтай вёскі Трубільню. Па-першае, у рамане Дрыгавічы ўпамінаюцца ў сувязі з бабкай, якую «абавязкова клічуць разам з акушэркай»[2]. І акурат з Трубільні паходзіць ілюстрацыя ўжывання назоўніка *лякі* (перапуды, пярэпалахі), якія асвятляе характар бабчынай дапамогі — рытуальна-магічны — і нават падае вясковую мянушку жанчыны: «Дзіцёнык крычыць, знаць, спужаўсь ён. Ідзі ды старой Хвядосіхі, ніхай іна лякі выкычыць». Па-другое, да лексемы *сарвілаўшчына* (крадзёж, раскраданне) прыведзены наступны прыклад з Хвёдараўкі: «У Трубільні адна ў сьвеці сарвілаўшчына: ні пасідзяць ні гуркі, ні гарох — усё рыскрадуць». Зразумела, падобная сітуацыя прымушае гаспадароў садоў і агародаў жыць у пастаянным унутраным трымценні; нездарма прысутнічае ў слоўніку таксама ілюстрацыя-пацвярджэнне да дзеяслова *разглядаць*, што запісана ў самой Трубільні: «Ходзіць тут ды разглідае, а ўночы красьць прыдзе». Па-трэцяе, пэўную сувязь прарэзлівых гукаў з дрыжаннем і калатнечай адлюстроўваюць словы Алёны з апавядання «Алё, Алёна!»: «…слухай гэтую трубільню ды скачы ашалеўшы!»[3]; фіксуе яе і фразеалагізм «Ярыхонская труба», ужыты ў «Запісках…»[4]. Такім чынам, з Т/трубільняй заўсёды звязана нейкая непадкантрольная калатнеча: або крыкі напалоханага дзіцяці — відавочна, з яго ўласным цікам ці з дрыжаннем над дзіцяткам яго бацькоў, або трымценне і нават ашалелыя скокі дарослых людзей. Здаецца, сама зямля Трубільні ў мастацкім свеце А. Мрыя становіцца дрыгвяністай, дрыготкай.

Прататыпам Галалобаўкі, верагодна, з'яўляецца Высокі Бор (у сапраўднасці Высокі Борак цяпер не існуе). З гэтай вёскі паходзіць ілюстрацыя да слова *гылалобіна* (галамоўза): «Звесіў сваю гылалобіну над кнігый і ні відзіць, што курі пырізгріблі гряды». Аднак нельга выключаць, што Галалобаўкай пісьменнік мог назваць Хвёдараўку ці Аляксандраўку — па частковым сугуччы назваў. Апошнія вёскі прэтэндуюць таксама на ролю Забягаеўкі: яны апраўдваюць сэнс назвы тым, што размешчаны ўбаку ад прамых дарог з Краснаполля на Чэрыкаў і Клімавічы.

За Вялікімі Насамі «Запісак…» хаваюцца Большыя (цяпер Вялікія) Хутары. Акрамя пэўнага падабенства назваў, на карце вёска сапраўды выторкваецца — як цікаўны нос — з асноўнага масіву паселішчаў у цэнтры раёна да лясных гушчароў на ўскрайку.

Воўчыцкі сельсавет з вёскай Галадранкай, згаданы ў рамане, адпавядае сапраўднаму Выдранскаму (існаваў да 1954 года) і Выдранцы: акрамя сэнсавага і гукавога падабенства назваў, рэальныя сельсавет і вёска таксама знаходзяцца ў лясной мясцовасці бліжэй да мяжы раёна.

---

[1] Тамсама. С. 53.

[2] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 57.

[3] Мрый, А. Алё, Алёна! / А. Мрый // Чырвоны сейбіт. — 1928. — № 12. — С. 5.

[4] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 4. — С. 48.

Размяшчэнне вёсак дапамагае глыбейшаму пранікненню ў топас твораў А. Мрыя. Пра гэта можна з большай упэўненасцю гаварыць, разглядаючы прыклады з паселішчамі, якія сустракаюцца ў рамане і апавяданнях пісьменніка пад сваімі сапраўднымі назвамі.

Каб дабрацца да Лютні, трэба ісці на захад ад раённага цэнтра, і гэтым можна патлумачыць асаблівую папулярнасць у героеў «Запісак…» лютнянскага шляху, поля і лесу як месцаў рамантычных экскурсій і вечаровых вандровак. Брылёўка, якая фігуруе ў апавяданні «Разбудзілі!» і «Запісках…» ды нязменна звязана са скандальным выступленнем, суседнічае з Палужам: магчыма, што пісьменнік, жыхар блізкага Палужа, сапраўды ўбачыў і пачуў у Брылёўцы якоесьці недарэчнае выступленне. А істотна аддаленую ад цэнтра вёску Горкі можна прызнаць за месца нараджэння Самсона Самасуя: герой са сваёй малой радзімы да мястэчка толькі лесам ехаў каля дваццаці вёрст, а Горкі, размешчаныя на самым ускрайку раёна, знаходзяцца ад Краснаполля на яшчэ большай адлегласці. Нават цяпер некаторыя шляхі з вёскі да раённага цэнтра цягнуцца праз лес многія кіламетры.

Нельга недаацэньваць слоўнік І. Бялькевіча як крыніцу тлумачэння лексікі твораў А. Мрыя. Для прыкладу, расшыфроўваюцца словы Хвёдара Вінніка: «...ня быў трышкай»[1], калі ясна, што трышка — баязлівец. Больш зразумелымі становяцца і словы маці Самсона Самасуя: «Трынку, валынку…»[2]. Трынка — назва картачнай гульні, а валынка — валакіта. Такім чынам, герой імкнуўся да забаў, а выкананне патрэбнай працы зацягваў.

Ілюстрацыі ўжывання слоў, сабраныя на Краснапольшчыне і прадстаўленыя ў слоўніку, дапамагаюць зразумець сутнасць некаторых намёкаў у мастацкай творчасці пісьменніка.

У «Запісках…» герой апавядае, як на маёўцы «…прыцмактаўся да чырвоных Крэйніных губ і запальна піў агністую кроў дзявоцтва»[3]. У слоўніку да лексемы *павук* пададзена ілюстрацыя з Хвёдараўкі: «Нацмыктаўсь, як павук, крыві маёй». Не выклікае сумнення, што ў гэтым эпізодзе пісьменнік параўноўвае Самсона з павукомкрывасмокам, надзвычай небяспечным для Крэйны.

Пазней дзейсны прайдзісвет паведаміў, што, акрамя іншых спраў, «…зрабіў пасяджэньне ў лесе па агляду нявывезеных дроў»[4]. У Хвёдараўцы быў запісаны прыклад ужывання слова *вярхоўя* (вярхі дрэў): «Далі на дровы вярхоўя, дык і таго з-зы грязі нельга вывізьць зь лесу». Калі прыняць ілюстрацыю слоўніка за крыніцу інфармацыі, атрымаецца, што сходка была наладжана ў глухім гразкім месцы з мэтай агляду не вартых увагі спіленых вярхушак. Няцяжка ўявіць, што адчулі ўдзельнікі такога пасяджэння да свайго арганізатара, які, нібы чорт, зацягнуў іх у балота.

Адна з прыказак Торбы, якую не можа зразумець яго абвінаваўца, — «Кусайся, хоць зубоў ня маеш!»[5]. Самасуй ацэньвае яе як неразумную і адразу выяўляе сваю нязгоду: маўляў, калі кусацца без зубоў, можна стаць аб'ектам асмяяння. У слоўніку да прыметніка *зубатый* пададзены прыклад ужывання з Хвёдараўкі: «Ён, ого якей зубатэй, ні дасьць сябе пакрыўдзіць». Не застаецца ніякіх сумненняў: Торба заклікае нікóлі не даваць сябе ў крыўду і заўсёды бараніцца — нават пры адсутнасці неабходных сродкаў.

Ужо згадвалася, як Самасуй запіваў сцаленнай вадой з крынічкі сушаныя лекавыя грыбы. Іх назвы таксама сустракаюцца ў слоўніку і суправаджаюцца прыкладамі з Хвёдараўкі, даволі блізкімі адзначанаму эпізоду рамана: «Чортыва яйцо — ета грыб такей, ванючый, але дужа пальзіцільный ат жывата», «Ні бяры етый грыб. Ета пярдзіна,

---

[1] Мрый, А. Камандзір / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 4. — С. 82.

[2] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 3. — С. 32.

[3] Тамсама. С. 55.

[4] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 4. — С. 54.

[5] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 65.

ён — як атрава». З творчай перапрацоўкай прыведзеных ілюстрацый можна азнаёміцца ў наступным фрагменце главы «Гостры гастрыт»: «Тут два грыбы. Адзін, во гэты — завецца чортава яйцо, дужа палзіцельны грыб ад рэзі ў пузе, трэба яго праглынуць ды запіць во гэтай сцаленнай вадой з крынічкі. А калі не пасобіць, дык тады праглынуць другі грыб. Ён завецца пірдзіна, дужа сьмярдзючы грыб, але ўсё як рукой зьніме»[1]. Як бачна, другі з лекавых грыбоў у сапраўднасці атрутны. Таму адна з магчымых трактовак эпізода — сімвалічнае забойства героя аўтарам.

Апошні прыклад. У «Запісках…» поўная амбіцый піянерка напісала п'есу «Каханне пад прымусам». А вось зафіксаваны ў Трубільні прыклад да слова *няволіньня* (прымус) вучыць: «Няволіньням атняць можна, а даць нільзя». У народнай свядомасці каханне пад прымусам — з'ява немагчымая.

## КРАЯЗНАЎЧАЯ ПРАЦА. АДБІТКІ КРАЯЗНАЎЧЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ У «ЗАПІСКАХ САМСОНА САМАСУЯ»

Актыўнай дзейнасці збіральніка лексікі, фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў у самым пачатку гэтак жа актыўна перашкаджалі. Канфлікт з загадчыкам абласнога аддзела народнай адукацыі вымусіў Мрыя пакінуць працу ў школе: ужо ў жніўні 1926 года ён выехаў у Мінск. У сталіцы рэспублікі пісьменнік пазнаёміўся з вядомым і прызнаным майстрам слова Змітраком Бядулем, які ўзяў яго пад сваю апеку. Так А. Мрый быў рэкамендаваны ў часопіс «Наш край» і стаў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства.

Частку матэрыялаў пісьменнік друкаваў у часопісе пад сваім сапраўдным прозвішчам. Аднак большасць артыкулаў А. Шашалевіча як інструктара ЦБК (справаздач аб паездках, аглядаў літаратуры і інш.) была апублікавана без указання прозвішча іх аўтара, што значна ўскладняе праблему збірання названай часткі творчай спадчыны і ўвядзення яе ў навуковы ўжытак. Трэба сказаць, што ў выпадках «ананімнасці» матэрыялаў іх аўтарства ўсё ж высвятляецца, прычым, даволі дакладна і ледзь не заўсёды з дапамогай «Хронікі» — адпаведнага раздзела, часопіса у якім чытачам паведамлялася аб пасяджэннях ЦБК, аб даручэнні пэўным супрацоўнікам канкрэтных заданняў, у тым ліку службовых камандзіровак, справаздач супрацоўнікаў і рэкамендацыях гэтых справаздач да друку. Нарэшце, у «Нашым краі» змяшчалася дадатковая інфармацыя аб аўтарстве апублікаваных за год матэрыялаў. На вялікі жаль, у адзіную кнігу твораў Андрэя Антонавіча, выдадзеную ў 1993 годзе, увайшло прыкметна меней артыкулаў, чым некалі было ім апублікавана на старонках часопіса, таму гэтая частка яго спадчыны і цяпер — terra incognita для аматараў і даследчыкаў беларускай літаратуры.

Праца А. Мрыя як краязнаўцы афіцыйна пачалася з 1926 года, яго першыя публікацыі ў часопісе з'явіліся напрыканцы 1927-га. 2 верасня гэтага года пісьменніка камандзіравалі на Гомельшчыну з мэтай вывучэння дзейнасці Гомельскага акруговага таварыства краязнаўства, а 17 лістапада разам з С. Жураўскім — у Аршанскую і Магілёўскую акругі. Адпаведны справаздачны матэрыял быў змешчаны ў № 12 без пазначэння аўтарства. У № 10 пад прозвішчам *А. Шашалевіч* і крыптанімам *А. Ш.* былі паслядоўна апублікаваны артыкулы «Краязнаўчы друк на БССР к 10 гадавіне кастрычніка» і «Інструкцыйна-краязнаўчая літаратура, выдадзеная Ц.[энтральным] б.[юро] краязнаўства», у № 11 — азнаямляльны *даклад А. Шашалевіча* «Арыентовачны план працы раённага таварыства краязнаўства» і ўласна «План працы раённага т-ва краязнаўства», укласці які, як можна давядацца з «Хронікі» № 8-9, было даручана яму ж.

Інтэнсіўнасць працы пісьменніка як інструктара ЦБК уражвае. У пачатку 1927-га яго вылучылі сталым прадстаўніком у камісію па ахове помнікаў, улетку — у склад групы лектараў на радыё, калі пяць прадстаўнікоў ЦБК павінны былі прачы-

[1] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 49.

тацъ 10 лекцый на тэмы: «Краязнаўчыя экскурсіі і вандраванні», «Асветнае краязнаўства», «Як рабіць краязнаўчае даследаванне», «Краязнаўчая праца сялян, рабочых і чырвонаармейцаў», «Як збіраць краязнаўчыя матэрыялы», «Што можна ўбачыць у Менскім музеі», «“Наш край” і яго чытачы», «Краязнаўчая вечарына: спеў, казка, дэкламацыя», «Падрыхтоўка да выставак у дзень ураджаю», «Як арганізаваць мясцовы музей». Напрыканцы года на пасяджэнні ЦБК была абрана камісія па арганізацыі выстаўкі краязнаўчых фатаграфій і замалёвак, у склад якой увайшоў і Шашалевіч.

У студзені 1928-га ў якасці прадстаўніка ЦБК пісьменнік знаходзіўся на акруговай краязнаўчай канферэнцыі ў Магілёве, пасля вывучаў Бабруйскую акругу (Рагачоў, Парычы, Бабруйск і Глуск). У лютым быў камандзіраваны ў Мазырскую акругу (Мазыр, Жыткавічы, Тураў, Петрыкаў і Лельчыцы), у маі — у Полацкую (Ула, Полацк, Ушачы, Лепель). У пачатку восені ён вывучаў працу Пухавіцкай, Чэрвеньскай і Бярэзінскай раённых краязнаўчых арганізацый Менскай акругі, а крыху пазней — Уваравіцкай, Брагінскай, Церахоўскай, Хойніцкай, Рэчыцкай раённых і Гомельскай акруговай арганізацый.

Павялічылася і колькасць апублікаваных матэрыялаў. У «Нашым краі» за 1928 г. былі змешчаны артыкулы: у № 2 — «ІІІ Магілёўская акруговая краязнаўчая канферэнцыя», «Бабруйская акруга», у № 4 — «Мазырскае акруговае таварыства краязнаўства», у № 6-7 — «Матэрыялы рэдакцыі “Нашага краю”, якія не надрукаваны», «Першая Усебеларуская выстаўка краязнаўчых фатаграфій і зарысовак», «Полацкая акруга» (апошнія два былі падпісаны прозвішчам пісьменніка і крыптанімам *Ан. Ш-іч.*), у № 10 — «Менская акруга», у № 11 — «Праца некаторых краязнаўчых арганізацый у Гомельшчыне». У раздзеле «Матэрыялы з месц» № 11 *А. Шашалевіч* надрукаваў таксама свой першы краязнаўчы нарыс «Па Гомельскай акрузе».

На працягу года пісьменнік выступаў па радыё, яму даручалася ўкладанне спісу праграм і рэферацыйных аглядаў метадычнай літаратуры з культурна-гістарычнай галіны.

1928 год стаў годам актывізацыі выкладчыцкай дзейнасці. Вясной ён удзельнічаў у рабоце шасцітыднёвых нядзельных краязнаўчых курсаў у БДУ, дзе вёў раздзел «Арганізацыя краязнаўчага руху ў БССР». Пра гэта паведамлялася ў публікацыі А. Аніхоўскага і В. Невядомскага «Праца таварыства краязнаўства пры Беларускім дзяржаўным універсітэце ў 1927—1928 годзе» (1928)[1] (у кнізе твораў А. Мрыя 1993 года частка артыкула памылкова змешчана як твор пісьменніка). У другой палове года з той самай дысцыплінай ён працаваў на студыі-курсах пры Студэнцкім таварыстве краязнаўства БДУ, у краязнаўчым гуртку пры Менскім белпедтэхнікуме. Як паведамляў Я. Марук у артыкуле «Краязнаўчая праца студэнцтва» (1929), заняткі гэтых курсаў «…ахапілі БДУ, Камвуз, тэхнікумы, рабфак, настаўнікаў, вучняў сямігодак і фабзавучаў», сабралі каля 300 слухачоў[2]. Паспяховая дзейнасць у якасці выкладчыка была адзначана і ў публікацыі С. Ліхадзіеўскага «Краязнаўчы гурток пры Менскім Белпедтэхнікуме» (1929). Малады аўтар падкрэсліў, што ўся праца гуртка вялася «пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве» працаўнікоў ЦБК, сярод якіх назваў і А. Шашалевіча[3].

У лютым 1929 года А. Мрый вывучаў краязнаўчую дзейнасць Мазыршчыны, у тым ліку Азарыцкага, Капаткевіцкага, Петрыкаўскага раённых і Мазырскага акруговага таварыстваў, у маі-чэрвені падарожнічаў па Полацкай і Віцебскай акругах (ёсць звесткі, што наведаў Лепель, дакладна — Віцебск і Сураж), у верасні знаёміўся з працай першых калгасаў Чачэрскага

[1] Аніхоўскі, А.; Невядомскі, В. Праца таварыства краязнаўства пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце ў 1927—1928 годзе / А. Аніхоўскі; В. Невядомскі // Наш край. — 1928. — № 6-7. — С. 85.

[2] Марук, Я. Краязнаўчая праца студэнцтва / Я. Марук // Наш край. — 1929. — № 1. — С. 11.

[3] Ліхадзіеўскі, С. Краязнаўчы гурток пры Менскім Белпедтэхнікуме / С. Ліхадзіеўскі // Наш край. — 1929. — № 2. — С. 57.

раёна Гомельскай акругі. Увосень, верагодна, у другой палове кастрычніка, разам з С. Жураўскім ён атрымаў пастанову аб камандзіраванні ў Менскую і Магілёўскую акругі.

На старонках часопіса ў 1929 годзе былі апублікаваны: у № 1 — «Краязнаўчая праца ў раёне», даклад на Другой Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, дзе пісьменнік быў задзейнічаны ў якасці аднаго з сакратароў, у № 3 — справаздача «Краязнаўчая праца ў Мазырскай акрузе», у № 10 пад крыптанімам *А. Ш.* — «Краязнаўчая экспедыцыя ЦБК у Чачэрскі раён». У № 11 быў пададзены справаздачны матэрыял аб працы Уздзенскага, Капыльскага і Грэскага раённых таварыстваў краязнаўства Менскай акругі, а таксама прыкметна пашыраны артыкул *А. Шашалевіча* «Краязнаўчая праца ў раёне», у якім пісьменнік улічыў вопыт многіх сваіх падарожжаў; матэрыял дазваляе меркаваць, што даследчык за час свайго інструктарства наведаў таксама Расну, Гарадок, Асіповічы, Слуцк, Барысаў, Крупкі, Талачын, Коханава, Оршу, Дуброўна і Ляды. У № 8-9, у раздзеле «Матэрыялы з месц» быў змешчаны другі краязнаўчы нарыс *А. Шашалевіча* «Па Дзвіне ў Сураж».

На вялікі жаль, з 1929-га працы пісьменніка друкаваліся менш актыўна, у некаторых выпадках толькі называліся. Вядома, што, акрамя названага спісу праграм і рэферацыйных аглядаў з культурна-гістарычнай галіны, А. Шашалевіч склаў арыентовачны план працы школьнага гуртка краязнаўства і гэты праект быў прыняты за аснову для распрацоўкі больш падрабязнага плана, чым заняліся пазней сам пісьменнік і яго супрацоўнікі Г. Аляксандраў і В. Самцэвіч. Вылучаўся ён таксама прадстаўніком у інстытут сялян-даследчыкаў, справаздача пра гэта таксама магла б з'явіцца ў «Хроніцы».

Год «вялікага пералому» не стаў апошнім у працы пісьменніка, хаця колькасць яго публікацый прыкметна зменшылася. На жаль, так і не быў надрукаваны ў часопісе «Агляд метадычна-краязнаўчай літаратуры за 1928/29 г.» — даклад на Трэцяй Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, што адкрылася 25 студзеня 1930 года і дзе А. Шашалевіч працаваў адным з сакратароў. Аднак пазней, у № 3, пісьменнік апублікаваў свой справаздачны артыкул аб дзейнасці Полацкага акруговага і Асвейскага, Дрысенскага і Валынецкага раённых таварыстваў краязнаўства Полацкай акругі, у № 4 паспеў даць агляд «Кароткага нарысу манаграфічнага апісання паўднёва-заходняй часткі Лельчыцкага раёна Мазырскай акругі» А. Шаўковіча і М. Курыловіча.

Барацьба з «нацдэмамі», якой адзначаны ў гісторыі 1930 год, зламала безліч лёсаў, знявечыла ці перарвала мноства цікавейшых творчых біяграфій. Тым больш уражвае, што ў № 4 «Нашага краю» (на той момант ужо быў арыштаваны А. Шлюбскі) усё ж паспеў з'явіцца трэці краязнаўчы нарыс *А. Шашалевіча* «Арганізацыя працы і быт у калгасах Чачэрскага раёна», напісаны паводле матэрыялаў экспедыцыі ЦБК у Чачэрскі раён у верасні 1929-га.

Хваля арыштаў дзеячаў нацыянальнай навукі і культуры, якая пракацілася па рэспубліцы ў 1930-м, забрала малодшага брата А. Мрыя, мноства яго сяброў, супрацоўнікаў і паплечнікаў, прыкметна змяніла ўмовы працы. Ужо 11 красавіка 1930-га на пасяджэнні ЦБК палічылі неабходным змяніць секцыйную структуру арганізацыі — у сувязі з «агульнасцю падзелу» і адсутнасцю «канцэнтрацыі ўвагі краязнаўчых мас на вузлавых пытаннях сучаснасці». Прыродна-геаграфічная, грамадска-эканамічная, культурна-гістарычная, яўрэйская і польская секцыі былі скасаваны, на змену ім прыйшлі прамысловая, сацыялістычнага земляробства і школьная (А. Шашалевіч разам з М. Касяровічам былі прызначаны адказнымі за працу апошняй). 30 кастрычніка таго ж года на пасяджэнні Прэзідыума Беларускай Акадэміі навук было прызнана, што краязнаўчыя арганізацыі не адпавядалі патрабаванням сацыялістычнага будаўніцтва, не адлюстроўвалі працы сярод меншасцей, праводзілі погляды самабытнасці і знаходзіліся пад уплывам нацыянал-дэмакратаў. Часопісу «Наш край» рэкамендавалася вызваліцца ад варожых элементаў і змяніць назву. У сувязі з чысткай Акадэміі, што пачалася з 1931-га, А. Мрый, хаця і быў пакінуты на працы, больш не меў ранейшай магчымасці выступаць у друку.

За чатыры гады актыўнай працы ў якасці інструктара ЦБК пісьменнік аб'ездзіў усе акругі БССР (у некаторых пабываў не адзін раз), наладзіў працу мноства краязнаўчых арганізацый рэспублікі і азнаёміў з асаблівасцямі і цяжкасцямі гэтай працы шырокую грамадскасць. А. Мрый таксама выступіў як адзін з арганізатараў краязнаўчай навукі. Зыходзячы з канкрэтных назіранняў, у артыкулах ён даў уяўленне пра ўзорны прыклад вядзення краязнаўчай працы.

Работа ў ЦБК, пастаяннае наведванне раённых і акруговых таварыстваў, вывучэнне іх дзейнасці, азнаямленне з багатай краязнаўчай літаратурай не маглі не адбіцца на мастацкай творчасці А. Мрыя. Зразумела, найбольш пашанцавала ў гэтым плане «Запіскам Самсона Самасуя» — апошняму з вядомых і буйнейшаму твору пісьменніка.

А. Шашалевіч некалькі разоў публікаваў у «Нашым краі» агляды краязнаўчай літаратуры па грамадска-эканамічным, культурна-гістарычным і прыродна-геаграфічным вывучэнні Беларусі. Магчыма, што нават частыя жывёльныя прозвішчы герояў яго рамана — водгалас вывучэння аўтарам шматлікіх зборнікаў і самых разнастайных артыкулаў па фаўне Беларусі. Некаторыя параўнанні і супастаўленні дазваляюць адчуць, а часам нават убачыць першакрыніцы створаных пісьменнікам вобразаў.

У главе рамана «Трагладыт» высмейваецца навуковая дзейнасць герояў. Пасля спробы вывучэння прадметаў рэлігійнага культу ў жытле трагладытаў Самасуй паведаміў: «Ніякіх абразоў выявіць не ўдалося, затое недалёка ад хаты, сярод двох карчавых дубоў, стаіць вялікі каменны статуй (Мамон кажа, што гэта каменная баба, я ня ведаю, ці так гэта, бо родавыя адзнакі адсутнічаюць)…»[1]. У артыкуле Д. Васілеўскага «Помнікі старасветчыны на Аршаншчыне» (1927), апублікаваным у «Нашым краі», паведамлялася аб знаходцы каменных баб у курганах каля вёсак Стайкі і Журавічы Багушэўскага і Коханаўскага раёнаў, быў нават змешчаны малюнак[2] адной з іх — грубай крыжападобнай фігуры з поўнай адсутнасцю партрэтных рыс і родавых прыкмет. Упэўненасць аўтара артыкула ў знаходцы жаночай выявы бянтэжыла, відаць, многіх чытачоў. Яна ж магла паслужыць асновай для змешчанага ў дужках удакладнення ў тэксце рамана А. Мрыя.

Адзін з загадкавых фрагментаў твора — трактат Самасуя аб розных відах вугалю, напісаны для Акадэміі навук. Герой інфармаваў: «У раёне ёсьць жоўты вугаль (сонца), белы вугаль (вада), блакітны вугаль (вецер), як аснова для заснаваньня грандыёзнага ветрабуду, зялёны вугаль (торф) і чырвоны вугаль (чалавек, жывёла). Пільныя дасьледы ў раёне праводзяцца ў мэтах адшуканьня чорнага вугалю, якога покуль што не ўдалося выкрыць»[3]. Як вядома, другі скрутак рамана, у якім знаходзіцца глава, мае дату пад тэкстам — 31 ліпеня 1929 г. А ўжо 26 чэрвеня — 13 ліпеня 1930 г. прайшоў XVI з'езд партыі, які прызнаў неабходным фарсіраваць скарыстанне мясцовых крыніц энергіі. Амаль годам пазней часопіс «Савецкая краіна» (1931, № 3, с. 77) зрабіў спасылку на апублікаваны напярэдадні з'езда артыкул Вангенгейма «Цветной уголь» («Искра», 1930, № 4), у якім паведамлялася пра белы вугаль (прэсную ваду), сіні (марскія прылівы і г. д.), блакітны (вецер), жоўты (сонца), зялёны (раслінны апал), чырвоны (жывёлу), пурпуровы (атмасферную электрычнасць), шэры (зямны магнетызм) і фіялетавы (сілу марозу). Цяжка сказаць, ці быў знаёмы А. Мрый з працай Вангенгейма на момант падрыхтоўкі «Запісак…», да яе публікацыі ў «Искре», ці гэта яшчэ адзін момант аўтарскага прадбачання, што гэтак часта праяўляецца ў рамане, аднак супадзенні тэкстаў відавочныя і тычацца пяці відаў вугалю з дзевяці. Пісьменнік апісаў гэтыя віды з сатырычным перабольшаннем, але, калі разабрацца, не такім ужо і вялікім. Днепрабуд (рэальны аб'ект мастацка-

[1] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 67.

[2] Васілеўскі, Д. Помнікі старасьвеччыны на Аршаншчыне / Д. Васілеўскі // Наш край. — 1927. — № 2. — С. 43.

[3] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 66.

га параўнання) быў распачаты ў 1927-м, а першы агрэгат ДнепраГЭС запушчаны толькі ў 1932-м, і напрыканцы 1929-га, калі публікаваўся раман, здзяйсненне гэтай задумы сапраўды магло здавацца пусканнем слоў і сродкаў на вецер. Праца чалавека ў СССР таксама доўгі час выкарыстоўвалася з тым самым поспехам, што і праца жывёлы, таму чалавек і аднесены Самасуем да чырвонага вугалю разам са скацінай.

Краязнаўчыя даследаванні і вандраванні таксама пакінулі след у творчасці пісьменніка. Ён яшчэ больш канкрэтны і адчувальны ў главе «Запісак…» «Прапаганда агіды да старога», дзе апісваецца стварэнне раённага краязнаўчага музея. А. Мрый, зразумела, вітаў разгортванне музейнай справы, лічыў неабходнымі захаванне і папулярызацыю скарбаў нацыянальнай культуры і цудаў прыроды. Аднак адчуваў пісьменнік і непрадуманасць многіх рашэнняў, і нават поўную прафанацыю першапачатковай высокай мэты.

У нарысе «Па Дзвіне ў Сураж», напісаным на матэрыяле падарожжа 13—15 чэрвеня 1929 года, аўтар падаў звесткі пра створаны пры местачковай школе-сямігодцы музейчык і змешчаных у ім фотаздымках мясцовай банды: «Самае цікавае — гэта матар'ялы па гісторыі бандытызму ў Сураскім раёне: фотографічны здымак усяго бандыцкага батальёну (фотограф, які рабіў здымак, быў растрэлены), фотографія бандыцкага атамана Ардэна, документы аб зьверствах і г. д.»[1]. Інтарэс пісьменніка, выяўлены ў нарысе, толькі вяршыня айсберга. Ён гаворыць не пра зацікаўленасць аўтара, а пра атрыманне ім уражання ад яўнай нечаканасці. Недарэчнасць змяшчэння ў экспазіцыі музея здымкаў банды паспрыяла ўзнікненню ў «Запісках…» наступнага паведамлення Самасуя: «Зьмясьцілі мы ў музэі і здымкі банды Сапліўца ў поўным складзе і зброю бандытаў»[2]. З тэксту мастацкага твора бачна, што ў музей паступае безліч экспанатаў невялікай вартасці. Адчуваецца і намёк аўтара на адсутнасць адбору для экспазіцыі сапраўды каштоўных рэчаў.

Хаця прозвішча атамана было заменена насмешлівай мянушкай, уплыў на А. Мрыя адпаведных экспанатаў школьнага музея ў Суражы відавочны. Не менш цікава таксама, што ў свой час на Краснапольшчыне дзейнічала банда Чырвонца, і менавіта гэтая рэальная мянушка магла натхніць пісьменніка на стварэнне літаратурнай.

Напрыканцы года часопіс «Наш край» (1929, № 11, с. 69) паведаміў аб справаздачах інструктараў А. Шашалевіча і С. Жураўскага па выніках іх камандзіровак у Менскую і Магілёўскую акругі. Адпаведныя матэрыялы былі змешчаны ніжэй без указання прозвішчаў аўтараў. Зразумела, толькі адна са справаздач можа належаць А. Мрыю і мець паралелі з тэкстам «Запісак…», і такой з'яўляецца справаздача аб краязнаўчай працы ў Менскай акрузе.

Фрагмент паведамлення пра дзейнасць Капыльскага раённага таварыства краязнаўства ўключыў інфармацыю пра невялікі раённы музей, «які вельмі адважна наведваецца сялянамі»[3]. Аўтар падкрэсліў адвагу сялян, з чаго вынікае, што ў экспазіцыі былі прадстаўлены нейкія незвычайныя і, магчыма, нават страшныя экспанаты. У главе «Прапаганда агіды да старога» можна прачытаць аб двух вагонах мамантавых костак, што былі сабраны камандай Самасуя ў Шапялёўскім раёне і часткова змешчаны ў экспазіцыі мясцовага музея: «Гэтыя косткі мы не змаглі ўсе разьмясьціць і экспонавалі толькі самыя вялікія судзыгі, якія сваімі звышнормавымі разьмерамі выклікалі жах у людзей. Сяляне […] нават божкаліся […]. Усё мястэчка з жахам глядзела на рэшткі вымерлых зьвяроў»[4]. Кароткае паведамленне справаздачнага артыкула развілася ў рамане ў разгорнутае асвятленне падзеі.



[1] Шашалевіч, А. Па Дзьвіне ў Сураж / А. Шашалевіч // Наш край. — 1929. — № 8-9. — С. 69.
[2] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 58.
[3] Копыльскае раённае т-ва краязнаўства // Наш край. — 1929. — № 11. — С. 71.
[4] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 57.

**Каб дабрацца да Лютні, трэба ісці на захад ад раённага цэнтра, і гэтым можна патлумачыць асаблівую папулярнасць у герояў «Запісак...» лютнянскага шляху, поля і лесу як месцаў рамантычных экскурсій і вечаровых вандровак**

З наступнага раздзела можна даведацца, што пры Грозаўскай сямігодцы «…распачата кампанія па збору экспанатаў для музэю, сабраны: жорны каменнага веку, колекцыі вапнякоў, акамянеласьцяй і г. д.»[1]. У рамане А. Мрыя таксама згадваюцца каменныя экспанаты, і іх шмат: «Перавезьлі ў музэй знойдзеную каменную труну і майстэрню каменных прылад і нейкую дагістарычную міску вагою да 40 пудоў. […] нейкі надмагільны камень з фашысцкім знакам, значэньня якога ніхто з нас не зразумеў, і толькі Мамон выказаў дагадку:

— Пад гэтым камянём яшчэ ў X стагоддзі ўземляўпарадкаваўся, кажучы сучаснай мовай, нейкі млынар»[2]. І ў сапраўдным музеі, і ў выдуманым прысутнічаюць рэчы, якія маюць непасрэднае дачыненне да млынара: жорны каменнага веку і надмагільны камень са свастыкай, прынятай Мамонам адначасова за выяву млына і рымскую лічбу X, якая нібыта азначае дзясятае стагоддзе. Пры параўнанні гэтых фрагментаў тэксту выяўляецца не толькі аўтарская іронія з устанаўлення сутнасці рэчы і яе датавання. У рамане разам з «надмагіллем млынара» прысутнічае каменная труна і, нарэшце, помнік памерламу сабаку князя Мрачкоўскага. Такі збег падобных рэчаў, які адсутнічае ў дакументальным матэрыяле, наводзіць на думку пра аўтарскі намёк на «пахаванне» музейнай справы ў БССР прафанамі ад навукі.

У «Запісках…» А. Мрый нярэдка іранізуе з недарэчных сцвярджэнняў і праектаў сваіх сучаснікаў. Амаль цалкам нейтральныя дакументальныя паведамленні яго краязнаўчых справаздач ператвораны ў рамане ў папярэджанні аб надзвычайнай распаўсюджанасці і сістэматычнасці памылак, аб збочванні грамадства з правільнага шляху ў справе захавання нацыянальнай культуры. Параўнанне рэальных крыніц вопыту А. Мрыя з мастацкімі тэкстамі дазваляе зазірнуць у свет яго пачуццяў і думак, асвятляе некаторыя асаблівасці яго творчага метаду. Яно ж дапамагае пазбягаць памылак і недакладнасцей у інтэрпрэтацыі.

## АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

Адным з заняткаў галоўнага героя «Запісак…» былі археалагічныя даследаванні. Самасуй нават паведамляе пра «нейкі ідальчык, знойдзены ў валатоўцы, які выабражаў сабой барана на калёсах»[3]. Зразумела, такая знаходка нагадвае хутчэй археалагічны жарт, містыфікацыю і паказвае неабазнанасць у археалогіі галоўнага рухавіка культуры Шапялёўскага раёна, што прыняў за ідал звычайную дзіцячую цацку. Адначасова за гэтымі радкамі рамана адчуваюцца адпаведныя веды і вопыт аўтара.

На вялікі жаль, удзел А. Мрыя ў археалагічных даследаваннях наўрад ці будзе асветлены належным чынам. Застаўся толькі адзін заўважны след — звесткі Вольгі Ляўко, даследчыцы помнікаў жалезнага веку і сярэднявечча паўночна-ўсходняй Беларусі, прыведзеныя ў артыкуле «Лепельскія гара-

**За Вялікімі Насамі «Запісак...» хаваюцца Большыя (цяпер Вялікія) Хутары. Акрамя пэўнага падабенства назваў, на карце вёска сапраўды выторкваецца — як цікаўны нос**

[1] Грэскае т-ва краязнаўства // Наш край. — 1929. — № 11. — С. 71.

[2] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 57.

[3] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 57.

дзішчы». Археолаг паведаміла, што на невялікім востраве Лепельскага возера ў 1929 годзе А. Шашалевіч выявіў селішча X—XII стагоддзяў са старажытнай керамікай, упрыгожанай хвалістым і лінейным арнаментам. Пазней жа, у 1931-м, археолаг А. М. Ляўданскі даследаваў на востраве больш глыбокія культурныя пласты гарадзішча жалезнага веку[1]. Лёс гэтых помнікаў, як і лёс іх першаадкрывальнікаў, таксама паказальны: вясной 1956-га, з узвядзеннем Лепельскай гідраэлектрастанцыі і павышэннем узроўню вады ў возеры, яны былі затоплены.

Як супрацоўнік бюро краязнаўства пісьменнік сапраўды знаходзіўся ў Лепелі 24 і 25 мая 1928-га, а таксама недзе паміж 7 і 26 мая 1929-га. У тыя дні ён мог наведаць і Стары Лепель, каля якога знаходзяцца згаданыя помнікі, а яшчэ шмат іншых, у тым ліку сярэднявечнае замчышча і курганы.

Трапяткое стаўленне А. Мрыя да археалагічнай спадчыны беларускага народа выяўляецца і ў яго краязнаўчых нататках «Па Гомельскай акрузе», дзе аўтар паведаміў пра ўваравіцкае гарадзішча: «А ў самым пачатку саду прыгожае гарадзішча, праўда, невялікае ў разьмерах, але добра захаванае. Месца гэтае завецца тут “Гарадком”, і пра яго шмат існуе тут легенд і паданьняў. Кажуць аб бочках золата, якія быццам тут закапаны, і як хочаш абвяргай гэтую казку — старажылы ўпарта адстойваюць яе. На гарадзішчы растуць цяпер вялікія дрэвы — дубы, бярозы і розныя хмызьнякі, а ўнізе разляглася балацяная Уза і адчыняецца бязьмежная прастора палёў [...] Гэтае месца, па мойму, лепшае і самае прыгожае месца ў мястэчку.

## У рамане разам з «надмагіллем млынара» прысутнічае каменная труна і помнік памерламу сабаку князя Мрачкоўскага

## «Лістападаўская справа» паказала, што нават лаяльная творчая інтэлігенцыя не карысталася даверам і не была асаблівым аўтарытэтам для ўлады

Вымяраю яго, уважліва аглядаю паверхню ў надзеі, што можа што-небудзь знайду. Але ўсё зарасло векавымі дубамі і нават трава ня ўзрыта»[2].

Ацэньваючы ўклад А. Мрыя ў справу збірання і захавання спадчыны беларускага народа, нельга не здзівіцца як шырыні яго зацікаўленняў, так і грунтоўнасці, скрупулёзнасці праведзеных ім даследаванняў. Ва ўсёй разнастайнасці інтарэсаў і ў выяўленай глыбіні таленту навукоўца пісьменнік паўстае як асоба, вартая заняць сваё пачэснае месца сярод прызнаных геніяў нацыянальнай культуры XX стагоддзя. І застаецца толькі шкадаваць, што творчы ўзлёт яго быў перарваны гэтак рана.

Вопыт лексікографа, краязнаўцы і археолага выразна адбіўся ў мастацкай творчасці А. Мрыя. Слухаючы сялян, нястомна збіраючы лексіку і запісваючы прыклады ўжывання слоў, пісьменнік не адно толькі пераняў натуральны стыль народнага маўлення. Уплятаючы трапныя ілюстрацыі ў тканку сваіх твораў, а часцей проста стылізуючы пад іх мову герояў, аўтар зашыфроўваў уласныя думкі, вынікі асабістых назіранняў, і рабіў чытачу адпаведныя намёкі. Аналізуючы розныя з'явы, з якімі сутыкаўся пры вывучэнні роднага краю і яго жыхароў, першапачатковыя тэндэнцыі гэтых з'яў, ён нязменна імкнуўся да спасціжэння ледзь акрэсленых законаў іх развіцця і праз гэта да прагназавання ўсяго далейшага ходу эвалюцыі і ўсіх магчымых яе наступстваў. 

[1] Ляўко, В. М. Лепельскія гарадзішчы / В. М. Ляўко // Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі — Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 1993. — С. 365.

[2] Шашалевіч, А. Па Гомельскай акрузе / А. Шашалевіч // Наш край. — 1928. — № 11. — С. 43, 44.

# БЯРОЗКІН І ФЕДЗЮКОВІЧ: ВЫПАДАК ПРЫХАВАНАЙ ПАЛЕМІКІ

Гартаючы нядаўна ў БДАМЛМ справы рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», сутыкнуўся з некалькімі лісткамі, здадзенымі ў архіў вясной 1969 года. Аддзел літаратуры ў штотыднёвіку на той час курыраваў выдатны крытык Рыгор Бярозкін. Ён жа прымаў да друку ці то адхіляў літаратурны матэрыял. Пераважна вершы, якія даследаваў у сваіх кнігах. Бярозкін лічыўся вялікім аўтарытэтам па паэзіі. Хоць сам меў шмат непрыемнасцей, у тым ліку сталінскія засценкі, крытык свой аўтарытэт пасля вайны цалкам рэабілітаваў. Неаднойчы ўвагу Бярозкіна спынялі сапраўды выдатныя публікацыі. Так, прачытаўшы ў часопісе першую нізку вершаў маладога Алеся Наўроцкага, Бярозкін выступіў у «ЛіМе» з артыкулам, прысвечаным аналізу менавіта гэтай падборкі. Вітаючы Наўроцкага, ён у нейкім сэнсе вітаў адраджэнне беларускага авангарду. Прынамсі, так гэта выглядае цяпер. Вітанне гэтае было вытрымана ў тэрмінах сугучных сярэдняму савецкаму літаратуразнаўству. Можна падумаць, што Бярозкін, трымаючы нейтралітэт, не хацеў лішні раз падпадаць пад увагу адпаведных органаў, але праўдападобная і версія пра сугучнасць самога Бярозкіна тым тэрмінам, у коле якіх ён, фігуральна кажучы, нарадзіўся і вырас.

Відавочна, што сам Бярозкін не быў застрахаваны ад духу часу. Нават у такога наскрозь праеўрапейскага па сваёй «методзе» крытыка, як Міхась Стральцоў, часта прарываліся ноткі, агульныя для ўсёй савецкай публіцыстыкі і крытыкі. Што ўжо казаць пра Бярозкіна, узгадаванага 1930-мі гадамі.

Некалькі прачытаных мною ў БДАМЛМ лістоў Бярозкіна сведчаць, што ён не прымаў палемічны запал маладога Міколы Федзюковіча, на той час студэнта Літаратурнага інстытута імя Горкага. Эксперыментальны характар федзюковічаўскай вобразнасці, ягоная эпатажная асацыятыўнасць былі ўспрынятыя Бярозкіным у штыкі.

Хто ведае, магчыма, ведаючы пра гісторыю з Наўроцкім, крытык вырашыў пакуль прыцішыць свае заклікі да эксперыментальнасці. Бо за выхад кніжкі Наўроцкага выдавецтва атрымала немалога прачуханца з самых высокіх кабінетаў. Ды паміж 1957-м, калі апублікавана была першая падборка Наўроцкага і рэцэнзія на яе Бярозкіна, і 1969-м годам — пасля знікнення Хрушчова, пасля «бульдозернай» выставы абстракцыяністаў 1964 года, розніца была каласальная. Імкненне да наватарства ўжо зусім не ўхвалялася, калі не сказаць больш.

У лісце да Кастуся Шавеля ад 30.IV.69 Бярозкін піша:

*«Дарагі Кастусь!*

*Па-першае, прабач, што адказваю са спазненнем на твае лісты і вершы.*

*Па-другое, хачу яшчэ раз пацвердзіць сваё абяцанне і сваю гатоўнасць падтрымаць цябе ў справах Саюза.*

*Што датычыць дасланых вершаў, то павінен шчыра сказаць, што яны не зусім табе ўдаліся. Я выбраў для друку «Лясніка» — ён здаўся мне лепшым за іншыя, хоць і ў ім мала самастойнасці і навізны, мала твайго ўласнага і ўсё тут больш-менш знаёма па многіх падобных вершах.*

*Пільнуйся агульнавядомага, перапетага, рытарычнага і шукай сваю думку, сваё слова.*

*Жадаю ўсяго лепшага і віншую з Першамаем.*

*ЗАГ. АДДЗЕЛА ЛІТАРАТУРЫ (Р. БЯРОЗКІН)*[1]*»*

[1] БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 22.

## Можна падумаць, што Бярозкін, трымаючы нейтралітэт, не хацеў лішні раз падпадаць пад увагу адпаведных органаў, але праўдападобная і версія пра сугучнасць самога Бярозкіна тым тэрмінам, у коле якіх ён, фігуральна кажучы, нарадзіўся і вырас

«Пільнуйся агульнавядомага, перапетага, рытарычнага». Вось так: ні больш, ні менш. Крэда Бярозкіна ў гэтыя гады — трымацца рэалістычнай лірыкі, адпрэчваць штукарства і эксперымент, рабіць націск на яснасць вобраза, які не дапускае вольных трактовак, развіваць прапанаваную тэму, без асаблівых прэтэнзій на індывідуальны канон (які, па сутнасці, і вырастае ў паэта са зробленых ім памылак).

Хто ведае, як паўплывала такая рэзкая адмова Бярозкіна на Федзюковіча? Так, некаторыя з дасланых і раскрытыкаваных вершаў праз два гады пабачылі свет у зборніку «Мілавіца». Аднак і паэтыка Федзюковіча з часам зазнала змены: ад эпатажнасці ён паступова адышоў. Авангард быў задушаны ў зародку, хоць самой паэзіі ў Федзюковіча ад гэтага не паменела. Проста яна стала іншай.

Ніжэй публікуецца кароткая перапіска Рыгора Бярозкіна з Міколам Федзюковічам, якая захавалася ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

Дарагі Рыгор Саламонавіч!

Вось некалькі маіх новых вершаў. Хацелася б, каб Вы пазнаёміліся з імі бліжэй — я так даўно друкаваўся ў «ЛіМе». Надрукуеце ці не — напішыце мне, калі ласка.

З глыбокай павагай

М. Федзюковіч

16.03.69.

Масква, К-104, Тверской бульвар, 25

*БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 5*

30 красавіка 1969

Дарагі Мікола!

Атрымаў твае вершы і ўважліва іх прачытаў.

Уражанне ад вершаў дваістае: з аднаго боку, рост «умельства», уважлівасць да «тэхнікі», імкненне зрабіць радок энергічным і гучным, а, з другога боку, цьмянасць думкі, жаданне гаварыць не столькі змястоўна, колькі прыгожа, эфектна, звонка.

Вось, напрыклад, такое: «Той дзень — як перакулены бакал — беспаваротна коціцца дадолу». Але падумай сам: колькі можа каціцца бакал і ці можа ён наогул каціцца?.. Трэба ж добра бачыць ці ўяўляць тое, пра што пішаш.

Уся «Балада пра агонь» — суцэльны туман, цьмянасць і, прабач мяне, пуставатая прыдумка.

«А рукі цемры пхалі іх (песні) да плахі», «а тыя душы слепа, як краты, зграбалі камяні і з дзікім страхам шпурлялі ў непрытомныя раты», «і мы пайшлі адкрыта на прарыў зімы» і г. д., і г. д. — пра што гэта ўсё? Што за дзіўная містыфікацыя! Што за прэтэнзія на філасофію, на шматзначнасць!

У трэцім вершы: «Але — што ні дзень, — то бліжэй да паўстання». Якое паўстанне?

Не гавораць «між планетай і небам». Што значыць «ад слоў да залежаў»?

Мікола, кінь гэту пустую гульню і старайся быць самім сабою. Не вер тым, хто будзе цябе хваліць за «складанасць» і «глыбіню», бо ўсё гэта павярхоўнае і рассыпаецца пры першым жа дотыку «нармальнай» логікі, элементарнага сэнсу. Не выдумляй сябе, не выдумляй «паэзію».

Будуць новыя вершы — прышлі. Жадаю поспеху і віншую са святам.

*ЗАГАДЧЫК АДДЗЕЛА ЛІТАРАТУРЫ*
*(Р. БЯРОЗКІН)*

*БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 4*

Дарагі Рыгор Саламонавіч!

Шчырае дзякуй Вам за пісьмо! Прыходжу да думкі, што Ваша аб'ектыўная суровасць якраз дарэчы для мяне…

Вось некалькі новых вершаў — нізка любоўнай лірыкі. Паглядзіце, калі ласка, — магчыма, яна заслугоўвае ўвагі…

З усім-усім —

Мікола.

14.V.69

P.S. Калі што — пішыце на інтэрнат: Масква, И-254, вул. Дабралюбава, д. 9/II,

таму што зараз у інстытуце не бываю, а ў «Дружбе народаў» на практыцы.

*БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 13*

24.VI.1969

Дарагі Мікола!

Павінен табе сказаць, што ты робіш прыкметныя поспехі, усё больш і лепш авалодваючы ўмельствам будаваць страфу так, каб яна гучала энергічна, пругка, выразна. Рытм тваіх вершаў мускулісты, сінтаксіс актыўны, фраза будуецца вольна…

Усё гэта так, і ўсё гэта, паўтараю, радуе.

Але што да ўнутранага зместу вершаў, да пачуцця і думкі, выказаных у іх, то тут, дружа, відавочна не ўсё ў парадку.

Вельмі ўжо ты захапляешся «эфектамі», занадта клапоцішся пра тое, каб было не столькі праўдзіва і натуральна, колькі «прыгожа» і «гучна».

Ну, скажы, калі ласка, што гэта такое:

Усё альбо нічога! — вось дэвіз,
А гэта значыць: ці уверх, ці ўніз…
Не дазваляй, каханая, спыніць
Той дзіўны танец, што танцуе геній…

Не выдумляй пачуццяў, не пішы гэтак: «Як да зямнога дня дажыць, калі пагаслі зоры?»

Вонкавы «эфект», і нічога больш у такім звароце да жанчыны: «Я жыву на адмоўным, а ты — на дадатным, мы на розных жывём палюсах». Альбо: «Я блукаю па лесвіцы нашых памылак, ты — па лесвіцы нашых трывог». (Дарэчы, як можна блукаць па лесвіцы?)

Будзь пераборліва-ўважлівы ў выбары слова і не пішы так: «У баку ад сяброў, урачыстых і мілых». Што за ўрачыстыя сябры?

З тваіх вершаў цяжка, амаль немагчыма зразумець, чаму прымаюць твае перажыванні такі трагічны характар. Адкуль «разбітае карыта»? Чаму разбітае? Чаму ў грудзях «пракляты змрочны шум»?

Жадаю табе поспехаў, Мікола. І паспрабуй быць бліжэй да самога сябе, не выдумляй пачуццяў.

З тав. прывітаннем

*ЗАГ. АДДЗЕЛА ЛІТАРАТУРЫ (Р. БЯРОЗКІН)*

*БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 12*

Нават у такога наскрозь праеўрапейскага па сваёй «методзе» крытыка, як Міхась Стральцоў, часта прарываліся ноткі, агульныя для ўсёй савецкай публіцыстыкі і крытыкі

## ВЕРШЫ МІКОЛЫ ФЕДЗЮКОВІЧА, АДХІЛЕНЫЯ РЫГОРАМ БЯРОЗКІНЫМ[1]

### НАРАДЖЭННЕ

Ад жанчыны,
ад грошай,
ад сноў —
не залежыў!
На мове касмічных вышынь размаўляў.
А дзесь у тумане —
пад шклом,
пад жалезам —
канала забытая небам Зямля.
Мільгалі ў палёце гады і паўстанкі.
У роздуме
розум,
як вязень,
блажэў…
Але —
што ні дзень, —
то бліжэй да паўстання,
уніз —
да свайго нараджэння бліжэй!
І цішу ўзарвала грымучае слова,
калі пры зніжэнні
убачыў Яе…
Быў колер Яе —
шынялёва-сталёвы,
траншэі —
крыж-накрыж —
на вечным чале.
І, хоць ні ад кога яшчэ не залежыў, —
застыў
між планетай і небам сівым
з Зямлёю пад сэрцам
над шклом,
над жалезам,

[1] БДАМЛМ. Ф.12. Воп.1. Спр. 1352. Арк. 10, 16—19.

## За выхад кніжкі Наўроцкага выдавецтва атрымала немалога прачуханца з самых высокіх кабінетаў

як выклік багам —
нараджэннем сваім.

* * *

Не пераажыць самому скруху…
Калі жывеш — дык з кім і дзе?
Я расказаў пра гора другу.
Друг не ідзе.

О, крык той рэўнасці адкрытай!
Як выбух аглушыў цябе…
Як ля разбітага карыта
Маўчу цяпер.

Цяпер ніхто не патрабуе
Чакаць, трывожыцца, цярпець…
Не пазаве, не патурбуе
Ніхто цяпер.

Я ненавіджу адзіноту
І той пракляты змрочны шум —
Што як няўцямную работу
Ў грудзях нашу.

Таму што цяжка жыць без веры
Сярод няспраўджаных надзей,
Пакорліва гляджу на дзверы
Ўначы і ўдзень.

* * *

Нарэшце апынуліся мы разам!
Я,
узагрэты радасцю такой,
вясёлыя гісторыі расказваў,
на вусны пазіраючы тайком.
О як я прагнуў хоць на міг прыгубіць
тых вуснаў жыватворнага агню,
каб да апошніх дзён душу галубіць
ўспамінам пра святую чысціню!
Як я саромеўся свайго жадання…
О, сэрца ашалелае, — цішэй!
Нялёгка ўпершыню адкрыць каханне.
…Каханне зберагчы яшчэ цяжэй.
Яшчэ далёка да маёй канчыны.
Хто мне адкажа,
па чыёй віне
суровая, бязлюдная жанчына
усё часцей наведвае мяне?
Хто скажа мне за гаманкім сталом,
чаму яе пагляд нямы, патухшы —
нібыта ўзмах параненым крылом
загнанай у няволю дзікай птушкі?

І я пытацца буду зноў і зноў,
не адступлю, пакуль не зразумею,
чаму у звоне маладых дажджоў
я чую свіст разгневанай завеі.

* * *

***Остановись, мгновение…***
Гётэ

Працягвайся,
працягвайся,
імгненне!
Кружы,
сляпой любові матылёк,
пакуль трапеча ў цемры аганёк,
што ўваскрасіў высокае імкненне…
Аддайся непрытомнаму ўтрапенню
ў змаганні з развярэджаным агнём;
згары дашчэнту ў полымі, альбо
ўтаймуй непаслухмяныя праменні.

Усё альбо нічога! —
вось дэвіз,
а гэта значыць:
ці уверх,
ці ўніз…
Не дазваляй,
каханая,
спыніць
той дзіўны танец,
што танцуе геній…
Пакуль звініць,
трымціць збліжэння ніць,
працягвайся,
працягвайся,
імгненне!

14. V.69

Вера МІЦКЕВІЧ

# ЛЁС ШВАГРА ЯКУБА КОЛАСА ІВАНА КАМЕНСКАГА, *удзельніка Першай сусветнай вайны*

Іван Дзмітрыевіч Каменскі — швагер Якуба Коласа, старэйшы брат Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч (Каменскай), другі сын ў сям'і Марыі Цімафееўны і Дзмітрыя Аляксандравіча Каменскіх, нарадзіўся 29.10.1874 (9.11. па н. ст.) у мястэчку Кукуцішкі Свянцянскага павета Віленскай губерні, ахрышчаны ва Ушпольскай Уладзімірскай царкве [2]. Бацька яго ў той час быў настаўнікам Кукуцішскага народнага вучылішча.

У 1888-м Іван скончыў курс Ашмянскага вучылішча. На працягу трох гадоў, з 1893-га па 1896-ы, служыў пісарам у маёнтку. У лістападзе 1896-га прызваны на вайсковую службу, залічаны ў пісарскі клас пры Кіраўніцтве Віленскага павятовага Вайсковага кіраўніка. 24.11.1900 звольнены ў запас арміі, 29.11.1900 паступіў на службу ў Казённую палату. У ліпені 1901-га згодна прашэння пераведзены на службу збораў Палескай чыгункі, працаваў канторшчыкам чыгуначнага тэлеграфа. У красавіку 1908-га за працу па перавозцы войска падчас вайны з Японіяй узнагароджаны срэбраным медалём на Станіслаўскай стужцы «за стараннасць». Па сямейных абставінах пакінуў службу на Палескай чыгунцы ў сакавіку 1913-га.

Летам 1914-га пачалася Першая сусветная вайна. У сакавіку 1915-га Івана Дзмітрыевіча прызвалі з запасу на вайсковую службу.

Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце, больш за 16 гадоў, Іван Дзмітрыевіч і яго малодшая сястра Марыя — будучая жонка беларускага песняра, — былі цесна звязаны па жыцці. Іван Дзмітрыевіч — балагур, весялун, жартаўнік, душа кампаній, — апекаваўся малодшай сястрой, дапамагаў ёй матэрыяльна. Яны разам служылі на Палескай чыгунцы: Іван — у кіраўніцтве чыгункі, Марыя — настаўніцай чыгуначных школ, спачатку ў Вільні, потым у Пінску, дзе і пазнаёмілася з Якубам Коласам.



*Марыя Каменская (будучая жонка Якуба Коласа), Іван Каменскі, Мілачка Кукін. 1909 год.*

У 1908-м сход служачых Палескіх чыгунак стварыў таварыства па забудове пасёлка, жылых дамоў, пасадцы дрэў. Пасёлак атрымаў назву «Віленская Чыгуначная Калонія» і размясціўся на той час у прыгарадзе Вільні — Павільнюсе. Дом, які збудавала сям'я Каменскіх, быў афармлены на Марыю Дзмітрыеўну. У 1922-м яна перадала гэты дом па даверанасці свайму старэйшаму брату Івану, які там (па адрасе: Вільнюс, станцыя Павільнюс, вуліца Келейвю, 37) пражыў да канца сваіх дзён, пачатку студзеня 1961-га (памёр 2.01.1961).




*Пасведчанне Івана Каменскага. 1918 год.*

У лістападзе 1960-га Іван Дзмітрыевіч перадаў у дар для будучага музея Якуба Коласа, які планавалася стварыць у гэтым доме, частку асабістых рэчаў і фотаздымкаў. На вялікі жаль, пасля смерці гаспадара дом у Павільнюсе быў знесены з-за біялагічнага пашкоджання драўляных канструкцый. Прадметы быту і іншыя матэрыялы былі перададзены ў Вільнюскі Літаратурны музей Аляксандра Пушкіна, дзе цяпер і знаходзяцца ў запасніках.

1918 год. Заканчэнне Першай сусветнай, грамадзянская, разруха. Пасля дэмабілізацыі Іван Дзмітрыевіч непрацяглы час працуе на чыгунцы ў Гомелі, потым — у Вільні (Вільнюсе). З 1922-га служыць у экспедыцыйна-транспартнай канторы Вільнюса, а з 1924-га па 1956-ы працуе экспедытарам Вільнюскай тытунёвай фабрыкі. Зведаўшы польскую, нямецкую і савецкую ўлады, атрымаў некалькі дзясяткаў ганаровых грамат.

У 1911-м 37-гадовы Іван Дзмітрыевіч ажаніўся са служачай Палескай чыгункі Людмілай Мацвееўнай Фішэр. Яны пражылі разам амаль 40 гадоў. Людміла Мацвееўна памерла 9.02.1950 і была пахавана на могілках у Чыгуначнай Калоніі за касцёлам. Паколькі сваіх дзяцей у Каменскіх не было, у сям'і гадаваўся выхаванец Леанард Міхайлоўскі. Пазней ён з'ехаў у Польшчу і перапісваўся з прыёмнымі бацькамі. Іван Дзмітрыевіч ліставаўся з Якубам Коласам, пасля Другой сусветнай вайны прыязджаў у госці да Канстанціна Міхайлавіча і яго сыноў. У 1949-м ён прыязджаў з родзічам Пятром Цімафеевым у Мінск, калі быў устаноўлены помнік Марыі Дзмітрыеўне на Вайсковых могілках.

З ліста Івана Каменскага да Якуба Коласа ад 29.12.1950 (цытую на мове арыгінала): «*Как-то не так давно вижу во сне покойницу Марусю, и как Вы наяву, она подошла ко мне, обняла и поцеловала меня, я думаю, не поджидает ли она меня к себе, причём что-то говорила про Михася и Даника, но что, хорошо установить не могу, я тут же проснулся и не мог опомниться, откровенно говоря, сон этот меня ошеломил*» [1].

Падзеі Першай сусветнай вайны адлюстраваліся і ў лёсе швагра Якуба Коласа.

Сярод дакументаў Івана Дзмітрыевіча, якія мне перадаў у 1996-м Пётр Цімафееў у Вільнюсе, вялікую цікавасць уяўляюць «*Паслужны спіс 3-га пяхотнага Нарваўскага Генерала-фельдмаршала Князя Міхаіла Галіцына палка камандзіра нестраявойроты (ён жа Палкавы Казначэй) Івана Дзмітрыевіча Каменскага*», складзены 12 красавіка 1918 года, і стос фотаздымкаў 1915—1918 гадоў ваенных дзеянняў Нарваўскага палка. Адзін з гэтых фотаздымкаў выкарыстаны пры стварэнні IV экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа як параўнанне-інсталяцыя: цягнік з вайскоўцамі, а сярод іх — Іван Каменскі, — накіроўваецца на фронт. Якуб Колас, як вядома, у ліпені 1917 года адпраўлены на Румынскі фронт начальнікам эшалона дэзерціраў.

Іван Каменскі знаходзіўся ў дзеючай арміі на Рыжскім фронце (тэатр ваенных дзеянняў — Ліфляндская і Курляндская губерні) з сакавіка 1915-га па сакавік 1918-га. У снежні 1916-га вытрымаў іспыты на права назначэння на класную пасаду, а ў красавіку 1917-га ўзведзены ў ваенныя чыноўнікі з зацвярджэннем на пасадзе малодшага афіцэра нестраявой роты палка. Наогул, за час знаходжання на фронце меў пасады: палкавога кватэрмайстара[1], палкавога казначэя, начальніка слабасільнай каманды палка, камандзіра нестраявой роты.

Па службе Іван Дзмітрыевіч часта ездзіў у камандзіроўкі з рознымі заданнямі: у Вільню і Коўна — з тэрміновымі сакрэтнымі даручэннямі; у Віцебск — за атрыманнем абмундзіравання; у Смаленск — для атрымання пяці тысяч пар ботаў; у Маскву — для здачы

[1] Кватэрмайстар загадваў гаспадарчай часткай, выконваў розныя гаспадарчыя работы. Палкавы К. — у штабе палка. Пазней абавязкі К. былі перададзены палкавым казначэям, камандзірам рот.

чатырох вагонаў рэчаў; у Штокмансгоф (Плявінас) — для апазнавання маёмасці ў сямі вагонах; у Рыгу — для закупкі прадметаў абозу; у Вэндэн (Цэсіс) — за атрыманнем інжынернай маёмасці; у Гомель — за набыццём тэлефоннай маёмасці; у Лугу — за прыёмкай інжынернай маёмасці; у Пскоў — за пакупкай прадметаў абозу; у Петраград — па справах у Галоўны Штаб; у Полацк — у друкарню Штаба арміі з заказам кніг і бланкаў і г. д. [3, арк. 2 адв., 3].

Камандзіроўкі былі далёка не прагулачнымі. Словамі Коласа: «*Тут грозны Бог вайны пісаў свае рысункі — /Акопы, ямы, дрот і розныя рыштункі*». У Паслужным спісе Каменскага чытаем: «*3 жніўня 1915. Бачачы немінучую пагібель усяго цэйхгаўза*[1] *па сваёй уласнай ініцыятыве з-пад пякельнага агню ворага вывез усю маёмасць з цэйхгаўза мясцовасці Аляксоты крэпасці Коўна ў іншае месца, ратуючы ўсяго больш як на паўмільёна рублёў. Падаючым снарадам ад парыву ветра быў звалены на зямлю, з прычыны чаго атрымаў моцную кантузію левых рукі і нагі, за што быў прадстаўлены да ўзнагароджання Георгіеўскім крыжам 4-й ступені, але прадстаўленне гэта згублена ў паходзе…*» [3, арк. 2 адв.].

Такіх эпізодаў у Паслужным спісе знаходзім некалькі. Так, у лютым 1916-га Іван Дзмітрыевіч вяртаўся ў свой полк з Штокмансгофа і непадалёк ад станцыі Кокенгузен патрапіў пад ураганны абстрэл немцаў, снарадам быў напалову знесены дах вагона. Праз месяц цягнік, у якім ехаў швагер Якуба Коласа, быў разбіты. На двух ваенных фотаздымках з калекцыі Івана Каменскага можна пабачыць руіны замка Кокенгузен. Для даведкі: Кокенгузен (Кукенойс, Кукейнос, цяпер — латвійскі Кокнесе) — старажытны горад, адзін з фарпостаў Полацкага княства, размешчаны на правым беразе Даўгавы. Упершыню ўпамінаецца пад 1205 годам у «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага, калі там княжыў Вячка. У 1209-м на месцы спаленага крыжакамі драўлянага замка быў пабудаваны мураваны, які з’яўляўся значным гандлёвым цэнтрам Полацкай зямлі [4, с. 292].

Падчас вайны Іван Дзмітрыевіч быў узнагароджаны медалямі: светла-бронзавым на Уладзімірскай стужцы ў памяць вайны 1812 года, светла-бронзавым у памяць Дома Раманавых і срэбраным медалём «За стараннасць» на Станіслаўскай стужцы. А таксама нагруднымі знакамі: за службу ў мясцовых войсках і юбілейным — за службу ў Нарваўскім палку.

20 сакавіка 1918 года з прычыны расфарміравання асноўных палкоў Іван Каменскі быў затрыманы на службе да поўнай ліквідацыі і здачы маёмасці ды спраў 3-га пяхотнага Нарваўскага палка і прызначаны ў ліквідацыйную камісію. 1 чэрвеня 1918 быў звольнены са службы ў сувязі з канчатковай ліквідацыяй палка.

Сцежкамі буры і вайны — Першай сусветнай — прайшлі мільёны людзей з розных краін, нацыянальнасцей, веравызнання, уцягнутыя ў жудасны вір крывавай бойні амбіцыйнымі самадзержцамі. Першая сусветная скалечыла лёсы мільёнаў, кардынальна змяніла сусвет і з’явілася пралогам яшчэ больш знішчальнай вайны.

Іван Дзмітрыевіч Каменскі быў адным з тых, каму пашчасціла застацца ў жывых, хто ўвесь свой доўгі зямны шлях прайшоў па жыцці годна, сумленна, працавіта, шчыра. Адным словам, па-людску. Таму і заслугоўвае ён памяці нашчадкаў.

**КРЫНІЦЫ**

1. Дзяржаўны Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. — Асабісты архіў. — Вопіс 96. — КП-12034/Аа-4517.

2. Літоўскі гістарычны архіў. — Фонд 605. — Вопіс 16. — Адз. зах. 14. — Арк. 161 адв., 162. — Параграф 17.

3. Прыватны архіў Міцкевіча Д. К. — Паслужны спіс 3-га пяхотнага Нарвскага Генерала-фельдмаршала Князя Міхаіла Галіцына палка камандзіра нестраявой роты (ён жа Палкавы Казначэй) Івана Дзмітрыевіча Каменскага.

4. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Мінск. — 1997. — Т. 4.

[1] Цэйхгаўз — ваенны склад зброі, абмундзіравання, рыштунку і харчавання.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# КАРОЛЬ АНДОРЫ З-ПАД ЛІДЫ



*Палац Маўрасаў у Тарнова.*

***Ваколіцы вёскі Белагруда з першай паловы XV стагоддзя належалі ўплывоваму беларускаму роду Завішаў. Пад канец XVII стагоддзя Белагруду атрымала дачка Яна Юрыя Завішы, старасты браслаўскага, Ганна, якая ў першым замустве (каля 1690) была жонкай Пятра Амора, графа Тарноўскага, а ў другім — Крыштафа Шчыта, кашталяна смаленскага. Памяць гэтых двух прозвішчаў і заставалася ў назвах маёнтка Тарнова і фальварка Шчытнікі.***

**ТАРНОВА**

У XVIII стагоддзі Жырмуны і Востраў (той самы, дзе ў 1392 годзе падпісвалася славутае пагадненне паміж Вітаўтам і Ягайлам) з Белагрудай і Тарнова — маёмасць княгіні Барбары Радзівіл (з Завішаў). Ад яе Тарнова пераходзіць да сына — Станіслава Радзівіла (1722—1784), падкаморага літоўскага, далей — Мікалаю Фаўстыну Радзівілу (1751—1811), уладальніку Жырмун. Незадоўга да смерці Мікалай Фаўстын Радзівіл аддаў Тарнова ў заклад Тадэвушу Андрэйкавічу за 10 000 залатых дукатаў і 130 000 злотых. Пасля судовага працэсу ў 1824—1825 гадах бакі падпісалі дамову, згодна з якой Андрэйкавіч стаў уладальнікам Тарнова. Яго сын Юлій Андрэйкавіч прадаў Тарнова Канстанціну Кашыцу[1].

Канстанцін Кашыц (1828—1881) — сын навагрудскага маршалка Юзафа Кашыца, у 1812 годзе быў афіцэрам 19-га палка ўланаў, потым удзельнічаў у паўстанні 1831 года і на нейкі час эміграваў. Кашыц скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт, быў чалавекам выдатных разумовых здольнасцей, вызначаўся трапным словам і вострым пяром. У 1850-я, калі яшчэ адбываліся шляхецкія соймікі, сваімі жартамі і эпіграмамі ён дакучаў розным павятовым і губернскім асобам. Аднага такога «дыгнітарыя», які ў лісце заміж «вторак» (аўторак) напісаў «фторак», ён назваў «Пан Фторак» і мянушка гэта замацавалася назаўжды. Склаў некалькі рыфмаваных сатыр, якія называліся «Загадка», «Крыжык», «Дагератып», «Пастка на выбарах (галасаванне на сэйміках ці выбары)».

Канстанцін Кашыц браў чынны удзел у паўстанні

[1] Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka № 3-4, — 1936.

1863 года, за што быў асуджаны і сасланы. Аднак нейкім чынам хутка вярнуўся і 25 мая 1866 года быў прымушаны добраахвотна падпісаць акт, згодна з якім Тарнова з фальваркамі Рубікі, Шчытнікі, Белагруда, Чыжоўшчына і Банцэвічы — каля 2 500 дзесяцін зямлі разам з доўгам у дванаццаць тысяч рублёў былога ўладальніка Юліяна Андрэйкавіча, — прададзена генералу рускай арміі Дзмітрыю Маўрасу за 56 300 рублёў. Да гэтага дадаваўся дом у Рызе (ацэнены ў 25 000 рублёў). Аднак Кашыца гэта не ўратавала і ён быў паўторна сасланы ў Сібір, а вярнуўшыся на радзіму, хутка — у 1881 годзе — памёр.

Пасля 1863-га Тарнова набывае статут цэнтра сялянскай воласці.

**МАЎРАСЫ**

Новым уладальнікам Тарнова стаў унук Георгія Маўраса, былога гаспадара Малдовы. Радзімай старажытнага грэчаскага роду Маўрасаў быў востраў Радос у Эгейскім моры, адкуль Маўрасы перасяліліся на Мальту, а ў 1650-м пераехалі ў Малдову. Там род Маўрасаў займаў вельмі высокае становішча, параднiўся з самымі знатнымі малдаўскімі сем’ямі: Кантакузен, Суцо і Гіка. У 1785 годзе Георгі Маўрас быў гаспадаром Малдавіі, яго сын Мікалай у 1828 годзе перайшоў на рускую службу, памёр у 1868-м. Графскі тытул роду Маўрасаў напачатку быў пажалаваны ў лютым 1876-га аўстра-венгерскім імператарам Францам-Іосіфам І. Пасля даклада дэпартаменту герольдыі цар Аляксандр II указам ад 1 кастрычніка 1876-га прызнаў графскі тытул Маўрасаў у Расіі[1].

Дзмітрый Маўрас (26.10.1820—12.07.1896) як афіцэр рускай службы браў удзел у падаўленні Венгерскага паўстання ў 1849-м, Крымскай вайне 1853—1856-га, падаўленні на Беларусі паўстання 1863-га. З 1873-га Дзмітрый Маўрас у чыне генерал-маёра камандаваў 1-й брыгадай 27-й дывізіі пяхоты ў Вільні. У 1877—1878-х Маўрас камандаваў 6-й рэзэрвовай дывізіяй пяхоты ў вайне супраць Турцыі. З 1852-га Маўрас жанаты на графіне Кацярыне Іванаўне Сімоніч (1829—1890), дачцэ графа Івана Восіпавіча Сімоніча. На час жаніцьбы Маўрас служыў ва Уланскім палку ў Варшаве, там жыла сям’я Сімонічаў. Род гэты мае паўднёва-славянскае паходжанне. Харват ці далмацінец Іван Восіпавіч (1792—1850) быў афіцэрам у войску Напалеона. У 1812-м узяты ў палон, у 1816-м паступіў на рускую службу. У Тыфлісе жаніўся на ўдаве, княгіні Арбеліяні. Меў сына Мікалая і дачку Кацярыну.

У Дзмітрыя і Кацярыны Маўрасаў нарадзіліся дзеці: Марыя ў 1852-м, Анна ў 1856-м, Аляксандра ў 1860-м, двайняты Мікалай і Лізавета ў 1861-м[2].

Як адзначана вышэй, маёнтак Тарнова генерал Маўрас набыў у 1866 годзе ў паўстанца Канстанціна Кашыца. Прадаць свой маёнтак Кашыц павінен быў па царскім указе хутка і танна. Гэтак жа танна ў паўстанца Маўрас купіў дом у цэнтры Вільні, на Георгіеўскім праспекце[3] (цяпер праспект Гедыміна).

З канца 1860-х спачатку толькі ў летні перыяд, а потым увесь час граф Маўрас з сям’ёй жыў у маёнтку Тарнова. У першай палове 1880-х пабудаваў там палацавы комплекс, які цяпер знаходзіцца на паўночнай ускраіне вёскі. Сядзіба складаецца з палаца і гаспадарчых пабудоў — стайні, лядоўні і ветрака. Перад сядзібным домам разбіты сквер, за 200 метраў на поўдзень ад палаца — дзве сажалкі. Пад’язная дарога агінае сядзібны дом, праходзіць паміж сажалкамі і вядзе да былога гаспадарчага комплекса, дзе знаходзіцца вятрак. Каля Белагрудскага касцёла была пабудавана карчма[4].

Нелі Антонаўна Салаўёва, унучка садоўніка графа Андрэя Іосіфавіча Багданца ўспа-

1 Энциклопедический словарь. Изд. Брокгауза и Ефрона. Т. 18. СПб., 1896. С. 289.

2 Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е.Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 22—23.

3 Там жа. С. 32.

4 Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск, 1986. С. 245—246.



*Фотаздымак Барыса Скосырава ў пашпарце.*

мінала, што на другім паверсе тарноўскага палаца ладзіліся пышныя балі, *«...прыязджала шмат гасцей, апранутых у адпаведнасці з модай таго часу. Граф з жонкай шмат падарожнічалі. Напрыклад, бывалі ў Палестыне, часта адпачывалі на Міжземнамор'і, адкуль прывозілі шмат сувеніраў, адзін з якіх, ракавіна, дагэтуль захоўваецца ў маёй хаце»*[1]. Наогул, граф і графіня былі вельмі добрымі людзьмі. Дзмітры Маўрас паважаў старасць і ўсіх былых працаўнікоў трымаў да апошніх дзён іх жыцця. А калі паміраў сам, загадаў службоўцам зрабіць доўгія сталы і лавы, паставіць іх уздоўж усёй паркавай алеі і багата накрыць. Маўляў, хай прыходзяць усе ахвотнікі ўспомніць і памянуць.

Асобна трэба сказаць пра бібліятэку і калекцыю Маўрасаў. Бібліятэка налічвала больш за 8 000 тамоў на розных мовах, каля 2 000 тамоў перайшло ўладальніку Тарнова ад ягонага дзеда Георгія. Разам з кнігамі ў бібліятэцы захоўваліся радаслоўныя дакументы Маўрасаў, граматы на расійскія, аўстрыйскія, грэчаскія ордэны і чыны, радаслоўны спіс чатырох пакаленняў сям'і, у тым ліку і па жаночай лініі[2]. Большая частка кніг знаходзілася ў Вільні, але шмат кніг было і ў тарноўскім палацы графа. У каталогу гэтай бібліятэкі, выдадзеным у 1888 годзе, на першай старонцы прысутнічае герб Маўрасаў: леў і дракон трымаюць прастакутны шчыт, а над ім — графская карона. У каталогу надрукаваны і партрэт графа Дзімітрыя Маўраса[3].

Канстатуючы візіт Ковенскага епіскапа Антонія на Лідчыну ў 1887 годзе, «Літоўскія епархіяльныя ведамасці» пісалі: *«Па дарозе ўладыка наведаў маёнтак графа Маўраса, які радасна прыняў дарагога госця і паказаў сваю бібліятэку, у якой захоўваецца шмат рэдкіх кніг і старажытных рукапісаў, як гістарычнага, так і духоўнага зместу»*[4].

На пачатку Першай сусветнай вайны кнігі вывезлі ў глыб Расіі. Пасля 1917-га бібліятэка была нацыяналізавана і перавезена ў Дзяржаўны кніжны фонд, з якога ў 1920-м перададзена ў Бібліятэку Румянцаўскага музея. У 1915—1920-х з-за розных пертурбацый бібліятэка графа Маўраса была часткова раскрадзена[5].

У тарноўскім палацы знаходзілася яшчэ і каштоўная калекцыя карцін, мастацкіх вырабаў з золата, бронзы, парцаляны, старадаўняя зброя, рэдкія ракавіны, чучалы туземных жывёл. У справе аб ардынацыі Тарнова ёсць спіс «рухомай маёмасці», але без падрабязнага апісання. Сярод 28 карцін пералічаны «Узнясенне» Рубенса, «Могілкі» Руісдаля, «Унутраны від кабака і танцы» Астадэ, «Начны відарыс у Вянецыі» Каналета, «Галандская кухня» Тэньера, «Галава старога» Лукі Кранаха[6]. Верагодна, карціны дасталіся Маўрасу ад былых

[1] Ольга Матеша. Розы от графского садовника // Лідская газета № 40 (12448), — 2014.

[2] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 33.

[3] Гл.: Каталог заповедной библиотеки генерал-лейтенанта графа Д. Н. Мавроса. Вильна, 1888.

[4] Литовские епархиальные ведомости. 1887 — № 43. С. 370.

[5] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е.Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 33.

[6] Там жа. С. 32—33.

уладальнікаў-паўстанцаў: былі куплены разам з маёнткам і домам у Вільні. Яны не былі вынікам працяглых пошукаў, таму генерала цяжка назваць калекцыянерам, хутчэй, яго можна лічыць выпадковым чалавекам, якому за бясцэнак дасталіся каштоўныя рэчы. Добра што не марадзёрам. Дарэчы, некаторыя лічылі, што карціны маглі быць копіямі, але даказаць гэта ўжо немагчыма. Не быў генерал і мецэнатам.

Сямейства Маўрасаў лічыліся прыхаджанамі блізкай да Тарнова Радзівонішскай царквы, у 1869 годзе «Літоўскія епархіяльныя ведамасці» пісалі: *«...у Радзівонішскую царкву да дня яе асвячэння генерал-маёрам Маўрасам, вернікам гэтай жа царквы, былі ахвяраваны ўборы на прастол, ахвярнік і аналой, а таксама два абразы добрага жывапісу Св. Апосталаў Фамы і Пятра, коштам 100 руб.»*[1]. У 1883 годзе тая ж газета пісала: *«Сяло Радзівонішкі. У нашым вельмі маналікім прыходзе 16 мая было... прыкметнае свята. Гэта была імпрэза з-за каранавання Іх Імператарскай Вялікасці. Графіня Маўрас раздавала даволі каштоўныя падарункі, святкаванні працягваліся тры дні, грала хатняя музыка і былі народныя танцы»*[2].

Дзеля свайго адзінага сына Мікалая граф Дзмітрый Маўрас 20 снежня 1883 года атрымаў ад імператара Аляксандра III імянны ўказ, паводле якога тарноўскія землі склалі ардынацыю, ці маярат, у які ўваходзілі: Тарнова, Андрушкі, Малы Ольжаў, Данеўшчына, Манькавічы, Ярэмічы, Лебяда. Туды таксама быў уключаны дом у Вільні з багатай бібліятэкай і каштоўнымі рэчамі[3]. Агульная плошча сельскагаспадарчых зямель ардынацыі (па расейску — «заповедного имения») дасягала 3 500 дзесяцін з фальваркамі, цагляным і вапнавым заводамі.

У верасні 1883-га ў хадайніцтве аб «учреждении заповедного имения» граф пісаў: *«Дзве старшыя дачкі замужам і адлучаны ад сямейства, а дзве малодшыя — яшчэ дзявіцы, жывуць пры мне. Для іх застаюцца маёнткі Мыто, Дзітва, Вялікая Лебяда, Балічы, Зданаўцы, якія дастаткова забяспечаць малодшых дачок»*[4].

Сучаснікі лічылі, што граф турбаваўся толькі за лёс адзінага сына, а чатырох дачок ён хутка выдаў замуж: Марыю Дзмітрыеўну — за Фёдара Карлавіча фон Эксе, жандарскага генерала, Ганну Дзмітрыеўну — за лідскага абшарніка Слізьня, Аляксандра Дзмітрыеўна стала Чэпелеўскай. Гісторыя шлюбу малодшай дачкі Лізаветы Дзмітрыеўны — самая цікавая.

Каб атрымаць царскі вырак аб ардынацыі, Дзмітрый Маўрас жыў у Пецярбургу. Там Лізавета пазнаёмілася з маладым графам Мікалаем Сімонічам, успыхнула каханне і хутка маладыя пабраліся шлюбам. Трэба сказаць некалькі слоў пра апошняга. Мікалай Мікалаевіч Сімоніч (1862—1915) — унук заснавальніка роду Івана Восіпавіча Сімоніча, быў адзіным сынам маёра Грузінскага грэнадзёрскага палка Мікалая Іванавіча Сімоніча і дачкі вядомага адмірала Меліхава, Алены Васільеўны. Пасля ранняй смерці бацькоў яго гадавала бабуля, удава адмірала Меліхава. Верагодна, яна лічыла ўнука вялікім шалапутам, бо, завяшчаючы яму па сваёй смерці чатырохпавярховы дом у Пецярбургу (па Мохавай вуліцы), ставіла ўмовы, каб унук не мог прадаць яго да свайго 30-годдзя. Па яе меркаванні пасля ўнук павінен быў «увайсці ў розум». Аднак дасягнуўшы 30-гадовага ўзросту, граф, прадаўшы дом, хутка распусціў грошы і пражыў жыццё бедным чалавекам. У 1883—1884-х, праўда, грошы яшчэ меліся, як і дом у сталіцы, і Сімоніч лічыўся добрым жаніхом.

25 студзеня 1884 года ва Уваходаіерусалімскай (Знаменскай) царкве закаханыя былі на споведзі, праз некалькі дзён, 3 лютага, у царкве Зводна-Казачага палка (на Абвадным канале) адбылося вянчанне. Усе падзеі датычыліся не той царквы, прыхаджанінам якой Сімоніч з'яўляўся. І гэта зразумела, бо мала-

[1] Литовские епархиальные ведомости. 1869 — № 22. С. 1316.

[2] Литовские епархиальные ведомости. 1883 — № 23. С. 222.

[3] Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka № 3-4, — 1936.

[4] Дубин А. Признание брака графа Н.Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 32.

дыя былі стрыечнымі братам і сястрой! Рэжысёрам і ініцыятарам дзеяння, па меркаванні сучаснікаў, стаў бацька нявесты. Граф Дзмітрый Маўрас вельмі хацеў аддаць дачку замуж[1].

Маладыя пачалі жыць у доме па вуліцы Мохавай, 26 у Пецярбургу. У іх нарадзіліся сын Аляксандр (1884—1889, пахаваны каля царквы ў вёсцы Лебяда пад Лідай) і дачка Марыя — выхаванка Смольнага інстытута[2].

У красавіку 1890-га памерла жонка ўладальніка Тарнова, графіня Кацярына Іванаўна Маўрас.

8 кастрычніка 1892-га святар Радзівоніш-каўскай царквы Дружылоўскі асвяціў капліцу ў імя Святога Дзмітрыя Салунскага, пабудаваную ў маёнтку Тарнова па праекце і пад асабістым наглядам графа Маўраса. Капліца ўяўляла сабой прыгожую мураванку ў гатычным стылі. Шыбы ўпрыгожвалі выявы святых і крыжы з рознакаляровага шкла. Каля капліцы пабудавалі званніцу з конусападобным купалам і крыжам наверсе. Пад капліцай знаходзілася ўсыпальніца, дзе пахавалі парэшткі жонкі графа. У гэтай жа ўсыпальніцы праз чатыры гады быў пахаваны і сам граф Дзмітрый. Дарэчы, калі пасля 1939 года капліца з магільным склепам Маўрасаў была разбурана, з'явіліся чуткі, што Кацярына Маўрас ляжала забальзамаваная ў спірце[3].

Дзмітрый Маўрас памёр у 1896-м. Па яго смерці Тарнова разам з усёй ардынацыяй перайшло адзінаму нашчадку мужчынскага полу Мікалаю Дзмітрыевічу (1862—1919). Граф Мікалай Дзмітрыевіч 30 чэрвеня 1882 года ў Радзівонішскай царкве быў абвенчаны з Адэлаідай Аляксандраўнай (Адэляй Алекаўнай) Рамала (1865—18.02.1909), румынскай падданай. Шлюб іх быў бясплодным[4]. У 1911 годзе Мікалая Маўраса прызналі недзеяздольным і аддалі пад апеку, пасля чаго ён жыў у Пецярбургу. У 1913-м даведнік «Увесь Пецярбург» паведамляў ягоны адрас: «Граф Маўрас Мікалай Дзмітрыевіч, Гатчына, Люцеўская, 11». Разам з ім жыла ягоная старэйшая сястра Марыя фон Эксэ, удава генерал-маёра[5]. Памёр Мікалай Маўрас у Гатчыне ў 1919 годзе.

11 красавіка 1921 года Лідскі павятовы камітэт прыняў у дзяржаўны скарб частку Маўрасавай ардынацыі: фальваркі Малы Ольжаў, Шчытнікі, Белагруду, Чыжоўшчыну і Бабоўцы. Да восені 1939-га Тарнова належала баронам Кехле (Koehle)[6].

## КАРОЛЬ АНДОРЫ

*«Ён быў высокі, блакітнавокі, твар заўсёды толькі што паголены. Нос прамы, грэцкі, пад якім па-геаметрычнаму правільна размяшчаліся светлыя вусікі. Вузкая дарожка прабору падзяляла валасы на дзве няроўныя часткі. У правай руцэ заўсёды срэбная дзяржальня кія...»*

З успамінаў
пра Барыса Скосырава

Напачатку 1890-х у перапісцы з дэпартаментам герольдыі аб правах на свой графскі тытул Мікалай Сімоніч указвае дачку Марыю, але нічога не піша пра жонку. Відочна, што брак Сімонічаў распаўся і пры канцы 1880-х Лізавета Дзмітрыеўна вярнулася на Лідчыну. Пра гэта сведчыць і тое, што іх малалетні сын Аляксандр, які памёр у 1889-м, пахаваны каля царквы ў Лебядзе.

Па-за шлюбам, 12 студзеня 1896-га, Лізавета Дзмітрыеўна нарадзіла ад адстаўнога карнета Міхаіла Міхайлавіча Скосырава сына Барыса.

Каб скасаваць шлюб з Сімонічам, графіня пайшла на вельмі рызыкоўны крок. Яшчэ да нараджэння Барыса, у снежні 1895-га пса-

[1] Там жа. С. 22—24.

[2] Там жа. С. 27.

[3] Лідскі летапісец. 2005. № 1-2 (29—30). С.83—88.

[4] Дубин А. Признание брака графа Н.Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 34.

[5] Весь Петербург на 1913 год. СПб., 1913. Отдел 3. С. 384, 731.

[6] Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka № 3-4, — 1936.

ломшчык Лябёдскай Свята-Мікалаеўскай царквы Лідскага павета Міхал Рафаловіч быццам па сваёй ініцыятыве данёс у Санкт-Пецярбургскую духоўную кансісторыю аб незаконнасці шлюбу Сімонічаў — Мікалая Мікалаевіча і Лізаветы Дзмітрыеўны. Пецярбургская кансісторыя пачала следства па гэтай справе, якое было завершана ў маі 1898-га. Было даказана, што бацька мужа Мікалай Іванавіч і маці жонкі, Кацярына Іванаўна — родныя брат і сястра, а іх дзеці — стрыечныя брат і сястра. Сужэнства асоб у такой ступені сваяцтва, безумоўна, было забаронена законам.

Граф М. М. Сімоніч патлумачыў, што ўступіў у шлюб з Л. Д. Маўрас па легкадумнасці, непаразуменню і юнацкай закаханасці, давераным асобам нічога не было вядома. Ці ведаў нешта святар, які іх вянчаў, ён не ведае. Колькі ён заплаціў святару, не памятае. Графіня Лізавета Сімоніч (народжаная Маўрас), патлумачыла, што не ведала да шлюбу аб сваім сваяцтве з мужам. Са святаром не размаўлялася, таму не ведае, колькі грошай яму заплацілі.

Нікога са старэйшага пакалення ў той час ужо не было ў жывых, святар, што вянчаў Сімонічаў, сталы і паважаны ў Пецярбургу протаіерэй Іван Філосафаў даў паказанні, што яго падмануў стары граф Маўрас, які абяцаў, але так і не падаў неабходнае пасведчанне аб трохразовым абвяшчэнні пра сужэнства ў Вільні.

Духоўная кансісторыя выракам ад 29 мая скасавала шлюб Сімонічаў, наклала на былых сужэнцаў сямігадовую епітым'ю — уступаць у новыя шлюбы ім можна было толькі праз 7 год, і накіравала звесткі пракурору, які распачаў крымінальную справу. Аднак 27 студзеня 1899 года пасля даклада міністра юстыцыі імператар загадаў гэту справу спыніць[1].



*Барыс Скосыраў у 1934 годзе.*

Нягледзячы на сямігадовую епітым'ю Лізавета Дзмітрыеўна выходзіць замуж за Міхаіла Міхайлавіча Скосырава. Гэта бачна з прашэння, датаванага 3 верасня 1900 года на імя начальніцы Смольнага інстытута аб справе дачкі ад першага шлюбу Марыі, у якім былая графіня Сімоніч фігурае ўжо як Скосырава, прычым указвае сваім месцам жыхарства маёнтак Вялікая Лебяда Лідскага павета[2].

Міхаіл Скосыраў (карнет запасу, адукацыю атрымаў у кавалерыйскай вучэльні ў Тверы), толькі з 1899 года з'яляецца ў віленскай памятнай кніжцы як чыноўнік пры Віленскім генерал-губернатары[3]. З 25 лістапада 1900 года ён лічыцца чыноўнікам для асаблівых даручэнняў «звыш штату»[4]. Лізавета Дзмітрыеўна працуе ўчастковай папячыцельніцай у Віленскім дабрачынным таварыстве[5]. У гэты час сям'я Скосыравых жыве ў Вільні, у доме Горскага па Гарыстым завулку[6].

[1] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 25—28.

[2] Дубин А. Признание брака графа Н. Н. Симонича и графини Е. Д. Маврос недействительным и статус их дочери Марии // Генеалогический вестник. Вып. 38. СПб., 2010. С. 28.

[3] Памятная книжка Виленской губернии на 1900 год. Вильна, 1899. С. 5.

[4] Памятная книжка Виленской губернии на 1902 год. Вильна, 1901. С. 5.

[5] Памятная книжка Виленской губернии на 1902 год. Вильна, 1901. С. 180.

[6] Памятная книжка Виленской губернии на 1902 год. Вильна, 1901. Ч. II. С. 71.

1 снежня 1903 года Міхаіл Скосыраў атрымлівае пасаду земскага начальніка 7-га ўчастка Лідскага павета Віленскай губерні[1] і знаходзіцца на гэтай пасадзе да 1915 года. Адначасова ён узначальвае Добраахвотнае пажарнае таварыства ў Жалудку[2]. У 1904-м па афіцыйнай інфармацыі віленскай памятнай кніжкі сям'я жыве ў Вільні на Вялікай Пагулянцы[3].

З 1906 года маёнтак Вялікая Лебяда з'яўляецца сталым месцам пражывання ўсёй сям'і Скосыравых[4]. Аднак адрасная кніга Вільні за 1913 год зноў указвае, што Скосырава Л.Д. жыве ў горадзе Вільні, у доме 1 на Георгіеўскім праспекце, тэл. 14-17[5]. Верагодна, гэта быў бацькоўскі дом, якім у той час валодаў брат Скосыравай. Мо сужэнцы пасварыліся?

З 1914 года Лізавета Дзмітрыеўна з'яўляецца сябрам апякунскай рады Лідскай прыватнай жаночай гімназіі Ф. Л. і В. С. Навіцкіх[6]. Месцам жыхарства сям'і Скосыравых запісана мястэчка Жалудок (Лідская вуліца)[7], з 1915-га Скосыраў жыве ў Жалудку, а яго жонка ў Лідзе[8].

Юныя гады будучага міжнароднага авантурыста прайшлі ў Вільні і маёнтку Лебяда каля Ліды. На працягу жыцця Барыс Скосыраў неаднаразова сцвярджаў, што ён нашчадак старажытнага дваранскага роду, што, улічваючы паходжанне яго маці, з'яўляецца праўдай.

Пра Барыса Скосырава шмат сказана. З нядаўняга: дакументальную кнігу пра яго напісаў вядомы каталонскі пісьменнік Антоні Марэль-і-Мора[9], главу адной са сваіх апошніх кніг яму прысвяціў Барыс Акунін[10], у 2012 годзе тэлеканалам АНТ у цыкле «Обратный отсчет» зняты дакументальны фільм «Барыс Першы. Кароль з Беларусі», дасканала вывучаў і аналізаваў лёс былога лідзяніна маскоўскі гісторык Аляксандр Кафка[11].

Усе, хто пісаў пра гэтага чалавека, сутыкаліся са шматлікай колькасцю супярэчлівых ці відавочна недакладных звестак. Пра сябе ён натхнёна хлусіў, валодаючы гэтым тонкім мастацтвам дасканала — легенды былі часткай яго «піяр-кампаніі». Таму і атрымалася, што ўсё ягонае жыццё — суцэльная містыфікацыя.

Невядома, як праходзілі яго першыя гады, невядома, дзе ён вучыўся. Улічваючы, што ў 1914-м яму толькі 18, версія некаторых аўтараў пра выдатную ўніверсітэцкую адукацыю адпадае: максімум, што ён паспеў бы скончыць, — гімназія. Сам Скосыраў, праўда, сцвярджаў, што вучыўся ў Оксфардзе і ў Ліцэі Людовіка Вялікага ў Парыжы. Прычым, вучыўся разам з прынцам Валійскім і ў гэты час добра пазнаёміўся з нідэрландскім каралеўскім сямействам. На самай справе, вучоба ў гэтых установах магла б тлумачыць свецкія сувязі Скосырава. Аднак імя ягонае ў архівах Оксфарда не фігуруе. Ліцэй Людовіка Вялікага ў Парыжы таксама не згадвае такога навучэнца[12]. Зразумела, што выдатнае валоданне англійскай, французскай і нямецкай мовамі, як і бездакорныя манеры сапраўднага джэнтльмена — вынік хатняй адукацыі, атрыманай, верагодна, у маёнтку Лебяда. Аднак нейкую афіцыйную

---

[1] Дополнение к памятным книжкам Виленской губернии на 1903 г. Вильна, 1904. С. 9.

[2] Памятная книжка Виленской губернии на 1906 год. Вильна, 1906. С. 150.

[3] Памятная книжка Виленской губернии на 1904 год. Вильна, 1904. Ч. II. С. 67.

[4] Памятная книжка Виленской губернии на 1906 год. Вильна, 1906. С. 276.

[5] Вся Вильна. Адресно-справочная книга на 1913 год. Вильна, 1913. С. 217.

[6] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 г. Вильна, 1914. С. 197.

[7] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. Вильна, 1914. Ч. II. С. 96.

[8] Памятная книжка Виленской губернии на 1915 год. Вильна, 1915. Ч. II. С. 86.

[9] Гл.: Morell Antoni. Borís I, Rei D'andorra. La Magrana. 2009.

[10] Гл.: Борис Акунин. Любовь к истории. М., 2012.

[11] Гл.: Alexander Kaffka. The Russian King of Andorra: Fantasies and Facts // Papers de ecerca Històrica. 2009. Vol. 6. P. 147—159.

[12] Ibid. P. 155.

адукацыю ён усе ж меў, бо атрымаў потым афіцэрскі чын.

Восенню 1915 года Лідчына была акупавана нямецкімі войскамі, сям'я Скосыравых з'ехала на Усход. Верагодна, Барыс добраахвотнікам пайшоў на фронт, бо дакладна вядома, што ён ваяваў у брытанскім бронедывізіёне, які дзейнічаў на рускім фронце. Гэты факт у 1924 годзе пацвердзіў камандзір дывізіёна Олівер Локер-Лэмпсан.

Олівер Локер-Лэмпсан (1880—1954) вядомая гістарычная фігура, бо на працягу некалькіх гадоў ён быў членам брытанскага парламента (кансерватар), меў цесныя сувязі з Расіяй, быў знаёмы з Мікалаем ІІ, прымаў удзел у знакамітай змове супраць Распуціна ў 1916-м. Брытанскі бронедывізіён (RNAS Armoured Squadron)[1] — воінская частка, якая была паслана на дапамогу Расіі ваяваць супраць Германіі. Барыс Скосыраў, верагодна, быў прыкамандзіраваны да гэтага англійскага вайсковага аддзела як ваенны перакладчык.

Ёсць неправераная інфармацыя, што падчас Грамадзянскай вайны наш герой ваяваў на Поўдні Украіны. Калі на пачатку 1920-х яго дапытвалі ў Скотланд-Ярдзе, расказваў, у дні Кастрычніцкага перавароту 1917-га яго разам з бацькам і трыма дзядзькамі бальшавікі арыштавалі і пасадзілі ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Там, па словах Барыса, усе яго сваякі былі закатаваны да смерці, яму ж удалося цудам выратавацца і збегчы ў Заходнюю Еўропу.

Пра жыццё Скосырава ў Еўропе інфармацыі мала. Існуюць некалькі паліцэйскіх справаздач аб ягоных махлярствах і газетны артыкул пра канфлікт паміж ім і японскім аташэ маёрам Хашымота: у справе фігуруе залаты гадзіннік, які Барыс адабраў у японца. Падрабязнасці адсутнічаюць. Неўзабаве пасля гэтага Скосырава затрымлівае Скотланд-Ярд — за чэкі, не забяспечаныя грашыма. Таксама высвятляецца, што Скосыраў пражывае ў брытанскай сталіцы без дазволу. Падчас разгляду ў судзе ён прызнае віну і абяцае аплаціць рахункі, адсутнасць рэгістрацыі тлумачыць страхам перад савецкімі дыверсантамі. У выніку яго вызваляюць пад «слова гонару». Але гэтыя аферы не тлумачаць, чаму паліцыя лічыць яго яшчэ і небяспечным рэвалюцыянерам.

Як многія эмігранты ў 1920-я, Скосыраў апынуўся у адчайнай фінансавай сітуацыі і шукаў любую працу. У 1924 годзе ён звярнуўся да былога камандзіра Локер-Лэмпсана за падтрымкай. Локер-Лэмпсан выдаў сертыфікат аб службе Скосырава ў саюзнай арміі падчас вайны, знаёмства з гэтым чалавекам адкрыла некаторыя дзверы, стварыла новыя перспектывы. Новая праца, верагодна, мела дачыненне да брытанскай сакрэтнай службы[2]. І менавіта з гэтага часу за Барысам замацаваўся імідж супер-шпіёна. Пра яго расказвалі фантастычнае: быццам ён і агент брытанскай сакрэтнай службы, і агент нацысцкай Германіі, і шпіён Сталіна. Скосырава лічылі і рускім манархістам, які ў свой час спрабаваў арганізаваць уцёкі цара Мікалая ІІ з-пад арышту, і асабістым сакратаром Сталіна. Таксама Барыса ведалі як харызматычнага прыгожага мужчыну, спартсмена і паліглота з афіцэрскай выправай і манерамі арыстакрата.

Большасць чутак дакументамі не пацвярджаецца. Гісторык Алясандр Кафка лічыць, што спецыяльныя службы час ад часу выкарыстоўвалі паслугі Скосырава, але малаверагодна, каб ён быў паўнавартасным сакрэтным агентам. Інакш было б цяжка растлумачыць яго фінансавыя цяжкасці і аферы, напрыклад, тыя ж незабяспечаныя чэкі, з-за якіх яго неаднаразова арыштоўвала паліцыя ў розных краінах Еўропы. З іншага боку, яму заўжды ўдавалася вырашаць свае праблемы без скандалаў. Відочна, ён меў моцную падтрымку з боку магутнай арганізацыі. Але гэта толькі здагадкі.

Фактам з'яўляецца тое, што Локер-Лэмпсан і Скосыраў кантактавалі праз усе 1920-я. Цалкам верагодна, што добрыя прафесійныя адносіны паміж імі былі і ў 1930-я.

[1] RNAS — Каралеўскія службы ваенна-марской авіяцыі. Адным з падраздзяленняў RNAS была «Каралеўская служба ваенна-марскіх браняваных машын» (RNACD). Таму Локер-Лэмпсан меў ваенна-марскі чын — камандор.

[2] Alexander Kaffka. The Russian King of Andorra: Fantasies and Facts // Papers de Recerca Històrica. 2009. Vol. 6. P. 155—156.



*Барыс і Марыя (ці Разіта)*
*па завяршэнні працэдуры шлюбу, Бопард,*
*3 красавіка 1969 года.*

Прыкладна ў 1922-м Барыс накіроўваецца ў Нідэрланды. Потым, у 1930-х, у Каталоніі і Андоры наш герой называе сябе графам Аранскім (Count of Orange), прычым, адзначае, што гэты тытул нададзены яму каралевай Нідэрландаў Вільгельмінай за асобыя заслугі. Канешне ж, гэта няпраўда. Справа ў тым, што тытул «граф Аранскі» з'яўляецца тытулам каралеўскай сям'і. Асоба не каралеўскай крыві не можа быць уганаравана гэтым тытулам. У архівах не знайшлося дакументаў пра службу Скосырава каралеўскай сям'і і тым больш аб уганараванні. Ён не толькі не служыў каралеве, але ў 1924 годзе нават фігурыраваў у спісе «вядомых замежных рэвалюцыянераў», падрыхтаваным службай бяспекі Нідэрландаў. У гэтай жа паперы Скосыраў названы і «міжнародным аферыстам».

Аляксандр Кафка знайшоў у архівах дацкі пашпарт нашага героя. Пашпарт меў нумар 85154 і быў выдадзены ў 1923 годзе консульствам у Францыі. Менавіта з гэтага дакумента вядомы дата і месца нараджэння Скосырава: 12 студзеня 1896 года ў Вільні. У гэтым дакуменце ён запісаны як барон: «Спадар барон Барыс Скосыраў» (Monsieur le Baron Boris de Skossyreff), што з'яўляецца няпраўдай.

У пашпарце — подпіс і фатаграфія Барыса Скосырава, самы ранні з вядомых здымкаў. Мы бачым модна апранутага маладога чалавека ў кепі і з манаклем — рэччу, якая заўсёды прысутнічае на яго фатаграфіях. У пашпарце запісаны рост — 179 см, колер валасоў — чорны, нос — прамы, рэлігія — «без рэлігіі», прафесія — журналіст і стаяць пячаткі памежных службаў Іспаніі і Андоры.

У тым жа архіве гісторык знайшоў візітныя карткі Скосырава з надпісам «Kapt. B. v. Skossyreff, den Haag». Надпіс сведчыць аб расійскім ваенным чыне капітана, але, улічваючы характар нашага земляка, наўрад ці можна разглядаць гэта як сапраўднае дакументальнае сведчанне. У архіўных дакументах згадваюцца розныя пагадненні з гандлёвай кампаніяй, арганізаванай у 1932 годзе. Яна мела назву «Барыс Скосыраў; імпарт — экспарт і прадстаўніцкія паслугі»[1].

Некаторыя публікацыі згадваюць пра паездкі Скосырава ў Паўднёвую Амерыку, падчас якіх ён нібыта добра асвоіў іспанскую мову. Пішуць, што акрамя дацкага пашпарта, Барыс меў яшчэ і пашпарт эмігранта, чалавека без грамадзянства — так званы нансенаўскі пашпарт. Здаецца, менавіта з гэтым дакументам наш зямляк жыў у Лацінскай Амерыцы і на працягу 1924—1934 гадоў актыўна падарожнічаў паміж Калумбіяй і Еўропай.

Верагодна, менавіта ў тыя гады Скосыраў сказаў пра сябе: *«Мужчына ў маім становішчы павінен быць бездакорна апрануты, абавязаны пахнуць добрай парфумай і мець на рахунку вялікую суму грошай»*. Прэса шмат пісала пра прыватнае жыццё Барыса Скосырава, жанчыны мелі вялікі ўплыў на яго біяграфію. Прынята лічыць, што 21 сакавіка 1931 года ў Францыі ён ажаніўся з француженкай Мары-Луіз Пара дэ Гасье (Marie-Louise Parat ці Parat de Gassier). Але ўжо ў 1932-м з'яўляецца іншая жанчына — Філіс Хэрд. Раман цягнецца аднос-

[1] Ibid. P. 156.

на не доўга. З Філіс, ці «Ламарэс», як ён яе называў, Скосыраў пасяляецца ў гатэлі гарадка Сітгэс на Плайя дэ Оро (Залаты пляж) у Іспаніі. Пачынаюцца гулянкі да раніцы ў дарагіх рэстаранах: манокль, кій са срэбным дзяржальнам, кветка ў пятліцы — усё гэта робіць «барона» Скосырава прыкметным чалавекам. Казалі нават, што ён сваяк усіх каралеўскіх дынастый Еўропы. Частыя ад'езды «барона» не вельмі хвалявалі адміністрацыю гатэля, бо яго рахункі аплочвала Філіс. Аднак іспанская паліцыя зацікавілася шляхетнай асобай і даведалася: барон наведваецца ў Барселону, каб прадаваць каштоўнасці сяброўкі. Скончылася высылкай Барыса Скосырева з Іспаніі ў снежні 1933 года[1].

У тым жа 1932-м ён знаёміцца з разведзенай амерыканкай Фларэнс Мармон. У верасні 1933-га газета «The Majorca Sun» у Пальме, дзе яны атабарыліся, піша: *«Сеньёра Мармон і яе муж, капітан Барыс Скосыраў, былі дапытаны паліцыяй з-за падазрэння, што яны ... маглі мець дачынне да какаінавага трафіку»*. Верагодна, менавіта прыватны капітал Фларэнс Мармон стаў крыніцай фінансавання далейшых праектаў Скосырава. Справа ў тым, што місіс Мармон была жонкай Говарда С. Мармона (1876—1943), уладальніка фірмы «Marmon Motor Car Company» ў Індыянапалісе, вытворцы вядомых амерыканскіх аўтамабіляў таго часу. Яны развяліся каля 1914 года, але Говард Мармон плаціў былой жонцы шчодрыя аліменты[2].

Стагоддзямі Андора не ведала супакою, пакуль у 1278 годзе біскуп Урхельскі, які прадстаўляў інтарэсы Мадрыда, не падпісаў з сеньёрам французскага графства Фуа сумесную дамову аб апецы гэтай тэрыторыі. Дамова стала асновай падвойнага суверэнітэту краіны. Сапернікі зруйнавалі свае ваенныя ўмацаванні і абавязаліся больш ніколі іх не будаваць. Спрэчная тэрыторыя прыняла статут нейтральнай і ў абмен на гарантыі сваіх суседзяў адмовілася ад уласнага войска. З таго часу княства Андора кіруецца дзвюма асобамі, якія кожныя паўгода здаюць адно аднаму справы: з іспанскага боку — біскупам Урхельскім, а з французскага — спачатку сеньёрамі графства Фуа, пасля каралямі, а цяпер прэзідэнтамі. У Генеральнай Радзе мініяцюрнай краіны (Consell General de les Valls) засядаюць дэпутаты ад шасці горных далін, з якіх і складаецца тэрыторыя гэтай краіны (адна з назваў Андоры — «краіна шасці далін»).

Для падтрымання нейтралітэту андорцы стагоддзямі не будавалі дарог і гэта было галоўнай гарантыяй спакою, бо якая армія пойдзе праз горную тэрыторыю, калі няма дарог? І нават калі па ўсёй Еўропе з'явіўся тэлеграф, андорцы яшчэ добрых дзесяць год пілавалі па начах тэлеграфныя слупы і рэзалі дрот, бо лічылі што тэлеграф таксама можа парушыць мір і спакой у краіне. Але да пачатку 1930-х упартасць горцаў атрымалася зламіць: Францыя і Іспанія пачалі будаваць скразную аўтамабільную дарогу, быў пракладзены высакавольтны кабель. Панаехалі будаўнікі, камерсанты, лаўцы поспеху… Сярод іх — наш зямляк.

У розных публікацыях апошняга часу шмат розных маляўнічых расказаў пра нядоўгае кіраванне Андорай каралём Барысам I. Я ж дам храналогію падзей, абгрунтаваную на аснове сакрэтных паведамленняў з архіваў Брытанскага Міністэрства замежных спраў і па справах Садружнасці, узятых з працы гісторыка Аляксандра Кафкі.

17 мая 1934 года Скосыраў падаў уладам Андоры аргументаваную заяву аб сваіх правах на трон.

22 мая іспанскім і французскім бакамі падпісаны ордэр аб яго высылцы. Паведамляецца, што Скосыраў кудысьці з'ехаў.

6-7 ліпеня Скосыраў вяртаецца і прапаноўвае Генеральнай Радзе праграму рэформ і мадэрнізацыі эканомікі Андоры. Згодна з праграмай, эканоміка краіны павінна грунтавацца на рэжыме беспадаткавай зоны і на падтрымцы турызму са спортам. Частка гэтай праграмы: прызнанне яго манархам на аснове меркаванай згоды герцага дэ Гіза (Жана Арлеанскага), які быў, на думку

[1] http://www.rg.ru/Anons/arc_2003/0104/6.shtm

[2] Alexander Kaffka. The Russian King of Andorra: Fantasies and Facts // Papers de Recerca Històrica. 2009. Vol. 6. P. 156.

Скосырава, адзіным праўдзівым спадчыннікам андорскай кароны.

8-10 ліпеня Генеральная Рада нават двойчы ратыфікавала эканамічную праграму і аб'вясціла Скосырава манархам Андоры Барысам І. Рада галасавала абодва разы 24 галасамі «за» пры адным, што ўстрымаўся. 9 ліпеня быў абвешчаны манарх, прынята Каралеўская Канстытуцыя, прызначаны новы ўрад, прыняты новы сцяг Андоры.

12 ліпеня Скосыраў аб'явіў вайну біскупу Урхельскаму. Гэта была рэакцыя на адмоўныя заявы біскупа пра асобу манарха Барыса I у прэсе.

20 ліпеня Скосыраў арыштаваны каталонскай грамадзянскай гвардыяй і транспартуецца ў Барселону. У якасці прычыны арышту заяўлена «парушэнне пастановы аб высылцы, якая была вынесена супраць яго 8 снежня 1933 года». Іншыя крыніцы згадваюць, што кароль Андоры быў арыштаваны і дастаўлены ў Барселону ў адпаведнасці з законам аб бадзяжніцтве. Але ж ён быў захоплены каталонскай грамадзянскай гвардыяй у Андоры і гэта робіць яго арышт незаконным!

23 ліпеня Скосыраў перавезены ў Мадрыд, дзе «адказаў на пытанні ў цэнтральным паліцэйскім ўчастаку ў прысутнасці вялікай колькасці журналістаў. Са спасылкамі на дакументы ён прасачыў гісторыю Андорскай дынастыі. Адказваючы на пытанне ці з'яўляецца ён прамым спадчыннікам Гіза, Скосыраў трохі збянтэжыўся і адказаў, што па крыві не, але фактычна — так, бо мае згоду прынца: яго прэтэнзіі на трон базуюцца на гістарычных правах, на «прынцыпах рыцарства» і неабходнасці абароны іспанскіх жыхароў Андоры ад эксплуатацыі на карысць Францыі». Скосыраў ўтрымліваўся ў турме Мадэла ў Мадрыдзе.

Дарэчы, сярод папер архіва Андоры захоўваюцца толькі Канстытуцыя Скосырава або «Каралеўскі бюлетэнь» і выразкі пра яго са шведскіх, французскіх, іспанскіх газет[1].

З газетных артыкулаў вядома, што Скосыраў стаў самым папулярным аратарам на вуліцах сталіцы: *«Хопіць жыць на завуголлі гісторыі! Андора павінна ўпусціць банкаўскі і гандлёвы капітал. Да якіх пор вы будзеце трываць свой авечы суверэнітэт, якім кіруюць два чужыя ўладары, ці не лепш Андоры абраць свайго караля?»*. Залётны рэфарматар робіць арыгінальную прапанову: Андора не адмаўляецца ад апекі, але апекуноў трэба замяніць! Біскупа Урхельскага — на караля Іспаніі: *«Хуан ІІІ мой лепшы сябар!»*, прэзідэнта Францыі — на галаву французскага каралеўскага дома герцага Гіза[2], чыім асабістым намеснікам у Андоры стане сам «граф Арански» г. зн. ён сам.

І вось барон-граф-намеснік у Генеральнай Радзе. Дарэчы, сюды яго на плячах унёс народ з вуліцы. Барыс I склаў самую кароткую канстытуцыю ў свеце, з 17 пунктаў. Вось некаторыя: 1. Наўзамен Генеральнай Рады засноўваецца парламент. 2. Яго Вялікасць Кароль прадстаўляе парламенту склад урада. 5. Кароль будзе асабіста прадстаўляць Андору ў Лізе Нацый. ... 17. Кароль валодае правам роспуску парламента. Галоўнае — канстытуцыя гарантавала асабістыя правы і свабоды грамадзян.

Ужо не было сумненняў, што на першых усеагульных выбарах, прызначаных на 1 жніўня, пераможа партыя, якая ўнесла Барыса ў парламент. Каб ён пратрымаўся ўсяго некалькі тыдняў, дык запанаваў бы ўжо цалкам легітымна. Але закружылася галава, быў страчаны самакантроль. І ён піша «Маніфест», у якім аб'яўляе вайну біскупу Урхельскаму — сеньёру Бісбе, за «абразу» ў публічным друку.

Біскуп, папярэдне дамовіўшыся з французскім бокам, высылае атрад з чатырох гвардзейцаў і афіцэра. Яны без цяжкасці рассейваюць шаснаццаць паліцыянтаў «шасці Далін» і раніцай уваходзяць у каралеўскі сад — у той самы час, калі Барыс у адным халаце п'е гарбату.

Так скончылася ўлада Барыса I. Каму як, а мне асабіста гэта гісторыя нагадвае прыгоды ў Васюках Астапа Бэндэра з яго праджэктамі пабудовы Нью-Васюкоў. Але даследчы-

[1] Ibid. P. 157.

[2] Філіп, Герцаг Арлеанскі (або Філіп VIII) (1869—1926) памёр бяздзетным, і з 1926 г. галавой французскага каралеўскага дома стаў яго стрыечны брат Жан, Герцаг дэ Гіз (1874—1940), ці Жан III.

кі адзначаюць, што менавіта Скосыраў даў Андоры першую Канстытуцыю, дзе гарантаваліся грамадзянскія правы і свабоды. Ідэі развіцця Андоры на аснове бяспошліннай эканомікі і стымулявання турызму значна апярэджвалі час. Таксама трэба ўлічваць, што Генеральная Рада амаль аднагалосна двойчы прагаласавала за план Скосырава і легітымна зацвердзіла яго каралём.

31 кастрычніка 1934 года Іспанскі суд прысудзіў Скосырава да 1 года турмы. Газета «Нью-Ёрк таймс» пісала: *«Нягледзячы на тое, што Барыс Скосыраў, як і ўсе іспанскія зняволеныя, носіць сіні камбінезон, гэты прэтэндэнт на трон Андоры з яго нязменным маноклем у правым воку, захаваў усю сваю каралеўскую годнасць і флёр выключнасці...»*. Не дачакаўшыся канца тэрміна пакарання, улады выслалі дакучлівага авантурніка ў Партугалію.

Фларэнс Мармон, жанчына, якая была партнёрам і сакратарам Скосырава падчас авантуры ў Андоры, у лістападзе 1934-га вярнулася ў ЗША на борце марскога лайнера «Exochorda». Верагодна, больш яны не сустракаліся.

25 лютага 1935-га на бланку гатэля ў Лісабоне Скосыраў на французскай мове піша заяву Міністру замежных спраў Нідэрландаў з просьбай выдаць новы пашпарт. Толькі ў канцы 1935-га былы «кароль» пакідае Партугалію і едзе да афіцыйнай жонкі ў Сэн-Кан, у Францыю. У маі 1936-га яны едуць у Партугалію і, магчыма, зноў наведваюць Іспанію, але з-за ўспышкі грамадзянскай вайны хутка вяртаюцца ў Францыю.

9 лютага 1939 года ў Францыі Скосырава арыштавалі, бо быў выпісаны ордэр аб яго выгнанні з краіны. Аднак ён не меў належнага пашпарту і таму быў адпраўлены ў лагер для інтэрнаваных замежнікаў паблізу горада Манд. 25 красавіка ён атрымаў загад пакінуць французскую тэрыторыю на працягу 3 дзён. Аднак ехаць яму не было куды і 7 кастрычніка 1939 года ўлады зноў адправілі яго ў канцэнтрацыйны лагер «Ла Вэрне» ў Арьежу (у французскіх Пірэнеях). Там ён знаходзіўся як «непажаданы замежнік». Прафесар А. Н. Рубакін у кнізе ўспамінаў, апублікаванай у 1960 годзе ў Маскве, пісаў пра сустрэчу з Барысам Скосыравым у лагеры «Ла Вэрне».

Афіцыйна пацверджанай інфармацыі аб жыцці Скосырава пасля лагера няма. Але ў 1950-х і 1960-х гадах у Партугаліі і Германіі прайшлі газетныя публікацыі пра былога караля. Яны праліваюць нейкае святло на яго жыццё пасля вайны.

У 1958 годзе партугальскі сябар Скосырава д-р Франсіска Фернандэс Лопес апублікаваў лісты, якія ён атрымліваў ад Скосырава і ягонай жонкі Мары-Луіз. Лісты былі дасланы з Бопарда — нямецкага горада ў Рэйнскай вобласці, недалёка ад Кабленца. Скосыраў пісаў, што разам з жонкай у кастрычніку 1942 года быў вызвалены немцамі з лагера «Ла Вэрне» і адпраўлены ў Савецкі Саюз. Пасля вайны было зняволенне ў Сібіры, потым — пераезд у Заходнюю Германію і спакойнае жыццё «100 % маленькага рантцье». Уласная інтэрпрэтацыя Скосыравым ягонай біяграфія заўжды ўводзіла ў зман, і гэты канкрэтны варыянт развіцця падзей, не пацверджаны, выклікае шмат сумненняў. Да сваёй смерці ў 1989-м ён жыў у Бопардзе, дзе і быў пахаваны[1].

На гэтым можна было б і закончыць, калі б нямецкі гісторык Герхард Ланг не знайшоў нядаўна ў савецкіх архівах новыя дакументы пра Барыса Скосырава. З іх бачна, што 31 снежня 1957 года Скосыраў афіцыйна разводзіцца з Мары-Луіз Пара. 3 красавіка 1969 года, маючы 73 гады, ён жэніцца на нейкай Марыі-Разіце, нямецкай дзяўчыне, якая нарадзілася ў 1939-м у саксонскім мястэчку Брунсвік. Простая немка ператвараецца ў спадарыню — далей ва ўсіх дакументах яна згадваецца як Разіта фон Скосырава. Разам яны жывуць да смерці Скосырава 27 лютага 1989 года.

З гэтым шлюбам, дарэчы, звязана яшчэ адна містыфікацыя. У пасведчанні аб ім запісана, што жаніх нарадзіўся ў 1900-м, гэтая ж дата выбіта і на помніку. Ці містыфікацыяй з'яўляецца агульнапрыняты 1896 год нараджэння «караля»? Можа, Барыс дадаў сабе 4 гады, каб патрапіць на фронт? Чарговая загадка. Напісаць праўдзівую біяграфію гэтага чалавека ўжо амаль што немагчыма.

[1] Alexander Kaffka. The Russian King of Andorra: Fantasies and Facts // Papers de Recerca Històrica. 2009. Vol. 6. P. 158.




# КАЛІ МЫ ХОЧАМ

***Цяжкавата было спачатку прыдумаць, які дыялог мне весці з моладдзю, і чаму адкрыты, і чым ён адрозніваецца ад закрытага.***

***Спачатку я думаў абвясціць моладдзю самога сябе і самому з сабой зрабіць той дыялог. Але ўнутраны голас сказаў мне: Лупасін, табе чацвёрты дзясятак, ты ўжо стары пень, а не моладзь, дай другім выказацца!***

***Тады я вырашыў прыдумаць персанажаў і зрабіць дыялог паміж імі. Але ж унутраны голас зноў запратэставаў, што гэта, маўляў, неэтычна.***

***Пасля гэтага мне нічога не заставалася, апроч як узяць і дыялагнуць з сапраўднай моладдзю, а менавіта — са сваімі сябрамі.***

***Пытанне для дыялогу я абраў самае простае і лагічнае: «Якім чынам ты хочаш і можаш палепшыць Беларусь!»***

***Вось як размеркаваліся адказы:***

**Аляксандр, 24 гады:** «Мне вельмі хочацца, каб беларусы нідзе не сароменіся сваёй мовы. І не глядзелі на беларускамоўнага чалавека як на вар’ята або здзекаваліся з яго. Наша мова падабаецца ўкраінцам, нават іншаземцам з Захаду. А мы самі так смяемся з яе...»

**Лізавета, 17 гадоў:** «Адрадзіць культуру не ў тым сэнсе, каб прымусіць усіх шанаваць сваю гісторыю, мову, пазапіхваць люд у музеі і ўключыць ім гучна Баха. А ў тым, каб самому навучыцца паважаць тое, што прыйшло ад продкаў. Усё пачынаецца ад аднаго, ад адзінкі. Нават матэматыка. Далей пойдзе, як снежны ком. І каб усе тыя выставы-музеі былі не сродкам “культурнасці”, а неабходнасцю душы».

**Багдан, 21 год:** «Ужо больш за год я раблю нашу Беларусь лепшай. Не, я не ратую жывёл і не дапамагаю дзецям-сіротам. Я дапамагаю звычайным хлопцам перадолець адзіноту: пачаць знаёміцца з дзяўчатамі, знайсці *тую самую*, пачаць будаваць з ёю трывалыя адносіны. Займаюся гэтым, бо сам калісь моцна пакутаваў ад неўзаемнага кахання і самоты. Мне балюча глядзець на 30-гадовых мужыкоў, якія ў свае гады без сям’і, дзяцей. Пры гэтым хочацца, каб статыстыка разводаў у нашай краіне пачала радаваць. Вось якая каша-малаша».

**Іван, 20 гадоў:** «Я — распрацоўшчык камп’ютарных гульняў. Усё тое, што я ствараю, распаўсюджваецца па свеце. Мая мэта — гэта стварэнне сваёй паўнавартаснай студыі распрацоўкі. Гэта рабочыя месцы, а таксама ўнёсак у стварэнне іміджу для нашай краіны, што павінна паспрыяць росту інвестыцый і развіццю кіберспорту, а таксама пашырэнню вытворчасці гульняў».

**Ганна, 19 гадоў:** «Я б вельмі хацела, каб нашыя людзі часцей усміхаліся. Каб проста так усміхнуцца мінакам не было чымсьці экстраардынарным».

**Вера, 16 гадоў:** «Тэарэтычна ў Беларусі ўсё *норм*, але не ўсё, што трэба, выконваецца».

**Любоў, 21 год:** «Ніяк. Я адна ніяк не змагу палепшыць Беларусь. Я вучуся ў двух інстытутах, у кожным з якіх нам, студэнтам, выкладчыкі ненавязліва рэкамендуюць хутчэй вывучыць мову і вывезці свае разумныя галовы за межы нашай радзімы».

**Яўген, 22 гады:** «У першаю чаргу, вядома, трэба пачынаць з сябе і сваіх блізкіх. Галоўныя праблемы сучасных беларусаў

(мае сябры і родныя не выключэнне) у тым, што яны дурныя, гультаяватыя і бедныя, прычым апошняе вынікае з двух першых слоў. Таму, я лічу, мне трэба дапамагаць блізкім са сродкамі матывацыі дзеля пазнання гэтага сусвету і плённай працы».

**Ігар, 21 год:** «Адна з актуальных праблем, якую я бачу ў сучаснай Беларусі, — адсутнасць нацыянальнай самасвядомасці. Ведаю, што гэта пафасныя словы, за якімі сёння можа схавацца любы лозунг, аднак, калі мы хочам звацца з гонарам беларусамі, трэба нешта рабіць. Адзін з асноўных ключэй да здабыцця гэтай самай самасвядомасці — наша мова. І асабіста я стараюся, каб як мага больш людзей пачулі і зразумелі, што беларуская мова — не толькі назва школьнага прадмета. У газеце, дзе я працую, — пішу па-беларуску і бачу станоўчую рэакцыю чытачоў. У сваім гурце спяваю па-беларуску і чую, як на канцэртах са мной слухачы спяваюць мае песні. Замаўляю аўтазапчасткі альбо вырашаю нейкія праблемы, звязаныя з камп'ютарам, па-беларуску і ўсё часцей мне адказваюць на маёй мове. Выкладаю полацкім гімназістам асновы журналістыкі таксама па-беларуску і бачу, што ім гэта падабаецца. І калі хоць адзін чалавек дзякуючы таму, што я раблю, прыйдзе да беларускасці праз мову, — я буду ведаць, што жыву не дарэмна».

**Валянцін, 29 гадоў:** «Як змяніць Беларусь да лепшага? Усё вельмі проста: трэба змяніць сваё ўласнае жыццё. Не, ніякіх ружовых сопляў пра самаўдасканаленне і духоўны рост! Трэба мяняць уласнае жыццё да лепшага ў самым вульгарным матэрыяльным сэнсе. Зарабляць, зарабляць і яшчэ раз зарабляць! І з асалодай выдаткоўваць гэтыя грошы на сябе даражэнькага. Купіць файную тачку, ад якой усе дзеўкі будуць сікаць кіпенем, а ўсе хлопцы — зайздросліва скрыгатаць зубамі. Збудаваць трохпавярховы асабняк з усімі магчымымі і немагчымымі выгодамі цывілізацыі. Штомесяц ездзіць адпачываць у новую краіну (для пашырэння кругагляду). А калі абрыдне — стаць бацькам трох-чатырох дзяцей і узорным сем'янінам. І спажываць, спажываць, спажываць… Як мага болей, са смакам. Чым гэта дапаможа Беларусі? Ды тым, што чым болей будзе ў нас заможных і ўпэўненых у сабе людзей, тым шчаслівейшым будзе грамадства і тым спакайнейшым жыццё ў краіне. Няхай пацопнутыя пыльным мехам рамантыкі мармычуць мантры пра духоўнасць і нацыянальную ідэю. Грашовыя знакі — вось найлепшая ідэя! Бо нікога не трэба пераконваць у іх значнасці і каштоўнасці. Грошы — connecting people! Узбагачайцеся, дарагія суайчыннікі! Ад вашага дабрабыту залежыць будучыня краіны!»

**Аляксей, 26 гадоў:** «Я думаю, што каб наша жыццё палепшылася, трэба кожнаму сумленна і якасна рабіць сваю справу».

**Наталі, 22 гады:** «Мара: смеццеперарабляльны завод, нават некалькі ў Мінску — рэальна. Тое, што ўжо адслужыла (тэхніка побытавая, батарэйкі і г. д.), здаваць у спецыяльныя месцы. А яшчэ я вельмі шкадую і берагу паперу».

**Любоў, 22 гады:** «Я набываю ў бабулек і дзядулек, што гандлююць каля метро рознымі рэчамі, каб хоць неяк зарабіць сабе на жыццё, букеты кветак і садавіну, а пасля раздаю знаёмым, бо мне многа не трэба. Кармлю валацужных катоў і сабак, усміхаюся незнаёмым людзям».

*«О моладзь, ты такая розная і натхнёная! — падумала правае паўшар'е майго мозга, прачытаўшы ўсё гэта. — Колькі ў цябе летуценных памкненняў! Асабліва во гэтае, пра смеццеперарабляльныя заводы!»*

*«Моладзь такая, — запярэчыла левае паўшар'е майго мозга. — Багата гаворыць, няма чаго слухаць. Адрадзіць культуру — ну і як яе адрадзіць? І хто будзе будаваць тыя смеццезаводы, калі...»*

*Але ж тут правае паўшар'е на яго гыркнула, левае пакрыўдзілася і змоўкла.*

*Калі паўшар'і памірыліся, Лупасін пачаў думаць думу: а якім чынам ён асабіста можа палепшыць Беларусь?*

*Ён думаў да позняга вечара і, так нічога не надумаўшы, пайшоў спаць.*

*Лупасін спаў, а беларуская моладзь паляпшала нашу краіну...*



***Віктар ЛУПАСІН***

*Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны*

Андрэй КАЛАВУР

# ФРАНЦ САВІЧ:
## Да пытання распрацоўкі гістарычнай памяці



***Андрэй Калавур вывучае гісторыю і паліталогію на 5 курсе гістарычнага факультэта БДУ, працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у Нацыянальным гістарычным музеі, займаецца навуковымі даследаваннямі, апісаннем калекцый, пошукам прадметаў для музея. Сярод навуковых інтарэсаў важнае месца займае Пінскае Палессе. Любіць падарожнічаць і пазнаваць.***

У 2015-м спаўняецца 200 год з дня нараджэння беларускага палітычнага мысляра, публіцыста, паэта і мемуарыста Франца Савіча. Сёння існуе праблема распрацоўкі гістарычнай памяці яго постаці, а таксама «месцаў памяці» (П. Нора), якія прадугледжвалі б тры аспекты: матэрыяльны, сімвалічны, функцыянальны [8]. Сярод патэнцыйных «месцаў памяці» можна назваць падручнікі, навуковую і мастацкую літаратуру, музеі, камемарацыю (мемарыялы, манументы, святы, юбілеі і інш.), сеткавы кантэнт, рок-музыку, кіно, жывапіс. Пытанні, якія маюць негатыўны аспект да гістарычнай памяці, на жаль, носяць рысы ўніверсальнасці для гісторыі Беларусі.

Па-першае, асноўныя крыніцы («памяць-архіў»), з якіх можна дэталёва даведацца пра творчасць, мысленне і жыццёвы шлях вялікага пінчука, знаходзяцца па-за межамі Беларусі.

Па-другое, вобраз дэмакрата, які ў дваццаць адзін год напісаў «Прынцыпы дэмакратызму», канчаткова не распрацаваны: не існуе дастатковага наратыва і вядомай выявы Савіча (ніводнага партрэта раней не існавала) [10].

Першы тэарэтык памяці ў кантэксце соцыума — М. Хальбвакс (1877—1945), лічыў, што калектыўная памяць — гэта пэўныя «вонкавыя знакі» («апорныя кропкі і сістэмныя адзінкі»), да якіх можна звяртацца, пакідаючы рамкі свайго «я». Калектыўную памяць ён суадносіў з неперарыўным ходам думак пэўнай групы: «Памяць не проціпаўстаўляе сучаснасць і мінулае» [6]. У сваю чаргу, сучасны даследчык П. Нора піша пра цікавую з’яву — «мемарыяльную эпоху» (пачалася з другой чвэрці XX стагоддзя), з якой упершыню моцна актывізуецца дзейнасць памяці. «Паскораная гісторыя» і «дэмакратызацыя гісторыі» сталі яе каталізатарамі. На думку П. Нора, мы сутыкаемся з феноменам, калі «паскораная гісторыя» адсоўвае ад нас прадстаўленне не толькі аб будучыні, але і мінулым. Ён піша: «Зараз яно (мінулае), па знакамітай формуле англійскага гісторыка і дэмографа, “мір, які мы страцілі” (“Theworldwehavelost”). Мы больш не жывём у ім, яно гаворыць з намі толькі праз

пакінутыя ім сляды — загадкавыя сляды, сэнс якіх мы павінны шукаць, таму што ў іх хаваецца сакрэт таго, што мы ёсць, нашай “ідэнтычнасці”. У нас няма больш агульнай глебы з мінулым. Мы можам здабыць яго толькі праз рэканструкцыю — з дапамогай дакументаў, архіваў, помнікаў. Гэта аперацыя ператварае “памяць” — у моднае імя для таго, што раней называлі проста “гісторыяй”. Слова “памяць” атрымала такі агульны і экстэнсіўны сэнс, што мае тэндэнцыю наогул выцесніць слова “гісторыя” і паставіць заняткі гісторыяй на службу памяці» [7]. Дэмакратызацыя гісторыі (маецца на ўвазе рух вызвалення і эмансіпацыі народаў, этнасаў, груп і нават асоб у сучасным свеце) сведчыць для П. Нора аб «здабыцці памяці»: «Гаворка ідзе аб хуткім узнікненні разнастайных формаў памяці меншасцей, для якіх адваёва ўласнага мінулага з’яўляецца неабходным складнікам зацвярджэння ўласнай ідэнтычнасці (з прычынамі ўсеагульнай, унутранай, ідэалагічнай дэкаланізацыі)» [7].

Усё ж трэба прызнаць, што пэўная «памяць Франца Савіча» (фрагментаваная ў часе) жыве ў навуковых рэканструкцыях (якім, на думку аўтара, не надаюцца ўсе тры аспекты «месцаў памяці»). Асноўным біёграфам Савіча, які ўпершыню пачуў пра яго ў 1948-м і які больш дэталёва яго даследаваў, лічыцца А. Смірноў. У 1961-м ён выдаў манаграфію «Франц Савіч» [1]. Найбольш грунтоўным даследчыкам з’яўляецца, бясспрэчна, М. Хаўстовіч, які ў навуковай працы «Шляхамі да беларускасці» [2] падае аналіз творчасці Савіча, а таксама пераклады яго верша і ўспамінаў. Найбольш поўны пераклад на беларускую мову, а гэта ўсяго пару старонак, змешчаны ў працы пад кіраўніцтвам навуковага рэдактара А. Мальдзіса ў анталогіі «Літаратура Беларусі XIX ст.» [3].

Што ж датычыцца спадчыны Франца Савіча, то яго «Успаміны» і «Споведзь пакутніка» дайшлі да нас уключанымі ў двухтомныя «Успаміны мінулых гадоў» Я. Іваноўскага (Я. Геленіюша) [4], а вершаваны твор-гутарка «Там, блізко Піньска» захаваўся ў справах следчай камісіі і прыведзены ў кнізе Е. Паўловіча «Успаміны з-пад Віліі і Нёмана» [5]. Акрамя вуснай традыцыі перадачы гістарычнай памяці пра Ф. Савіча (песні 1830-х, успаміны паўстанцаў 1863—1864), трэба ўзгадаць твор М. Лавіцкага (1816—1900) «Нарысы духу Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі», дзе ўзгадваецца дзейнасць «Дэмакратычнага таварыства» і яго лідараў.



*Алена Гаеўская. Партрэт Франца Савіча.*

Асабістая гісторыя Франца Савіча пачыналася ў Пінску. Там ён скончыў павятовае вучылішча, дзе выхоўваўся ў духу мысляроў Асветніцтва, ідэалаў Т. Касцюшкі, А. Міцкевіча і Т. Зана, ды зарабляў грошы рэпетытарствам. З горадам ён ніколі не развітваўся, гэта яскрава бачна ў яго дзейнасці і творчай спадчыне, якая дайшла да нас у выглядзе вершаванага твора — гутаркі «Там, блізко Піньска». Тут Савіч арганізаваў «слаўную кумпанейку», якая прагнула незалежнасці Айчыны і дэмакратыі. Малады дэмакрат пісаў: «У Пінску прайшлі мае маленства і юнацтва. Франц Махцінскі быў першым апекуном, дарадчыкам і настаўнікам. З яго дапамогай я скончыў школу. У 1833 я пакінуў Пінск і на ўсё жыццё заха-

**Слова "памяць" атрымала такі агульны і экстэнсіўны сэнс, што мае тэндэнцыю наогул выцесніць слова "гісторыя" і паставіць заняткі гісторыяй на службу памяці**

ваў удзячнасць да Ф. М. за тое дабро, што ён для мяне зрабіў» [3].

У 1835-м ён паступіў у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію. У наступным годзе разам з Я. Загорскім стварыў і ўзначаліў «Дэмакратычнае таварыства». «Увесь час я працаваў над сабою, чэрпаў навуку з кніжак і жыцця, казаў сам сабе не раз: маючы душу і волю ад Бога дадзеную, ніяк іх змяніць нельга, бо гэта б супярэчыла дасканаласці Творцы, Святой кнізе. Але што я магу дзеля мае Айчыны ўчыніць — сам без прытулку, без усялякае волі, ва ўбогім стане? Сэрца маё адказвала: Хрыстос не нарадзіўся ні на троне, ні ў палацы, а ў галечы, у стайні на сене, усё жыццё быў убогі, хоць цараваў і царуе на зямлі і на небе. А сказаў вучням сваім: "Хто хоча мне наследваць, няхай адрачэцца ад усяго, возьме крыж свой ды ідзе за мною". Такія думкі пераканалі мяне, што маючы моцную волю, я магу быць карысны братам і пакласці вышэй адзін камень у будынак Айчыны нашае» [2]. Узяўшы мянушку «Адам» (ад імя Міцкевіча), ён заняў пасаду сакратара і скарбніка, вызначаў парадак прыёму новых сяброў у таварыства (усяго іх было прынята больш за 100 чалавек) [1]. Таварыства, на думку заснавальнікаў, павінна было працягнуць працу філарэтаў і філаматаў. «Усё дзеялася наадварот, усё нават маральна ўпала; пасля выгнання стольхіх заслужаных людзей надышла рэакцыя. Вучні Зана зніклі амаль усе ў падзеях 1831 года; прыйшлі новыя вучні, змяніўся дух моладзі…», — адзначаў Савіч [3]. Для «Дэмакратычнага таварыства» ён склаў Статут «Прынцыпы дэмакратызму», які абвяшчаў барацьбу з беззаконнем, аказанне дапамогі абяздоленым, уздзеянне на моладзь з мэтаю выхавання сумленных, справядлівых грамадзян. А. Валіцкі сведчыў, што Савіч у гутарках з сябрамі сцвярджаў: «Усе людзі маюць аднолькавыя правы да свабоды і роўнасці, што паколькі цяпер адны людзі прыгнятаюцца другімі, то гэта не зусім натуральна, і таму трэба ўнушаць усім тое перакананне, што кожны павінен карыстацца аднолькавымі правамі, што кожны мае права кіраваць і таму павінна быць рэспубліка і людзі павінны кіравацца адным натуральным правам» [1].

Адна са значных палітычных прац Франца Савіча — адозва «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам, або якое наша становішча і што ў цяперашні час трэба рабіць людзям дабрамыслячым». У «Заўвагах» ён падкрэсліваў: «Уступаючы шматлікім ворагам, але, непакорныя і непахісныя, мы і пасля адняцця ў нас зброі вяртаемся з поля бітвы да непрыкметнай маральнай барацьбы, у якой загартоўваюцца нашы душы, расце абурэнне і пагарда да тыранаў, узмацняецца любоў да свабоды. У ёй сеялі мы зерні асветы і навукі аб правах чалавека. Тыраны і дэспаты ўсюды вядуць з народамі маральную вайну: растленне народа, знішчэнне вольналюбства і нацыянальнага гонару. Трэба падтрымліваць і ўмацоўваць нацыянальную мову і культуру, навуку і асвету… Будзем загартоўваць дух, працаваць да канца жыцця! Хто ведае, дзе і як суджана нам памерці? Магчыма, не адзін з нас сканае пад рукою ката! Але няхай і смерць яго будзе працягам барацьбы за свабоду! І з вышыні шыбеніцы, як з высокага трона, павінен заклікаць: паўстаньце, народы! Паўстаньце ў імя растаптаных правоў чалавека! Вось кароткі нарыс барацьбы, якую вядзе Еўропа і якую трэба будзе нам весці з дэспатызмам. Калі дзейсна будзем у ёй удзельнічаць — наша хуткая перамога забяспечана. Ведаем, што велізарныя будынкі ўзводзіліся з малых цаглін, няхай жа кожны з нас падрыхтуе сваю цагліну і пакладзе яе на сваё месца, не пытаючыся аб заканчэнні справы. Бяздзейсныя людзі, людзі слабадушныя, у апраўданне бяздзейснасці гавораць, што ім няма чаго рабіць. Паглядзіце — народы ўсяе Еўропы ў працоўнай упартай крывавай барацьбе разбураюць старадаўні аплот дэспатызму і ўзводзяць храм свабоды. Нашы браты пілігрымы (тут ён кажа пра А. Міцкевіча, Н. Орду

і іншых, якія жылі за мяжой) закладваюць для гэтага храма краевугольныя камяні. Будзем дапамагаць нашым братам па меры сіл кожнага» [1].

У 1836—1837 гадах Савіч разгарнуў актыўную дзейнасць на Піншчыне. Ён спрыяў, каб пінскі шляхціч Франц Цярлецкі пры дапамозе ўніята Андрэя Ермаловіча зачытаў сваім сялянам Статут, пасля чаго былі выбраны суддзі сярод сялян і адменены цялесныя пакаранні. Прыкладна ў гэтыя часы ён напісаў свае вершы на пінскай гаворцы (лацініцай). На гаворцы таксама захаваліся некаторыя лісты Савіча — прыватны ліст да Фелікса Шаламіцкага ад 9 лютага 1837 года: «Дарагі Ф.! Падацель… // П. С. У Вільні вярнуліся мае пінская часы, бо маю харошых і дабранадзейных сяброў».

У 1837 годзе Франц Савіч выйшаў на сувязь з радыкальным рэвалюцыянерам Ш. Канарскім, які спрабаваў падняць паўстанне. Пры спробе наладзіць сувязь з віленскімі друкарамі, якія павінны былі зрабіць агітацыйныя лісты, — арганізацыю выдалі паліцыі. 1 чэрвеня 1938 года Савіча арыштавалі. Следства цягнулася да студзеня 1839-га. Лавіцкі (сябар Савіча) піша ў «Нарысах духу Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі» пра «карцэр і 12 тысяч udaраў розгамі, якія атрымаў Савіч» [1]. 8 жніўня 1838-га Савіч піша «Споведзь пакутніка», дзе разглядае адраджэнне Рэчы Паспалітай і ўсталяванне свабоды. Па справе «Аб Канарскім і саўдзельніках» [1] было асуджана

**Савіч арганізаваў «слаўную кумпанейку», якая прагнула незалежнасці Айчыны і дэмакратыі.**

24 члены (18 студэнтаў медыкаў, 6 мяшчан). Савіч, Загорскі, Рапчынскі — былі сасланы на Каўказ, у салдаты без выслугі. Канарскі — расстраляны. Яшчэ некаторыя адпраўлены на руднікі Забайкалля. Савіч пачынае службу шарагоўцам у Тыфлісе. Ён піша: «Я павінен быў страляць у чаркесаў, якія маёй радзіме і мне нічога дрэннага не зрабілі, павінен быў ахоўваць справы, якія супярэчылі маім перакананням, ваяваць для карыслівасці і інтарэсаў прыгнятальнікаў, станавіўся супраць тых, хто змагаўся за сваю свабоду. Я не мог абараняць справу, якая супярэчыць маім перакананням» [2]. У 1840 годзе справу Савіча перагледзелі, яму прысудзілі смяротнае пакаранне, але з дапамогай сяброў ён уцёк. «Навакол у стэпе было так спакойна і ціха, што здавалася, быццам голас з роднай Літвы даходзіць да мяне, але гэта быў толькі голас маіх надзей, голас майго сэрца» [3]. У канцы лета 1841 года Савіч трапіў у Таганрог, потым у Балты, дзе без дакументаў спрабаваў перайсці мяжу, але быў адпраўлены ў Цірaспальскую турму. Там яго зноў прызначылі ў салдаты — у Чарнігаўскую ўнутраную варту (яго асобу як перабежчыка на той момант не вызначылі). Франц Савіч

«Там, блізко Піньска, на шыроком полю,
Где між лугамі плыве Струмень быстры,
Там — сідя Літвін расказваў сву долю.
З боку Валынец сідеў заточысты,
З переду Пінчук веслом ся спірае,
І на гутарку пільна ўважае...
...Літвін, Волынец, подайтэж мі рукі,
Так, — прысягаем на Госпада Бога,
Царам на згубу — панам, для навукі,
Шчо на той землі не повстане нога,
Ані эта поганьска, ані эта тыраньска —
Хоць ся вкорэніт, як сіла шатаньска...»

працягнуў службу да 1844 года і зноў збег. Затрымаўся ў Янушпалі (Валынь), каб зарабіць сродкі на жыццё і паспрабаваць атрымаць падроблены пашпарт — пачаў займацца лекарскай практыкай. Яго спыніла эпідэмія халеры ў вёсцы. Лечачы сялян, ён сам захварэў. Хворы піша «Успаміны», якія перадае паэту А. Грозе. У канцы 1847 года памірае.

Сябры пахавалі яго ў Астражку, што на Валыні.

З успамінаў: «З малых гадоў, як толькі памятаю сябе, мае думкі былі пра свабоду і Айчыну, пра нашае бяспраўе і нашу беднасць. Кожны з нас іх павінен мець, бо высмоктваем мы іх з матчыных грудзей, бо ў песнях, што спявалі над нашымі калыскамі, гучала гэтая нота, бо пра гэта дзецям расказвалі старыя» [3].

Справа Савіча засталася ў думках вучняў: адразу пасля яго зняволення ў Акадэміі стварыліся новыя групоўкі, сярод якіх набыла папулярнасць песня [1]:

Ну-ка, браты, у кола
Праганіце засмучэнне
Хай любві і свабоды
Грымне гучная песня
Слава Савічу, Слава Рабчынскаму!
Слава духу Загорскага!
Мы, Маладыя, павінны памятаць заўсёды,
Што нязгоду спараджаюць бяссілле,
А таму дружна будзем думаць пра волю,
Прэч невуцтва і разлад,
Ну-ка, маладыя сябры.
Будзем любіць народ.
І, падаўшы адзін аднаму руку,
Сарвем галаву гідры!

Сябры Таварыства (Юрый Бакшанскі і іншыя) прынялі актыўны ўдзел у паўстанні Каліноўскага. Дарэчы, як заўважыў А. Смірноў, імя Савіча вельмі часта фігуруе ў матэрыялах паўстання 1863—1864 гадоў. [1].



**Асноўнай задачай, якую ставіць перад сабой аўтар гэтага артыкула, з'яўляецца абуджэнне цікавасці да Франца Савіча сярод грамадскасці**

**Адна са значных палітычных прац Франца Савіча — адозва «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам, або якое наша становішча і што ў цяперашні час трэба рабіць людзям дабрамыслячым»**

Асноўнай задачай, якую ставіць перад сабой аўтар гэтага артыкула, з'яўляецца абуджэнне цікавасці да Франца Савіча сярод грамадскасці (з'яўленне пэўнага ідэнтыфікатыўнага моманту ў чытачоў), толькі з цікавасцю, «жаданнем помніць» (П. Нора) можна казаць пра пачатак распрацоўкі гістарычнай памяці маладога дэмакрата, а гэта трэцяе і галоўнае пытанне.

**ЛІТАРАТУРА:**


1. Смірноў, А. П. Франц Савіч. — Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1961. — 170 с.

2. Хаўстовіч, М. В. Шляхі да Беларускасці. — Варшава: Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, 2010.

3. Літаратура Беларусі XIX ст. Анталогія. Навуковы рэд. А. В. Мальдзіс. Выдавецкі дом «Беларуская навука», 2013. С. 500—506.

4. Wspomnienia lat minionych. Heleniusz, E. — Kraków, 1876.

5. Wspomnienia z nad Wilji i Niemna. Pawlowicz, E. — Lwów, 1895.

6. Хальбвакс, М. Калектыўная і гістарычная памяць. Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/ha2.htm1

7. Нора, П. Усеагульная ўрачыстасць памяці. Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/nora22.htm1

8. Нора, П. Францыя-памяць. СПб: Выд. СПб ун-та, 1999. С. 17—50.

9. Бардах, Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Бел. Гіст. Агляд, 2002.

10. Партрэт (фантазія, 2014 г.) «Франц Савіч». Мастак: Алена Гаеўская.

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

# «ЗЯЛЁНАЮ БЯРОЗКАЙ»

За тыя дзесяцігоддзі, якія давялося мне адпрацаваць у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка», праз мае рукі прайшлі пробы пяра соцень і соцень школьнікаў, хто з маленства адчуў у сабе жаданне прычыніцца да прыгожага пісьменства, да паэзіі і, прасякнуты любоўю да літаратуры і роднага слова, адважыўся зрабіць першыя крокі па сцяжынцы творчасці. Нямала спрыяла выяўленню літаратурных здольнасцей дзяцей і падлеткаў радыёперадача «Першыя сцяжынкі», якую я рыхтаваў і кожны месяц вёў у эфіры Беларускага радыё амаль тры дзясяткі гадоў. Каб назваць усіх, хто, атрымаўшы тут урокі літаратурнага майстэрства, змог, як кажуць, раскрыцца, развінуць крылы свайго таленту, годна ўліцца ў шэрагі майстроў пяра, — пералік імён заняў бы не адзін радок. На вялікі жаль, не ўсе, на каго спадзяваўся, здолелі «засвяціцца», узляцець, каб парадаваць чытачоў (дый саміх сябе!) шчырасцю свайго паэтычнага радка. Многія пасля ўдалага, здавалася б, дэбюту паступова згубіліся ў вірлівай плыні жыцця і розных будзённых клопатах. Не ўсім хапіла цярплівасці, старання, настойлівасці ў пошуку, а галоўнае — працавітасці...

Мінулі дзясяткі гадоў, але і па сённяшні дзень помняцца літаратурныя дэбюты многіх былых пачаткоўцаў, тыя нясмелыя радкі, з якімі яны адважваліся «пастукацца» ў рэдакцыю, каб выйсці з імі ў свет, да сваіх равеснікаў, да ўсіх, каму ў радасць сустрэча з родным словам, з крынічнай свежасцю звонкага паэтычнага радка. Сапраўды «свежага» і «паэтычнага», бо яны нараджаліся ў сэрцах яшчэ нічым не азмрочаных, чыстых душою хлапчукоў і дзяўчатак. Не ведаю, што гэтаму спрыяла, але дзяўчатак, хто захапляўся творчасцю, пісаў у рэдакцыю, было нашмат болей, чым хлопцаў. Мусіць, яны больш назіральныя і ўседлівыя, і натхненне часцей завітвала да іх...

Я, напэўна, быў адным з першых сталічных «служыцеляў музы», каму выпала шчасце пазнаёміцца з вершамі Жэні Янішчыц і, нягледзячы на свой яшчэ амаль пачаткоўскі ўзрост, стаць своеасаблівым «хросным бацькам» яе вучнёўскіх паэтычных радкоў. І адбылося гэта не ў 1966 годзе, калі я прыйшоў працаваць у рэдакцыю часопіса «Бярозка», а двума гадамі раней, недзе ўлетку 1964 года. Тады я працаваў рэдактарам літаратурна-мастацкіх перадач замежнага вяшчання Беларускага радыё, сённяшняй радыёстанцыі «Беларусь».

На той час радыёкамітэт перабраўся ўжо з вуліцы Рэвалюцыйная, 3, дзе дагэтуль знаходзіўся, у новы будынак па вуліцы Чырвоная, 4, куды мяне потым яшчэ не адно дзесяцігоддзе вадзіла знаёмая сцежка-дарожка на запіс перадачы «Першыя сцяжынкі». Гэта было потым. А тады...

Аднаго разу, калі я вяртаўся з радыйнай студыі ў свой пакой, што знаходзіўся ў канцы калідора на другім паверсе Дома радыё, мяне нечакана запыніў заўсёды ўсмешлівы, здатны на гумар Саша Радуцкі. Ён быў адным з рэдактараў, хто рыхтаваў да выпуску радыёпраграму «Рамантыкі», якая адрасавалася школьнікам старэйшых класаў, падлеткам. Апрача розных рэпартажаў, матэрыялаў з жыцця школьнай моладзі, у ёй гучала шмат музыкі, новых на той час песень (нават пра чорнага ката), выступалі з вершамі юныя паэты.

— Слухай, Мікола, тут адна дзяўчынка з Брэстчыны даслала вельмі прыстойныя вершы. Нават не верыцца, што яна іх сама магла напісаць, — сказаў Саша, прывёўшы мяне з калідора ў свой рэдакцыйны пакой, і працягнуў стосік лісткоў з вучнёўскага сшытка, акуратна запоўненых радкамі вершаў. — Паглядзі, калі яны не спісаныя ніадкуль, то добра было б, калі б ты сказаў сваё

слова пра іх, прадставіў яе. Я думаю, дзяўчынцы прыемна будзе пачуць слова паэта пра свае вершы. Можа, парадуецца, падахвоціцца і яшчэ лепшыя напіша.

Прызнаюся, яго просьба мяне нават крыху збянтэжыла: які я паэт? Самому толькі дваццаць з хвосцікам! Праўда, на радыё прымаўся за паэта, бо на той час ужо быў аўтарам зборніка вершаў для дзяцей «Дзе лета канчаецца», даволі часта друкаваўся. Таму, відаць, Саша Радуцкі і вырашыў: маю права сказаць слова, прадставіць у эфіры творы таленавітай школьніцы з Брэстчыны.

Вершы Жэні Янішчыц з першых жа радкоў незвычайна здзівілі і ўразілі сваёй вобразнасцю, паэтычнай дасканаласцю, свежасцю думак і шчырасцю пачуцця, той пранікнёнасцю, якая здольна міжволі зачараваць, прымусіць задумацца, даверыцца ўзнёслым парывам яе маладой душы, яе ўлюбёнасцю ў родныя палескія краявіды, у людзей, у навакольны свет, поўны незвычайнага харастве. І сапраўды можна было засумнявацца: ці яе гэта вершы? Няўжо іх самастойна магла напісаць вясковая дзяўчынка-васьмікласніца? Кажу «васьмікласніца», бо пад некаторымі вершамі, як помніцца, было пазначана: вучаніца 8-га класа Парэцкай СШ Пінскага раёна.

Я сам — учарашні школьнік, не забыў, як пісаў, як давалася літаратурная вучоба, як пісалі некаторыя аднагодкі, што друкаваліся ў газетах «Піянер Беларусі» і «Зорька», у часопісе «Бярозка», а нікому з нас, бач, не дайшло, не ўдалося даўмецца, каб знайсці такое незвычайна-вобразнае параўнанне тым жа звыклым змалку стагам: «Як кубанкі дзядоў зімовыя, абкружылі цябе стагі...» Ці ж не пазайздросціць было пятнаццацігадовай дзяўчынцы Жэні з палескай вёскі, пра якую раней не ведаў і не чуў?

На вялікі жаль, у мяне не захавалася таго, што я гаварыў, прадстаўляючы вершы Жэні Янішчыц слухачам «Рамантыкаў». Не магу прыгадаць і ўсіх вершаў, пра якія ішла размова. Але ж праз 50 гадоў, якія мінулі з той пары, захаваліся ў памяці некаторыя радкі: «У парку танцы, зноў смяюцца пары...», «А жнівень косы мне няшчадна выпаліў...», «Край мой сіні, казка вясновая». А радкі верша «Зоры над Пінаю», здаецца, самі прасіліся, каб іх не проста вымаўлялі, а спявалі:

Зоры над Пінаю,
Зоры над Пінаю —
Гэткіх прыгожых не ўбачыш нідзе.
Хмарка, нібыта крыло лебядзінае,
Затрапятала ў сіняй вадзе.

Я, далёкі ад яе родных мясцін, быў заваражаны іх чароўнасцю, той непаўторнасцю палескай прыроды, якая перадалася мне, дзякуючы прачулым і напеўным радкам юнай паэткі, яе назіральнасці і несумненнаму паэтычнаму майстэрству. Упэўнены, такімі ж пачуццямі пасля знаёмства з творамі Жэні Янішчыц прасякнуўся і мой сябра, надзвычай здатны малады паэт Анатоль Сербантовіч: тыя лісткі з яе вершамі я перадаў яму ў часопіс «Бярозка», дзе ён тады працаваў. Падумалася: радыё — добра, але ж... Прагучала, праляцела ў эфіры, хто пачуў, а хто — не. І, калі б і захацеў, не ўчытаешся ў радкі, не «пасмакуеш» тое, што табе асабліва спадабалася, легла на душу. Іншая справа — твор надрукаваны. Калі спадабаецца, можна і раз перачытаць, і два, і тры... Колькі душа твая пажадае...

Дакладна не ведаю, але, мяркуючы па ўсім, Анатоль, каб усё ж неяк перастрахавацца, не трапіць у прасак, рыхтуючы да друку таленавітыя вершы невядомай дагэтуль аўтаркі (са сваёй пазнейшай практыкі ведаю, што вучняў не-не ды падбіваў часам нячысцік на плагіят!), напэўна, потым пісьмова звязаўся з Жэняй, сёе-тое ўдакладніў. А, магчыма, нават з'ездзіў у камандзіроўку, сустракаўся з ёю. Чаму так мяркую? Як прыгадвае ў сваім эсэ «Дарогі трэба сэрцам асвятляць...» тагачасны адказны сакратар часопіса «Бярозка», пісьменнік Хведар Жычка, «Анатоль аднойчы вярнуўся ў рэдакцыю дужа ўсхваляваны». Працягнуўшы яму некалькі лісткоў са школьнага сшытка, не хаваў свайго захаплення: «Во, знайшоў паэтэсу — талент! Усіх зацьміць!»

Верш «Зоры над Пінай» быў змешчаны ў снежаньскім нумары «Бярозкі» за той жа 1964 год. Ён стаў ці не першай часопіснай публікацыяй Жэні Янішчыц, пачаткам яе шчымліва-клопатнай, неспакойна-пакутлівай, але ў той жа час і шчаслівай дарогі ў свет паэзіі і плённай творчасці, да сэрцаў соцень і тысяч людзей.

Памятаю, не менш крануў мяне верш «У парку танцы...» У ім паэтка-школьніца

з майстэрствам сталага аўтара змагла знайсці такі паварот у сюжэце свайго твора, які заглыбіў тэму, прыдаў гэтым бязвоблачным «танцам» пэўную сэнсавую завостранасць і грамадзянскасць гучання: у парку танцы, моладзь весяліцца (усё ж самая прасветлая пара ў жыцці кожнага чалавека!), а непадалёк ад танцпляцоўкі спыніўся, абапёршыся на мыліцы, ветэран-інвалід, прыхінуўшыся да дрэва, моўчкі назірае, як бавяць вечар маладыя хлопцы і дзяўчаты, слухае іх бестурботны смех і... Шмат з перажытага паспявае прамільгнуць у яго перад вачыма за гэтыя імгненні...

Не ведаю, ці чула сама Жэня той выпуск радыёпраграмы «Рамантыкі», дзе я блаславўляў яе на новыя пошукі ў паэзіі, на будучыя поспехі. Яна сама мне пра гэта не казала, а я неяк саромеўся ёй нагадаць пры пазнейшых сустрэчах пра сваё дачыненне да яе першых эфірна прызнаных крокаў, каб не падумала, што я такім чынам хачу прычыніцца да той зорнай папулярнасці, можна сказаць, нават славы, якая не абмінула, не прымусіла доўга чакаць Жэню Янішчыц — «Палесся мілае дзіця» (гэты выраз са знакамітага «Сказа пра Лысую гару» ёй вельмі падабаўся, яна сама з нейкім асаблівым усмешліва-пагодлівым замілаваннем вымаўляла яго пры нагодзе). Скажу толькі, што некаторыя творы, якія з'явіліся неўзабаве ў «Бярозцы» і «Чырвонай змене», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», а таксама ў зборніку «Дзень паэзіі» за 1966 год, былі менавіта з той паэтычнай нізкі, якую я прэзентаваў на радыё. Што ж да верша «Край мой сіні...», дык ён мне сустрэўся потым у «Беларускім календары», які быў выдазены ў 1970 годзе ў польскім Беластоку.

Як вядома, пасля заканчэння вучобы ў БДУ Жэню Янішчыц узялі на працу ў штат ЦК камсамола Беларусі, дзе яна нядоўга, з паўгода, загадвала бібліятэкай. Наша рэдакцыя часопіса «Бярозка», як і рэдакцыі ўсіх астатніх выданняў, што апекаваліся гэтай установай, знаходзілася ў будынку ЦК, па вуліцы Карла Маркса, 40. Я амаль кожны дзень мог бачыць, як яна, вясёлая, з чароўна-сонечнай усмешкай, лёгка збягае па прыступках лесвіцы ў вестыбюль, вітаючыся з сустрэчнымі, каб потым ластаўкай выпырхнуць за дзверы і пацокаць абцасікамі ў напрамку скверыка Янкі Купалы або ўніз, да набярэжнай Свіслачы.

З бегам часу нашаму шэфу — ЦК камсамола — стала цесна ў будынку па Карла Маркса, 40, і рэдакцыі адтуль пачалі паступова выжываць. Першай змушана была памяняць месца свайго знаходжання рэдакцыя часопіса «Вясёлка». За ёю праз нейкі час статус перасяленцаў атрымалі часопісы «Бярозка» і «Маладосць». Нам выдзелілі службовыя пакоі ў старым памяшканні Дома друку. Размясціліся там па суседстве, на адным і тым жа паверсе. Да таго ж, пакой, дзе давялося абжывацца мне, апынуўся насупраць дзвярэй, за якімі знайшоў прытулак аддзел паэзіі часопіса «Маладосць». Сюды, мабыць, пасля перамоў з яго галоўным рэдактарам Анатолем Грачанікавым і прыйшла на працу ў 1983 годзе Жэня Янішчыц, нібы ўквеціўшы сабою амаль што мужчынскі калектыў рэдакцыі. Яна тут заняла пасаду, якую цягам доўгіх гадоў займаў памяркоўны «хросны» паэтычнай моладзі Мікола Аўрамчык, а перад яе прыходам — Пятрусь Макаль.

Тут, будучы суседзямі, даводзілася часцей чым некалі сустракацца з Жэняю, размаўляць з ёю, нават аддаваць на яе суд сваю дарослую лірыку, без аніякай скідкі на добрасуседства чакаць у чарзе паломнікаў надрукавацца свайго выхаду ў свет, бо недахопу ў вершах (іх сюды прыносілі і дасылалі вязкамі) рэдакцыя ніколі не адчувала. «Ты ж свой, пачакай яшчэ трохі», — казала, нібы апраўдвалася Жэня, калі я заходзіў да іх у пакой, хоць рабіў гэта не ад таго, каб лішні раз нагадаць ці спытаць: «Калі?» Там жа яшчэ сядзелі хлопцы: Леанід Дайнека, Васіль Гігевіч і Уладзімір Дамашэвіч, з якімі хацелася часам перакінуцца нейкім словам. Вядома ж, умешвалася ў размову і Жэня, бо гаворка часцей за ўсё зводзілася да нейкіх рэдакцыйных і літаратурна-пісьменніцкіх спраў. Адразу кідалася ў вочы: пражытае і перажытае ўсё ж паспела пакінуць свой след на яе твары, у вачах. Не такой бестурботнай выглядала яе ўсмешка, болей задуменнасці праглядвалася ў позірку. Я колькі разоў падступаўся да Жэні, каб яна падрыхтавала нізачку вершаў для «Бярозкі», бо, як мне здавалася, такія ў яе могуць знайсціся. І не адзін: для сапраўднай паэзіі, як у яе, няма чытацкага абмежавання і ўзро-

ту. Яна аднолькава зразумелая ўсім. Аднак паэтэса толькі адмахвалася: «Няма нічога ў мяне для дзяцей. Можа, як стану бабуляй, тады ўжо напішу. Праўда, тады іх, мабыць, у “Вясёлку” давядзецца аддаваць. Для маленькіх жа...»

Аднак жа мая настойлівасць перамагла: Жэня Янішчыц надрукавалася ў «Бярозцы». Нагода знайшлася, ды зусім неспадзявана. Паспрыяла гэтаму мінская школьніца Аксана Данільчык. Дакладней, яе вершы. На той момант Аксана даслала ў рэдакцыю вялікую нізку змястоўных, не па гадах сталых, вершаў. Яны нечым нагадвалі тыя, вучнёўскія вершы самой Жэні. Не перапявалі, а нагадвалі: тэматычна блізкія, такія ж вобразныя, пранікнёныя, зямныя. Здзіўляла, як гарадская дзяўчынка змагла гэтак маляўніча і кранальна перадаць хараство вясковых краявідаў, сваё захапленне і ўлюбёнасць у гэту чароўную красу, убачаную ёю ў прыродзе, на сцежках свайго маленства. Прачытаўшы вершы, Жэня доўга не ўпіралася: «Канешне, напішу прадмоўку да іх. Такія вершы трэба абавязкова друкаваць. Трэба абавязкова заахвочваць такіх здольных паэтаў».

Не помню ўжо, у якім нумары, але вершы Аксаны Данільчык з прадмоўкай Жэні Янішчыц занялі ў часопісе цэлы разварот — дзве старонкі. Рэдакцыя не паскупілася на плошчу. Трэба сказаць, што даючы дарогу юнай паэтцы, ніхто з нас не памыліўся: ні я, ні Жэня. Падахвочаная пахвалой выдатнай паэтэсы, і несумненна таленавітая, Аксана Данільчык не спынілася ў пачатку дарогі, з часам выдала некалькі паэтычных зборнікаў, якія былі прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай, яе прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Што яшчэ?

Запомнілася, быццам сёння бачу, як у дзень свайго саракагоддзя, шчасліва ўсміхаючыся, Жэня, нібыта адчуваючы крылы за сабою, імкліва вярталася аднекуль па калідоры да свайго рэдакцыйнага пакоя з вялізным букетам кветак у руках; якая журботная цішыня запанавала на нашым паверсе ў Доме друку ўсяго праз пяць дзён, калі стала вядома пра яе загадкава-раптоўнае і трагічнае развітанне з жыццём. 25 лістапада 1988 года. У той дзень плакалі не толькі жанчыны...

Ёсць у Жэні Янішчыц верш, якому пашанцавала адразу ж набыць крылы, стаць у пэўнай ступені хрэстаматыйным, нават — песняй. І ён зноў жа — з тых, першых, яшчэ вучнёўскіх яе твораў, што чытаў я. Пасля з’яўлення ў друку ён быў заўважаны кімсьці з кампазітараў, і той паклаў яго на музыку. Магчыма, я памылюся, але мне падаецца, што гэта мог быць наш выдатны кампазітар-песеннік Юрый Семяняка. Чаму я так мяркую? Бо ў яго ўжо была спроба паяднаць сваю музыку з паэзіяй пінскай школьніцы Жэні Янішчыц: яшчэ раней яму прыглянуўся яе верш пра мужную падпольшчыцу, Героя Савецкага Саюза Веру Харужую, і ён напісаў песню, прысвечаную памяці слаўнай гераіні нашага народа. Памятаю, яна таксама даволі часта гучала па радыё, як і гэта, якая пачыналася радкамі: «О, Беларусь, азёрная старонка, пастаў мяне бярозкай у палях...»

Нікольк не сумняваюся ў тым, што кампазітара адразу захапілі і надзвычай уразілі шчырыя, пранікнёныя радкі маладой паэткі, прысвечаныя роднай Беларусі, і ён не мог не паддацца яе настрою, летуценнасці, радасці — жыць і спяваць на гэтай зямлі:

О, Беларусь, мая зара над вёскай,
Мае сустрэчы, радасці, агні...
Хачу заўжды зялёнаю бярозкай
Шумець сярод тваіх азёр і ніў.

Даводзіцца толькі шкадаваць, што надта ж рана абарвалася яе такая шчымліва-пранікнёная, чароўна-трапяткая, поўная зямной красы і пяшчоты, песня, што Яўгенія Янішчыц, наша мілая Жэня, пайшла ад нас на самым узлёце свайго непаўторнага таленту, не паспеўшы здзейсніць усё, што было даравана ёй самой прыродай, ласкай Усявышняга, што хацелася яшчэ сказаць людзям і зямлі, якую бязмежна любіла. Адно суцяшае і ў нечым нават радуе: пайшла, але засталася з намі, у нашай літаратуры, у маёй асабістай памяці той сапраўды «зялёнаю бярозкай», вобраз якой будзе заўсёды атаясамлівацца ў нашых думках і пачуццях, у нашым не заўсёды пагодлівым жыцці з вобразам роднай зямлі, мілай сэрцу Беларусі, якая шчодра надзяліла яе гэтым яскравым талентам і душэўна-спеўным хараством.

«Пачынаецца ўсё з любві...» Як хочацца ў гэта верыць!

*Вольга ЦІТОК*



# ПРА НАБАЛЕЛАЕ

***Штотыдзень мне шанцуе бавіць час у кінатэатры. Своеасаблівая абстаноўка, шырокі выбар кінафільмаў, каляровыя экранізацыі, аб'ёмны гук і іншыя бонусы абяцае наведванне кіназалы. Усё зарыентавана на гледача: рэклама, якая зачароўвае, разнастайнасць напояў і страў, камфортныя крэслы, зручны час сеансаў. Сталіца насычана багаццем выбару месцаў «куды схадзіць» і «што паглядзець». Аднак колькасць не заўсёды значыць якасць.***

Прагляд фільма як спосаб бавіць час выбіраюць многія, бо гэта не патрабуе затрат, дорыць задавальненне і прыводзіць да думкі, што час праведзены з толкам.

Шматлікасць галівудскіх фільмаў на экранах уражвае. У іх раскрутку ўкладзены немалыя сродкі. На жаль, у апошні час рэжысёры больш значэння надаюць не інтэлектуальнасці сюжэту, а вобразнасці і яркасці. Часцей ідзеш менавіта глядзець фільм, а не суперажываць героям ці думаць пра развіццё падзей. Пры сузіранні вялікай колькасці людзей у кінатэатрах з'яўляецца думка, што гэта забава — папулярная і запатрабаваная.

У асноўным гледачы — асобы старэйшага школьнага ўзросту і студэнты. На паказах мультфільмаў ці гістарычных карцін да іх далучаюцца дзеці ці людзі старэйшага ўзросту. І ўсё ж галоўная аўдыторыя, якая валодае часам і патрабуе відовішчаў, абмяжоўваецца ўзростам 17—25. Той самы перыяд, калі псіхіка яшчэ няўстойлівая.

Варта звярнуць увагу на жанры, якія карыстаюцца папулярнасцю і дэманструюцца даволі часта: баевікі, трылеры, крымінал, жахі, дэтэктывы, драмы. Мінорнае гучанне. Зрэдку ў пракаце камедыі, сямейныя фільмы і фэнтэзі. Выходзіць, што выбар не такі вялікі: або-або. Чалавек свядома ідзе ў кіно смакаваць карціны, напоўненыя трэшам, гвалтам, жорсткасцю. Правакацыя страху, панікі — галоўная мэта рэжысёра, дасягнуўшы якой можна лічыць фільм паспяховым? А хто задумаецца, пад якім уражаннем застанецца чалавек пасля прагляду, якія думкі з'явяцца ў яго галаве, якімі пачуццямі будзе ахутана яго душа? Бяссілле, пустэча і страх. Сэрца шалёна калоціцца, а ты ўжо крочыш дадому. Або і не калоціцца: бо прывыкла. Перад вачыма ўсплываюць абрысы прывідаў, трывожныя гукі даносяцца адусюль і выклікаюць падазрэнні. Ці трэба гэта? Няўжо фільмы павінны былі страціць уласцівасць павучаць, падштурхоўваць да дзеянняў, падказваць выйсце? Ці не з экрана трапляе жорсткасць на вуліцы, у хаты, сем'і? Застаецца спадзявацца, што людзі, якія свядома выбіраюць для прагляду крымінальныя жанры, дастаткова развітыя і стрыманыя, каб адасабляць кіно ад рэчаіснасці.

А з іншага боку, ці трэба гэта таму, хто сапраўды развіты?

Хочацца бачыць на экранах больш гуманных фільмаў, пасля якіх у душы застаецца прыемны напамін. Старыя савецкія «карціны» — як аддушына. Аднак, ці можна спадзявацца, што сучасная кінаіндустрыя пачне часцей звяртацца да духоўнага?



Алесь ГАРАДНІЧЫ

# МЕТЭАРЫТ

У той дзень на зямлю ўпаў метэарыт, які знішчыў усё жывое.

Я толькі паспеў, прыйшоўшы дадому пасля працоўнага дня, памыць рукі і твар духмяным мылам, пакуль жонка рыхтавала вячэру на нашай маленькай кухні. Яна, помніцца, распавядала мне нешта смешнае, калі велізарная каменная глыба сутыкнулася з планетай дзесьці ў раёне паўднёвага полюса, спыніўшы час.

Мяне паглынула цемра.

І ў пранізліва кароткае імгненне ўсведамлення непазбежнасці канца прыйшла думка:

«Божа! Як шкада!»

Жыццё пранеслася перада мной, нібы звар'яцелае кіно ў рэжыме паскоранай перамоткі.

Зрабілася сумна.

Сумна ад таго, што тут і цяпер усё скончыцца...

Сумна ад таго, што яшчэ і не пажыў, а даводзіцца сыходзіць. А куды сыходзіць — невядома...

Сумна ад таго, што не паспею пацалаваць бацькоў і сказаць, як моцна люблю іх...

Сумна ад таго, што, ажаніўшыся на каханай жанчыне, якая стала мне роднай, больш не зазірну я ў яе вочы, не пачую яе голасу, не адчую яе пяшчотных абдымкаў і пацалункаў. І не пагуляем мы больш з ёю па восеньскім парку, падкідваючы ўверх залатое лісце. І не паедзем, як планавалі, за белымі начамі ў горад на Няве. І не паляцім на дзён дзесяць у Егіпет да пірамід, мумій і вярблюдаў. І не скончым абрыдлы рамонт у нашай кватэрцы. І не народзім дачушку Варварку або сыночка Валерку...

Сумна стала і таму, што за мінулыя дзесяцігоддзі так і не здолеў падабраць ключ да акамянелага сэрца роднага брата...

Сумна стала і балюча. Балюча, што ўскладняе чалавек сваё жыццё. І не жыве зусім, а бяжыць на злом галавы да прывіднага дабрабыту, не азіраючыся па баках, пераступаючы праз усіх і ўсё. І дзеля чаго? Дзеля каляровай паперы, якая заняволіла душы? Дзеля сытага пуза і цёплага дому, дзверы якога мала хто сёння адкрые жабраку?

Сорамна за тое, што не ўмеем мы цаніць кожнае імгненне нашага жыцця, якое само па сабе ёсць найвялікшы са скарбаў Сусвету!

Сорамна! Балюча! Сумна! І пот халодны з ілба сцякае...

Пот? Адкуль пот? У смерці ж няма месца ні болю, ні, тым больш, — поту!

Адкрываю вочы.

Ціха. Цёмна. Побач салодка спіць мая любая жонка, якая стала роднай, адзінай. На кухні наш пухнаты кот смачна храбусціць сухім кормам. І толькі халодны пот з ілба сцякае ад жахлівага сну.

Але я прачнуўся!

Злез з канапы. Ледзь крануўся вуснамі шчочкі каханай жанчыны і пайшоў на балкон, каб зірнуць у зорнае начное неба, за фіранкай якога ў маўклівай бездані космасу ходзяць мірыяды каменных груд, кожная з якіх здольна аднойчы парваць тонкую нітку, імя якой — жыццё.

А заўтра мы з жонкай абавязкова з'ездзім да нашых бацькоў, каб моцна абняць іх, пацалаваць. І братам сваім мы заўтра патэлефануем! Патэлефануем, пра дробязі спытаем, толькі дзеля таго, каб голас пачуць!

Але гэта заўтра. А зараз — я прачнуўся! Я стаў іншым! Я стаў сапраўдным!



# Бярозка

№ 11/2014(1037)



*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ*







**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# А вецер смяецца...



## Восеньская раніца

З ночы па зямлі поўз сівы халодны туман, які не знік нават тады, калі бляклае сонца паднялося дастаткова высока.

Жаўтлявая, пажухлая трава выглядае калючым дыванам, які ў некаторых месцах прысыпаны каляровым лісцем, нібы хто растрос яго, дзе ўздумалася.

Чорныя дрэвы крыху баязліва хутаюцца ў вопраткі з чырвонай і жоўтай лістоты. Вецер налятае нечакана і, шумна смеючыся, зрывае з дрэў па лісточку. А тыя баяцца, што да зімовых халадоў на іх нічога не застанецца, і таму трымаюць сваё ўбранне галінкамі, нахіляюцца, як могуць, услед за ветрам, каб вярнуць назад тое, што ён адабраў...

А вецер смяецца...

Неба з сумам і неяк абыякава пазірае на зямлю. Напэўна, яно стамілася за лета і цяпер хаваецца ад усіх за мяккімі шэрымі хмарамі, бароніцца невядома ад каго вострымі стрэламі дажджу...

Невялікія чорныя сілуэты птушак, што зрэдку пралятаюць на фоне аблокаў, выглядаюць панура і варожа...

Восень любіць тых, хто не пужаецца яе маркотнасці, хто можа зразумець яе, адчуць сапраўдны настрой. Яна не змяняецца для гэтых людзей, бо яны называюць восень самай цудоўнай парой...

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён*

## Гісторыя майго стала

У мяне ў пакоі стаіць стары пісьмовы стол. Многія, зірнуўшы на яго, скажуць, што такіх сталоў шмат, і гэты нічым не адрозніваецца ад астатніх. Але яны памыляюцца. Кожная старая рэч асаблівая. У яе ёсць свая гісторыя, але, на жаль, часта гісторыю ведае толькі гаспадар. З-за гэтага іншым людзям рэч



можа здавацца звычайнай. Таму я распавяду пра свой Стол.

Калі я быў маленькім, любіў псаваць усё вакол. Пра гэта нагадвае няроўная расколіна на рагу Стала. Бакі трох шуфлядаў памятаюць, як я ладзіў пад Сталом то гняздо велізарнай птушкі, то базу сакрэтных агентаў. Паміж шуфлядамі і стальніцай ёсць закутак, у якім «жылі» то драпежныя, у рост чалавека, мурашы, то дыназаўры, а часам і піраты.

Стальніца пакрыта лакам, падзёртым за доўгія гады месцамі. Калі ўявіць, што лак — гэта мора, то перш за ўсё ўбачыш шырокі каламутны востраў. Ён з’явіўся ў выніку ўзаемадзеяння разлітага клею і папяровых аркушаў, якімі спрабавалі яго выцерці. А горны пік утварыўся пасля рамонту кола ад цацачнай машынкі. Клей сцёк і застыў у выглядзе мудрагелістай фігуры са слядамі ад пратэктара шыны. Калі доўга плыць на захад, то спачатку пройдзеш архіпелаг у выглядзе злоснага кіта, а потым упрэшся ў два маленькія астраўкі, крыху падобныя на паветраныя шарыкі...

А вы кажаце — звычайны стол.

***Мікіта ЦЕЎ,***
***9 клас, СШ № 165, Мінск***



* * *

Золата з дрэў ападае,
Ціха ляціць да зямлі.
Восень уборы здымае,
Ёй ужо час адысці.
Восень не будзе змагацца
Са сваёю сястрой.
Ёй бы кудысьці падацца,
Ёй бы пабыць адной.
Хай на зямлю ападае
Жоўтае лісце, хай...

Птушкі лясы пакідаюць,
З сумам яны адлятаюць
Ў цёплы далёкі край...

***Ірына КУЛІНІЧ,***
***СШ № 3, Пружаны***

## Спыніся, азірніся...

Калі ты і ў адчаі, і ў журбе,
І словы перасталі штосьці значыць —
Спыніся, азірніся на сябе,
Прабач усіх, і ўсе цябе прабачаць!

Жыццё цудоўна, як не разумець,
Што жыць з сябрамі і працей і лепей!
І мужнасць сапраўды патрэбна мець,
Каб і ў бядзе застацца чалавекам.

Мінулае губляюць назаўжды...
Мінулага ты сёння ўжо не вернеш.
Навошта крыўды ў сэрцы берагчы?
Прабач усім і ў шчасце зноў паверыш!

Навошта скардзіцца на тое,
што прайшло?
Прабач усім, жыццё не перайначыць...
Каб шчасце зноў цябе ў жыцці
знайшло,
Прабач усіх...
І ўсе цябе прабачаць!

***Алена ШМІДАВА,***
***10 клас, гімназія № 12, Мінск***





## Загадкі

Цацка ёсць у нашай хаце,
Тата ўмее з ёй гуляці.
Кнопкі ткне, мяхі цягае,
І для нас частушкі грае.
(*Гармонік*)

Белая вата ў неба ўзнята.
(*Воблака*)

У небе ззяе, усіх саграває.
(*Сонейка*)

Утульна ноччу з ёй заўжды,
яна бароніць нашы сны.
(*Падушка*)

Што за скрыня на стале?
І гаворыць, і пяе...
Аб усім раскажа,
Фільмы нам пакажа.
(*Тэлевізар*)

Па лузе гуляе,
траўку скубе,
а як дадому прыйдзе,
малачко нам дае.
(*Карова*)

Ён ніколі не праспіць,
нібы пеўнік ён звініць.
(*Будзільнік*)

***Елізавета САЕВІЧ,***
***6 клас, гімназія № 29, Мінск***

● **Жыццёвае**

# Тры мае прыёмныя каты...

## Тосік



Летась мы з матуляй былі ў вёсцы Шакуны. Калі вярталіся з лесу, дзе збіралі грыбы, на вясковай вуліцы да нас падбегла шчаня. Відавочна, што яно было кінута людзьмі, але не страціла даверу і так лашчылася да нас, што мы вырашылі ўзяць яго да сябе.

Назвалі яго Тосікам. Ён увесь час жыў на дачы, дзе яго кармілі і мы, і мясцовыя жыхары. Аднойчы Тосік трапіў пад колы машыны. Яму было вельмі балюча: ён схаваўся ў трубу для сцёкаў і адмаўляўся выходзіць. Даводзілася карміць яго там, а калі яму стала лепш, то на тачцы мы перавезлі яго дадому. Да восені ўсе яго траўмы загаіліся, і ён зноў стаў вясёлым. Аднак з надыходам халадоў дачу трэба было пакідаць, а узяць у горад Тосіка, які значна падрос за гэты час, мы не маглі. І вельмі прыемна, што знайшоўся добры чалавек з вёскі Кацёлкі, які ўзяў Тосіка да сябе. Ён вырас у вялікага і прыгожага сабаку.



## Бусляня

Гэтым летам мы зноў пабывалі на дачы ў вёсцы Шакуны. І там даведаліся пра цікавую гісторыю, галоўным героем якой стала малое бусляня. Мы ўбачылі яго ў двары бабуль Ніны і Тані.

Як аказалася, птушаня паходзіла з бліжэйшага буслінага гнязда, магчыма, дарослыя птушкі выкінулі слабога гадаванца. Бусляня, упаўшы з вышыні, не пабілася, сядзела пад слупом, на якім месцілася буслянка. І бабу-

лі вырашылі забраць небараку да сябе. Калі ён акрыяў і стаў на ногі, то ў якасці гнязда абраў сабе вялікую жалезную балею, куды бабулі паслалі яму саломы.

Мінуў час, для бусляняці настаў момант, калі трэба спрабаваць свае крылы. Людзі дапамагалі яму, хто як ведаў: бабулі падкідалі ўверх на пашы, іншыя імкнуліся напалохаць, каб ён узляцеў. Правільна гэта было ці не, але бусляня аднойчы ўзнялося ў неба. Мясцовым жыхарам яно таксама спадабалася, і яны сталі аказваць гаспадыням дапамогу. Хто з рэчкі рыбы прынясе, хто ў Пружанах колькі купіць. Птушка таксама ўпадабала такі лад жыцця: зранку адлятае ў лес, а ў вечары зноў вяртаецца ў «родную» балею. Буслы з ім не сябравалі, але калі надышоў час адлятаць, яны прыляцелі па яго і пазвалі. Наш бусел рушыў разам з імі. Шчаслівага табе шляху. Вяртайся хутчэй на радзіму!

## Тры мае прыёмныя каты



У мяне ёсць тры гадаванцы: два каты і кошачка. Усіх мы прытулілі.

Першым прыйшоў Барсік, было гэта чатыры гады таму. Ён сапраўды падобны да барса, таму і атрымаў такое імя. Кот вельмі ласкавы і цярплівы. Паўгода ён з намі «не размаўляў», а толькі лашчыўся, мы нават думалі, што ён нямы. А цяпер спявае песні. Сёлета з Барсікам здарылася бяда: ён недзе моцна параніў лапку. Мы звярталіся да ветэранаў, адзін нават прапанаваў адрэзаць лапку! Але Мікалай Адамавіч параіў уколы і мазь. Барсік ад такога лячэння хаваўся, але праз два месяцы рана загаілася. Цяпер ён крышачку кульгае, але ходзіць на ўсіх лапах.

Пушок прыйшоў да нас тры гады таму. Ён адразу пасябраваў з Барсікам. Старэйшы кот ахоўваў і нават мыў малога!

А гэтай зімой, калі мы з матуляй вярталіся з басейна вельмі халодным вечарам, пачулі, як недзе плача кацяня. Калі я ўзяла замерзлае малое на рукі, яно адразу прабралася мне пад паліто. Маці пагадзілася прынесці яго дадому. З таго часу Манюня таксама жыве з намі. Яна вельмі хуткая, ласкавая і надта прыгожая.

Як добра, што ў мяне такая клапатлівая маці! Больш бы такіх спагадлівых людзей: і жывёлам жылося б лепш, і людзям!

***Анастасія ПУЦЫК,***
***6 клас, СШ № 3, Пружаны***

Марская свінка не мае ніякага дачынення ні да свіней, ні да мора. Гэта грызун, якога ў XVI стагоддзі прывезлі ў Еўропу з Паўднёвай Амерыкі. Адсюль назва «заморская», якая потым чамусьці змянілася на «марскую». А свінкамі гэтых звяркоў назвалі з-за гукаў, якія крыху нагадваюць рохканне сапраўдных свінак.



● Я сардэчка Беларусь



# Алея з арэхамі як успамін аб мінулым

## Былая сядзіба Радзівілаў

Тэрыторыя сучаснага Салігорскага раёна — былыя ўладанні Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў і Слуцкага княства. І ў нашым раёне засталося нешта, што можа нагадаць нам пра яго мінулых уладароў.

Уздоўж берагоў рэк Случ і Вялікая Сліва раскінуўся старажытны маёнтак. На ўсходнім беразе Вялікай Слівы, калі звярнуць з шашы, пачынаецца алея. Яна вельмі старая, магчыма, пасаджана ў часы княжання Дамініка Геранімa Радзівіла. З усходняга боку ад алеі цягнуцца густыя зарасці барабарысу і каліны. Іх зялёныя лісточкі, шчодра асвечаныя ранішнімі сонечнымі промнямі, і паспелыя ягады, чырвоныя, як вечаровы небакрай, надоўга застаюцца з намі цёплым успамінам аб леце. Па другі бок ад алеі, на беразе Вялікай Слівы, растуць кусты шыпшыны. Відаць, любіў нясвіжскі ардынат паласавацца рознымі ягадамі.

Алея цягнецца зялёным калідорам уздоўж ракі, пакуль тая не ўпадзе ў вадасховішча. Пясчаная дарога, быццам жоўтая стужка, нагадвае, што раней па ёй ездзілі брычкі, запрэжаныя коньмі, з мясцовымі панамі і паненкамі.

Другая частка сядзібы — на беразе Случы, больш насычана пабудовамі. Сцяжынка зварочвае ў пасёлак, прабягае калгасны двор і — мы ў парку. Каля яго стаіць доўгі белы будынак з чырвонай шыльдай «1901» — спіртзавод. Пабудаваны ён быў пры апошнім уладары маёнтка — пане Гершансоне. А сцяжынка бяжыць далей, да берага Случы, дзе нават увосень цвітуць астры і лілеі. Побач з імі высокія акацыі і двухсотгадовыя старыя дубы, а сцежка не спыняецца і даводзіць нас да поля. З аднаго боку — бераг Случы, парослы чаротам, з другога — сасновы ці то парк, ці то бор з зарасцямі хмызнякоў. Дзесьці там, у гэтым цёмным парку, у які рэдка прасочваюцца сонечныя промні, кажуць, і быў дом пана. А цяпер ад яго застаўся толькі разбураны шэры флігель, надзейна схаваны ў высокай траве і галінах дрэў.

Але куды ўсё ж прывядзе нас сцежка? Вось яна раздвойваецца: адна яе частка пабегла налева, агінаючы сажалку, якую выкапалі яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя, пры Вітгенштэйнах; другая — направа, агінаючы парк. І тут мы бачым млын — самы стары каменны млын у Салігорскім раёне. Пабудаваў яго той самы Гершансон у 1901 годзе. Чырвоны будынак без даху меў калісьці чатыры паверхі... Гэта вадзяны млын. Уздоўж сцежкі, што вядзе да яго, растуць нізенькія вербы, а сам млын (па легендах — гэта месца жыцця прывідаў і розных духаў) патанае ў садзе з грушаў і яблыняў, які ніхто не даглядае. Каля сцен — кусты маліны.

Мінаючы запусцелы ўнутраны двор, апынаешся ў гаспадарчай пабудове. Бачны вокны без шкла і праходы. Млын, зарослы травой і дрэвамі, складаецца з двух пакояў. У адным на падлозе шэрыя металічныя прыстасаванні — млынавыя кругі. Кажуць, муку тут рабілі вышэйшага гатунку, так званую «пытлёўку», а знакамітая яна была і ў Слуцку, і ў Старых Дарогах, і ў Любані. Калі выйсці праз другі выхад у суседнім пакоі, апынешся на беразе яшчэ адной сажалкі, сядзібнай. Адсюль відаць цёмна-зялёны парк, так званы «востраў» паміж Случчу і Вялікай Слівай, панская алея.

Прамільгвае думка: «Я яшчэ сюды вярнуся». І другая: «Вось яна якая, былая сядзіба Радзівілаў у маім Салігорскім раёне!»

## Зажэвічы

У XIX стагоддзі ў Пагосцкай воласці Слуцкага павета Мінскай губерніі было шмат вёсак. На ўсходнім беразе Случы, насупраць Мецявічаў, якія тады былі малым паселішчам, таксама стаяла вёсачка. Двароў ў ёй было каля 70, а звалася Зажэвічы.

Упершыню згадваецца яна ў XVI стагоддзі, як сяло Зажэва — шляхецкая ўласнасць, якая, відаць, належала тады Алелькавічам. З 1612 па 1815 Зажэва належала Радзівілам, а пасля — Вітгенштэйнам. У 1858 стала часткай маёнтка Трасцянец, а ў 1861 годзе тут адкрылі школу граматы. З 1870 года Зажэвічы — цэнтр Зажэвіцкай грамады ў Пагосцкай воласці Слуцкага павета. Дзесьці з тых часоў існуе наступнае паданне.

Вакол вёскі быў лес, а каля лесу жыў пан. Але гэта не той пан, які бывае ў казках: сквапны, дурны і жорсткі. Пан, які жыў каля лесу, быў разумным, добрым і справядлівым.

Пан часта выязджаў на паляванне. Цікава, што лес ён называў чамусьці Культурай. Сцежка ў ягоную сядзібу была густа абсаджана арэшнікам, і вясковая дзятва пад восень заўсёды бегала туды збіраць арэхі. Пан ведаў пра гэта, але не сердаваў. Магчыма таму, што арэхаў было шмат: хапала і пану, і ўсёй вёсцы. Мая прабабуля Ганна Панкевіч таксама бегала па той сцежцы па арэхі і нават бачыла пана. Самае цікавае, што ў пана з паннай былі ў той час шчанючкі, і, як заўважыла мая прабабуля, яны былі абутыя ў чырвоныя чаравікі!

Гэты пан уладарыў тут амаль паўстагоддзя, да Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1918 годзе, у час БНР, гавораць, тут пасяліўся другі пан, але не такі справядлівы. Затым, у часы польскай акупацыі, палякі хацелі паставіць тут свайго пана, але не паспелі.

Потым вёска ўвайшла у склад БССР, а назва так і засталася — Зажэвічы. Паходзіць яна, хутчэй за ўсё, ад слова «зажылі».

У наш час Зажэвічы — вялікае сяло. А лес людзі да гэтай пары называюць Культурай. І алея з арэхамі засталася, як успамін аб мінулым.

*Максім СЯМЁНАЎ,*
*10 клас, СШ № 4, Салігорск*

● **Люстэрка**

# Прышчы, каханне, скаліёз

***Даўно, у 1990-я, калі цяперашніх чытачоў «Бярозкі» і на свеце не было, адзін народны лекар рэкламаваў бальзам супраць скаліёзу.***

***Ішлі гады. Лекара прызналі шарлатанам, і ён быў забыты. А скаліёз, на жаль, забыты не быў.***

***Мы стаім каля акна, глядзім на праспект і гутарым пра скаліёз. Віктар Лупасін і дзіцячы артапед Аксана Шыгала.***



— Я працую ў санаторнай школе-інтэрнаце № 9, выкладаю там лячэбную фізічную культуру для дзяцей, якія пакутуюць на скаліёз. Школа так і завецца: санаторная школа-інтэрнат для дзяцей з хваробамі косна-цяглічнай сістэмы і злучальных тканак.

*Даведка. Скаліёз — бакавое скрыўленне хрыбта, надзвычай пашыранае захворванне. У цяжкіх формах можа прывесці да інваліднасці, у лёгкіх — абмяжоўвае фізічныя здольнасці, можа справакаваць іншыя хваробы і траўмы.*

— Наша школа — агульнаадукацыйная. Да нас прыходзяць дзеці, накіраваныя спецыяльнай камісіяй, якая збіраецца два разы на год, аглядае дзяцей і накіроўвае, калі трэба, да нас. Дзеці тут вучацца з першага па дзявяты клас. У нас працуюць не толькі настаўнікі агульнаадукацыйных прадметаў, але ёсць выхавальніцкія кафедры і кафедра фізкультуры, дзе выкладаюць ЛФК і плаванне. Дзеці атрымліваюць комплекснае лячэнне: заняткі лячэбнай фізкультурай — чатыры разы на тыдзень, лячэбнае плаванне — два разы на тыдзень у басейне. Методыка гэтага плавання распрацавана вельмі даўно. Скіравана менавіта на тое, каб змагацца са скаліёзам. Некаторыя дзеці прыходзяць да нас не ўмеючы плаваць, баючыся вады, але менавіта ў нашай школе вучацца пераадольваць страх.

*Тут створаны спецыяльныя ўмовы: так званы артапедычны рэжым. Галоўнае — распарадак дня. Па-першае, ранішняя гігіенічная зарадка а сёмай раніцы. Сняданак, прагулка, потым урокі. Вучацца, лежачы на спецыяльна*

*распрацаваных кушэтках. Калі каму гэта вельмі нязручна, можна займацца, стоячы за канторкай. Урок доўжыцца 40 хвілін, пасярод урока звініць званок — занятак перарываецца фізкультхвілінкай.*

— Яна мусіць быць ва ўсіх школах, але ў нашай гэта ўзята на асаблівы кантроль. Пасля заняткаў агульнаадукацыйных ідуць заняткі ЛФК, плаванне і ціхая гадзіна. Калі ты не вучышся ў нашай школе, то можаш прыязджаць і займацца ЛФК некалькі разоў на тыдзень на платнай аснове. Я хацела б звярнуць увагу вось на якую праблему: часам дзеці прыходзяць да нас у 14—15 гадоў, а скаліёз у іх — упершыню выяўлены, і не проста выяўлены, а такая ўжо яго ступень назіраецца, што патрабуецца лячэнне карсетам: калі скрыўленне больш за 20 градусаў. Першым заўважае парушэнне звычайна хірург на медаглядзе. Дарагія бацькі! Паказвайце дзяцей хірургам! Таму што захворванне вельмі пашырылася. Мы сёлета два дзявятыя класы набралі! Вельмі шмат дзяцей менавіта старэйшага ўзросту з цяжкімі формамі скаліёзу.

*Тут вучацца дзеці, якія займаліся спортам. Ледзь не майстар спорту па мастацкай гімнастыцы і — «карсетная» стадыя скаліёзу. Або вучоба ў харэаграфічным каледжы, мара пра кар’еру балерыны на вялікай сцэне і — няўзброеным вокам відаць скаліёз.*

— Трэба звяртаць увагу на сіметрыю: плячэй, лапатак, так званых трыкутнікаў таліі. Можна заўважыць скаліёз на ранняй стадыі. Што да карсета, то яго трэба насіць, пакуль не скончыцца акасцяненне шкілета — да 20 гадоў. Яго здымаюць толькі для гігіенічных працэдур і на ЛФК, так што дзеці носяць карсет больш за 20 гадзін на суткі. Асабліва цяжка ўлетку, калі спякотна, і ў перыяд адаптацыі.

*— Мне ўсё не даюць спакою дзяўчынкі. Калі б яны прыйшлі ў вашу школу раней, то, можа, маглі б застацца гімнасткай і балерынай?*



— Скаліёз — гэта проціпаказанне для заняткаў спортам. Любым.

*— А шахматы?*

— Шахматысты павінны доўга сядзець за сталом, трымаць спіну. Калі я вучылася ва ўніверсітэце фізічнай культуры, нам казалі: спорт і здароўе — два несумяшчальныя паняцці. Фітнес, фізкультура — зусім іншае! Я абавязкова рэкамендую сваім вучням лыжы (не горныя), ровар (зноў жа,



не горны, дзе страсаецца хрыбет), плаванне (толькі не кроль і не батэрфляй, лепш брас).



*— Дарэчы, я ў падлеткавым веку моцна сутуліўся.*

— Сутуляцца ўсе дзеці ў падлеткавым узросце. Па-першае, яны пачынаюць расці: рукі доўгія, ногі доўгія, усё тонкае, мускулатуру яшчэ не нарасцілі. А па-другое, пачынаюцца комплексы. Як толькі падлетак адчувае сябе няўпэўнена, гэта адразу адбіваецца на паставе. Ідзе чалавек па вуліцы і адразу відаць, ці ўпэўнены ён у сабе: калі ўвесь ссутулены, нос павесіў, значыць, не ўсё яшчэ ў жыцці гэтага чалавека склалася. І прышчы, і каханне — усё можа стаць прычынаю развіцця скаліёзу, а таксама кіфозу.

*Даведка. Кіфоз — моцная сутуласць. А лардоз — наадварот.*

— Лардоз сустракаецца досыць рэдка. Ён сведчыць пра слабасць некаторых цягліц. Над лардозам і кіфозам мы таксама ў школе працуем. Нашы артапеды аглядаюць дзяцей некалькі разоў на год, пішуць заключэнні і рэкамендацыі, і на іх падставе мы выбіраем лячэбныя практыкаванні.

*Аксана Паўлаўна распавядае пра сваё хобі — танцы фламенка. Я пытаю, ці не ўваходзяць гітарысты ў групу рызыкі па скаліёзе.*

— Так, уваходзяць. Нашым дзецям не рэкамендуюцца такія асіметрычныя пасадкі. А некаторыя практыкаванні, напрыклад, скручванні хрыбта, глыбокія нахілы, нахілы ўбок — мы выключаем. Асноўная мэта нашай школы не ў тым, каб вылечыць скаліёз, а ў тым, каб навучыць дзяцей з гэтай хваробай правільна жыць: што яны могуць, чаго ім нельга, што яны мусяць выконваць штодня.

Самы просты спосаб адрозніць звера-вегетарыянца ад драпежніка — па размяшчэнні вачэй. У драпежнікаў вочы размешчаны на пярэдняй частцы галавы, каб бачыць ахвяру. У вегетарыянцаў — па абодва бакі галавы, каб своечасова заўважыць небяспеку.

*Напрыканцы гутаркі Аксана Паўлаўна распавядае, якія таленавітыя ў гэтай школе вучні. Я і не ведаю, ці радавацца, ці сумаваць з гэтай нагоды... Чытач, беражыся скаліёзу! Аксана Паўлаўна абяцала напісаць артыкул, як гэту хваробу прадухіляць і змагацца. Прачытай яго, як надрукуем, і рабі ўсё, што там будзе напісана, добра?*

***Віктар ЛУПАСІН***

● **Супер-прапанова!**

## Вучням і дырэктарам школ, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, кіраўнікам літаратурных студый, навуковых секцый, творчых гурткоў і аб'яднанняў

▶**1. ЗАПРАШАЕМ ВУЧНЯЎ** сярэдніх і старэйшых класаў, калі яны маюць літаратурныя здольнасці, друкаваць свае вершы і апавяданні ў рубрыцы «Верасок». Адрас для адпраўкі тэкстаў: bjarozka@mail.ru.

▶**2. ПРАПАНУЕМ СТАРШАКЛАСНІКАМ**, якія мараць паспрабаваць сябе ў журналістыцы, друкавацца ў рубрыках «Школа журналістыкі», «Я сардэчка Беларусь» і блоку юных калумністаў. Да друку прымаюцца матэрыялы ў форме інтэрв'ю, рэпартажаў, артыкулаў, нарысаў, эсэ і блогерскіх постаў на актуальныя тэмы, створаныя самастойна або з дапамогай настаўнікаў. Адрас для адпраўкі тэкстаў: vdsd@tut.by.

▶**3. ПРАПАНУЕМ ДЫРЭКТАРАМ ШКОЛ** прыняць удзел у інтэрактыўным праекце «Настаўніцкая на праслушцы» (карэспандэнт «Бярозкі» па папярэдняй дамоўленасці выязджае ў школу, каб запісаць размову настаўнікаў на актуальную тэму — выхаваўчую, адукацыйную, псіхалагічную і іншыя). Тэлефон для прапаноў: 8-017-284-85-25.

▶**4. ПРАПАНУЕМ НАСТАЎНІКАМ** (кіраўнікам гурткоў і студый) стаць аўтарамі (разова або пастаянна) наступных рубрык:

**«Практыкум»** (у цікавай, папулярнай, дасціпнай форме вучыць пісаць вершы, апавяданні, школьныя сачыненні; аналізуе і выпраўляе тыповыя стылістычныя і іншага кшталту памылкі; прапануе хатнія заданні).

**«Бел. літ.»** (тлумачыць твор школьнай праграмы нестандартным чынам, у захапляльнай форме).

**«Табе навука»** (пазапраграмныя веды па фізіцы, матэматыцы, хіміі, біялогіі, астраноміі ды іншых дысцыплінах, выкладзеныя навукова-папулярным стылем).

З фарматамі рубрык і ўзорамі матэрыялаў можна азнаёміцца ў пілотным нумары «Бярозкі», змешчаным пад вокладкай часопіса «Маладосць» (№ 8 бягучага года).

**Сутнасць новай «Бярозкі»** *ў тым, што яна павінна стаць выданнем, якое дзеці не толькі чытаюць, але і ствараюць. Кожны зацікаўлены падлетак мае поўнае права абвясціць сябе аўтарам і вядучым пэўнай рубрыкі, любы гурток або школьны клас на чале з настаўнікам можа дзяжурыць па нумары, любая школа краіны можа быць запісана ў клуб сяброў «Бярозкі».*

**Увага! Стаць сябрам часопіса «Бярозка»** можа любая школа краіны. Для гэтага трэба, каб на выданне (на паўгоддзе) падпісалася не менш чым пяць класаў школы. Сяброўства прадугледжвае наступныя прывілеі:

Размяшчэнне назвы і нумара школы на спецыяльнай старонцы;

Размяшчэнне на сайце часопіса спасылкі на сайт школы;

Першачарговае права на сустрэчы са знакамітымі паэтамі і празаікамі на ўроках літаратуры і класных гадзінах.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## *АДНОЎЛЕНАМУ ЧАСОПІСУ «БЯРОЗКА»*

*Увосень, зімою,*
*Вясною і ўлетку*
*Шчыруй з новай сілай*
*На радасць падлеткаў!*

*Выхоўвай любоў*
*Да высокага слова,*
*Каб імі заўжды*
*Шанавалася мова,*
*Гісторыя наша,*
*Культура, мастацтва...*
*Сябе мацавалі*
*Каб ведамі, працай.*

*Квітней, дарагая*
*«Бярозка» штодзённа!*
*Жадаю табе я*
*Руплівасці плённай –*
*На шчасце людское,*
*На росквіт Радзімы!*
*У светлай дарозе*
*Будзь шчырай,*
*любімай!*

БЯРОЗКА

*Алена МАСЛА*



# Жахліва-вясёлыя гісторыі, або Прыгоды легендарнага Цмока*

## Гісторыя, у якой знаёмства працягваецца, а Цмок дапамагае будаўнікам Сашу і Сярожу

Качка з яблыкамі, мачанка, квашаная капуста з салёнамі гуркамі, печаная бульба, клёцкі з душамі, бабка са шкваркамі вокамгненна зніклі ў Цмокавых пашчах. Усе астатнія амаль не дакрануліся да ежы: як зачараваныя, яны назіралі за незвычайным госцем і трымалі ў руках кубкі з журавінавым кісялём.

— Пан Цмок, — далікатна азвалася бабуля Ружа, як толькі пабачыла, што госць адсунуўся ад спустошанага стала. — Нешта вы пра бацькаўшчыну тут згадвалі...




— А вы, пані, пра Мізарэчча казалі!

— Так, бо там прайшла мая маладосць. Я замуж у Дзярыпарты выйшла — гэта ж таксама ад Мізарэчча недалёка.

— А ў горадзе як?

— А, тут наездамі — як дзеда майго не стала, да сына на зіму перасяляюся. Але ўлетку ўсё адно еду дадому, на сваю сядзібу!

І бабуля Ружа завяла доўгую гаворку пра перавагі жыцця ўзімку ў горадзе, а ўлетку — на вёсцы.

Бабуля Ружа была старэйшай сярод прысутных,

* Працяг. Пачатак у № 9, 10 за 2014 год.

таму яе слухалі, не перабівалі. Хаця Хлопчыку карцела распытаць, дзе жыве Цмок. Старэйшага Брата, які марыў быць авіятарам, цікавіла, як ён узлятае і прызямляецца. Цётухна імкнулася вызначыць, да якой дагістарычнай эпохі належыць экзэмпляр, што наведаўся ў яе кватэру. Тата падрыхтаваў пытанне пра тое, як удаецца Цмоку хавацца ад людзей, а Мама хацела пачуць запэўніванні, што стасункі з ім — рэч бяспечная.

Толькі бабуля Ружа ўсё гаварыла і гаварыла.

Спачатку яна згадала ўсіх жывых землякоў, што і сёння жылі ў Мізарэччы, Дзярыпартах і Прудніках.

Пасля перакінулася на тое, як чые дзеці ўладкаваныя.

Яшчэ пазней загаварыла пра тых, хто ўжо спачыў на пагосце...

Цмок паддакваў, перапытваў, цохкаў і вохкаў, карацей, выявіўся такім цудоўным суразмоўцам, што цалкам заваяваў давер бабулі Ружы. Таму яна перайшла да самага далікатнага — свайго здароўя.

— Няважна я апошнім часам пачуваюся, пан Цмок, — паскардзілася яна. — Вось скажыце мне, што гэта такое зрабілася: я ж дужая была, раней мне анідзе не балела, а цяпер у спіну страляе, у нагу аддае, галава круціцца. І забывацца я стала. Мо вы ведаеце, што са мной?

Вось тут Цмок разгубіўся. Не мог жа ён, гжэчны кавалер, нагадаць пра ўзрост бабулі Ружы (які, між іншым, пераваліў за восем дзясяткаў)! Ён толькі сабраўся наплесці пра магнітныя буры і рэзкую змену надвор'я, як азваліся Саша і Сярожа.

Яны рэзка перабілі лірычны настрой і падступіліся да прысутных:

— Хто, — запыталіся яны строга, — аплоціць нам:

а) перажыты стрэс;

б) зламаны апарат;

в) сапсаваныя чаравікі;

г) прастой у працы?!

Ох, як абурыліся прысутныя! Гэта ж трэба быць такімі няветлівымі! Нічым Сашу і Сярожу не праняць. Нават жывы Цмок іх не ўразіў! Але Цётухна, якая страшэнна не любіла сварыцца, сказала:

— Супраць стрэсу добра дапамагае салодкае! Хвіліначку пачакайце я вам булачак з цынамонам і какаўкі прынясу!

— Чаравікі ад клею адчышчу я! — падтрымала Цётухну Мама.

— А мы з хлопцамі адрамантуем зварачны апарат! — адгукнуўся Тата.

— А я, — прамовіў Цмок, — тым часам замест электразваркі вам усё, што трэба, зраблю. У мяне ж агню ў пашчах — бясконцыя запасы! Паказвайце, дзе што варыць!

Цмок вылез праз акно з кватэры, пару разоў хукнуў агнём — і гатова ўсё тое, на што ў Сашы з Сярожам пайшло б дні два! Таму яны, наеўшыся булачак з какавай, у наваксаваных чаравіках і з адрамантаваным зварачным апаратам у хуткім часе выгрузіліся з кватэры ў сваю люльку і спусціліся на зямлю.

## Гісторыя, у якой высвятляецца, што Саша і Сярожа — шпегі ЗСВЦ

Давайце прыгледзімся: куды гэта подбегам накіраваліся Саша і Сярожа?

Кінуліся яны ў хмызняк, што рос на подступах да Лошыцкага парку, і ўжо адтуль сталі некуды тэлефанаваць і нешта ўзрушана гаварыць.

Чакайце, спачатку ўдакладнім, што звалі іх зусім не Саша і Сярожа. Алекс і Жорж — вось іх сапраўдныя імёны. І працавалі яны зусім не будаўнікамі. Дакладней, кім толькі яны не працавалі: і ляснічымі, і паштальёнамі, і кіроўцамі, і настаўнікамі, і прадаўцамі, і менеджарамі, і карэспандэнтамі, нават на сакрэтным прадпрыемстве інжынерамі-механікамі. Падчас аповеду яны працавалі будаўнікамі-верхалазамі.

Частай змены занятку вымагала іх сапраўдная служба. Былі хлопцы шпегамі Замежнай Службы Вышуку Цмокаў (скарочана ЗСВЦ). Вельмі таленавітыя і кемлівыя, трэба адзначыць, хлопцы. Маглі па сушы плаваць, а па вадзе хадзіць, у паветры поўзаць, а пад зямлёй лётаць. Таму менавіта ім і даручылі росшукі, калі ў ЗСВЦ з’явіліся звесткі пра тое, што паводле астралагічнага прагнозу, метафізічнага аналізу, матэматычнага разліку, інтуітыўнага адчування, тэорыі верагоднасці, прадказанняў экстрасэнсаў апошні з легендарных Цмокаў жыве недзе на нашых землях!

Алекс і Жорж мусілі знайсці яго. Гэтым хлопцы і займаліся, прачэсваючы сантыметр за сантыметрам кожны кавалачак нашай зямлі, дзеля гэтага мяняючы прафесіі.

І не доўга яны яшчэ шукалі, калі Жоржу прыйшло ў галаву папрацаваць верхалазам, бо тады можна праз вокны пабачыць, што робіцца ў кватэрах грамадзян, ці няма там слядоў стасункаў з Цмокам.




Алекс спачатку не пагаджаўся: што можа быць таемнага ў хмарачосах, нашпігаваных людзьмі? Такая колькасць народу, сабраная ў адным месцы, здольна разагнаць і знішчыць усё таемнае. Але, падумаўшы, пагадзіўся. Калі Цмок не знойдзецца на зямлі, усё адно давядзецца і па хмарачосах шнарыць.

І вось так сталася, так супала, што ў першы ж тыдзень іх працы на рамонце дома і адбылася ўся гісторыя, пра якую мы тут расказваем.

Бачыце, што значыць нечаканасць! Алекс і Жорж шукалі



Цмока. Але, калі ён вытыркнуўся з акна, не на жарт напалохаліся, таму і крычалі нема. А падчас размовы ў застоллі яны мусілі маўчаць, каб не выдаць свой замежны акцэнт. І ручак кабетам не цалавалі, каб ніхто не западозрыў простых будаўнікоў у залішняй ветлівасці. А прэтэнзіі Алекс і Жорж таму выказалі, бо не ведалі, як па-іншаму вырвацца з кампаніі і хутчэй паведаміць свайму кіраўніцтву пра месцазнаходжанне Цмока.



— Алё, алё! — поўз здушаны шэпт у хмызах непадалёк ад Лошыцы, — аб'ект знойдзены! Затрыманы кампаніяй даверлівых гараджан у кватэры Цётухны, што жыве ў высачэзным хмарачосе горада. Затрыманы, відавочна, надоўга, бо сядзіць за сталом, згадвае даўніну і слухае пра здароўе бабулі Ружы! Бабуля надзвычай гаваркая, таму аб'ект не хутка пакіне кватэру. Магчыма, застанецца надоўга, бо гаспадыня — палеантолаг. Яна не праміне магчымасці падрабязней вывучыць аб'ект. Верагодна, аддасць яго на даследаванне ў Акадэмію навук, дзе сама працуе!

Увесь час яны размаўлялі на эсперанта і думалі, што іх ніхто не зразумее, нават калі пачуе. А вось і памыліліся! Адна дзяўчынка, што прагульвалася непадалёк ад хмызоў і фатаграфавала гарадскія краявіды, была вельмі адукаваная і ўсё зразумела.

Пасля Алекс і Жорж моўчкі слухалі, што ім адкажуць. Праз некалькі хвілін выструніліся: «Слухаемся, сэр!» і подбегам рушылі да хмарачоса.

Кіраўніцтва шпегаў было вельмі задаволена і загадала Алексу і Жоржу вяртацца на месца. Яны павінны былі на люльцы падняцца ў кватэру Цётухны, вярнуць сабе давер кампаніі і пільнаваць Цмока да той пары, пакуль ім не будзе перапраўлена падмога.

Алекс і Жорж кінуліся выконваць загад.

## Гісторыя пра тое, чым абярнулася памылка Алекса і Жоржа

Усё ж адсутнасць вопыту нічым не заменіш! Алекс і Жорж былі вельмі маладымі шпегамі. Несумненна таленавітымі, таму ЗСВЦ і даручыла ім адказнае заданне. Але ж талент не выратаваў гарачых хлопцаў ад памылкі, пра якую давялося пасля шкадаваць. Навошта выперлі Цмока з кватэры і вымусілі дзьмухаць агнём: электразварку рабіць?

Яны не падумалі пра тое, колькі ў гэты час на лавачках у ваколіцы сядзела бабулек і назірала за ўсім, што адбываецца наўкол.

Як толькі Цмок вытыркнуўся з акна і запыхкаў агнём, яго адразу ўгледзелі некалькі пільных грамадзянак з мабільнікамі і паведамілі куды трэба, а менавіта:




у міліцыю;

у Міністэрства надзвычайных сітуацый;

у Службу барацьбы з галюцынацыямі;

на радыё;

у заапарк;

у Таварыства аховы птушак;

у газету;

у «хуткую дапамогу»;

на тэлебачанне,

а таксама ўсім суседзям, сваякам і знаёмым, якіх толькі змаглі знайсці праз тэлефон.

Адна бабулька нават патэлефанавала ў НАСА — замежную службу даследавання касмічнай прасторы, але замежная Служба Вышуку ўжо распавяла ім пра Цмока. Таму ў НАСА вельмі расстроіліся ад бабульчынага званка. Ён сведчыў, як хутка ў наш час адбываецца ўцечка інфармацыі. Таму падмогу Алексу і Жоржу прыспешылі. І калі шпегі вярнуліся, каб сесці ў будаўнічую люльку і падняцца ў кватэру да Цётухны, яны пабачылі ля пад'езда натоўп людзей.

Сярод іх у першых шэрагах былі супрацоўнікі Замежнай Службы Вышуку Цмокаў і НАСА, замаскіраваныя пад тэлевізіёншчыкаў, радыстаў і газетчыкаў.

Паперадзе згаданых асоб ціснуліся пажарныя, напалоханыя расповедамі пра вывяржэнне полымя ад нейкай лятаючай істоты. Яны хацелі папырскаць на яе пенай са шлангаў, каб больш не хукала агнём.

Пажарных цяснілі прадстаўнікі Таварыства аховы птушак. Раз тое невядомае, пра што паведамілі пільныя грамадзянкі, лётала, магчыма, гэта нейкая рэдкая птушка і яе разам з усімі незвычайнымі здольнасцямі трэба бараніць ад падступных памкненняў пажарных.

Супрацоўнікі Службы барацьбы з галюцынацыямі імкнуліся пераканаць прысутных, што бабулькам усё падалося.

На ўсялякі выпадак ля пад'езда шчыльнымі шарэнгамі выстраілася міліцыя і сачыла за парадкам. Дактары з «хуткай дапамогі» падрыхтавалі нашатыр.

Да ўсіх абазнаных у надзвычайных здарэннях службаў далучыўся натоўп разявак, які складаўся з суседзяў, сваякоў і знаёмых пільных бабулек, а таксама выпадковых мінакоў.

Яны так шумелі, што водгулле дасягнула кватэры на апошнім паверсе хмарачоса. Цётухна першай звярнула на яго ўвагу і падышла да акна.

***Заканчэнне ў наступным нумары***



## Смешныя старонкі

### Пытанні для знаходлівых

1. Ці можа страус назваць сябе птушкай?

2. Колькі фасолін могуць увайсці ў літровы слоік?

3. Назавіце пяць дзён запар, не выкарыстоўваючы лічбы (першы, другі, трэці...), і назвы (панядзелак, аўторак...).

4. Што можна прыгатаваць, але нельга з’есці?

5. Што робіцца большым, калі яго перавярнуць?

6. Што не можа павялічыць лупа ў трохвугольніку?

7. Што можна ўзяць ў левую руку, але нельга ў правую?

8. Калі апоўначы ідзе дождж, ці можна сказаць, што праз 72 гадзіны, магчыма, будзе сонечнае надвор’е?

9. Археолагі знайшлі манету, якая дацiравалася трыццаць другім годам да нашай эры. Ці магчыма такое?

10. Што гэта: сіні, вялізны, рагаты і ўвесь напоўнены зайцамі?

### Адказы на пытанні для знаходлівых

*1. Не, таму што страус не размаўляе.*

*2. Ніводная, бо фасоліны не ходзяць.*

*3. Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, паслязаўтра.*

*4. Урокі.*

*5. Лічба «6».*

*6. Велічыню вугла.*

*7. Правы локаць.*

*8. Не, бо праз 72 гадзіны зноўку будзе апоўначы.*

*9. Не, бо самі тэрміны «наша эра» і «да нашай эры» ўзніклі значна пазней.*

*10. Тралейбус у час пік.*





Сын зразумеў, што маці яго падманвала, калі ў трэцім запар «кіндэр-сюрпрызе» яму зноўку трапіліся жаўток і бялок.



— Мама, а чаму ты ўвесь час каля акна стаіш, калі я спяваю?
— Гэта каб людзі не падумалі, што я цябе б'ю!



— А што цяжэй: кілаграм ваты ці кілаграм жалеза?
— Кілаграм жалеза, вядома ж!
— А вось і не! Аднолькава!
— А я вось трэсну табе па галаве спачатку кілаграмам ваты, а потым кілаграмам жалеза! Паглядзім, як табе аднолькава будзе!



На ўроку матэматыкі.
— Колькі будзе, калі восем падзяліць папалам? — пытаецца настаўніца.
— Калі ўздоўж, то атрымаюцца дзве троечкі, — адказвае вучань. — А калі ўпоперак — дык два нулі.



На уроку гісторыі.
— Скажы нам, Пеця, як ставіліся высакародныя рыцары да тых рыцараў, якіх яны перамагалі ў паядынку?
— Напэўна, здавалі іх на металалом, — крыху падумаўшы, адказвае Пеця.

*Ёсць птушкі, якія харчуюцца змеямі. А вушастая сава ловіць змяю зусім не для гэтага. І не кожная змяя ёй падыходзіць, а толькі тая, якую заолагі называюць «вузкаротай». Сава яе вышуквае і жывую прыносіць у гняздо. Але птушаняты ў поўнай бяспецы, бо вузкаротая змяя харчуецца толькі мурашамі, мухамі, кляшчамі, значыць, у савінай «хаце» выконвае ролю «санітара». І змяі ежа, і савянятам карысць.*

 

## ● Практыкум

***Дружа!***

***Ці ведаеш ты, якія вершы добрыя, а якія — дрэнныя? Або пра тое, што адзін і той жа верш можа быць добрым для аднаго паэта і дрэнным для другога? Не таму, што той паэт дрэнны, а гэты добры, а таму, што ў іх розны панятак аб вершах. Калі хочаш, дасылай у «Бярозку» свой верш, апавяданне ці іншы твор з пазнакай «Лупасіну на разбор». Я разбяру яго па костачках, распішу, у якіх месцах напісана добра, а ў якіх — не.***

***Толькі ж, ведаеш, мае разборы — для моцных духам. Бо я магу знайсці ў маленькім творы сорак сем памылак, ды такіх, што ні сам аўтар, ні яго настаўніца беларускай мовы не заўважалі!***

***Рызыкнеш?***

***А цяпер...***

# Пра процьму памераў

Гаворка пойдзе пра вершаваныя памеры. Іх пяць. Два двухскладовыя (харэй і ямб) і тры трохскладовыя (дактыль, амфібрахій і анапест). Ты пра гэта, магчыма, ужо чуў, а калі не — спытайся ў настаўніка літаратуры. Вершаваны радок складаецца з двух- ці трохскладовых «цаглінак», якія называюцца стопы. Кожным памерам можна напісаць кароткі радок (двустопны, трохстопны), а можна доўгі (пяці-, шасці-, сямістопны). А можна зусім даўжэзны, настолькі, што нават не ўцяміш адразу, што гэты радок — амфібрахій, а не празаічны.

Стоп! Гэта ўсё ты і без мяне ведаў? Зараз распавяду, чаго ты не ведаў!

Уся тая сістэма вершаваных памераў, гэтак званая сілаба-танічная, — не адзіная ў свеце і надзвычай нядаўняя. Яе вынайшаў у XVII стагоддзі нямецкі паэт Марцін Опіц, каб перадаць вершаваныя памеры старажытных грэкаў! (Пра старажытнагрэчаскую сістэму вершавання табе распавядаць не трэба?)

Дык вось, толькі ў XVII стагоддзі прыдумалі пяць нашых памераў, толькі ў XVIII стагоддзі яны прыйшлі ў рускую паэзію і толькі ў канцы XIX стагоддзя — у беларускую!

Ты спытаеш, якімі памерамі пісалі вершы раней?

О, якімі толькі не пісалі! Напрыклад, у беларускай паэзіі выкарыстоўвалі *сілабічны* верш. Кожны радок меў аднолькавую колькасць складоў і трымаўся толькі на гэтым — не трэба было дбаць пра націскі! Самыя папулярныя памеры былі — 11-складовік і 13-складовік.

*Давай напішам памерам нязвычным,*
*Не харэем-ямбам, а сілабічным —*

два радкі, напісаныя сілабічным адзінаццаціскладовікам.

А ў рускай народнай паэзіі шанавалі *акцэнтны*, калі ў радках аднолькавая колькасць націскных складоў (тры, чатыры), а ненаціскных можа быць колькі заўгодна. Акцэнтным вершам пісалі Уладзімір Маякоўскі і яго паслядоўнікі.

Існуе яшчэ шмат розных сістэм вершаскладання, у кожнай мове — свае. А ў кожнай сістэме — свае вершаваныя памеры. А кожным памерам напісана процьма добрых вершаў. Аж галава кругам ідзе, праўда?

**Хатнія заданні:**

**1. Напішы невялікі вершык сілабічным або акцэнтным памерам. Падказка: гэта надзвычай лёгка.**

**2. Падумай, якія яшчэ сістэмы вершаскладання могуць быць.**

*Твой сябар Віктар ЛУПАСІН*



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 70 300 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 28 600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 89 000 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 20 200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.11.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,57. Тыраж 2065 экз. Заказ . Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**